*Міхась Тычына*

# ВЯРТАННЕ

АПОВЕСЦЬ
ПРА
КУЗЬМУ ЧОРНАГА

МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1984

# I

## БАЦЬКІ

Як жа даўно гэта было! Летні вечар быў ціхі і цёплы. Стаяў ліпень месяц 1900 года.

Нашы дзяды былі тады маладзей за нас, цяперашніх, знаходзіліся на парозе свайго веку, і ўсё, што павінна здарыцца і неўзабаве здарылася з імі, і радаснае і сумнае, было наперадзе.

З маленькай каморкі, стараючыся не бразнуць клямкай, на ганак выйшлі Карл і Гліцэра Раманоўскія. Атуліўшы твар далонямі, па чарзе паўглядаліся ў акенца: у калысцы спала спавітае ў пялюшкі немаўля. Зірнулі адно на аднаго і ўсміхнуліся. У хаце быў іх першынец, сын Мікалай. Селі блізка на ганку. Моўчкі азіралі дзядзінец перад панскімі пакоямі, агароджаны штыкетнікам. Далей ляжала поле, на якім даспявала жыта. За ім віднеўся лес, асветлены вячэрняй зарой.

Сярод поля стаяла панскае гумно і старая прысадзістая хата з вялізнай старасвецкай страхой. Там таксама жылі парабкі пана Эдварда Вайніловіча. Ад маёнтка да хутара вяла зарослая трыпутнікам і дзяцельнікам калёсная дарога. Далей дарога ішла на лес. Яе хапала на добрыя пяць — дзесяць хвілін хуткай язды на конях, каб патрапіць на вялікі шлях, што рэзаў прастору з захаду на ўсход. Гэты шлях — стары Екацярынінскі гасцінец, або Варшаўка.

Вайніловічаў маёнтак у Борках, дзе ўжо блізка год парабкавала сямейная пара Раманоўскіх, стаяў з паўднёвага боку гасцінца. З паўночнага боку таксама ішла Вайніловічава зямля і лясы. Там былі Цімкавічы — роднае мястэчка Раманоўскіх. Ад яго на Варшаўку быў зроблен выезд: вузкая, як размінуцца двум вазам, дарога. Самі Цімкавічы стаялі пад узгоркам. Паміж узгоркам і гасцінцам ляжала поле і сенажаць, так што з гасцінца можна было ўгледзець толькі вярхі сялян-

скіх стрэх. Мястэчка выбудавалася на развілцы дарогі з Нясвіжа на Слуцк і Капыль, якая ішла паралельна вялікаму гасцінцу.

Кожны думаў пра сваё. Успаміналася роднае мястэчка, якое давялося пакінуць, бо не пражывеш сям'ёй на паўдзесяціне зямлі. Не давалі спакою развагі пра сваё вечнае парабкоўства, калі трэба гнуць хіб і перад панам і перад паўпанкамі, калі табой кожны папіхае, а ты ведаеш, што ад гэтага папіхання твая працавітасць і стараннасць — слабая абарона. Развагі набягалі, што лішне казаць, невясёлыя.

Але варта было Карлу і Гліцэры зірнуць адно на аднаго, як твары абаіх азарала ўсмешка. Адразу станавілася відно, што яны жывуць душа ў душу.

Абое любілі гэтыя хвіліны блізкасці і поўнага ўзаемаразумення. Часцей за ўсё такое здаралася вечарамі. Стомленым за дзень, ім, аднак, надараўся момант, каб вось так ціха пабыць сам-насам, перамовіцца словам-другім, кінуць вокам у заўтрашні дзень.

Асабліва цяжка даводзілася маладзіцы: на досвітку трэба было бегчы на абору ў Лапацічы даіць кароў, урываць момант, каб вярнуцца дадому і пакарміць малога, якога тым часам глядзеў бацька, непакоячыся, як бы не спазніцца на касавіцу, потым зноў, ужо з сынам на руках, спяшацца назад, у абору. Цяжкая праца ўдзень, ад якой дубянела спіна і пальцы на руках былі як драўляныя, недаспаныя ночы,— за гэтыя два тыдні абое паблажэлі, у вачах стаяў нездаровы бляск, яны ледзь не падалі ад стомы. Але і ў самыя цяжкія хвіліны, калі сыну нездаровілася, калі ён дрэнна спаў, калі раптам прападала малако ў грудзях, маладыя бацькі адчувалі сябе ў самым сваім шчасці.

Старэйшы за жонку на дванаццаць год, Карл звычайна не паддаваўся адчаю. Ён менш за ўсё думаў пра самога сябе і шкадаваў сваю сяброўку: клаў руку на галаву яе, гладзіў валасы і зазіраў у вочы, падбадзёрваючы ўсмешкай:

— Нічога... Нам траціць няма чаго... Горш, чым ёсць, ужо ніколі не будзе...

Гліцэра ж, па натуры сваёй і наогул не схільная да смутку, чула адгукалася на ласку. Яна ад самай той хвіліны, калі паміж імі ўжо ўсё было вырашана і прыйшла згода і лад, цалкам даверылася яму, яго вопыту і розуму. У вачах яе быў спакой і яснасць.

Божа мой, чаго толькі, бывала, не перагаворацъ яны ў такія хвіліны! Гаворка ішла і пра тое, каб неяк перабрацца на роднае аселішча ў Цімкавічы, агораць свой кут, сабраць грошы на каня і карову, і пра тое, каб прыдбаць нейкі спосаб да жыцця і не абіваць чужыя парогі, не шапкаваць перад кожным, не кланяцца чорту лысаму. Але гаворачы і пра сваю ўласную дамоўку, і пра спосаб жыць, яны, па сутнасці, думалі пра адно — пра сынаву будучыню. Хоць абое дужа не любілі закідаць думкамі далёка наперад, бо жыццё навучыла, як залежыць сялянскі дабрабыт ад звычайнага выпадку, проста ад таго, што на раду напісана. Яны былі згодныя ў адным, што сын іх будзе жыць лепш, інакш, чым яны самі. А як жа яшчэ магло быць!

Хораша ўспаміналася, як святкавалі хрэсьбіны. Хоць пара была гарачая, да іх сышліся і з'ехаліся сваякі і сябры. Было тлумна і весела. Спявалі песні і пра немаўля, і пра парадзіху, і пра бабку-павітуху, і пра кума з кумой. Потым колькі дзён на языку круцілася:

А ў бары шум, шум:
«А хто ж едзе?»
— Кум, кум!

Многа было сказана добрых слоў і зычэнняў. Каб жа тыя словы ды богу ў вушы:

Дай жа божа
Гэтаму дзіцяці
Тры долі шчаслівых:
І збажавую,
І грашавую,
І тую вясельную.

Зайшоў панскі аканом Грынявецкі: такое свята здалёк чутно! Госці, як ні захмялелі, аціхлі. Не, ніхто яго вельмі не баяўся, хоць ведалі, што ён чалавек нядобры! Думалі пра тое, каб не нашкодзіць маладым, ды і чакалі, што скажа. Грынявецкі спыніўся ў парозе — ступіць далей не было куды: каморка — рукі выцягнуўшы — ад сцяны сцяну можна дастаць, прыняў з рук Гліцэры поўную чарку, агледзеў усіх сіберным вокам і, сказаўшы, што ў такіх выпадках звычайна гаворыцца, кульнуў тую чарку, быццам напарстак. Карл выйшаў яго правесці і, скарыстаўшы момант, паскардзіўся, што ўтраіх у каморцы вельмі ж цесна.

Грынявецкі паабяцаў, што да восені нешта вырашыцца: вызваляецца месца ў Лапацічах.

Добрае стаяла лета. Цёплыя дажджы поначы, і лагоднае сонейка ўдзень. Пах смажанага і печанага з комінаў сялянскіх хат перамешваўся ў паветры з густым настоем хваёвых бароў, з хлебным духам, які веяў з поля, дзе даспявала жыта. Урадзіла ўсё, як ніколі. Дзіва што! Зямля навокал была такая, што, як кажуць, дзіця пасадзі, дык падрасце.

Цені ад дрэў і будынкаў ужо даставалі да штыкетніка. Астываў нагрэты пад шчодрым сонцам пясок. Раптам узняўся цёплы вятрыска, і зашапацела калоссе, зашумелі лісцем таполі і клёны. Усюды адкрывалася вялікая прастора палёў, рэчкі і рэчачкі віліся між зялёных узгоркаў, лясоў і пералескаў. Добра было навокал. А людзі жылі ціха і бедна, перабіваючыся з квасу на ваду, чакаючы, якія навіны прынясе сарока на хвасце. Вёскі стаялі густа ў гэтай мясцовасці, часам пераходзячы непрыкметна адна ў адну. Старыя, дзедаўскія хаты туліліся адна да адной, траха не даканаліся саламянымі стрэхамі. Ад хат і хлявоў беглі вузкія, акурат каню павярнуцца, палоскі зямлі. Шырокае поле як згледзець скрозь належала Радзівілам, Вайніловічам, Яблонскім, Гарцінгам, Наркевічам, Цішкевічам, Медзесам. Свет быў вялікі, а дзецца не было дзе.

Карл Раманоўскі, па-вясковаму Каролек, за свае трыццаць чатыры гады не раз ламаў галаву, як і з чаго жыць. Ён быў добрым аратым, касцом, малацьбітом, але ніколі не меў сваёй зямлі і не мог, каб і хацеў, паказаць свой спрыт. Ён умеў ткаць, але і лепшыя за яго майстры сурвэтнае справы не знаходзілі попыту на сваю прадукцыю: акурат пайшла мода на больш танныя і, як тады здавалася, больш прыгожыя фабрычныя вырабы. Ён быў добры цесля, але ўсё, што калі-небудзь будаваў, належала не яму. Ён падахвоціўся да мулярства, пільна прыгледзеўся да бортніцтва, садаводства і агародніцтва, калі трэба было, браў у рукі шавецкія прылады, умеў трымаць у руках і кравецкую іголку, але нікому ў цэлым свеце не было да таго ніякага інтарэсу. Усё, што Карл Раманоўскі атрымліваў за сваю працу і старыаннасць, хутка спажывалася, ён жа, як і быў, заставаўся беспрытульны і голы. У пастаўленых ім хатах жылі людзі, па адрамантаваных ім мастах

ездзілі конна і хадзілі пеша, вытканыя ім сурвэты радавалі чужое вока, яго праца памагала іншым мацаваць гаспадарку, а яму часам не было нават чым душу падперці. Ніхто на свеце ніколі і не думаў пра нейкага Карла Раманоўскага.

Карл сама што ўбіраўся ў сталыя гады, калі ўбачыў, што жыць на бацькавай дзесяціне ўчатырох — бацька, брат, сястра, ён сам — лішне няма на чым. А дзяліцца і біцца за лепшы кавалак зямлі з уласным братам насмерць, як гэта часам здаралася ў тыя далёкія гады, ён не збіраўся. Заставалася хіба што клясці сваю долю, якая аднаму спрыяе, а другому перашкаджае, аднаму вецер дзяцей калыша, дождж мые, сонца грэе, а другому — бяда за бядою, хлеб з лебядою...

Неўзабаве Карл Раманоўскі прыстаў у суполку да суседзяў-цесляў Лонгіна Дамені, Пятра Парыбкі і Уладзі Каханоўскага. Шукаючы свой цяслярскі хлеб, дзецюкі абвандравалі ўсю акругу — ад Нясвіжа да Слуцка, ад Грэска да Агаркава: ставілі і перасыпалі хаты, хлявы, варыўні, капалі калодзежы, правілі ветракі, майстравалі начынне для калёс, не грэбавалі і больш дробнай работай — пілавалі і seклі дровы, гарадзілі платы, лапілі стрэхі.

Вандроўнае жыццё было з прыгодамі. Дзецюкі не шукалі лёгкага хлеба і здзекліва гаварылі пра тых, для каго абы ўрваць, сёння тут, а заўтра там, пасля нас хоць гай не расці. Здаралася, што іх абманвалі, не трымалі слова. Але самі яны рабілі добрасумленна, кіруючыся правілам: што цяжка здабыта, тое будзе доўга жыта. Яны цягнуліся да людзей, і людзі да іх таксама. Маладыя, вясёлыя, дзецюкі жылі як жылося, нікога і нічога не баючыся.

Аднойчы ў Качановічах каля Нясвіжа хлопцы капалі калодзеж на хутары, дзе гаспадыняй была добра перастарэлая шляхцянка з вялікім пасагам. Гледзячы на іх, яна грэбліва крывілася: «Галота!» І ў кожнага бачыла свае недахопы: у аднаго быў доўгі нос, у другога — маленькая, быццам у падлетка, нага, у трэцяга — малы рост. Чаго яна сама варта, гэтая шляхцянка не думала: сябе вызнавала самай разумнай, дасціпнай і абаяльнай асобай на цэлую акругу.

Дык вось у вока ёй упаў ціхмяны і працавіты Карл Раманоўскі. Але яна доўга не падавала выгляду — дасканала вывучала яго: за гады нуднага перабірання

жаніхоў яна склала ў галаве цэлы рэестр вартасцей, якія павінны быць у таго, хто прэтэндуе на яе руку і сэрца. Пра Раманоўскага ў яе склалася добрае меркаванне: «Паслухмяны. Не брыдкі. Высокі. Падыходлівы. Не раскідака. Век будзе помніць маё дабро. Век будзе дзякаваць таму, хто яго выцягне з беднасці». Аб каханні, зразумела, не было і гаворкі: у гаспадарку набывалася новая, неабходная рэч, і трэба было сто разоў добра памеркаваць, чаго яна варта.

Карл Раманоўскі, малады і шчыры, лішне не ламаў галаву над тым, што бедны, спадзяваўся на ўласныя рукі і цвярозы розум, а не на чыёсьці багацце. Ён прасядзеў з гаспадыняй хутара некалькі вечароў, пакуль яны былі ў той мясцовасці, гаварыў усё, што прыходзіла на язык, рассмешваў, але ўсё гэта было з чыстага далікацтва і пэўнай цікаўнасці. «Што ■ таго пасаду,— думаў Карл,— калі няма і почуту аб звычайнай прыхільнасці, не кажучы ўжо аб сардэчнай сімпатыі! А што каханне не вечнае, што злыбеда можа пераесці сэрца і шчасцем будзе здавацца кавалак хлеба,— нічога такога ён тады не ведаў і не хацеў ведаць». Адыходзячы ў свой бок, Карл Раманоўскі сказаў: «Прымачы хлеб — сабачы».

І Карл, і Гліцэра любілі ўспамінаць час, калі яны яшчэ толькі прыглядаліся адно да аднаго. Але для яго яна была пэўны час вельмі маладая, бо толькі-толькі выбівалася ў дзеўкі, ён жа ў яе вачах таксама быў далёкі і недаступны, бо меў пад трыццаць год.

Аднойчы восенню 1898 года Раманоўскі вярнуўся са сваёй цяслярскай суполкай дадому: якая зімой работа ў цесляў! У хаце той вечар доўга не затрымаўся — пацягнула, па звычцы, да сяброў. Перайшоў вуліцу да хаты Уладзі Кахановіча. Там, пад клёнамі, заўсёды збіралася моладзь ■ іхняга канца мястэчка. Спачатку падыходзілі па двое-трое, а то і цэлай чародкай дзяўчаты. Неўзабаве, з рогатам і шумнай гаманой, налятлі хлопцы. Старыя, калі хто сядзеў на лавачцы, трохі паназіраўшы ўсмешліва за моладдзю, казалі колькі нязлых жартаў і, папыхкаўшы напаследак люлькай, браліся дахаты. Прысутнасць старых напачатку задавала нейкі высокі тон ігрышчу, які не знікаў і тады, калі моладзь заставалася сваёй кампаніяй. Вядома, усе адчувалі сябе вальней, бо адно — старыя з іх пільным вокам, а другое — яны самі, бесклапотныя,

шчырыя, гатовыя рагатаць з камарынага піску. Як зазвычай, ахвотна апавядалі і захоплена слухалі ўсялякія небывалыя гісторыі, смяяліся, вадзілі карагод, гулялі ў свае цімкавіцкія гульні, спявалі свае цімкавіцкія песні.

Карл спрабаваў угадаць па голасу, хто спявае. Пазнаў, але не ўсіх. Пакуль ён хадзіў з таварышамі па Слуцкай акрузе з пілой і сякерай, падраслі тыя, каго яшчэ нядаўна вызнаваў за малых або недарослых. Карл ажно здзівіўся, пазнаўшы ў маладой і вельмі прыгожай дзяўчыне дачку вядомага на цэлую ваколіцу сурвэтніка Міхала Парыбкі: Гліцэра нечакана вырабілася ў прывабную і мілую юным хараством дзяўчыну. Ён зладзіў сябе на жаданні зірнуць на яе яшчэ раз, каб пераканацца, што гэта сапраўды яна, а не хто іншы. Гэты пільны Каролекаў позірк запаў у душу дзяўчыны і шмат пра што сказаў. А ў яго заныла сэрца па гэтай прыгожай і зграбнай, вясёлай і галасістай дзяўчыне. Ён усё выглядаў яе сярод іншых дзяўчат. Тады не думалася зусім пра тое, што ні сам Карл, ні Гліцэра не маюць з чаго жыць, што ёсць толькі кожнадзённая нішчымніца, халодная зацірка з макам, лазовыя лапці, шарачок. У абаіх у галаве было адно: у яго ёсць спрыт у руках і сіла, а праца і рукі — моцныя зарукі, пакуль маладыя, здаровыя, то не прападуць, у яе ж — залатыя рукі. Людзі ведалі, што гаварылі: такіх, як Гліцэра, сурвэтніц не так многа на ўсю акругу. Мала хто можа так укінуць ніткі ў ніты і перадаць на сурвэце любы самы дасканалы дасэнь-малюнак, «просты» і «павучковы», «у палкі» і «ў ваконцы», «у грабелькі» і «ў маланкі».

Падабалася Карлу і сама сям'я Парыбкаў, якіх усе ў вёсцы ведалі як «Чорных». Міхал, бацька Гліцэры, быў праслаўлены майстар сурвэтнай справы і перадаў дачцэ ўсе сакрэты ткацтва. У яго быў цэлы сшытак, дзе ён сам і старэйшы сын Міхась замаляваў усе дасэні, якія толькі ведалі, нешта каля двухсот малюнкаў. Міхал Парыбак з апошняга цягнуўся, але вывучыў на настаўніка свайго Міхася: той паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ён і Гліцэру збіраўся пасляць у школу ў мястэчка Раманава, што знаходзілася непадалёк, па дарозе на Слуцк: яна ўжо ўмела чытаць. Але дзе яно відно, каб бедны ткач з яго выпадковым і малым заробкам, да таго ж удавец, змог вывучыць адра-

зу абаіх дзяцей! З чатырнаццаці год Гліцэра засела за варштат ткаць сурвэты і ручнікі.

Парыбкі наогул былі шмат да чаго здатныя — і да працы, і да спеваў. Але самае галоўнае — у іх была чулая да чужога гора душа.

Тыдні са два Карл стараўся быць блізка да яе, загаворваў і прасіўся ў праважатыя. Гліцэра жартавала, але ніколі і нічым не крыўдзіла яго: хіба можна крыўдзіць чалавека толькі за тое, што ён меў няшчасце закахацца ў цябе! Часам ёй нават здавалася, што яна нашмат старэйшая і ведае пра жыццё куды больш, чым ён, сталы, бывалы дзяцюк. Наогул жа, Гліцэра была рада гэтаму збліжэнню і не выкідвала конікі, як гэта часта выробляюць маладыя дзяўчаты, як толькі пачуюць уладу над кавалерам.

Калі Гліцэры не было вечарам на Капыльскай вуліцы, каля хаты Кахановіча, то Карл ішоў шукаць на другі край мястэчка, да хаты Клеманса Хрысцініча, суседа Парыбкаў, таксама цудоўнага сурвэтніка. Там штовечар збіраліся цімкаўцы, старыя і маладыя. Старыя — пагаманіць, маладыя — пагуляць. Неўзабаве яны ўжо шукалі сустрэчы адно з адным.

У хуткім часе Карл і Гліцэра пабраліся. Было хоць і нешматлюднае, але шумнае застолле. Людзі весяліліся і любаваліся маладымі.

Ішла вясна 1899 года. Гліцэра жыла ў хаце Раманоўскіх. Стары Фэлька, свёкар, жыў удаўцом. Дзеці яго, Марыля і Людвік, знайшлі сабе месца на свеце і ў госці да бацькі ездзілі гады ў рады. Стары прывык да адзіноты, на гаспадарку, якая яна ні была, махнуў рукой, памалу дзяцінеў. Гліцэра, як рупная нявестка, узялася наводзіць парадак. Вядома, яна адчувала непрыхільнасць свёкра, якую той і не таіў. Але нічога іншага яна не чакала: мужавы сваякі, перад тым як яны запісаліся ў царкве, дружна насядалі на Карла, спрабуючы адгаварыць, каб не браў у жонкі бедную, як казалі ў Цімкавічах, аж сінюю, ткачоўну, за якой не давалі ніякага пасагу, бо хіба можна лічыць пасагам куфар з сурвэтамі і палотнамі. Не спадзявалася яна і на тое, што зможа — з дапамогай сваёй рупнасці і далікатнасці — перайначыць свёкра. Трымалася з апошняга, каб не расплакацца, не паскардзіцца каму на сваю долю.

Пра старога Фэльку людзі казалі, што ён, хоць зу-

сім ссівеў, быў яшчэ моцны, як дуб. Як пра вялікае дзіва, казалі, што ён ад самых малых дзён не ведаў, што такое хвароба і што такое дактары. У самога яго быў на гэта свой пагляд: лекаў стары не любіў, зваў прымхаю, панскаю выдумкаю. Але не верыў і ў шаптуноў, не лішне квапячы на іхнія зёлкі. Бывала, кпіў над вядомым на ўсю акругу Бандарчыкам з суседняй вёскі Доўгае, які хворых працягваў праз дуплявы дуб. Апошнія гады, праўда, здароўе яго падупала. Але і тады ён напрамілы бог прасіў, каб нікога не клікалі, ані доктара, бо той панаваты, ані фельчара Максіма Грынюка, хоць ён і свой чалавек. Прызнаваў адно дзедаўскі верны спосаб — лез на гарачы чарэнь, грэў бакі, і хваробу як рукой здымала. За самыя ж лепшыя лекі лічыў паранае малако з абаранкамі. Трэба аддаць належнае, стары Фэлька трымаўся адвечнай сялянскай мудрасці — хвароба не любіць тых, хто вечна ў працы, у клопаце, хто знае меру ва ўсім — не пераядае, у час прачынаецца, не п'е гарэлкі, не раскідаецца лішне, ашчаджае капейку.

Вядома, што калі чалавек не падабаецца, то ўжо цяжка бачыць у ім што-небудзь вартае ўвагі. Так і стары Фэлька. Абыякавы дасюль да таго падзелу, які быў у мястэчку, на праваслаўных і католікаў, на магаметан і іудзеяў, ён нечакана, як толькі сын узяў у жонкі праваслаўную ды яшчэ ў царкве, вырашыў, што прычына яго непрыязі да нявесткі якраз у яе рэлігійнай прыналежнасці. Да таго ж яму не даваў праходу ксёндз Аскерка, пагражаючы боскай караю! Стары не хацеў самому сабе прызнацца, што справа якраз у тым, што сын абраў сабе ў жыццёвыя спадарожніцы бедную, хоць была і ў яго магчымасць узяць замуж дзяўчыну з добрым пасагам і быць гаспадаром свайго лёсу.

Звычайна пануры і маўклівы, Фэлька штораз шукаў зачэпку, каб пабурчаць на сына і нявестку. Сварыцца, як гэта ўмелі іншыя: паволі, у меру, стала, бы работу робяць,— ён не ўмеў, а соваўся па двары, невядома чаму злосны і неразгаворлівы. Ён не грыз, не тачыў, не папікаў, але ўсяляк паказваў сваю незадаволенасць. Часам пагаворыць па-чалавечы, пацікавіцца, распытае, а ў Гліцэры аж на сэрцы палягчэе. Здаецца, тады хата прастарнее і святлее. Звычайна ж усё яму было нядобра, усё не так. Думаючы пра ўсё гэта, і Карл і Гліцэра сыходзіліся на адным: яно і беднасць не так

страшна, як гэты нялад у хаце! Горш няма, калі адно на аднаго пазіраюць коса.

Але вось прыязджала з Кудзінавіч дачка Марыля, малодшая сястра Карла, і стары рабіўся невыносным.

Марыля служыла пакаёўкай у маёнтку Кудзінавічы, які належаў пані Яблонскай і знаходзіўся на паўдарозе з Цімкавіч у Нясвіж. Яна лічыла сябе мудрэй за ўвесь свет і паводзіла сябе так, што можна падумаць — паня. Як цімкаўцы кажуць, панская душа ў мужыцкім целе. Марыля паволі стаўбунела ў дзеўках, але выгляд мела такі, што з дня на дзень да яе прыбудзе ў сваты самае малое князь Радзівіл. А як жа! Яна ж жыла ў маёнтку, дзе хадзілі паданні пра вялікага польскага паэта Людвіка Кандратовіча, які там нарадзіўся і выгадаваўся, а потым у самога Радзівіла жыў у замку! Яна ж была самай блізкай асобай пані Яблонскай!

Што праўда, то праўда, пра Марылю казалі, што яна багатая нявеста і мае грошы самае малое на пяць дзесяцін зямлі. Зразумела, што братаў шлюб не даваў ёй спакою: вялікае шчасце быць сваячкай нейкай жабрачкі, хоць бы і прыгожай! Асабліва ж яе разбірала злосць, што брат Карл, сталы і разважлівы, высокі і прыгожы, не паслухаўся яе рады, не схацеў узяць замуж багатую, з добрым пасагам, а нагледзеў сабе такую галоту, у якой багацця таго — адны ўмелыя рукі ды паглядны твар. Унё малодшы брат Людвік пайшоў сабе ва ўдалыя прымы ў Вялешына, вёску каля Капыля, і жыве як чалавек: мае хлеб і да хлеба.

Перад тым як ісці на кірмаш, Марыля заходзіла ў бацькаву хату. З самым фацэтным выглядам дзыгала па двары, адчыняла дзверы і, прыпаднімаючы пальчыкамі спадніцу, якую людзі задоўга да таго бачылі на самой пані, важна пераступала парог. Грэбліва азіралася, востра прыкмячаючы парадак і чысціню, якую навяла братавая, і не магла стрымацца, каб не пакпіць з гэтае ганаровае беднасці.

Гліцэра перш маўчала, але аднойчы абсекла:

— Ганарылася свіння, што аб панскі ганак чухалася.

Марыля ажно ў твары змянілася. Але хутка прыняла свой звычайны высакамерны выгляд. Падаў голас бацька, і ў хаце пачалася калатня.

Карл маўчаў, а потым не вытрымаў, стукнуў дзвя-

рамі і некуды знік, не сказаўшы нічога жонцы. Гліцэра вырашыла, што проста сышоў, як звычайна, куды з хаты на вуліцу або да суседзяў. Потым расказваў, як кінуўся да аднаго, да другога гаспадара, пытаючы месца і працу, як дапаў нарэшце ў маёнтак да пана Эдварда Вайніловіча і апытаў службу. Дадому ён ужо вярнуўся з фурманкай:

— Ну, жонка, збірай манаткі!

Так яны апынуліся ў засценку Боркі. Так сталі патомнымі парабкамі. Гэта было восенню 1899 года. А праз некалькі месяцаў яны святкавалі надыход новага года, новага стагоддзя, міжволі думаючы пра тое, што іх чакае наперадзе.

І Карл і Гліцэра з малых год былі прывучаны да думкі: каб жыць, трэба старацца. І браліся за любую працу. Бяда толькі, што яны мелі талент у руках, але не ведалі, дзе яго прыкласці. Сваёй зямлі ў іх не было, а рамяством можна хіба што перабівацца з квасу на ваду.

У Цімкавічах жылі паўвалочнікі, трацякі і дзесяціннікі. Яны належалі да самых бедных — дзесяціннікаў. Але не мелі і заваду зайздрасці да тых, каму пашанцавала пасля скасавання прыгону атрымаць ад князя па паўвалокі або па тры дзесяціны. Проста ведалі, як тым дасталося іх гэтае багацце. Колькі давялося павыдыгаць перад панам і паўпанкамі!

Яны не былі лежнямі або седнямі, але ўся іх рухавасць і руплівасць ішлі ў працу на чорта лысага. Часта думкі пра сваю горкую долю выклікалі адчай. Тады хацелася кінуць-рынуць усё і пайсці ў белы свет як у капейку. Гэта быў час, калі здольнаму чалавеку сапраўды не было за што зацяць рукі. Не кожны нават думаў пра тое, што ён шмат умее і шмат можа. Не кажучы ўжо, вядома, пра гонар. Карлу нават часам здавалася, і ён гаварыў пра гэта жонцы, што ён усяго толькі наймаецца на работу да нейкае нябачнай істоты, якая валодае паўсветам. У пана ж ласка па парог. Як ні рабі, усё не так, усё мала. Кажуць жа, служы пану верна, дык ён табе нос верне. Але пакуль пан, то паўпанкі з цябе жывога жылы выцягнуць. І ўсё роўна дрэнны будзеш.

Маладыя бацькі елі свой хлеб з натруджаных рук, а таму на ўсё глядзелі з гэтага простага пункту погляду. Ці дзіва, што ні Карл, ні Гліцэра, ні іх бацькі, ні іх

сваякі не ведалі пра свой дзень нараджэння! Навошта? Калі ацялілася карова або апарасілася свіння, гэта трэба ведаць: нездарма ж людзі зарубкі на вушаку дзвярэй робяць, каб, не дай божа, не памыліцца. А чалавек... Нарадзіўся, то і добра. Жыві, старайся. Як сказана ў Бібліі: пладзіцеся і размнажайцеся і напаўняйце зямлю! Дзеда помнілі, і слава богу.

Гліцэра дык жартавала:

— Людзі нараджаюцца, хто калі. Хто — на міколу халоднага, а хто — на міколу галоднага. А я... я — калі босыя хадзілі. Зімою, значыць.

Карл найбольш адмоўчваўся або паўтараў дзесьці чутае:

— Галоўнае — нарадзіцца. А нарадзіўшыся — мусіш жыць,— але часам узрываўся: — Як жа так! Гэта ж чалавек! Калі ён нічога не помніць, нічога не ведае, то хто будзе помніць і ведаць? Хто скажа пра нас, пра нашых бацькоў, пра нашы Цімкавічы, як мы гаравалі, як белага свету не бачылі, як прасветлае гадзіны не мелі? Можа, дзеці нашы? Дай жа божа ў добры час!

Дзень нараджэння свайго першынца, сына Мікалая, Раманоўскія запомнілі: 24 чэрвеня 1900 года.

## II

## ВЯСЁЛЫ БУДЗЕ ДЗЕНЬ!

На прыгуменні гуляў год пяці хлопчык. Светлавалосы, з рабацiннем на твары, шэравокі, з замурзанымі ручкамі і ножкамі. Гэта ён, Міколка. Купаліся ў пяску каля платца куры, грэбаўся паблізу певень, выкочваў са смецця макавае зернетка і важна кудахтаў, склікаючы курэй, дзесьці ў лапухах чуўся бурклівы голас квактухі і жаласнае ціўканне куранят, чухалася аб рог перавернутага карыта і стагнала паджарая, бы добры ганчак, свіння. У вочы хлопчыку, які, загуляўшыся, забыўся на ўсё, лісліва зазіраў Лыска, віляў весела хвастом, а потым прыпадаў на пярэднія ногі і саладка пазяхаў.

Міколку даўно клікала маці, але ніяк не магла дагукацца: слоў не чутно было за вясёлым спевам шпа-

ка, які сядзеў на прыстрэшку і, не маючы ўласнай песні, паманьваўся з другімі птушкамі — то заліваўся салаўём, то цілікаў верабʼём, і дзіўна было бачыць на месцы, дзе павінен быў сядзець верабей, чорнага, як асмалак, шпака, а то рыпеў дзяркатa: «Кр-р-р! Кр-р-р!», і вочы міжволі шукалі побліз варону. Раптам — ці то вецер павярнуў, ці то маці страціла цярплівасць — як не побач пачулася:

— Ко-олі-і-ік!

Міколка адразу ж успомніў, што крык гэты даўно стаіць у вушах, але не ўсведамляўся: от нейкае амарачэнне найшло! Не хочучы, каб маці злавала за непаслухмянства (казала ж, каб быў непадалёчку), радасна азваўся — быццам у новую гульню ўключыўся:

— Мама, я ту-у-ут!

Выбег з-за гумна да старой прысадзістай хаты, пакойчык у якой, з ласкі аканома, займала іх сямʼя: бацькі, Міколка, малодшыя сястрычкі Маня і Ганна. У бакавушцы атайбаваўся панскі пастух Яўхім з жонкай Саламеяй, а ў другой палавіне хаты, праз сенцы, жыў аўчар Леапольд Ешка з сынам Адамам і дочкамі Ядвігай і Марыляй, родам сілезец. Ешка любіў малога Міколку, і той таксама гарнуўся да гэтага дзіўнага для мясцовых людзей чалавека.

Пад час добрага настрою Ешка любіў апавядаць Міколку, пасадзіўшы яго да сябе на калені, пра тое, што няма ў цэлым свеце месца лепшага, чым Сілезія, дзе ён, праўда, сам ніколі не быў, але адкуль выйшаў яго бацька, ткач і паўстанец. Апавядаў і пра само паўстанне — што помніў з бацькавых гісторый: як галодныя, бяздольныя нявольнікі, сілезскія ткачы збіраліся гуртам, як змаўляліся на бунт, як спявалі песню, што так выяўляла іх пачуцці:

І суд у нас, і суд у нас,
Тут нават і не судзяць:
Адразу возьмуць, павядуць,
Канец табе тут будзе.

Святла няма. Жывеш ты век
Пад мурам пад астрожным.
І колькі слёз, пакут, калек,
Пералічыць не можна.

Леапольд Ешка паглыбляўся ў свае цяжкія думкі, потым успамінаў пра Міколку, гушкаў яго на каленях,

усміхаўся, зноў забываўся і, зрываючыся з голасу, гаварыў — ужо да Міколкавых бацькоў:

— Бацька мой быў добры, працавіты... Чысты душой чалавек. А ў яго душу даставалі. Не вытрымаў. Папомсціўся. Потым паны ўзялі верх. Ратаваўся. Недзе пад Браслаўлем быў аўчаром. Там у яго і я нарадзіўся. Ды зямля цесная — натрапіў на чалавека, як пазнаў яго. Мой бацька сцураўся радзімы. Сюды ўцёк... У двор да тутэйшага пана, якому патрэбен быў спрактыкаваны аўчар. І, паміраючы тут, бацька смуткаваў, што я, тады яшчэ ў самым маладым веку, застаюся не жыць, а ў магіле гібець. Апошнія яго хвіліны былі атручаны думкай, што пакідае мяне, не даўшы спосабу жыць... Я мала што помню з малых год. Помню толькі высокую таполю, што расла перад нашым домам. Недзе стаіць сабе, стогадовая... І нехта цяпер жыве там, пад ёй... Помню маленькі касцёлік. Бацька хадзіў туды да споведзі. І мяне з сабой не раз браў... Помню ліпы каля касцёла. Як сёння бачу: маці ўзяла мяне за руку і павяла да касцёла... Можа, каб я вярнуўся на радзіму ў маладыя гады, то быў бы шчаслівейшы. А гэта — ссівеў! Вечны парабак! Не можа таго быць, каб усюды чалавеку было аднолькава!

Міколка аціхаў, поўнячыся разам з дарослымі пакуль што незразумелым яму смуткам, і гатоў быў заплакаць. Ды Ешка зноў спяваў:

Дай жа божа добры час,
Як у людзей, так і ў нас,
І добрую гадзіну
Развесялім радзіну!

Пакінем мы бяду далёка,
Зямлю і неба бачыць вока,
Вясёлы будзе дзень!
Вясёлы будзе дзень!

Дзядзькі Леапольда дома няма: ён выбраўся ў кашару, дзе ў загарадцы стаіць некалькі тысяч панскіх мерыносавых авечак. Бацькі таксама няма — пайшоў з самае раніцы ў маёнтак прасіць аканома, каб пачакаў з доўгам. А маці забегла на момант дагледзець малых і наказаць Міколку, каб сачыў за парадкам, бо самой трэба ўходжвацца з панскімі каровамі.

Міколка чакаў ушчунку, што кінуў сястрычак без

дагляду, але маці ласкава, як заўсёды, калі хацела, каб паслухаўся, папрасіла:

— Занясі, сыночак, тату хлеба: ён жа не еў з самага ранку.

Яна ведала, як любіць бацька свайго першынца, ведала і тое, як цяжка яму гнуць карак перад аканомам, пра якога людзі нездарма казалі, што лепш у пана за клямку дзяржацца, чым у падпанка за сталом сядзець. Пасылаючы сына, яна міжволі спадзявалася размякчыць яго каменнае сэрца.

А Міколка быў рад. Каб жа ведаў ён у той момант, што ўсё ўбачанае назаўсёды балюча ўрэжацца ў памяць, параніць сэрца! І ён уяўляў, як будзе ісці ценістай лясной дарогай, сярод замшэлых ялін і кустоў вечназялёнага ядлоўцу, дзе і ў ціхае надвор'е гэтулькі шолахаў і галасоў, што душа міжволі поўніцца жудасцю, і як абрадуецца бацька, калі ўбачыць, хто да яго прыйшоў. У лесе, калі ўвайшоў, быў халадок. Пах багун. У босыя ногі пакалвалі сасновыя шышкі, і пальцы курчыліся, як толькі пад нагу трапляла шулякаватая шышка. Было ціха, бы ў вуху. У гушчары, здавалася, таілася нешта пагрозлівае, незразумелае, нехта, чуваць было, капашыўся, крахтаў, бы лесавічок з дзедавай казкі.

О, казкі дзеда Міхала! Упрасіць яго што-небудзь расказаць няпроста. Але ўжо калі дзед наважыцца расказваць, то адно слухай: пачуеш больш, чым у іншай кніжцы напісана. Да таго ж ён не любіў, калі яго не слухаюць, адразу кідаў расказваць. Гаворыць паволі, як бы прыпамінае нешта вельмі даўняе, што цяперашнім людзям цяжка ўявіць.

Між тым у лесе пасвятлела, лясная дарога пашырала, за паваротам бліснуў прасвет і вачам адкрылася гала. Міколка адразу ўгледзеў бацьку: ён стаяў сярод двара, перад ганкам панскіх пакояў, трымаючы ў руках шапку, і ўсё гаварыў, гаварыў, як без памяці. Ажно ў гэты момант выйшла ахмістрыня:

— Табе колькі разоў казалі: не таўчыся тут перад вокнамі дарэмна!

Бацька раптам заенчыў:

— Унь мне дзіця апошні кавалак хлеба [redacted] стала прынесла. Няўжо я з раскошы прашу? Няўжо я...

На ганак раптам выскачыў сам аканом, высокі і моцны, схапіў бацьку за карак і гэтак пхаў яго перад

сабой цераз увесь двор, да самай дарогі. Там стаяла дваровая чэлядзь, і для многіх гэта была толькі пацеха, вясёлае здарэнне. Спачуваў мала хто. І ўжо ніхто не падумаў, што гэта не Міколкавага бацьку прынізіў аканом, а і кожнага. Як жа так, бачыць такое і маўчаць!

Бацька пайшоў не азіраючыся, камячыў у руках шапку і ўсё нешта няўцямна шаптаў, як апраўдваўся перад кімсьці, а ён, малы і слабы, подбегам спяшаўся за ім і калаціўся ад гневу. Слёзы падалі з вачэй на гарачы пясок і засцілалі свет. На душы было горка. Рукі трэсліся, як у старога або хворага, што ён занадта малы, каб папомсціцца за бацьку — пайсці і забіць здаравеннага, як бык, аканома.

Бацька ішоў моўчкі і, здавалася, таксама перажываў у сабе гэта здарэнне. Але, калі адышліся трохі ад двара, нечакана жудасна спакойным голасам сказаў, бы сам з сабою ўголас разважыў:

— Заўтра пайду папрашу аканоміху.

Міколка ад неспадзеўкі ажно спыніўся на месцы і глядзеў у спрацаваную спіну бацькі, на яго апушчаныя плечы і доўгія рукі: як жа так! Хіба можна даравяць здзек? А як жа тады ён, Міколка? З яго пякучай нянавісцю да гэтых нелюдзяў? З яго вялікім замілаваннем да бацькі, якое ён так востра адчуваў у гэты момант? І Міколка закрычаў нема:

— Не ідзі!

І больш нічога не мог сказаць: слёзы душылі яго і камень лёг на душу.

Бацька спыніўся, азірнуўся на сына, які ўсё стаяў на месцы, чакаючы ад яго рашучасці, на яго птушыную паставу, але, мабыць, быў усё яшчэ ва ўладзе ранейшых думак-развагі, бо спакойна сказаў:

— Чаму? Можа, яе ўпрашу, дык як-небудзь і абыдзецца добра,— раздумаўшыся дадаў: — Яна, кажуць, ніштаватая кабета, ласкавейшая за яго.

Міколку ахапіла яшчэ большая крыўда за гэты бацькаў спакой і незразумелую разважлівасць. Ён раптам пачуў, як абяссілеў і стаміўся. Паволі рушыў услед за бацькам, стараючыся не ступаць у яго шырокія сляды.

— Давай падсілкуемся трохі,— спыніўся бацька.

Яны селі на дарозе, якой нядаўна ішоў вясёлы Міколка, радуючыся хуткай сустрэчы з бацькам. Мі-

колка, цяпер прыгнечаны бачаным і чутым, страшэнна змораны, ажно балелі плечы і рукі, быццам ён не хлеб нёс, а камень, толькі і змог сказаць:

— Як ён цябе пхаў цераз увесь двор.

Столькі непрыхаванай гаркоты было ў яго голасе, што бацька, сам таго не жадаючы, цяжка ўздыхнуў, можа, упершыню за гэты час адчуўшы, што рабілася ў душы яго малога сынка.

— Што ж ты зробіш,— сказаў ён.— Будзе горшая бяда, калі прыйдуць ды апошняе забяруць.

А перад вачамі Міколкі стаяла адно: бацька, пагорблены, у шэрай палапленай світцы і старых даматканых штанах, з пакамечанай шапкай у руках, хуценька перабірае нагамі, упіраецца, каб не ўпасці ў пыл, пад ногі гэтаму страшнаму чалавеку, увасабленню людской дурноты, нялюдскасці і гвалту, які пхае яго ў карак: «Можа, яму не так моцна балела, калі аканом яго ціснуў за шыю, але як, мабыць, балела ў яго душа! Бацька, галодны, спрацаваны, пойдзе зноў прасіць, і зноў можа здарыцца тое ж самае, калі не горшае! Нешта ёсць у жыцці такое, што вымушае яго гнуцца і прасіць. Не, трэба пайсці і забіць таго, хто пхаў у карак бацьку, але не адразу, а каб ён папамучыўся перад смерцю і каб слухаў, як яму будзе ён за скрыўджанага бацьку выгаворваць усю крыўду! Толькі так, а не іначай!» Але выказаць тады гэта бацьку ён не ўмеў, бо гэта было толькі ў яго адчуваннях, у глыбі яго дзіцячай істоты. Толькі праз колькі ўжо дзён Міколка сказаў бацьку:

— Тата, набі яго.

Бацька здзівіўся:

— Каго?

— Аканома.

— Што ты выдумляеш?

Бацька ж падумаў тады: «Дзіця яшчэ зусім! І — слава богу! Бо што было б з яго душой, каб ён у такія гады ўспрымаў усё, быццам дарослы. Няма нічога страшней, як маршчына старасці на дзіцячым ілбе. Шчаслівы час маленства! Залатыя гады!» А вечарам ён сядзеў на прызбе з Леапольдам Ешкам і гаварыў — вусны яго злёгку дрыжалі:

— Вось ты надоечы казаў, што на радзіме не павінна быць дрэнна. А я паўвека пражыў, можна сказаць, дома, дабра ж так і не бачыў. Па чужых кутках,

па панскіх маёнтках усю маладосць пражыў. Не агледзеўся, як за сорак пераваліла і старасць паказалася з-за гары. А спытай ты мяне, што я бачыў, дзе быў? Бо галота страшная, бядота несусветная. Часам і кавалка хлеба ў хаце не было. Кашулі не было перамяніцца. Вошы заядалі. Рубашка — адна на год — здавалася шчасцем. Нічога не было. Душу не было чым пражывіць. А калі і было чым, дык гора якое падкоціцца, што і кавалак хлеба той у рот не лезе. Кавалак хлеба ў душу не ўбіць. Тут яно што важна? Што чалавек ад чалавека далёка, што чужым ён робіцца другому. Так вось яно і пражылося. Былі дзецьмі, павырасталі, пайшлі ў людзі. А як мы раслі? Ці гэта так чалавеку трэба расці? Нават і цяпер часам брат мой Людвік возьме ды ўспамяне: мы, кажа бацьку, пры табе ніколі дабра не бачылі, раслі як гарох пры дарозе, хто ідзе, той і скубяне. Хоць бы сабе і я! Усё вучыцца хацеў. Аж страх! А тым часам, дзе той дастатак, каб пусціць бацьку сына ў навуку? Ледзьве ліпелі на той дзесяціне. Не ведалі, куды яе дзець: ці то засяваць, ці то ў арэнду аддаваць, ці то зусім прадаваць? Усё адно — адна выгада. Брат дык аднойчы не вытрымаў: калі, кажа бацьку, на гэтакае жыццё, дык начорта ты мяне на свет пусціў. Не дай божа чуць ад уласнага дзіцяці такое, калі дзіця папракае бацьку за тое, што ён яго на свет пусціў! Трэба зрабіць так, каб на свеце не было гэтага, каб дзіця дзякавала бацьку за тое, што з'явілася яно на свет. Так я кажу, ці не?..

Ешка слухаў, апусціўшы, як і надоечы, сівую галаву. На каленях у яго сядзеў аціхлы Міколка.

## ЗАЛАТЫЯ ГАДЫ

### III

З двара фальварка Вінцантова, што непадалёк ад Гулевіч, на поўдзень ад Цімкавіч, на палявую дарогу ўзбіваюцца малыя, дзве дзяўчынкі і хлопчык, на галаву вышэйшы за іх. Гэта Міколка і яго малодшыя сястрычкі, Маня і Ганна, надумаліся сустрэць дзеда Міхала, які надоечы наказваў, што наведаецца да ўнукаў.

Фальварак — дзве хаты сярод поля — застаўся ззаду. Сюды яны перабраліся нядаўна, пасля таго, як бацька паслухаўся жонку і адмовіўся ад выгаднага месца прыказчыка, якое нечакана прапанаваў Каролеку Раманоўскаму сам пан Эдвард Вайніловіч. А было гэта так.

Пан жыў у сваёй галоўнай рэзідэнцыі — у Савічах, што за дваццаць кіламетраў ад Нясвіжа. Да 1905 года там заўсёды было вельмі людна і тлумна, не пераводзіліся госці, жывучы пад ласкавым і гасцінным наглядам гаспадара тыднямі, а то і месяцамі. Банкеты шумелі па некалькі дзён запар, у ліпавым парку грымела музыка. У савічаўскі палац зляталіся з усіх канцоў радавітыя кавалеры: у Вайніловіча глядзела ў нявесты дачка. Наязджаў сюды нават сам Радзівіл, і тады ў палацы ўсенькую ноч свяціліся агні, а ў парку сляпіла вочы раз-пораз святочная ілюмінацыя. Але нечакана Вайніловічава дачка памерла. Амаль адначасова з ёю памёр і сын пана. У пакоях усталявалася жалоба, сціхлі банкеты, зніклі госці. Вайніловіч загадаў паставіць у памяць аб дзецях два касцёлы. Адзін — у маёнтку Боркі, другі — у Мінску. У Мінскім Чырвоным касцёле Сімяона і Ганны па заказу пана перад галоўным алтаром была намалявана карціна: божая маці, а каля яе два анёлы, у якіх той, хто ведаў, пазнаваў панскіх дзяцей. Пан Эдвард раптоўна пастарэў, ацяжэў, але з усіх жыл чапляўся за жывое. Ён нечакана зацікавіўся тым, што робіцца ў яго шматлікіх маёнтках, у многіх з якіх ён ніколі да таго не быў. Боркі і Лапацічы былі блізка, і пан часта зазіраў туды. Аднойчы, наехаўшы ў Боркі, пан Эдвард паклікаў да сябе餐Каролека Раманоўскага, якога і сам ведаў, але пра якога і чуў шмат ад сваіх навушнікаў, што гэта чалавек сталы, працавіты, сумленны і справядлівы. Ён прапанаваў яму стаць прыказчыкам.餐Каролек ад нечаканкі не ведаў, што і казаць, адно папрасіўся падумаць, параіцца з жонкай.

Гліцэра выслухала мужа і наадрэз адмовілася быць «паняй»: трэба будзе гнуцца перад панам, цалаваць ручку, паступацца сумленнем. Багацце не тое, што чалавек носіць на спіне, а тое, што носіць у душы. Трэба думаць пра дзяцей, каб неяк вярнуцца на радзіму, у Цімкавічы, там ёсць школа, а Міколку ідзе сёмы

гадок. Трэба, каб хоць адзін Раманоўскі выйшаў у людзі...

Каролек усё-ткі паслухаўся жонкі. Так Міколка і яго сястрычкі апынуліся ў незнаёмай маляўнічай мясціне.

Наперадзе дзяцей лес. Не такі ўжо і вялікі, але прыгожы. Ён будзіць дзіцячае ўяўленне і здаецца нескančonaй першабытнай пушчай. Лес адначасова вабіць да сябе і палохае. Ён акружае поле з трох бакоў, але чым далей дзеці ідуць, тым больш здаецца ім, што гэта лес аббягае поле навокал, як бы акружае яго, ператвараючы ў вялікую паляну.

Лес ужо блізка. Не такі ён і страшны, як выдае здалёк. Да поля падбягаюць каржакаватыя сосны, а паміж імі расце густая трава. Грувасцяцца над нізкарослым пералескам дубы. Да кожнага з іх хочацца падысці, пастаяць, услухацца ў ледзь чутны пошум вяршалін. Але перад вачамі ўжо строй, адна пры адной, выносістых соснаў. Дарога, парослая травой, у якой тут і там віднеюцца аголеныя магутныя карані дрэў, пятляе паміж дубамі і соснамі і вядзе ў глыбіню лесу. Малых паволі разбірае страх. Але яны пакуль што трымаліся як маглі, тым больш што самы старшы сярод іх Міколка — мужчына і не падаваў выгляду, што баіцца. Яны безумоўна прызнавалі яго над сабой перавагу і аўтарытэт.

Міколка ж не сказаць, каб вельмі баяўся, ён проста любіў лес і цікаўна азіраўся навокал, шукаючы, чым разважыць малечу. Раптам нагадаў нядаўнія грыбныя паходы разам з маці, якая вырвалася на гадзіну-другую з працы, каб паслухаць таемны гоман бору ды паказаць дзецям па дарозе розныя зёлкі. Міколка яшчэ не цвёрда ведаў, што і як называецца, але тое, што ведаў, паказваў сёстрам, а неўзабаве перапытваў, каб пераканацца, што яны ўсё запомнілі правільна. Ажно цэлая гульня распачалася — адно толькі рэха аддавалася ў гушчары.

Потым Міколка зноў выдумляе забаву: хто першы ўбачыць дзеда? А яны ўжо баяцца зміргнуць вокам, каб не прапусціць той момант, калі з-за павароту пакажацца знаёмая постаць. Узіраюцца датуль, пакуль не пачынаюць у вачах скакаць нейкія цені, і ўжо цяжка адрозніць, дзе што. Нарэшце выходзяць да павароту: наперадзе нікога не відно. Спяшаюцца хутчэй да

наступнага павароту, але дзеда Міхала няма як няма. Бярэ за душу страх. Ахоплівае неспакой. Нешта прымушае азірнуцца, і трэба намаганне, каб вытрымаць гэту спакусу. За кожным дрэвам здаецца нехта страхатлівы. У гушчары чуецца падазронае капашэнне. Грозна шумяць вяршаліны выносістых сосен, высачэзных грабаў. Сэрца сціскаецца да макавага зернетка ад раптоўнага крыку незнаёмай птушкі. Нехта зверху кідаецца шышкамі. Ага, гэта вавёрка! Вунь яна пабегла з галінкі на галінку, лёгка і хутка, быццам агеньчык па сухім голлі. Загледзеўшыся на вавёрку, дзеці прапусцілі момант, калі з-за павароту паказаўся дзед Міхал, высокі, сівы, з ласкавым позіркам з-пад ссунутых да пераносся броў:

— Хто першы падбяжыць да мяне, той атрымае гасцінец!

Дзеці, і Міколка таксама, з радасным крыкам кідаюцца насустрач. Перабіваючы адзін аднаго, расказваюць, што бачылі вавёрку.

Лес святлее. Здані, зашалясцеўшы лісцем, адступаюць у гушчар. Услед чуецца вясёлы птушыны грай і дзіцячы галас.

Абступіўшы дзеда, шчаслівыя, дзеці ідуць дадому. Дзед Міхал, відаць, трохі прытаміўся, але выгляду не падае. Нечакана спыняецца, паднімае палец угару, робячы знак аціхнуць, прыслухацца. Прыкладае далонь да вуха, колькі хвілін слухае, потым захоплена цмокае языком:

— Але ж і выцылінгвае! Ці не дрозд часам азваўся? Пэўне ж ён!

Глядзіць на ўнукаў, думаючы, чым бы гэта парадаваць яшчэ іх за старанне:

— От прыйдзе восень... Шчыглоў пойдзем лавіць! Хто хоча лавіць са мной шчыглоў?

Маня і Ганна ў адзін голас гукнулі:

— Я! Я!

Міколка, усміхнуўшыся, стала, спакойна сказаў, стрымліваючы жаданне таксама крыкнуць уголас:

— Усе разам пойдзем.

Сёстры згадзіліся з братам:

— Ага, разам!

Дзеці ўжо добратакі натаміліся і ішлі не купкай, а следам адно за адным. Дзед Міхал, нагледзеўшы зацішнае і высокае месцайка пад шатамі векавечнага

дуба, скамандаваў адпачываць. Сам сеў першым. Але дзе там?! Дзеці не ўгаманіліся, нягледзячы на стому, пакуль не абабеглі той дуб, не паспрабавалі ўзабрацца на яго, потым пачалі шукаць жалуды, але каб з шапачкай і галінкай. Нарэшце паселі, і дзед Міхал, акружаны дзятвой, таямніча апавядаў пра сваю сустрэчу з гаспадаром лесу, аброслым імхом, як падгнілы пень пры дарозе, пляшывым і страшэнна разумным лесавічком.

Міколка добра ведаў сапраўдную цану дзедавым выдумкам, але слухаў таксама з захапленнем: дзед умеў выдуманае падаваць як самую вялікую праўду, а праўду гаварыць, быццам жартуючы.

Пачуўшы ад малых, што яны баяцца лесу, дзед сказаў:

— Лес — наш заступнічак. Пакуль ён ёсць, датуль мы, беларусы, жывём і жыць будзем. Не трэба, дзеткі, баяцца лесу. Трэба баяцца ліхіх людзей.

Міколка заўважыў, што цяпер ён глядзіць на лес інакшымі вачамі і бачыць не нешта чужое чалавеку, а блізкае і роднае. У пошуме вяршалін чулася яму ўжо нешта ласкавае і супакойлівае. Дзед жа тым часам распытваў, што робяць бацькі. Пачуўшы, што бацька ў полі, а маці за варштатам — выдалася вольная хвіліна, раптам спытаў:

— А ці ведаеце вы, адкуль узяліся на Случчыне ткачы?

Дзеці ў адзін голас загаманілі:

— Не, не ведаем! Не чулі! Раскажы, дзеду!

— Ну, то слухайце! Але ведайце, што гэта ўжо чыстая праўда і ні кроплі выдумкі. Было гэта яшчэ за паншчынай, год, можа, так за дзесяць да скасавання прыгону. Ну, гэта калі паны вычваралі над беднымі людзьмі, што хацелі, што ў галаву прыйдзе: мянялі людзей на сабак, адбіралі бацькоў у дзяцей і дзяцей у бацькоў, за дробную правіну маглі чалавека звесці са свету, і нічога ім за гэта не было, бог шэсць дзён працаваў, а ў нядзельку адпачываў, то наш брат, мужык, шэсць дзён працаваў на пана, а сёмы на сябе, дый то пан наравіў, каб і сёмы дзень на яго гнулі горб — грыбкі збіралі, ягады, арэхі... Пачалося з таго, што прыгонны чалавек з Агароднікаў (не з тых, што па той бок Слуцка, а што па гэты, бліжэй да Капыля), прозвішча яго Міхалевіч, недзе навучыўся сурвэтнай

справе і стаў сапраўдным майстрам. Слава яго разышлася па ўсёй акрузе: людзі ехалі і ішлі, каб хоць паглядзець на тыя сурвэты, што ён ткаў. Чуткі дайшлі да самога князя Радзівіла, і той хутка скеміў, што ад такіх людзей, як Міхалевіч, больш прыбытку, калі яны, замест працы на княжым полі, будуць вырабляць пэўную колькасць сурвэт. Неўзабаве ў тых жа Агародніках, пад наглядам Міхалевіча і паводле яго планаў, Радзівіл пабудаваў вялікую сурвэтную майстэрню, дзе прыгонныя ткачы выраблялі сурвэты. Тут жа Міхалевіч навучаў ткачоўству маладых хлопцаў і дзяўчат. Майстэрня была сама па сабе, а гэтыя маладыя ткачы павінны былі ткаць дома сурвэты і здаваць князю штогод пэўную колькасць іх. Усё, што рабілася звыш таго, ішло на сябе. Адным словам, гэта была выгадная справа. Ткач — гэта быў той жа самы мужык, які, адседзеўшы за варштатам, мог нешта рабіць і па гаспадарцы. Але адчуваў ён сябе куды вальней. Не вісела над ім павіннасць штодня бегчы на паншчыну. Ткачоўскае рамяство хутка пашырылася па ўсёй Случчыне. Ткачы адбывалі паншчыну не на зямлі, а ў сябе дома або ў Агародніцкай майстэрні. Яны дайшлі ў сваёй справе да вялікай дасканаласці, многія сталі першакласнымі майстрамі. Сурвэты ішлі не толькі на панскі ўжытак, але і вывозіліся ў Польшчу і ў Германію. Вялікую калекцыю да сябе на радзіму павёз чэх Валек, былы арандатар маёнтка Дошнава... Пасля таго як скасавалі прыгон, ткачы, у тым ліку і я, атрымалі на выплату толькі адну дзесяціну зямлі. Вось адкуль пайшлі «дзесяціннікі» — напалову земляробы, напалову рамеснікі, саматужнікі. Першыя гады заказаў было многа. Цэлыя мястэчкі і вёскі займаліся больш ткачоўствам, чым зямлёй: нашы Цімкавічы, Плешчавічы, Жавалкі, Дошнава, Лешня, Семежава, Гулевічы, Макраны, Філіпавічы, тыя ж Агароднікі... У кожнага сурвэтніка былі свае спосабы вырабу, форма варштатаў, свае дасэні і памеры сурвэт, свае ўласныя таямніцы...

Міколка слухаў дзедава апавяданне і бачыў перад сабою і таго Міхалевіча, і Радзівіла, і чэха Валека — таго, хто ствараў прыгожыя рэчы, і таго, хто імі карыстаўся. Бачыў ён і сваю маці за варштатам і мог шмат сам расказаць пра ткачоўства: пра варштат, з яго панажамі, нітамі, шоўгартам, шпарутамі, чапёлкамі, пругамі, шліхтавальнымі шчоткамі, пра дасэ-

ні — «простыя» і «павучковыя», «палкі», «вакенцы», «грабелькі», «маланкі», «хвалі», «дубовы ліст», «кляновы ліст», «грабавы ліст», «васілёк», «лянок»... Ён любіў разглядваць сшытак, які маці перадаў дзед Міхал, малюнкі ўзораў, колеры, любіў чытаць назвы дасэняў, бо ўжо ўмеў досыць шпарка разбіраць літары.

Тым часам дзед з унукамі ўвайшоў у хату, палавіну якой займала варыстая печ, усланы прыгожай, матчынай работы, капай куфэрак, драўляны ложак у кутку, пры акенцы, шырокія палаці, гладкую лаву на ўсю сцяну, стол на моцных тоўстых ножках:

— Дзень добры ў хату! Хай дае бог добрае! Правіна ў хату, а крывіна ў балота! Ці жывы-здаровы? Людцы-беларусы кажуць: добры дзень вам! Ці рады вы нам? Калі вы нам рады, і мы вам да парады.

Бацька (ён акурат вярнуўся з поля) выйшаў насустрач цесцю:

— Дзякуем на добрым слове! Жывы-здаровы, жывём памаленьку, то так, то сяк. Богу хвала!

Дзед падышоў да дачкі, якая сядзела за варштатам і радасна ўсміхалася, паглядзеў, як яна, заканчваючы ўзор, хутка ўкідвае ніткі ў ніты, спытаў, чые ніткі, свае ці заказчыка. Маці неўзабаве скончыла ткаць, прыбрала са стала посуд і накінула чысты абрус — дзед Міхал адразу адзначыў у думках: «Ільняны, вытканы перабіраннем, у два ніты, у адзінаццаць матузоў, з дапамогай перасоўнай дошчачкі, узор «у дзяўчынкі, дубовыя лісткі і пчолкі». Уголас жа пахваліў:

— Малайчына, Гліцэра. Уся ў нябожчыцу маці. Тая, бывала, ткала гэты дасэнь...

Дарослыя загаварылі пра былое ды нядаўняе, пра свае дарослыя справы, і дзеці, хоць і стараліся ўсачыць за ходам гаворкі, неўзабаве захапіліся сваімі забавамі. Міколка ціха, пазіраючы пільна на дзеда, падышоў да маці і папрасіў, каб яна дастала з куфра кніжку, то ён пачытае сёстрам. Ён сказаў, што сёстрам, але яму самому хацелася яшчэ раз пачытаць ужо столькі разоў чытанае — паглыбіцца ў яркі свет казкі. Гэта была кніга Яршова «Канёк-гарбунок». Яе падарыў Міколку вандроўны гандляр, які начаваў неяк у іхняй хаце. Кніга была не абы-якая, а з малюнкамі, і яе бераглі, хаваючы ад малых штораз у куфар, як самае вялікае багацце ў гэтай хаце — часовым парабчанскім прытулку. Чытаць Міколку навучыла маці. Яна ў свой час

навучылася чытаць сама, прыглядаючыся і прыслухоўваючыся, як чытаў брат Міхась. Чытала, калі быў час і было што чытаць, Біблію, «Народныя апавяданні» Льва Талстога, палітычныя брашуры, якія тады хадзілі па руках.

Дзеці забіраліся ў куток пад палацямі, садзіліся ўтульней і шчыльней адно да аднаго і слухалі, як Міколка, дзе хутка, амаль на памяць, а дзе і няспешліва, па складах, чытаў:

За горами, за лесами,
За широкими морями,
Против неба — на земле
Жил старик в одном селе.

Чытаў, пакуль не перасядала ў горле, бо сястрычкі маглі слухаць гэту казку ад пачатку да канца, хоць ведалі ўжо ўсё наперад. Чытаючы, Міколка лавіў сябе на жаданні зразумець сакрэт, як простыя словы, складваючыся адно пры адным, нечакана стваралі чароўную карціну, як гэта незвычайная рэч была зроблена, быццам гуляючы, лёгка і вольна. І гэта разгадванне напаміла яму тыя хвіліны, калі ён намагаўся ўсачыць за хуткімі рухамі матчыных пальцаў, калі яна аднача-сова ўкідвала ніткі ў ніты, стукала бёрдам, націскала на панажы, а на вачах вырастаў прыгожы ўзор сурвэта, абруса, ручніка, ка́пы, дывана. Ён лавіў сябе на тым, што паўтарае знаёмыя радкі, а потым пачынае дадаваць свае — таксама складна: пра хату, пра маці, пра поле і лес... Дарослыя таксама павярнуліся, слухаючы, што чытае Міколка. А Міколка міжволі заўважаў, што больш падабаецца малым, а што вялікім. Часам хто-небудзь з дарослых не вытрымліваў і выказваўся.

Сколь пшеницы мы ни сеем,
Чуть насущный хлеб имеем.
А коли неурожай,
Так хоть в петлю полезай,—

чытаў Міколка, а маці, бы сама сабе, ціха сказала:

— Што праўда, то праўда! Куды ні кінь, усюды клін.

Дзед Міхал падхапіў:

— Заўсёды так было: палавіна свету скача, палавіна плача.

І дадаў:

— Трэба вучыцца, унучак. На старасць як знай-

дзеш. Вучыся, чытай, набірайся розуму. Ведай: хто многа чытае, той многа знае.

Гліцэра слухала свайго бацьку, быццам ён гаварыў яе словы. Павярнулася да мужа — як бы даўнюю гаворку нагадала:

— Чуеш, Караль...

## IV

### ЦІМКАВІЧЫ

Змрок хмурнага дня позняй восені. Міколка вяртаецца дадому са школы. Сябры яго ўжо завярнулі ў свае двары. Ён жа ідзе ажно ў канец Капыльскай вуліцы, дзе стаіць хата дзеда Фэлькі. Мажа, месяц як яны пераехалі ў Цімкавічы, роднае мястэчка ягоных бацькоў, на дзедава аселішча. Годзе туляцца па чужых кутках, абіваць чужыя парогі, гнуць карак перад кожным панам і паўпанкам! Дый маці бацьку штодзень напаміназа:

— Каролек, не забывайся, што ў цябе дзеці растуць. Трэба ехаць у Цімкавічы, там ёсць школа...

Міколка ўжо быў разоў колькі ў мястэчку. Але куды больш, чым бачыў, ён чуў пра Цімкавічы і цімкаўцаў. Цяпер ён таксама цімкавец. Цімкавічы — мястэчка дробнае, ціхае. Стаіць наводшыбе ад вялікага шляху з захаду на ўсход, які ідзе праз Кобрын, Бярозу, Івацэвічы, Сіняўку, Слуцк, Старыя Дарогі, Бабруйск, на Магілёў, Смаленск і далей на Маскву. З Цімкавіч на гэты шлях ёсць выезд: вузкая калёсная дарога даўжынёй кіламетраў дзесяць. У гаворцы цімкаўцаў часцей за ўсё чутны гарады Нясвіж, Капыль, Слуцк, а таксама вёскі і ўрочышчы: на поўдзень — Вызна, Морач, Страхінь, Орлік, Агаркаўскія балоты, на поўнач — Семежава, Лешня, Старыца, Перавоз, Цапра, Балвань. Праз Цімкавічы ідзе толькі стары гасцінец з Нясвіжа на Слуцк і Капыль, разыходзячыся якраз у мястэчку. Цімкаўцы сяліліся адвеку ўздоўж гэтага гасцінца, і такім чынам стварыліся тры вуліцы: да развілкі — Марыупальская, пасля яе — Слуцкая і Капыльская. Як і большасць дзесяціннікаў, Раманоўскія

жылі на Капыльскай вуліцы. Хаты тут туліліся густа, усутыч адна каля адной.

Гасцінец быў своеасаблівай мяжой паміж двума беларускімі абшарамі, сваёй прыродай, характарам і выглядам вельмі рознымі. Тут хвоя пачынала саступаць месца ясеню, дубу і грабу, а мяккая нахмуранасць і задуменнасць краявідаў — большай маляўнічасці і багаццю фарбаў. Насычанае вільгаццю паветра змянялася больш сухім, а неба станавілася больш высокім і сінім. Іншым рабіўся і пейзаж: узгоркі і лагчыны са штучнымі азёрамі, вадзянымі млынамі пастулова пераходзілі ў раўніну з павольнымі і паўнаводнымі рэкамі і рэчачкамі, алешнікамі і балотамі.

У цэнтры Цімкавіч узвышаліся магутныя дубы і вязы, якім было самае малое пад сотню год. У іх патанаў старадаўні царкоўны мур. Насупраць цэркаўкі з пахіленым крыжам і дзіравым купалам стаялі аптэка і пошта, якую яе гаспадар гучна называў: «Почтово-телеграфная контора». За мястэчкам віднелася штучнае азярцо з млынам на два колы. На самым уездзе ў Цімкавічы з паўднёвага боку такія ж самыя стогадовыя дрэвы акружаюць драўляны будынак старога касцёла, збудаванага проста, без асаблівага мудрагельства, без упрыгожванняў, і гэтай прастатой прывабнага. Каб не пабелены і даволі высокі мур, які акружае касцёл і якому, мабыць, больш год, як самому касцёлу, можна было б прайсці паўз тыя дубы і вязы, не здагадваючыся, што за імі стаіць якоесьці збудаванне. Касцёл захаваўся лепш: зямельны магнат, шчыры каталік Эдвард Вайніловіч, не даваў яго занядбаць. У царкве правіў абедню поп Жалезняковіч, а ў касцёле казаў казанні ксёндз Аскерка.

Яшчэ ў 1864 годзе ў Цімкавічах было адкрыта двухкласнае вучылішча. Местачкоўцы пры нагодзе не ўпускалі выпадку пахваліцца тым, што іхняй школе без малога 50 год. Міколка, уваходзячы ў школу, таксама адчуваў, як душа замірала. Але ж не кожную хвіліну думаў ён пра гэта, пра храм навукі, пра літаратуру. Ён быў такі, як і яго аднагодкі. Таксама, як і яны, бегаў па двары ў час перапынку, слухаў тых, хто ўмее маніць байкі, гуляў ва ўсе гульні цімкавіцкай дзетвары і заўсёды ўносіў у іх весялосць: ён любіў парагатаць. Звонкі голас малога Рамаshowскага, ці Раманоўшчыка, як называлі яго дзеці дый дарослыя, ягоны

рогат чуўся здалёк — ці то ў калідоры, ці то ў двары. Ажно настаўнікі выбягалі з свайго пакойчыка, каб пабачыць на свае вочы таго, хто гэтак залівіста смяяўся.

Міколкаў настаўнік Канстанцін Іванавіч Шыш, які прымушаў дзяцей называць сябе «господином Шишневским», адразу заўважыў гэтага шчупленькага, невысокага ростам хлопчыка, бялявы твар якога быў густа ўсеяны рабаціннем. Міколка, такі смелы і баявіты з сябрамі, боязна зорыў вокам на настаўніка, пра якога гэтулькі начуўся пострахаў, і пужліва ўсхопліваўся з месца, калі той трохі павышаў голас. Але вучыўся ён вельмі добра. Ён, трэба шчыра сказаць, стараўся вучыцца, памятаючы матчына: «Хто без навукі, той як бязрукі».

А ўсё ж і Міколка быў рад, што ўрокі скончыліся і ён ідзе сабе павалі ды разглядваючыся навокал Капыльскай вуліцай. Хоць і мястэчка, але хаты нізенькія — тая сцяна складзена з нейкіх шасці-сямі таўшчэзных бярвенняў, вокны на паўбервяна вышэй за прызбы, каб зазірнуць у акенца з вуліцы, трэба сагнуцца ў тры пагібелі, стрэхі — тоўсты пласт саломы, пачарнелай ад часу, на ёй сям-там расце зялёны аксаміт імху, а дзе-нідзе вытыркаецца цэлае каліва жыта з пустым коласам. Стаяць каля падгнілага платца і, здаецца, усур'ёз спрачаюцца дзядзькі: маўляў, што лепш — скасіць тое каліва жыта на страсе ці зацягнуць карову на страху ды спасвіць? О, цімкаўцы такія! Жартуюць там, дзе нічога вясёлага няма, і робяць сур'ёзны выгляд тады, калі самі рагочуць у душы. Вось яны горача спрачаюцца пра тое, адкуль бярэцца соль: ці яе сеюць, ці яна сама сеецца. Або без ценю ўсмешкі апавядаюць, як па той бок Слуцка людзідояць курэй, як палешукі, ад якіх яны жывуць за кіламетраў дзесяць — дваццаць, расцягваюць бэльку, калі яна вельмі кароткая, што пад Нясвіжам ёсць вёска, дзе носяць святло ў мяхах, а калі надыходзіць ноч, то нават хату разбіраюць, абы было светла, што ў Раманаве — мястэчку па дарозе на Слуцк — выносяць дым рэшатам, а ў Доўгім — блізкай вёсцы — не прызнаюць калейку, бо ніяк не могуць палічыцца, чыя чарга адпасваць кароў: кожны, хто лічыць, пры гэтым абмінае сябе...

Міколка пакуль што мала каго ведаў з местачкоўцаў, адно суседзяў ды бацькавых таварышаў. Яны вы-

ходзяць да яго аднекуль з невядомасці і ўжо назаўсёды застаюцца ў яго свядомасці. Кожны з іх для яго — цэлая загадка. Яны прыходзяць да бацькоў, хто з патрэбай, а хто проста пагаварыць, і Міколка, здаецца, заняты сваімі забавамі або кніжкай, тым не менш усё чуе і бачыць: людзі выклікаюць у ім нязменную цікаўнасць. Ён заўважае, як яны апрануты, як выглядаюць, як гавораць, пра што гавораць, нават тое, як уваходзяць і выходзяць з хаты. Гэта цікаўнасць да людзей у Міколкі, мабыць, ад таго, што ў сваіх Лапацічах ды Вінцантова ён жыў на малалюддзі, і кожны, хто прыходзіў, быў чалавекам з нейкага вялікага казачнага свету і ведаў нешта такое, чаго яшчэ не ведаў, але павінен уведаць Міколка. Заходзіў далёкі сваяк Язэп Адамовіч і расказваў пра сына Міхала, якога ўжо два гады не бачыў — той недзе быў на рабоце і патроху хварэў. А Міколка глядзеў на яго босыя, каравыя ногі і думаў, што за яго словамі стаіць нешта большае, пра што ён не гаворыць: туга па сыну.

Ведаў Міколка і таго дзядзьку, што стаяў у канцы агарода і глядзеў, не міргаючы, на поле. Гэта каляснік Міхал Лушчыцкі. Цікава, чаго ён глядзіць на поле? Можа, конь уцёк, успомніўшы лета? Хутчэй за ўсё каня выглядае. Ён ужо не раз судзіўся з суседзямі за патраву канюшыны, ярыны ды аўса, плаціў штраф, але каня не адвучыў ад гэтае спакусы. А цяпер, кажуць, і сам стаў паплаўнічым, дык, можа, сачыў, каб чые коні не забрылі на чужыя палеткі. Ці, можа, проста надакучыла сядзець у душнай хаце, на вуліцы ж нікога не відаць, от ён і рашыў падыхаць паветрам.

Хто падабаецца Міколку і каго ён добра пазнаў, дык гэта Іван Касікоўскі, самы вясёлы чалавек у мястэчку. Яшчэ жывучы з бацькамі спачатку ў Борках, потым у Лапацічах і Вінцантове, куды ледзь не штогод кідала іх сям'ю панская прыхамаць, ён гэтулькі чуў пра Касікоўскага, што цяпер, сустракаючы, міжволі спыняўся і чакаў чагосьці небывалага і смешнага ад таго. Касікоўскі таксама хутка заўважыў гэтага дабітнога хлапчука і, сустракаючыся, вітаўся з ім паважна, як з дарослым, распачынаў сур'ёзную гаворку.

— Адкуль, васпан, ідзяце?

— Са школы.

— А куды, ваша ласка, кіруеце?

— Дадому.

— О, дык гэта ж добра!

— Добра.

Кожны раз Касікоўскі знаходзіў зачэпку для сталай гаворкі, а гэта нават не заўважыў Міколку: праўда, той перайшоў на сваю старану вуліцы. Міколка ажно занепакоіўся, але дарэмна, бо, падышоўшы бліжэй, пачуў спакойны, урасцяжку, голас Касікоўскага, у якім не было і ценю насмешкі,— Касікоўскі распытваў нейкага высокага і шыракаплечага чалавека ў накінутым наапашкі дзіравым кажушку.

Паслухаўшы дзядзькоў, Міколка, хапаючыся за гнілы плацец, асцярожна ідзе краем велізарнай — без малога возера — лужыны, якая ляжыць паміж хатай дзеда Фэлькі і хатай Уладзі Кахановіча. Міколкаў бацька казаў, што гэта лужына была і тады, калі ён быў такі, як цяпер Міколка, дзед жа дадаў, што лужына ўзнікла адначасова з вуліцай, недзе неўзабаве пасля адмены паншчыны. У гаворках цімкаўцаў гэта лужына ўспаміналася часцей, як само мястэчка. Можна было заўважыць, што цімкаўцы нават ганарыліся тым, што ў іх ёсць такая лужына, пра якую ведаюць усе фурманы і балаголы не толькі ў Капылі, але і ў Нясвіжы, і ў Слуцку. Міколка, слухаючы землякоў, міжволі ўспамінаў вычытанае ў Гогаля: «Удивительная лужа! Единственная, какую только вам удавалось когда видеть! Она занимает почти всю площадь. Прекрасная лужа! Домы и домики, которые издали можно принять за копны сена, обступивши вокруг, дивятся красоте ее». Ён і цяпер, прабіраючыся беражком, успомніў гэтыя словы: «Удивительная лужа! Прекрасная лужа!» І, як заўсёды, здзівіўся прастаце і чароўнасці гэтых слоў.

Вось і дзедава хата, бы «капа сена», яна стаіць на краі лужыны і радуецца яе хараству. Але асаблівага захаплення Міколка не выказаў, убачыўшы яе. У дзедавай хаце жылося нясоладка. Дзед Фэлька прывык жыць адзін і злосна пазіраў на сынаву шумлівую гамэрню, а калі сына і нявесткі не было дома, ганяў дзяцей з кута ў кут: і тое яму не так, і гэта не гэтак. Не было канца ягоным папрокам і кпінам. Як звычайна, пачыналася з малога.

І Міколка, і яго сёстры баяліся гэтай хатняй калатні. Усё здавалася малым, што зараз пачнуць напраўду біцца. Дзед звычайна здаваўся несправядлівым, і яны не маглі схаваць сваю непрыхільнасць да яго. Пасля

ўсё пакрысе пачало здавацца інакшым, але цяжка было зразумець, каго вінаваціць. Усё гэта ўядалася ў дзіцячую душу. Шкада было і бацькоў і дзеда. Так яно і жыло ў душы — непаразуменне і шкадоба.

Праўда, здараліся і светлыя дні. Гэта было найбольш тады, калі ў госці прыходзіў дзед Міхал. У такія дні дзецям была воля і прастора: ніхто на іх не крычаў і не гыркаў. Дзед Міхал звычайна прыносіў унукам гасцінец і ўсяляк выказваў сваю прыхільнасць. Нарэшце дзяды залазілі на астылую пасля ранішняга печыва печ і, звесіўшы босыя ногі, доўга і нязлосна спрачаліся, чыя рэлігія — праваслаўная ці каталіцкая — лепшая. Спрэчка была даўняя і магла цягнуцца без канца. Абодва гэта добра разумелі, таму не выходзілі за межы прыстойнасці. Але ў гаворцы самі сабой выяўляліся кплівыя адносіны і аднаго і другога да божых служак, папоў, ксяндзоў, іх памочнікаў. Дзеці мала што разумелі ў гэтых спрэчках і поўніліся адчуваннем высокай мудрасці сваіх дзядоў, якія так па-свойску называлі закавырыстыя імёны і назвы: Мафусаіл, Саваоф, Маісей, Іудзея, Віфліем. Ажывалі яны і падбіраліся бліжэй, калі старыя пачыналі расказваць розныя гісторыі з царкоўнага жыцця. Дзед Фэлька, заўважалася, менш ведаў гэтых гісторый, а калі расказваў, то мала цікава, заканчваючы штораз павучаннямі, якія папы хцівыя і дурныя, некультурныя і недалікатныя. Дзед жа Міхал і пра папоў, і пра ксяндзоў расказваў такое, што Фэлька на месцы не мог уседзець. А дзед расказваў і пра «святое падрыгванне», і пра «папоўскі заработак», і пра «новага чорта», і пра тое, «як ксяндзы вылечыліся», і пра царкоўнага папячыцеля, як ён «велікоднае» збіраў.

Дзеці сядзелі як заваlandжаныя, гледзячы ў рот дзеду Міхалу, а дзяды, паспрачаўшыся ды пасёрбаўшы крышаноў з аднае місы, ішлі разам адну нядзелю ў царкву, другую — у касцёл.

Праўда, такіх дзянькоў было — на пальцах палічыць. Часцей жа даводзілася нясоладка. Асабліва цяжка было бачыць гэта Гліцэры, і яна ці раз казала Каролеку:

— Каролек, трэба думаць, каб неяк агараць хату.

Міколкавы бацькі моцна ўзялі да галавы думку пра свой куток. Каролек перш-наперш кінуўся ў Міроўшчыну. Там, на хутары паміж Какорычамі, Жавулкамі і

Калодзезным, цяпер жыла сястра Марыля, якая выйшла замуж за кудзінаўца Рыгора Сухавея, былога аканома пана Яблонскага. Пару год назад, купляючы зямлю ў Міроўшчыне, вельмі добрую, нагледжаную Рыгорам Сухавеем яшчэ ў час службы ў пана, Марыля пазычыла ў брата сто рублёў.

І вось Каролек выправіўся ў дарогу. Ён ужо бываў у Міроўшчыне, аднак, падыходзячы да фальварка, азіраў усё навокал як бы ўпершыню.

Каролека спаткалі страшэнным брэхам сабакі, і, каб не сукаватая палка, якую падхапіў па дарозе Каролек, яны паабрывалі б пяты. У акне мільгануўся цень, але ніхто не выйшаў адагнаць сабак. Каролек узышоў на ганак, усходы якога трымаліся на падстаўленых камянях і гнуліся пад нагамі, увайшоў у маленькія сенцы на падлозе. Пасля сянец быў вялікі пакой, салончык, як называлі яго гаспадары. Над старасвецкім камодам віселі фатаграфіі. Павятовы ці мястачковы фатограф быў невялікі майстар, і Сухавей на адной фатаграфіі выйшаў з пагнутым носам і адтапыранымі губамі. Але ў вачах было задавальненне. Каролек міжволі ўспомніў словы сястры, якая, гледзячы на фатаграфію, колькі разоў гаварыла: «Які ты быў, Гжэгаж (так яна на польскі манер называла свайго мужа), тады цікавы. Глядзеў, як пан, сабе». Сухавей сапраўды выглядаў панам, але такім, што нядаўна выйшаў з мужыкоў. Вусы былі закручаны стрэлкамі. На грудзях на камізэльцы вісеў шырокі ланцужок ад гадзінніка. Вываксаваныя боты на здымку выйшлі белыя. Сам Сухавей сядзеў на нейкай фатаграфскай ламачыне, а поплеч стаяла Марыля, паклаўшы мужу руку на плячо. На здымку яна выглядала год на дваццаць пяць маладзей за мужа. Апранута яна была модна, але адчувалася, што гэта суке́нка з чужых плячэй. Каролек, прынамсі, добра ведаў, што яе падарыла Марылі пані Яблонская як знак сваёй ласкі і прыхільнасці. Пад здымкам вось ужо які час нечапаная сурвэта на камодзе, тры ці чатыры кнігі: касцельныя зеленкаватыя кантычкі, «Практический семейный и для молодых людей письмовник», «Сонник» і «Оракул». Над двума дзвярамі ў бакоўцы вісела па карціне ў рамках і за шклом: на адной — лясная выжарына і на ёй сыходзяцца два цецерукі сярод сухіх верасоў, на другой — сабакі гоняць лася і паляўнічы страляе з-за

дрэва. Карціны местачковага ўжытку, па капеек чатыры кожная, аддрукаваныя на шэрай паперы. На падаконніках стаялі вазоны.

Пакуль Каролек разглядваўся навокал, на двары пачуліся галасы: у акно бачна было, як прайшоў пан Гжэгаж, а за ім, подбегам, Марыля. Увайшоўшы ў хату, ні ён, ні яна не выказалі асаблівай радасці. Фальшывым галаском сястра заспявала:

— Ніколі, Караль, і не зойдзеш да нас. То сядай жа, будзь як дома. Ці ж ты мне не родны брат! Ну, як жа братавая маецца? Ці скончылася крыцца гумно? Ці знайшоўся сабака?

Яна гаварыла, абы не маўчаць, і выпытвала тое, што і так было вядома: пытацца было нецікава, але і адказваць была яшчэ большая нудота. Каб гэта з кім іншым, то ўжо даўно б не вытрымаў — зарагатаў. Але ж не вечна можна таўчы ваду ў ступе, і Каролек падступаецца гаворкаю да справы:

— Хату надумаў купляць. У кожнага павінен быць свой кут. Дзеці падрастаюць. Не век жа мне быць кутнікам! От я і прыйшоў за пазычанымі грошамі!

Сухавеі пераглянуліся. Пан Гжэгаж няёмка змоўк, а Марыля суровым голасам адказала:

— Грошай няма. Мы самі толькі што пабудаваліся. Можа, на каляды што прадамо... Лепш прыязджай бяры на той доўг салому...

Каролек адразу зняў: спрачацца, крычаць — марная справа. Хто-хто, а ён добра ведаў і сястру, і пана Гжэгажа! Яны ж адвеку стараліся ашукаць Рамаоўскіх. Ды ці толькі іх?! Сухавей з першых дзён жыцця шукаў сабе лёгкага хлеба: падаваўся ў стражнікі, у манапольшчыкі, у местачковыя крамнікі, у сальнікі, трапіў у аканомы... Дзіва што ён вызнаваў сябе за выдатную галаву, што гэтак спрытна выйшаў у людзі, а стрэчных сваякоў меў за хамаў і вечных галетнікаў. З думкамі пра людскую няўдзячнасць і куцельства Каролек і вярнуўся дадому. Міколка чуў яго апавяданне ад пачатку да канца, бачыў, як маці, слухаючы бацьку, абурана ківала галавой, і ў яго ўражлівым уяўленні выраслі вобразы нелюдзімага і сквапнага пана Гжэгажа і скнарыстай цёткі.

Учора Міколка прачнуўся недзе апоўначы, убачыў святло лучыны з-за печы і пачуў ціхія галасы бацькоў: яны пошапкам рахаваліся, гадаючы і так, і гэтак, як

выправіць сваю хатку. Міколка адно пачуў, як маці сказала:

— Бацька («Дзед Міхал»,— падумаў Міколка) абяцаў памагчы грашамі. Можна будзе купіць у Космічах яшчэ не стары хлевушок і перавезці ў Цімкавічы — людзі казалі прадаецца.

— То тады,— загаварыў бацька,— трэба папрасіць Лонгіна Дамeню, Пятра Парыбка, Уладзю Кахановіча, каб памаглі скласці зруб. Хлопцы ўвішныя — скідаем як бач. Дадамо яшчэ пару новых вянкоў і прыставім трысцен да старой бацькавай («Дзеда Фэлькі!» — узрадавана падумаў Міколка) хаты. Да зімы неяк перагаруем разам з дзедам, а вясною перабярэмся ў сваю хату. Сталярку я сам збольшага зраблю, Міколка паможа...

— Ого, Міколка! — у голасе маці пачуліся замілаванне і ўсмешка.— Без яго дапамогі нам ніяк не абысціся!

Абое ціха засмяяліся. А Міколка ледзь уцерпеў, каб не разбудзіць адразу ж сясцёр і паведаміць ім такую навіну. Ён рады быў яшчэ і таму, што не давядзецца перасяляцца некуды далёка, зноў прывыкаць да новага месца і да новых сяброў. А ён апошнія дні вельмі здружыўся з Сэлінымі дзяўчатамі — Надзяй, Лізай, Марыляй і асабліва з Сашай. Сэляй у Цімкавічах называлі Саламею Дамeня, муж якой працаваў механікам на млыне. Спачатку да іх хадзілі гуляць Маня і Ганна, а пасля і Міколка прывык. Дзяўчаты звычайна прасілі яго што-небудзь маляваць: ён, уважліва прыгледзеўшыся да замалёвак узораў у матчыным сшытку, добра налажыўся да малявання. Маляваў найбольш знаёмыя краявіды, алоўкам, адной-дзвюма рысамі абазначаючы хаты, дрэвы, платы, лес на даляглядзе. Зрэдку рабіў спробу накідаць абрысы твараў, і дзяўчаты захоплена ўсклікалі, пазнаючы бацькоў Міколкі, суседзяў, яго самога. Часам, найбольш вечарамі, Міколка прыносіў з сабой балалайку і іграў на ёй і «Ойру», і кракавяка, і чачотку, фантазіраваў і нешта сваё — найчасцей ціхія і маркотныя мелодыі. На балалайцы ён вывучыўся іграць сам, выпрасіўшы ў кагосьці яе. А нядаўна ён прачуў, што ў цімкавіцкага папа Жалезняковіча ў хаце шмат кніг і ёсць фісгармонія, і сышоўся з яго сынам Васілём, з якім разам вучыўся ў школе і якога празвалі Сонейкам. Той пазнаёміў Міколку з братамі — старшым Арсенам і малодшым Паўлам. Ён

жа паказаў яму і фісгармонію. Міколка праз некалькі дзён іграў на гэтай фісгармоніі.

Сёння быў першы дзень, калі Міколка ішоў дадому, не баючыся бясконцага дзедавага бурчання і сварак: у яго, вечнага бесхацімца, нарэшце будзе свая хата, у яго, беспрытульнага кутніка і кватаранта, будзе свой родны кут.

## V

## КУКАВІЦКАЯ КАРЧМА

Зіма ў 1915 годзе пачалася рана. Ужо ў пачатку лістапада захаладала, а праз пару тыдняў выпаў лёгкі бы пух сняжок, але не вылежаў доўга. Неўзабаве падзьмуў вецер і змёў снег ■ дарог і ўзгоркаў у нізіны. І там і тут можна было бачыць прыснежанае ржышча: яно ўсякі раз нагадвала пра летняе цяпло. Позірк міжволі спыняўся на кусціках падмёрзлай цёмна-зялёнай травы. Звычайна яна вырастае на тым месцы, дзе закапалі дохлую жывёлу. Гэту траву коні і каровы не ядуць нават тады, калі няма чаго есці. Але зімой і яна ажыўляла досыць панылы пейзаж. Такой зімы ў гэтых мясцінах, здаецца, даўно не было.

Абсаджаны бярозамі гасцінец, што ішоў ■ Нясвіжа на Цімкавічы, ляжаў пад снегам: дрэвы затрымалі снег. Пад драўляным мастком цякла рэчачка, пакрытая тонкім і крохкім лядком, скрозь які свяцілася чыстае жвірыстае дно. Багавінне павольна калыхалася і нагадвала пра вечнасць. Увесь дзень свяціла сонца і сляпіла вочы. Дарога пад нагамі клікала ўдаль. Але вока бачыць далёка, а нагам работы на гадзіну, каб дайсці да хвойнічка. У душы вырастала дзіўнае адчуванне: якая яна вялікая, зямля! Адыходзілі назад лясы наўзбоч дарогі, а далягляды дыхалі прасторай і воляй. Чалавечая істота напаўнялася ціхай радасцю, думкі ж былі вострымі і хуткімі.

Пасля месяца блукання па хутарах, вёсках і мястэчках Карл Раманоўскі ■ сынам вяртаўся дадому. Абодва, стары і малы, шэрыя і тоўстыя ад суконных вопратак, крочылі абочынай цяжка і грузна: і прайшлі шмат, і вялізазныя боты на нагах. Вецер гуляў па

голым полі, раптоўна паварочваў на гасцінец і дзьмуў у твар. Ішлі, мала азіраючыся назад: былі думкаю там, наперадзе. У бацькі за плячамі была падоўжаная вялікая піла зубамі ў драўлянай раме, сякера за поясам, у Мікалая — таксама сякера за поясам, а на спіне горбілася торба, дзе побач з хлебам і кавалкам старога сала ляжалі малаткі, напільнікі, грунтвага. Так і хадзілі ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка. Праходзілі праз гарады і чыгуначныя станцыі. Прыпыняліся там, дзе была работа. Цягнулася работа тыдзень, не пакідалі яе, было яе на два дні, працавалі два дні. Канчалася работа — ішлі далей. І цягнула іх да работы, але не дзеля заработку: яны адчувалі сябе добра сярод людзей, а вядома, што дзе работа, там і людзі.

Найбольш работы цеслю восенню. Людзі, управіўшыся з малацьбой, вазілі дрэва, і яно ляжала скрозь на вуліцах, ажно здавалася: адразу паўсяла або будуецца, або правіць старое. І тут і там чуўся звон пілы, грукат сякеры, людскія галасы. У такі час весела працаваць. Здаралася, вядома, што работы не было. Але і бацька і сын не сумавалі: днявалі і начавалі дзе-небудзь каля рэчкі, у кустах, калі была гарачая летняя пара і ўсё жывое сыходзіла з вёскі ў поле, пяклі вечарам сала на ражончыках, раніцаю вымываліся ў рэчцы, вымалі з торбы чорныя сарочкі, якія даўно ўжо мыць трэба было, і, уцёршыся, ішлі далей, туды, дзе была работа.

Божа мой! Дзе толькі яны не былі за два гады? І на гэты раз адмахалі вёрст сто або дзвесце. Пайшлі на Савічы, Скіп'ёва, Старыцу, Шастакі, Быстрыцу, Душава, Вялешына, Усава, павярнулі на Грэск, потым на Нясвіж, абышлі сам горад старанай і выйшлі праз Лазавічы, Кудзінавічы, Раткаўскі лес, Цецераўцы, Матылёўшчыну, Барцёўскі лясок, Вялікую Раёўку, Кукавіцкую карчму на Цімкавічы. А колькі ўсяго бачылі і чулі!

У чыстым полі, на поўнач ад Цімкавіч, сустракаліся ім нечапаныя плугам насыпы. Часам іх было так многа, што яны надавалі своеасаблівасць краявіду. На адвечным дзірване калыхалася пад ветрам сухое бадылле лясных і лугавых кветак і травы. Бацька апавядаў, ды Мікалай і сам гэта ведаў з кніг, але бацькава слова для яго шмат значыла, што пад насыпамі камянеюць косці і старадаўніх і пазнейшых аматараў заўладаць беларускай зямлёй, што людзі і ў наш час выкопваюць

з'едзеныя ржой сякеры і дзіды, шлемы і латы. Заваёўнікі змянялі адзін аднаго, а тутэйшыя людзі, перажыўшы яшчэ адну навалу, браліся за плугі і косы, ураблялі зямлю, вырошчвалі хлеб, гадавалі дзяцей, складалі казкі і спявалі песні пра татарскія рабункі і вялікае шведскае спаленне, пра княгіню Анастасію і паўстанне Міхаіла Глінскага, пра казака Платона і Шастакоўскі бунт.

У Раткаўскім лесе на нізкай прагаліне яны найшлі на некалькі старэнькіх хатак. Навокал стаялі хвоі, за імі ляжала балота: яно віднелася праз бялявыя прасветы. Зайшлі ў хату, абгароджаную скрыўленым, плеценым з ядлоўцу плотам. У вільготных сенцах было цёмна. З хаты тхнула адсырэлай саломай. Чарнелі пазы ў бярвенні і спарахнелы мох. Нізкая столь вісела над галавой. Праз маленькія акенцы прабівалася знадворку святло: з двара — ад хвояў — было цямней, з бакавога акна — там пачыналася адкрытае балота — святла было больш. З-за вялізнай даўно беленай печы паволі выбраўся невысокі стары: яго постаць цяжка ўгадвалася за сярмягай у латах, зрэбнымі штанамі, бруднымі ваўнянымі анучамі і лыкам. Спакойным голасам ён зазначыў:

— Хмара находзіць... Сядайце, дзеткі...

Сам сеў на нізенькую калоду пад акном і стаў скідаць лапці і раскручваць мокрыя анучы. Дастаў з печы сухія закарэлыя анучы і стаў мяць іх рукамі, а потым накручваць на ногі. Спытаў, куды і адкуль, што іх загнала ў такую глухамань:

— Ага, цеслі! Сказаць праўду, людзі будуюцца. Лес пад бокам, то чаму не будавацца! — памаўчаў і дадаў: — А бывала, сюды на паляванне толькі паны прыязджалі... Князева псярня тут заўсёды летавала... Але тады тут быў скрозь лес. Я быў яшчэ малым...

І, не зважаючы, слухаюць яго ці не, стаў апавядаць пра тое, што чуў ад свайго бацькі: як князь пакараў яго за тое, што мядзведзь задушыў князева ўлюбёнага ганчака,— загадаў падвесіць за нагу да дуба і не здымаць, пакуль не скончыцца паляванне; як бацька енчыў, а потым хрыпець пачаў, і ўсё жыццё пасля таго крывёю кашляў, калекам да самае смерці пражыў... У голасе старога чуўся нейкі фаталістычны жах перад тым, што чалавек можа так рабіць з іншым чалавекам. Мікалаю запомнілася, як ён паўтараў:

— А сабакі тады гэтак залягаліся, як бацька вісеў! А сабакі гэтак залягаліся!..

Ва ўяўленні Мікалая ўставала страшнае мінулае. Ён думаў пра перажытае беларусамі на працягу стагоддзяў.

У мясціне, якая называлася Дзве Хаты (там сапраўды было дзве хаты), яны напаткалі вельмі ж фацэтнага чалавека. Пабылі з ім колькі гадзін, а запомнілі так, бы пражылі побач усё жыццё: успаміналі потым яго слоўцы, яго рухавасць, якая часам пераходзіла ў трапятлівасць, ягоную дабрату, чуласць і далікатнасць. Мікалаю ён нагадаў цімкаўскага фельчара Максіма Грынюка — і паставай, і жвавасцю, і цікаўнасцю, і гаварлівасцю, але бацька, які бліжэй ведаў Грынюка, не згаджаўся з ім. Як зайшлі яны ў адну з хат, тую, што бяднейшая, дык насустрач ім з печы споўз дробны на вока чалавек, босы, у брудналатых споднях, у вышмарганым кажушку, вочы ў яго з рухаваю прыжмурынкаю, крыху як бы сарамяжныя, і сам ён вельмі рухавы, стараецца дагадзіць — тупае каля нечаканых гасцей, без злосці кляне сіверку, што аднекуль узняўся, адначасова вітаецца, запрашае ў хату, распытвае, раіць, развакае ўголас, успамінае вядомыя яму нейкія выпадкі. За кожным словам ён паўтараў: «добры інтэрас», «каб вам не схлусіць», «праўда ці не», «страшэнная моц», «як той казаў», «я скажу проста і адкрыта», «я гэткі чалавек», «братка, братачка». Быў ён кажушны кравец, ні зямлі, ні каня не меў, дома сядзеў мала, а паўвека свайго правандраваў па свеце з адмысловай іголкай, шыючы людзям кажухі. З гэтага жыў і карміў сям'ю. Кажуць, шавец заўсёды без ботаў, а бортнік не есць мёду. То кравец не меў добрага кажуха. Пра гэта ён і сам сказаў, і яны заўважылі.

Кравец вельмі ахвотна задаволіў цікаўнасць людзей, што шукалі работы, падрабязна расказаўшы, хто, як ён чуў, ставіць хату або правіць старую, хто збіраецца пілаваць на дошкі падрыхтаванае загадзя бярвенне. Ён адразу ж сказаў, што непадалёку ад Двух Хат, у балотах, на лясістым грудзе, стаіць дробная пільня, саматужная і нягеглая, што яе арандуе нейкі гарадскі мешчанін і што там, дзе ёсць пільня, заўсёды знойдзецца работа цеслям. Адначасова ён распытаў, уваходзячы ў самыя малыя дробязі, пра тое, адкуль яны самі,

дзе былі, што бачылі, і, слухаючы, выяўляў сваё добрае веданне і мясцін і людзей. Кравец ведаў тут усіх самае малое вёрст на сто навокал.

Мікалай заўважыў, што кравец баіцца холаду, бо адразу ж, мармытнуўшы нешта накшталт: «З вашага дазволу ды па вашай ласцы...» — пабраўся на цёплую чарэнь. З выгляду ён паказваў на чалавека кволага, быў прысутулены і лысы. Але душу меў мяккую. Гэта адчувалася ва ўсім, у тым, як ацэньваў людскія ўчынкі, пра якія сам жа апавядаў, у спачуванні кожнаму, хто такі самы, як ён. З печы ён і вёў гаворку, якой канца не было: адно чаплялася за другое, і ўсё здавалася цікавым, важным. Мікалай ужо засынаў, а чуў краўцова няўцямнае мармытанне: «Добра падышоўшы ды папрасіўшы...» Кравец ніяк не мог выбрацца з пачатага і закончыць думку.

Ходзячы па людзях і шыючы кажухі, кравец набыў своеасаблівы погляд на ўсё. А шыў ён кажухі найбольш па глухіх закутках, дзе аўчыны і радзіліся, і гадаваліся, і выраблялі́ся. У каго не было сваіх або не хапала, той браў у багатага суседа на адработак. Усё было сваё. Крамнае насілі, хто багацейшы, толькі два разы на жыццё — на вяселле і ў труну. У каго яно было, той лічыўся вялікі багатыр. Жартам расказвалі, як прыехаў нейкі бядак у сваты ў іншую вёску, а ў яго пытаюць, што ён мае. Той адказвае: «Дзве лаўкі». О, дык жа багаты жаніх! Потым аказалася, што ён гаварыў пра лаўкі ў хаце пры сценках. Якое жыццё было, такія і жарты. Лапціраслі тут жа побач — лазы хапала ўдосталь. Больш спрытныя дабіралі розуму і на боты — таксама з свайго тавару. Боты тыя найбольш ляжалі наглянцаваныя ў куфры, або насілі іх на палачцы звязанымі за плячамі і абувалі толькі, падыходзячы да кірмашу ці гасцей. Сукно, палатно, шарачок былі свае. У краму хадзілі раз у год: па соль ды па запалкі. Але і запалкі не вельмі патрэбны былі: у вёсцы заўсёды знойдзецца ў нейчай печы гарачы вугалёк.

Дзе ён, кравец, толькі не быў! Ужо і яны абхадзілі паўсвета, але так далёка не заходзілі ні разу. Быў ён і пад Слуцкам, і каля Нясвіжа, дабіраўся і да Урэчча з Любанню, трапляў і за Клецк, заходзіў і ў бок Баранавіч. У пашытых ім кажухах людзі хадзілі ў акрузе больш як на сто вёрст. Па кажуху ён часта і пазнаваў людзей, хоць, увогуле, памяць меў багатую. Казаў:

«Калі я каго пабачу раз, то ўсё — аман! — запомню на векі вечныя. Каб я так жыў, калі хлушу!» Летам кравец больш прападаў дома. Наймаўся часам касіць, і быў добрым касцом, а часам малаціць, і быў не абы-якім малацьбітом. Калі трэба было, станавіўся печнікам, рабіў гонту, круціў гаршкі ў ганчарні. У любой справе ён быў першы дарадца і памочнік. Ішла гаворка пра пчолы, ён, аказвалася, меў справу і з пчоламі, гаварылі пра гарбарства, ён і тут быў не абы-якім гарбаром. Да ўсяго на свеце ён меў цікаўнасць і дачыненне. Кравец, калі моцна прасілі, мог пагаварыць на «кравецкай» мове, якая хавала цэхавыя таямніцы і якую ўжо мала хто помніў. У гады першай рускай рэвалюцыі ёю карысталіся рэвалюцыянеры для канспірацыі. Быў ён добры музыка — іграў на скрыпцы. Мог і на балалайцы і на бубне, але хіба што забаўляючыся, бо не прымаў усур'ёз гэтыя інструменты. Іграў найбольш тое, што трэба было на абыходак тутэйшым людзям — польку, кракавяка, чачотку. А на зіму адыходзіў у свае звычайныя заработкі.

За работай кравец праседжваў да трэціх пеўняў: гэта быў яго часамер. Раз заспявалі трэція пеўні, то, значыцца, трэба класціся спаць. Гадзінніка ў такіх закутках ніхто не ведаў. Шыў ён і мужчынскія і жаночыя кажухі. Калі заказвалі, то і дзіцячыя, хоць лічыў, што шыць на дзяцей — адно псаваць аўчыну, дзеці няхай у чым лягчэйшым бегаюць. У жаночых кажухах напускаў пышную, калі, вядома, было з чаго, аблямоўку. Мог, калі прасілі, абшыць ёю не толькі крысо, але і рукавы, і хлясцік, і кішэні, а часам наогул выпусціць яе па ўсіх швах, якія толькі ёсць: заказчыкі былі розныя. Але часцей траляліся людзі практычныя, якім той кажух быў патрэбен на кожны дзень, на ўсякую пагоду і на ўсякую прыгоду, абы было цёпла і зручна. Плату кравец браў пасля таго, як выконваў заказ, і на гэтым часта гарэў, бо траляліся вельмі хітрыя і сквапныя гаспадары, гатовыя пакарыстацца чужой працай і безабароннасцю, абыякавыя да голасу людскога абгавору і ўласнага сумлення. Кравец у такім выпадку звычайна гаварыў: «Раз ён так бедніцца, то хай з майго пакарыстаецца. Але каб я яму шыў! Божа ратуй!» Так абшываючы ўвесь свет і не маючы прасветлай гадзіны, кравец быў бяднейшы за самага беднага бедака. Яму нават і ў галаву не прыходзіла, што ён мае гэтулькі ў

сабе таленту і займае ледзь не самае апошняе месца ў жыцці.

Звычайна ў хаце, дзе шыў кравец, кожны вечар збіраліся пасядзёнкі: кравец ухітраўся і шыць, і расказваць. А расказваць было што: ходзячы вечна па людзях, чаго-чаго не пачуеш, асабліва калі ўмееш слухаць. Людзі нездарма кажуць: будзь добрым выслухачом, то будзеш добрым апаведачом. На кожны выпадак ў краўца было сваё ўласнае тлумачэнне. Ён адразу ж успамінаў нешта падобнае і пачынаў сваё апавяданне словам: «Калісьці гэта...», «Гэта як той...» Жывы чалавек, то жывое і гаварыў. Слова да слова, а хлеб да абеду. Без байкі кравец не мог. Яго хлебам не кармі, але дай слова сказаць ды яшчэ і прыказаць. Сам таго не разумеючы, ён выказваў думкі, што свет трымаецца не на злосці, а на літосці, не на празе, што ўсё мала і трэба больш, а на чыстай, ласкавай, светлай чалавечай праўдзе: «Усё мінецца, адна праўда застанецца», «Праўда наверх выйдзе, яе не схаваеш у зямлі, не ўтопіш у моры, не спаліш у агні», «Што праўда, то не грэх, што торба, то не мех». А дзе ж праўда праўдзілася, як не на людзях! І краўца заўсёды цягнула да людзей. Затое і людзі імкнуліся да яго і, слухаючы, мякчэлі душой, адпускаліся са злосцю і немілосцю, рабіліся добрымі. Слаўны сваёй чалавечнасцю, ён хутчэй, як хто, чуў прысутнасць зла і несправядлівасці і не хаваў сваіх пачуццяў: «Як жа гэта так! Як жа так можна! Гэта ж трэба! А людцы вы мае! А братачка!»

Вядома, людзі былі ўсякія, і краўцу неаднойчы даводзілася трапляць у складанае становішча. Яго стараліся і абдурыць, і не аддаць належнае, мазольнае, працай зробленае, і насмяяцца. Але заработкі яго былі капеечныя, то капеечныя былі і хітрыкі. Яго крыўдзілі, але ніхто не мог сказаць, што ён каго-небудзь хоць раз пакрыўдзіў. Ён усяму ведаў сапраўдную цану і крыўдзе таксама не даваў веры. Ён чакаў ад людзей дабра і ішоў да іх з адкрытай душой. Без людзей кравец не мог жыць. Гэта, вядома, перадавалася ўсім, каго ён сустракаў: сустрэчы з ім радаваліся, як сустрэчы з самым блізкім чалавекам, кідаліся ў роспыты, прасілі расказаць, што робіцца на белым свеце.

О, расказваць было што! Кравец пераносіў з адной мясцовасці ў другую і праўду і выдумку. Пускаў на людзі, а пасля нёс назад ужо ў новым варыянце, пад-

хопленым ад сваіх жа ранейшых слухачоў. І сам ужо не пазнаваў свайго апавядання. За свой век ён наслухаўся самых неверагодных і фантастычных апавяданняў пра ведзьмароў і чарцей, пра паноў і мужыкоў, пра папоў і ксяндзоў. Многа было апавяданняў і пра заклятыя грошы, і пра «фармазонскія» рублі. Адным словам, кравец мог расказаць пра свет і людзей шмат незвычайнага. Хутчэй за ўсё, што сам ён нічому гэтаму не верыў, але нейкі след гэта ўсё ж пакінула ў яго падсвядомасці. Прынамсі, у яго голасе, калі апавядаў, скажам, пра нячыстую сілу, гучаў містычны страх, які адразу ж перадаваўся слухачам. Слухаючы іншых пра тую ж нячыстую сілу, ён раз-пораз айкаў і ойкаў, прыгаворваючы: «А братачка! Братачка, што ты кажаш! Не можа таго быць, братачка!»

Ішла вайна, і кажушная справа заняпала. Заказаў было мала, і кравец міжволі шукаў сабе іншы спосаб жыць. А пакуль што пражываў заробленае. Ён не скардзіўся, не бедніўся, не агінаўся, проста звычкі такой не меў: гэтакая бяда напала на людзей! Вайна! Там, дзе гінулі мільёны, адзін чалавечак з яго дробнай бядой не меў амаль ніякага значэння. Мікалай і яго бацька, ходзячы па дарогах, бачылі доўгія панылыя абозы бежанцаў з заходніх абласцей Беларусі і нават з Польшчы і Літвы, крыжы абапал дарог, пашкуматаныя сялянскія калёсы, конскія шкілеты ў абочынах — гэта выгнаны ў свет люд пакідаў след свайго бядотнага існавання.

Яшчэ ўчора яны сустрэлі на дарозе шаснаццацігадовага хлапца, які назваў сябе выгнанцам з-пад Вільні. Ці ж дзіва! З захаду на ўсход ішлі і ехалі польскія сяляне, нашы гародзенцы, беластачане, віленцы. Усе дні далёкая артылерыйская кананада па той бок Баранавіч глуха аддавалася ў прасторах і абуджала ў душы трывогу і няяснае чаканне самага горшага. Мікалай, слухаючы таго маладога выгнанца, свайго амаль аднагодка, думаў пра тое, што ён перажыў — не дай бог нікому добраму: спачатку немцы смалілі з гармат па ягонай вёсцы і ўрэшце выгналі іх у свет, потым памерла маці, і яны пахавалі яе пры дарозе, памерла сястра, а за дзень да гэтага памёр і хворы бацька, хворы і з дому выехаў. Па крыжах пры дарогах можна цяпер дайсці да яго роднай і такой далёкай вёскі. Каролек нараіў хлопцу ехаць проста па дарозе і спыніцца ў Цімкаві-

чах: там ён знойдзе сабе прытулак, а калі захоча, то праз некаторы час стане сапраўдным цімкаўцам, там яму спадабаюцца і самі Цімкавічы, і цімкаўцы, там яго не кінуць у бядзе, і дапамогуць, і слова ласкавае скажуць, і ў душу з бруднымі ботамі ніхто не палезе. Мікалай бачыў, як паступова сыходзіў з твару хлапца недавер, як святлеў яго ўтрапёны позірк. Можна было спадзявацца, што смутак, які ляжаў на яго душы як магільны камень і не даваў дыхнуць на поўныя грудзі, знікне, як толькі знікне неадчэпная клопатная думка: куды ехаць? чаго? навошта? чаго і каго шукаць у вялікім свеце? Тое, што мінулася, не вернецца, тое, што згублена, не знойдзецца, не ўстануць з магілы бацькі, сястра, не падымецца з попелу і чорных асмалкаў родная хата, не сыдзе з памяці чорная здань мінулага. Хлапец у свае шаснаццаць год адчуў ускладзены на неакрэплыя плечы цяжар.

Сляды людскога адчаю і смутку льга было напаткаць шмат дзе, і яны іх бачылі. На трынаццатым кіламетры ад Нясвіжа ў бок Цімкавіч стаяла старая карчма пры вёсцы Кукавічы, дзе яны начавалі гэту ноч. Сухі скавыш ламаў на гасцінцы бярозавае голле, змятаў з поля апошні снег і гудзеў у коміне Кукавіцкай карчмы, калі Каролек і Мікалай уваходзілі ў карчму на начлег. Уваход у карчму і ўезд у стадолу былі проста з гасцінца.

Каролек паволі азіраў наваколле, як бы нешта шукаў або пазнаваў. Вочы яго ажывіліся, і ён сказаў павесялелым голасам:

— Усё на тым самым месцы, як і было!

Быццам патрэба жыла ў чалавеку, каб усё, сярод чаго ён жыў, заставалася нязменным, каб не так востра адчуваўся страшны рух часу і не апаноўваў смяротны смутак па страчаным назаўсёды.

У хаце было пуста і гола. Да сцен, беленых за шмат гадоў да гэтага, папрыбіваны дылёвыя лавы старасвецкага мацунку, а на покуце, пры дзвюх скрыжаваных лавах, стаяў вялізны, на паўвёскі людзей, стол з такіх жа тоўстых дошак. На падаконніку стаяла некалькі бальзамінаў у ржавых банках з-пад кансерваў. Бальзаміны былі запаскуджаны мухамі, а стол увесь зрэзан нажамі. Шмат было навырэзвана прозвішчаў — і кірыліцаю, і лацінкаю, і готыкай: прозвішчы належалі людзям з розных куткоў свету — былі тут і «Громаў»,

«Пшэвідніцкі», «Карнейчык», «Жуанвіль». На сцяне таксама былі надпісы, некаторыя размашыста напісаны ці выразаны нажом. «Божа, вярні мяне жывога ў Аўстрыю!» — красаваўся перад вачамі надпіс на нямецкай мове. «Памажы мне, божа, знайсці дзверы ў маю будучыню»,— напісаў па-польску нейкі граф Паліводскі. Пакуль Мікалай вывучаў тыя прозвішчы і надпісы, сярод якіх нават было цэлае чатырохрадкоўе з Тараса Шаўчэнкі, у хату ўвайшоў стары карчмар, падобны на Майсея. Падабенства ўзмацнялася тым, што ён быў босы, у адных споднікам і чорнай камізэльцы. Каролек зграб з галавы аблавушку, пацёр вушы — якніяк мароз на дварэ — і павітаўся:

— Здароў, Шлёма! Жывеш? Можа, і пазнаеш мяне. Не пазнаеш? З Цімкавіч. Бывала, калі вязу што ці каго ў Нясвіж, калі хадзіў па акрузе з хлопцамі-цеслямі, дык заўсёды начаваў або папасваўся ў цябе. Не пазнаў?

— Чаму не! Цімкаўскі Раманоўскі. Адкуль жа ты і куды ідзеш? А гэта сын пры табе? Зноў цяслярыш? Што ж, кожны жыве як умее. У кожнага свой талент.

Потым яны паелі гарачага, і за ядой зноў ішла гаворка пра тое, хто што бачыў і чуў. Карл усё распытваў пра наведвальнікаў, якія пакінулі свае пісьмовыя знакі на стале, а Шлёма Бакуноўскі ахвотна задавальняў яго цікаўнасць. Мікалаю запала ў памяць гісторыя нейкага графа, якога выратаваў ад смерці нейкі абарванец з цвёрдымі, як косці, мазалямі на руках, калі той граф ляжаў паранены на полі бою і паволі сцякаў крывёю, выратаваў не таму, што граф абяцаў асыпаць яго золатам, а таму, што здольны быў зрабіць чалавеку дабро, асабліва калі чалавек трапіў у бяду і чакае збавення. Як і трэба было чакаць, граф абмануў свайго выратавальніка. Больш таго, павярнуў справу так, што абвінаваціў гэтага выратавальніка ў крадзяжы залатых каштоўнасцей, якія ён насіў у мяшэчку пад сподняй кашуляй. Мікалай уяўляў у гэтай сітуацыі самога сябе, свайго бацьку, цімкаўцаў і быў перакананы: ніхто не ратаваў бы чалавека толькі таму, што за гэта атрымаў бы вялікае багацце! У вачах такіх, як ён сам і яго бацька, багацце — гэта нешта іншае, як золата... Гэта нешта такое, чаго ад душы нельга адарваць. Магчыма, гэта ўсяго толькі той куст шыпшыны, што расце з боку ад гасцінца пад Цімкавічамі, які кожны цімка-

вец бачыў штораз, калі выходзіў з мястэчка або вяртаўся дадому, так што міжволі, думаючы пра Цімкавічы, успамінаў той куст. Што гэта за жыццё, калі чалавеку на свеце няма за што душой зачапіцца, калі ўсе яго размовы зводзяцца да пытанняў дабрабыту! Што гэта за чалавек, які пражыў жыццё і не пасадзіў дрэва, не паставіў хату, не пакінуў па сабе добрыя ўспаміны! Які думае толькі пра сваю маёмасць, енчыць па былым багацці! Не, толькі той чалавек, хто цягнецца ўвесь век душой да роднага кутка, хто, убачыўшы, што вайна або якая іншая бяда спустошыла яго куток, адбудуе ўсё нанава, пачне жыць спачатку, а таму, хто стане перашкодай на яго жыццёвай дарозе, скруціць галаву. Кажуць жа, чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу, дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка, на радзіме і паміраць лягчэй...

На наступны дзень Раманоўскія ішлі абочынай гасцінца ў Цімкавічы. Кожны крок набліжаў іх да роднага кутка. Серп месяца паднімаўся над бярозамі пры дарозе, потым ён зачапіў краем ледзь прыкметны здалёк крыжык на званіцы Цімкаўскага касцёла. Неўзабаве паказаўся і той куст шыпшыны, пра які надоечы ўспамінаў Мікалай.

## VI

## НЯСВІЖ

Мікалай задумаў напісаць апавяданне. Пісаць апавяданне, вядома, не тое самае, што пісаць «сачыненне на тэму». За сачыненні яго хвалілі. Спачатку Ляхоўскі ў Цімкавіцкім двухкласным вучылішчы, які вучыў дзяцей пасля Шыша. А потым Кулагін у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, выкладчык рускай мовы і літаратуры, а таксама гісторыі. Кулагін нават зачытваў некаторыя з яго сачыненняў перад семінарыстамі і казаў:

— Вучыцеся ў Раманоўскага, як трэба пісаць.

Кулагін ведаў цану мастацкага слова і стараўся, каб семінарысты таксама адчувалі яго смак. Дай божа кожнаму добраму чытаць лекцыі так, як чытаў іх Кулагін! Ён не трымаўся за праграму, як замерзлы за

цёплую печ, а смела гаварыў пра ўсё, што хвалявала яго самога і семінарыстаў: пра падзеі на фронце, пра Распуціна, пра царскіх міністраў... Семінарысты чакалі яго лекцый і, вытрымаўшы момант, пакуль ён раскладзе на кафедры свае запісы і кніжкі [redacted] мноствам закладак, распытвалі яго і пра палітыку, і пра літаратуру, і пра мову, і нават пра каханне. Але як ні любіў Мікалай Кулагіна, даць яму пачытаць уласнае апавяданне не адважваўся. Нават думкі такой не ўзнікала. Пачытаў сябру-цёзку Кліменку, з якім здружыўся, будучы зімой 1917 года на канікулах у Цімкавічах.

От, запала адно здарэнне, якое назіраў, жывучы ў Вязьме восенню 1916 года, куды эвакуіравалася Нясвіжская семінарыя. Аднойчы, ходзячы па гарадской плошчы, на рынку, Мікалай звярнуў увагу на абарванца, угледзеўшы якога, аціхлі гандляркі. Спытаў, хто гэта, і жанчына, што гандлявала цыбуляй у вянках, пошапкам паведаміла: «Гэта ж Сямён Гірэй! Злодзей, валацуга! Яго тут усе баяцца». Мікалай стаў назіраць за Гірэем. Той, затлуміўшы галаў селяніну, што прадаваў размаляваныя свістулькі, спакойна паклаў сабе ў кішэню глінянага пеўніка, і той нічога не заўважыў. Але заўважыў сусед-гандляр:

— Дзяржы злодзея! — закрычаў ён.

Чалавек з дзесяць навалілася на Гірэя. Яго цягалі па зямлі, накладалі па карку, а ён маўчаў, адно вадзіў дзіка вытрашчанымі вачамі навокал.

Што было далей, Мікалай не ведаў, бачыў толькі, як Гірэя павялі, ці не ва ўчастак. Але хіба мог ён, пішучы апавяданне, спыніцца на гэтым? Атрымалася б, што ў жыцці нічога не змяняецца і ўсё ідзе па кругу. І Мікалай прыдумаў канец. Гірэю ўдалося вырвацца на волю. Але тое здарэнне запала яму ў душу, і ён пачаў думаць, як жыве. У гэты час [redacted] ім пазнаёміўся рэвалюцыянер-падпольшчык. Ад таго ў жыцці беднага валацугі з'явілася нешта новае.

Мікалай Кліменка выслухаў сябра і сказаў:

— Напісана добра. Адчуваецца ўплыў Горкага.

Мікалай паківаў галавой:

— Тое і яно! Не ведаем мы яшчэ саміх сябе. Але гэта прыходзіць не адразу. Ты, вядома, заўважыў, што канец я прыдумаў...

А навошта было прыдумляць? Звычайнае жыццё любога цімкаўца куды багацей за самае яркае ўяўлен-

не. Трэба пісаць пра тое, што добра ведаеш, пра тых, каго любіш. Пра сваіх землякоў-цімкаўцаў. Калі казаць праўду, то і да пісання яго пацягнула пасля таго, як ён з дальняй далечы, з Вязьмы, пачаў глыбока думаць пра людзей, якіх, здавалася, ведаў лепш, як каго ў цэлым свеце. Захацелася выявіць сваё замілаванне да цімкаўцаў. Але толькі браўся за ручку, як адразу вяло, бы п'янага ў лужыну, да выдумкі: жыццё злодзея здавалася болей цікавым і рамантычным. Ну, што можна расказаць пра цімкаўца, жыццё якога — аднастайная праца на полі, у хляве, у хаце: сяўба, жніво, малацьба, жывёла, дзеці! Што можна расказаць пра чалавека, самымі выдатнымі падзеямі ў жыцці якога былі — нараджэнне, вяселле, хаўтуры! А проста апісваць — дзень за днём — сумна. Дый каму гэта патрэбна?! Літаратура, ва ўсякім разе, тут ні пры чым. Адно пэўна: трэба пісаць! Бо душа поўніцца ўражаннямі і думкамі, якія патрабуюць выхаду ў слове.

У душы жылі малюнкі нядаўняга мінулага, калі Мікалай паступаў у семінарыю. Тады яму споўнілася шаснаццаць год. Заўважалася, што ён палюбіў адзіноту. Не, Мікалай быў рады выпадку пабыць на людзях, парагатаць. Іван Касікоўскі так і казаў:

— Гэты Раманоўшчык вельмі здацен да слова. Я страх які лёгкі раблюся на ногі ў той бок, дзе добрую лухту вярзуць. Дык колькі разоў я бегаў на другі канец вуліцы парагатаць, як Раманоўшчык прастарэкуе. А зялёненькі ж яшчэ. Губа яшчэ голая, як шкло на дажджы. Калі камар сядзе, дык за вярсту з губы відзён.

Мікалай любіў той кут, дзе нарадзіўся і ўзгадаваўся. Здавалася, нідзе няма такой добрай, ураджайнай зямлі, такога высокага і чыстага неба, гэтулькі дрэваў, вады, дарог. Самі ж цімкаўцы, у яго вачах, з'яўляліся сімвалам усяго самага светлага ў чалавецтве. Ён упэўнен быў, што ціхі, роўны і вечны шум Скіп'ёўскага лесу можа вылечыць самую ўтрапёную чалавечую душу. Вядома, той, хто любіць, заўсёды паэт у душы. Прынамсі, схільнасць да задуменнасці прыкмячалася ў Мікалая ў першыя гады юнацтва. З нейкага часу Мікалая пачалі часта бачыць засяроджаным над кнігай. Вядома, кнігі ён чытаў тады, калі гэта не перашкаджала рабоце. Бо ён, як і яго бацька, быў працоўным чалавекам: цесляю, які сёння махае сякерай, і аратым, які

заўтра пойдзе за плугам, касцом, які возьме ў рукі касу, і малацьбітом, які ўмее ёмка трымаць у руках цэп. Думка вучыцца запала ў галаву яшчэ тады, калі Мікалай хадзіў у школу. Яна неўзабаве ператварылася ў імкненне. Ён праслухоўваў, дзе і на каго вучаць. Але, каб вучыцца, трэба мець за што. І Мікалай два гады пасля заканчэння вучылішча хадзіў з бацькам па людзях, шукаючы заработку. Бацькі, асабліва маці, марылі, каб сын навучаўся якой-небудзь грамаце, гаварылі пра лепшую долю. Часцей за ўсё спыняліся думкаю на настаўніцкай семінарыі. Гэта была найбольш зручная школа для тых, хто не меў за што вучыцца. Там не бралі плату за вучобу. Больш таго, лепшым вучням давалі стыпендыю.

Паддаў ахвоты Аляксей Дзям'янавіч Ляхоўскі, які вучыў дзяцей у апошніх класах. Сялянскі сын, ён вылучыў найбольш здатных і старанных вучняў і ўзяў іх пад сваю настаўніцкую апеку. Аднойчы Ляхоўскі прыйшоў да Раманоўскіх, каб пераканаць іх вучыць Мікалая пасля школы далей. Ён абяцаў падрыхтаваць хлопца да паступлення ў семінарыю, якую сам нядаўна скончыў. Пасля гэтай гаворкі бацькі толькі і думалі, што пра сынава паступленне. Каролек, той дык ужо бачыў у сваім уяўленні сына ледзьве не вялікім вучоным, які ніколі ў жыцці не будзе жадзён кавалку хлеба, а, прыязджаючы ў Цімкавічы, будзе абуджаць у людзях да сябе агульную пашану.

У групе Ляхоўскага разам з Мікалаем займаліся Васіль Сянюк, Пётр Чыгір з Гулевіч, Канстанцін Шкуцька з Косміч. Ляхоўскі не шкадаваў часу для хлопцаў, даваў дадатковыя заданні, займаўся з імі і ў летні час, калі спыніліся заняткі ў школе. Мікалаевы бацькі таксама, з свайго боку, стараліся не нагружаць сына работай. Дый якая, сказаць, работа на паўдзесяціне зямлі! Але ж у хаце былі малыя — Міша і Юрка. За імі трэба вока ды вока. Добра, сёстры памагалі. Маці ж дзень у дзень сядзела за кроснамі — ткала і ткала сурвэты. Дзед Фэлька адно сярдзіта зіркаў у бок унукаў. Пасля таго як сын перабраўся ў сваю хату, не было прычыны сварыцца, і дзед на вачах палепшаў. Але ўсё роўна сваіх звычак не кідаў — зрабіў брамку з замком, каб малыя — крый божа! — не ўскочылі ў ягоны садок пад акном, дзе раслі кветкі і красавалася некалькі кустоў півоні. Ідучы з хаты, дзед доўга кешкаўся каля

таго замка, правяраў, ці добра трымаецца клямка, некалькі разоў азіраўся з вуліцы, а дзецям штораз наказваў, каб не лезлі ў садок.

Апошнія гады жыцця дзед рабіўся ўсё больш злосным і сквапным. Усё яму здавалася, што ад яго хаваюцца, і сам усё нешта хаваў і перахоўваў. Што ж, старасць не радасць! Стары чалавек лічыў сябе нікому не патрэбным, і міжволі рыхтаваўся да найгоршага, калі і памагчы не будзе каму, калі і кубак вады ніхто не захоча паднесці. Ведаў ён, як часам у бедных сялянскіх сем'ях глядзяць на такіх, як ён, і што кажуць: «Дармаед!», «Калі гэта ён апарожніць нарэшце хату?!» Ведаў, як адганяюць старых ад стала, не даюць есці,— з крыкам, з лаянкай, хоць ты ў старцы ідзі, прасіся ў людзей, каб не далі з голаду апухнуць. Ён нікога не вінаваціў, і, хоць сам памыляўся, думаючы аднолькава пра ўсіх, яго шкадавалі: і сын, і нявестка, і ўнукі.

Дзед дапякаў усім сваёй Марыляй. Гаварыў пра яе заўсёды з гонарам. А што ж, каб траха, дык паня! Пагражаў пераехаць жыць у Міроўшчыну. Раптам збіраўся і сапраўды ішоў туды. Але неўзабаве вяртаўся назад. Навошта ён, стары, хваравекаваты, патрэбен быў дачцэ. Жыў у сына зімой, хоць і бурчаў увесь час на таго. Так і памёр, незадаволены сынам і нявесткай.

Страшна было ўспамінаць пра ўсё тое. Мікалай з бацькам якраз рабілі дзеду труну ў ягоным доўгім гумне, на вільготным таку. Бацька стаяў на мяккіх стружках з алоўкам у руцэ і маляваў на каструбаватых дошках лініі, дзе пачатак, а дзе канец, а Мікалай і Уладзя Кахановіч удвух сядзелі на абструганай дошцы і габлявалі яе «бараном». Нечакана ў двары з'явіліся Сухавеі. Зайшлі спакойна і важна спачатку ў хату, да нябожчыка, пабылі там колькі вымагаў звычай і выйшлі, кіруючыся да гумна, дзе, бачылі, быў Каролек. Пачала Марыля здалёк, ялейным галаском, часта шморгаючы носам і змахваючы насоўкай слязу з вачэй, усё збівалася ў бакі і ніяк не магла выразна сказаць, чаго хоча, гаварыла загадкамі, хітравала. Рамаvоўскія не адразу зразумелі, што размова пра бацькаву вопратку, якая вісела тут жа, на плоце, мокрая пасля дажджу. Тая вопратка, можа, і каштавала ўсяго якую двазлотку, а колькі сказана было з-за яе ўсялякіх крыўдных слоў. Бацька Мікалая, пачуўшы, пра што размова, рвануўся быў прагнаць Сухавеяў, забыўшыся на блізкае сваяў-

ство. Але ў гэты момант малая Ганна падышла ціхом да вопраткі, сарвала яе з плота і бегма паляцела ў чыстае поле. Бегла і ўсё азіралася, ці не пагналіся за ёю. Мікалай тады ва ўсім гэтым бачыў нешта незвычайна крыўднае для чалавечай годнасці. Гэтак жылі, што і старыя лахманы былі не драбяза, што дзіця зайздросціла ўсякай сваёй таварышцы, якая мела чаравікі. Холад і голад даводзілі людзей да таго, што яны забывалі на ўсякія межы і агульныя ўстанаўленні. Вельмі шкада было бацькі, сутулага, спрацаванага, рухавага ад імкнення дагадзіць усім, і прыкрасць брала да сваякоў...

У дзень ад'езду — быў канец жніўня 1916 года — Мікалай забег па-суседску развітацца ў Даменеву хату. Ён быў не такі, як заўсёды, і падфранціўся як мог, быў дасціпны і ўзбуджаны. Нешта значыла і тое, што ён ад'язджаў, а дзяўчаты, з якімі сябраваў з маленства, заставаліся. І дзяўчаты зірнулі на яго неяк незвычайна. Ён нечакана ўбачыў сярод іх Сашу і здзівіўся, што не заўважаў раней: перад ім была ўжо не дзяўчынка, а дзяўчына, да таго ж прыгожая, ажно здавалася, што гэта не Саша, а нейкая незнаёмка зайшла ў хату. Як яна вырасла за гэта лета! І Саша сумелася: яна была босая і ў злінялай летняй сукенцы. Раптам кінулася ў бакоўку, уссунула на ногі чаравікі, надзела і ледзьве паспела зашпіліць блакітную ад сінькі кофтачку, абцягнула на клубах чорную шарсцяную спадніцу. Увайшла з трымценнем у душы, баючыся зірнуць на яго, а калі зірнула, то ў яе вачах заіскрыўся смех, і ён прачытаў у яе позірку ветлівае ўпіканне: дзе ж ты быў раней? Мікалая ўразіла яе хараство: «Калі я зноў тут буду? Вельмі доўга чакаць, некалькі месяцаў». Так ён і паехаў са смуткам у душы, і смутак гэты быў для яго новы і нязнаны.

Хлопцы склаліся і нанялі балагола, які павёз іх у Нясвіж. Паехаў з імі і Ляхоўскі. У Раманоўскіх не знайшлося ніякага куфэрка, каб выправіць сына ў дарогу. Хлеб, гуркі і кавалак сала, якое маці пазычыла ў Касікоўскіх, палажыла проста ў дзежачку. Хлопцы былі ў тым узросце, калі смяюцца без прычыны, і жартавалі з тае дзежачкі, колькі ехалі. Рагаталі, ажно разлягаліся, выдумляючы розныя гісторыі, якія маглі адбыцца праз гэту дзежачку. І найбольш выдумляў сам Мікалай. Толькі бліжэй да Нясвіжа пачаў браць клопат.

Дзень убіраўся ў сілу, калі на даляглядзе паказаліся абрысы Нясвіжа. Над сіняй палоскай далёкага лесу можна было ўгледзець востры, як іголка, верх ратушы і званіцу касцёла. Навокал цямнелі лясы і горбіліся жоўтыя ад іржышча ўзгоркі. Мінулі каржакаваты хвойнічак. Перад вачамі разбеглася поле і вузкая палоска гасцінца на ім. Старасвецкія бярозавыя прысады загнуліся ўправа, і вачам адкрыўся глухенькі гарадок, які здаваўся хлопцам вялікім, накшталт Парыжа, горадам: чорная вежа сярэдневяковага княжага замка, шэрая касцельная вежа, зялёная — царквы і рудая, абшарпаная бляха былога бернардынскага кляштара, скасаванага пасля паўстання шэсцьдзесят трэцяга года. З ветрам даносіўся звон гадзінніка на замкавай вежы. Пад'ехалі бліжэй і пачулі, звоняць на імшу ў касцёле. Уехалі ў горад праз знакамітыя Слуцкія вароты: як бы нешта назаўсёды засталося ззаду, і пад усім ранейшым была падведзена рыса.

Спыніліся на рынку. Азірнуліся навокал. У вочы кінуўся змрочны будынак гарадской ратушы — два паверхі і вежа. Першы паверх хаваўся за нізкімі і доўгімі гандлёвымі радамі, [redacted] дробных крамак якіх гандляры зазывалі да сябе люд. Над жалезным дахам крамаў узвышаўся верх ратушы і вежа [redacted] маленькімі, адно над адным, акенцамі, з якіх і страляць льга, і наглядаць, ці далёка ад горада стаў варожы аблог, [redacted] гатычным вільчыкам. На шыльдзе над уваходам у ратушу было напісана: «Канцелярия городского пристава». А перад самым уваходам, на лаўцы, сядзеў і сам прыстаў. Ён, мабыць, толькі што пагаліўся, і бялявыя вусы яго [redacted] рыжаватым адценнем былі заядла падкручаны. Прыстаў сіберным вокам ласкавага бацькі азіраў аддадзены пад яго каманду горад: а ці няма дзе, крый божа, крамолы? Да яго раз-пораз падбягалі ўдалыя служакі з рапартамі.

На рынку было шмат люду. Стаяў страшэнны гармідар. Уся плошча была застаўлена сялянскімі вазамі. Чуўся звон косаў: прыдзірлівыя пакупнікі спрабавалі іх і на звон, і на зуб, і на гнуткасць, і на вастрыню. Заклікалі да сябе крамнікі. Спявалі старцы. Лернікі круцілі корбы і падспеўвалі пад свае леры, не маючы часу працерці гнойныя вочы. Бязрукія і бязногія паказвалі свае калецтва і енчылі. У некаторых з іх на падраных мундзірах матляліся медалі. У працягнутыя

рукі, у шапкі каля куксаў кідалі медзякі людзі, самі падобныя на старцаў у сваім шарачку, зрэб'і і лапцях, з шэрымі, дачасна атупелымі і пастарэлымі тварамі. Касцельны і царкоўны звон павялічваў тлум. На ратушы крычалі вароны.

Хлопцы разлічыліся з балаголам і, пабраўшы клункі, рушылі следам за Ляхоўскім у самы канец гандлёвага рада да абтынкаванага двухпавярховага будынка з шыльдай: «Несвижская учительская семинария». Першы паверх быў нізкі, і перад самымі вокнамі стаяў штыкетнік. Мікалай, гледзячы на высокія вокны семінарыі, як ніколі востра адчуваў таямнічасць наступнага.

Экзамены былі ледзь не штодня. Не было калі пахадзіць па горадзе, разгледзецца навокал. Не было часу проста павесяліцца або пасумаваць. Да таго ж Ляхоўскі трымаў сваіх вучняў увесь час пад наглядам. Затое колькі радасці было, калі яны з выглядам пераможцаў вярталіся дадому. Мікалай сядзеў на возе ў семінарскай шапцы. Маці, як ведала, акурат выйшла на вуліцу і ўбачыла яго. Спачатку яго самога, а потым і новае на ім — форменную шапку. Значыць, Мікалай паступіў у семінарыю! З радасці яна заплакала. Божа! Чалавек мацуецца да апошняга, а потым у нейкі міг не вытрымлівае, і слёзы льюцца з вачэй. Тады адразу відаць, чым ён жыў усе дні і нават гады. Маці ведала, што Мікалай не любіць, калі яна плача, і канцом хусткі змахнула слёзы са шчок. Але слёзы стаялі ў яе вачах, а родны матчын твар свяціўся радасцю. І Мікалай нічога ёй не сказаў, як казаў звычайна, калі маці плакала: ён таксама быў расчулены.

Радасць у сям'і Раманоўскіх была прыглушана весткай, што пачынаецца ці то наступленне, ці то адступленне рускіх войск і што вайсковыя ўлады загадалі Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі эвакуіравацца ажно ў Вязьму. Гэта быў трывожны час. Зусім блізка ад Нясвіжа, на Шчары, каля Пагарэльцаў і Ляхавіч, стаяў фронт. У Цімкавічах было поўна салдатаў, размяшчаліся шпіталі і тылавыя каманды. Некалькі разоў над мястэчкам праляталі нямецкія аэрапланы. Абозы бежанцаў удзень і ўночы ішлі праз мястэчка, беручы кірунак на шашу. Сялян, якія мелі коней, ганялі ў абоз. Мужчын мабілізавалі ў армію. Рэквізавалі жывёлу, сена, харч. Час быў такі, што адпраўляць

хлопца, які дагэтуль мала дзе быў, немаведама куды было страшнавата.

Але хіба ўтрымаеш маладых хлопцаў, якія нікога і нічога не баяцца, бо і не адчуваюць той небяспекі! Да таго ж перад імі адкрываліся шырокія далягляды. Нехта першы сказаў: «Паеду!», а за ім і астатнія наважыліся ехаць. Да Слуцка Мікалая дакляраваў падвезці яго аднакурснік з блізкай вёскі: Мікалай дапамог яму на экзаменах. У дзень ад'езду да воза, на якім з саломы тырчаў кірпаты лыч, падышла Гліцэра, трымаючы ў руках торбу з буханкай хлеба. Яна была бедна апранута і сумелася, пабачыўшы гаспадара, каржакаватага дзядзьку ў юхтовых ботах, у суконнай свіце да пят. Той, бы напаказ, трымаў у адной руцэ лусту хлеба, а ў другой брус сала, і з важным выглядам еў — гучна цягнуў дыхам у рот хлебныя крошкі з лусты і роўна адкусваў сала. Каля яго стаяў у форме вучня настаўніцкай семінарыі хлопец, тварам падобны да гаспадара воза. Маці Мікалая ажно заплакала, на момант уявіўшы сына ў такім жа форменным адзенні, і на ўсе вочы разглядала новаспечанага семінарыста: Мікалай расказваў ёй пра яго. Яна за доўгія гады прыніжэння ўжо звыкла да таго, як пагардліва ставяцца да такіх, як яна, падобныя гаспадары, і не заўважыла кплівасці ў голасе, калі той распытваў: «Гэта ўсяго рэчаў?» Яна ўголас разважала пра тое, што давядзецца цяжка, але, можа, потым, пад старасць ёй будзе добра за сынам, каб адно бог дапамог яму навуку прайсці, а ён такі пройдзе, бо да навукі здатны. Нейкія сяляне, што апынуліся побліз, нібы выпрабоўваючы мацярынскую любоў да сына-семінарыста, разважалі, што ўсяляк бывае,— выйдзе сын за чыноўніка, задзярэ нос вышэй лесу і будзе саромецца маці-мужычкі. А маці на гэта адказала, што нават калі і так, то, прынамсі, на бацькоў не будзе наракаць, што не падбалі пра яго.

У гэты момант да воза падышлі два хлопцы, здалёк падобныя, як браты. Гэта сябар Мікалая, Васіль, са смуткам у душы праводзіў яго ў далёкую дарогу: памагаў несці куфэрак з кнігамі і бялізнай. Мікалай прывітаўся за руку з гаспадаром фурманкі і яго сынам. Разгледзеў на тым чорнае паліто з жоўтымі меднымі гузікамі і здзівіўся:

— Паліто ўжо ў цябе?

Сам ён быў у саматканай шэрай вопратцы. Сказаў і збянтэжыўся, адчуўшы на сабе спачувальны позірк маці. Потым не раз, плачучы ў душы, успамінаў яе словы апраўдання:

— Можа, дазволяць яму крыху так пабыць, пакуль я яму паліто спраўлю. Як-небудзь, можа, дзе пастараюся.

Успамінаў, наракаючы на сябе, і тое, як не пасмеў на людзях пацалаваць маці на развітанне — пасаромеўся.

— Ты ўжо ідзі,— сказаў. Павярнуўся і падаў сябру руку: — Як заеду на месца, то напішу табе. Адно глядзі і ты пішы!

А Васіль, як толькі прыйшоў дамоў, адразу сеў за пісьмо (спадзяваўся, што дойдзе: семінарыя ж у Вязьме адна!), апавядаючы, як са смуткам у душы вяртаўся адзін у мястэчка і як на паваротцы раптам убачыў маці Мікалая, якая стаяла, прытуліўшыся плячамі да бярозы, і плакала: «Мне хацелася з ім прайсці, але ён не любіць, як я плачу», як каля іх на ўвесь спрыт сытых коней прамчаўся пан Вайніловіч і як маці ўздыхнула: «От каму жывецца!»

У Слуцку Мікалай сустрэўся з хлопцамі: Васілём Сенюком, Канстанцінам Шкуцькам, а таксама Мікалаем Мікулічам з Пацеек. Яны селі ў таварняк і «зайцамі» дабраліся да Асіповіч. Адтуль такім жа спосабам заехалі ў Мінск і ў далёкую Вязьму. Ехалі праз мясціны з прыгожымі беларускімі назвамі: Урэчча, Старыя Дарогі, Дараганава, Асіповічы, Пухавічы, Рудзенск, Орша. Мікалай прагнымі вачамі азіраў незнаёмыя мясціны, непадобныя на яго Случчыну. Ніхто, людзі кажуць, не ведае свайго лёсу. Хіба думаў Мікалай, едучы ў тую далёкую Вязьму, што іменна там па-сапраўднаму ацэніць, што меў, жывучы сярод цімкаўцаў, спазнае, што такое туга па радзіме. Рэдкія пісьмы ад бацькоў, ад Сашы Дамені яшчэ больш узмацнялі гэту тугу. Цэлым святам быў прыезд чыйго-небудзь бацькі, які прывозіў падмацунак не толькі свайму сыну, але і перадачы іншым. І не толькі таму, што з харчамі было тугавата. Шчасцем было чуць родную гаворку, бачыць людзей, якія ведаюць і любяць усё тое, што ён сам ведае і любіць. Пра вяртанне ў родныя мясціны заўсёды думалася, як пра нешта недасяжнае.

Ад'язджалі дадому бацькі, а хлопцы яшчэ доўга не маглі супакоіцца, гаварылі аб сваёй любві да радзімы. Размовы заходзілі далёка за поўнач, і на другі дзень яны ішлі на лекцыі з заспанымі вачамі. Гэта былі цудоўныя дні іх жыцця, пра якія потым доўга ўспаміналася. Неўзабаве хлопцы заўважылі, што асабліва шчодры сярод іх на слова Мікалай. Адчувалася, што ён шмат думае пра сваіх бацькоў і сваіх землякоў, пра родныя мясціны, пра тое, што рабілася ў яго душы. Ён не мог не думаць пра чутае і бачанае. У яго памяці ў тыя дні раптам ажылі малюнкі і вобразы нядаўняга мінулага.

Асабліва востра перажываў Мікалай смерць дзеда Міхала, які памёр якраз перад тым, як збіраліся святкаваць трохсотгоддзе дынастыі Раманавых. Гэта было 17 лютага 1913 года. А на другі дзень, 18 лютага, ён ішоў за дзедавай труной. Была вельмі ранняя вясна, высока ў небе спявалі жаўранкі. Людзі ціха перамаўляліся, што дзед Міхал, сам заўзяты птушкалоў, глядзіць недзе на ўсё зверху і не нарадуецца і пагодзе, і птушкам, і родным людзям. Мікалай быў вельмі прыгнечаны тым, што адбылося. Па сутнасці гэта была першая смерць вельмі дарагога яму чалавека, якая так блізка кранула яго. Без дзеда Міхала Мікалай не ўяўляў самога сябе. Куды б ён ні кінуў свой позірк, усюды бачыў дзеда Міхала. Усё навокал нагадвала пра дзеда. Мікалай марна намагаўся ахапіць розумам тое, што рабілася ў ягонай душы. Здавалася, нешта адбылося з самім часам: ён то імчаўся з неверагоднай хуткасцю, то нечакана замаруджваў свой бег — помнілася кожная хвіліна з таго моманту, як не стала дзеда. Маці бачыла і разумела гэты яго стан, падышла і сказала тое, што звычайна гавораць у такія моманты:

— Нічога, сынок, не зробіш. Дзеду мы ўжо не паможам. Ён аджыў сваё. Дай божа кожнаму добраму так пражыць жыццё, як ён!

Час — самы лепшы доктар на свеце — лячыў яго душэўныя раны. Вясёлая Мікалаева натура не вытрымлівала бясконцага смутку. Мікалай глыбока перажываў, але і лёгка паддаваўся агульнаму вясёламу настрою. Да таго ж гэта былі гады, калі ён і мушынае бзыканне мог зрабіць прычынай для рогату. Як у шпіталі або ў доме адпачынку ёсць «мёртвая гадзіна» пасля абеду, так у яго штодня была «гадзіна рогату»

перад вячэрай. Хлопцы клаліся ад рогату, слухаючы яго апавяданні пра цімкаўцаў, бо ён не толькі апавядаў, але і паказваў у асобах, падрабляючыся пад гаворку герояў сваіх шматлікіх вусных апавяданняў. Часам нават гаварылі:

— Такой вясёлай вёскі, як Цімкавічы, мабыць, у свеце няма!

А землякі з блізкіх вёсак ці то прасілі, ці то раілі:

— Чаму ты не пішаш пра ўсё гэта?! Трэба напісаць, каб усе на свеце ведалі, што за людзі жывуць на нашай Случчыне, каб усе ведалі, што і мы не лыкам шытыя, што і мы людзі-чалавекі!

Мікалай у такія хвіліны змоўчваў, бо лічыў вялікай саманадзейнасцю аб'яўляць, што ён абавязкова напіша пра сваіх землякоў, і так, каб увесь свет пазнаў у іх людзей з цвярозым розумам і добрым сэрцам. Ён пакуль што не адчуваў сябе здатным зрабіць гэта, бо напісанае ім дасюль яму самому не падабалася. Але словы сяброў-землякоў міжволі браў сабе на заметку, помніў пра іх, думаў.

Мікалай любіў потым успамінаць пра Вязьму: ён жыў тады радасцю семінарыста-першакурсніка, перад якім адкрывалася вялікая перспектыва, а ўсё няпэўнае і цьмянае засталося ззаду. Гэта радасць ахоплівала яго істоту маладой лёгкасцю і выяўлялася ў захапленні ўсім тым, што было перад вачамі. На лекцыях ён адчуваў сябе проста-такі шчаслівым ад таго, што кожны раз чуў нешта новае і цікавае, што пачынаў глядзець на свет больш разумнымі вачамі.

Мікалай любіў хадзіць па вуліцах і назіраць за жыццём людзей, уяўляючы, хто яны, як жывуць, што думаюць, які ў іх клопат. Недзе ішла страшная вайна, кожную хвіліну гінулі людзі, пакутавалі ад ран, голаду, холаду, вошай, здзекаў, а тут, па абодва бакі вузкай каменнай вуліцы, міма зіхоткіх акон, шматлікіх дзвярэй, адтуль і туды плыла, варушылася чорная хваля людзей. Грукаталі ламавозы, высякаючы іскры з каменнага бруку, валачылі за сабой цяжкія вазы нейкіх скрынак, кулёў. Ляскацелі жалезнымі абадамі лёгкія брычкі, што везлі паноў, чыноўнікаў, ваенных. Шумна дыхаючы, цягнулі цугам коні запоўненую людам конку. Здаравякі дворнікі з вялізнымі бляхамі на грудзях прыбіралі з бруку конскія каштаны, пакамечаную паперу, смецце. Над галовамі людзей, над да-

хамі гарадскіх камяніц раз-пораз чулася водгулле паравозных гудкоў. Добра апранутыя людзі, сярод іх шмат было ваенных, спяшаліся, быццам недзе быў пажар. Мікалай не даваў веры гэтай знешняй чысціні і бляску і найбольш прыглядаўся да людскіх твараў, рухаў, паводзін, услухоўваўся ў гаворку.

Асабліва палюбіў Мікалай бываць на вакзале: бегучы разам з натоўпам, ён адчуваў, быццам таксама едзе дадому, у Цімкавічы. Гудкі паравозаў тут проста-такі глушылі, і ўжо цяжка было разабраць словы. Тут ужо не было чынных паноў і паненак, што ўступалі адно аднаму дарогу, раскланьваліся, здымалі капелюшы, бралі пад казырок. Тут быў найбольш народ просты, з цяжкімі пакункамі на спіне і ў руках, з нейкімі вандзэлкамі і клункамі, з перавязанымі для моцы чамаданамі. Гудзеў, патрабуючы, каб уступілі дарогу, аўтамабіль з нейкай вясёлай кампаніяй, якая праводзіла кагосьці кудысьці з музыкай і шампанскім. Ля сценкі вакзала сядзелі старцы ў падранай вопратцы і енчылі: «Сляпо-о-ому, убо-о-огаму, паранена-аաму, пано-о-очкі даражэ-э-энькія!..» Сёй-той спыняўся і кідаў у працягнутыя рукі і шапкі драбязу, не клапоцячыся вельмі, ці патрапіў папасці, ці кінуў проста на зямлю. А старцы не спыняліся і канькалі, і канькалі:

Памяні госпадзі
За галоснымі званамі,
За яснымі свячамі,
За бажэственнымі імшамі,
За добрымі душамі,
Каб іхнія душачкі адпачывалі,
І каб усім жывым шчасце прыгукалі,
І каб таму злыдню памерці,
Хто не мае бога ў сэрцы...

У вакзальным будынку шныпарылі газетнікі, бегалі з надпісамі гатэляў на залатых абручах шапак нейкія жвавыя людзі, пахаджалі, выглядаючы пасажыраў з цяжкай паклажай, насільшчыкі, грымеў, падымаючы багаж, грузавы ліфт. У чысцейшым куце выходжвалі сюд-туд паны, паненкі, пані. Да акенца ў касу трэцяга класа наводдаль стаяла чарга. Мікалай міжволі ўявіў, як бы ён стаяў па білет дадому, і пазайздросціў тым, хто некуды едзе. Абмінуўшы чаргу, Мікалай прайшоў у залу трэцяга класа. Людскі гоман аглушыў яго. Тут не было той чыннай паважнасці і

саліднасці. Тут было нешта падобнае на сварку або заядлую спрэчку, у нос біў смурод салдацкай нямытай бялізны і парцянак, падгнілых ануч і потных кажухоў і старызны, у паветры стаяў нерухома атрутны дым табакі, спіраў дыханне смурод з прыадчыненых дзвярэй туалета, несла аднекуль холадам. На лавах і бруднай падлозе, на скрынках, пакунках, кашолках сядзелі і ляжалі ўпокат людзі — жанчыны з бессаромна задранымі ў сне спадніцамі і споўзлымі панчохамі, спакутаваныя хваравітай бессанню дзеці, нейкія калматыя, шэрыя, з п'янавата-зласлівай муццю ў вачах дзядзькі, сяляне, рамеснікі, салдаты. Здаравяка жандар пахаджаў сюд-туд, скаліў зубы і брыдка жартаваў з маладзіцамі, потым прычапіўся да нейкага п'янюгі. Усё гэта адразу кінулася Мікалаю ў вочы і выклікала нязменнае жаданне ахапіць думкаю ўсё на зямлі і разуменне немагчымасці зрабіць гэта.

У тыя дні Мікалай чуўся вольна, як ніколі. Мела значэнне і тое, што яны, у адрозненне ад Нясвіжа, жылі не ў інтэрнаце, пад наглядам настаўнікаў, а сяліліся на прыватных кватэрах. Але галоўнае было тое, што ён адчуваў сябе чалавекам, які знайшоў свой шлях у жыцці, і ведаў, што яму рабіць. Колькі разоў, слухаючы лекцыі Кулагіна або ўрокі багаслоўя папа Самковіча, думаў Мікалай, як добра было б, каб усё, што чуў ён, чулі і яго землякі-цімкаўцы, якім бы разумным і поўным сэнсу стала б іх жыццё! Дзе яшчэ можна было пачуць такую праўду пра рэлігію, бога, свет, людзей, гісторыю, як не на багаслоўскіх лекцыях Самковіча?! Ён расказваў і пра пост, і пра тое, што негігіенічна цалаваць крыж, якая розніца паміж каталікамі і праваслаўнымі, што такое унія... Тое, што дзед Міхал адчуваў душой, Мікалай цяпер мог растлумачыць з дапамогай гістарычных фактаў.

А колькі цікавага, як думалася Мікалаю, мог бы ён цяпер расказаць бацькам, суседзям, аднавяскоўцам пра тое, як жывуць людзі ў іншых мясцінах, іншых гарадах! Расказаць дзеля таго, каб яны адчулі веліч свету і хараство жыцця. Як-ніяк, акрамя панюсь, што дрыпталі па тратуарах, акрамя чыноўнікаў у мундзірах з бліскучымі гузікамі, акрамя фанабэрлівых ваякаў, кожны з якіх адчуваў сябе самае малое Напалеонам, жылі ў Вязьме і той валацуга Гірэй, і рамеснік Жураўлёў, у якога яны кватаравалі!

## VII

## І СУД У НАС!..

Гэта былі лепшыя, хоць, можа, і не самыя лёгкія, гады яго жыцця. Мікалай быў малады і вясёлы, жывыя былі яго бацькі, падрасталі сёстры і браты. І ўсё было добра, і думалася, чым далей, тым лепш будзе.

2 сакавіка 1917 года Мікалая выклікалі па гісторыі, але было не да гісторыі. Усе ў класе пераглядваліся: у Петраградзе адбылося нешта незвычайнае. Ледзь дачакаліся званка. Усе сарваліся з месца і зашумелі: кожны адчуваў сябе так, быццам лепш за ўсіх ведаў, што трэба рабіць у гэты адказны момант, быццам ад таго, скажа ён ці не, што думае, залежыць цяпер лёс цэлай дзяржавы. У кожнага былі свае навіны, чуткі, меркаванні. Выбягалі з класа і забягалі ў клас, выкрыкваючы толькі што пачутае ад іншых. Па калідоры прабег Язэп Сукала, зямляк Мікалая, той, што першыя дні знаёміў хлопцаў з семінарскім бытам і парадкамі, пацiснуў на хаду руку: «Вітаю, цар адрокся!» Нехта побач пачуў, падхапіў: «Мікалашка адрокся!» Верылі і не верылі. Нечаканая бурная радасць ахапіла ўсіх. Усе адразу гаварылі, віншавалі адзін аднаго, некаторыя нават, быццам на пасху, цалаваліся. Першакурснікі ледзь дачакаліся лекцыі свайго любімца Кулагіна. Ажно прыціхлі, чакаючы, што ён скажа. І Кулагін цэлую гадзіну гаварыў пра рэвалюцыю, праводзячы гістарычныя аналогіі: «Рэвалюцыі — гэта свята ў гістарычным календары... Бяскроўных рэвалюцый не бывае... Удзельнічаць у рэвалюцыі — гэта значыць праходзіць самую высокую навуку ў свеце...»

Усе настаўнікі, нават не гуманітарыі, загаварылі на ўроках пра палітыку. Толькі дырэктар палахліва ўхіляўся ад усялякіх размоў і вёў свае ўрокі так, быццам нічога не здарылася: «Палітыка і навука — супрацьлеглыя рэчы». Семінарысты збіраліся ў класах, ішлі да старшакурснікаў, слухалі, што гавораць, чыталі ўголас газеты. Дырэктар спрабаваў забараніць сходы, а потым стаў абыходзіць семінарыстаў стараной, бо ніхто яго не слухаўся і не разыходзіўся. Усе графікі парушыліся. Урокі збунтаваліся. Рэвалюцыя! Поп Юліян

Самковіч служыў малебен за паўшых рэвалюцыянераў. 12 сакавіка хлопцы весела здзіралі ў класе партрэт цара. Праўда, у дзвярах паставілі ўсё ж назіральніка, каб не наскочыў дырэктар або інспектар.

Сяляне на рынку, Мікалай бачыў, былі збянтэжаны: свет гіне! Як жа без цара-бацюшкі! Але ўжо праз некалькі дзён хітра пасміхаліся, разважалі пра Саветы і пра Керанскага, пра бальшавікоў і пра эсэраў, шукалі прыкметы, калі скончыцца вайна, бо калі была японская, то ў яе канцы з'явілася заранка, пераказвалі чуткі, што сяляне з недалёкага сяла пад Вязьмай разбілі панскі двор, знайшлі ў падвале зброю і што казакі шукаюць па дварах гэту зброю.

У маі семінарысты вярнуліся ў Нясвіж. Цягнік спыніўся ў Заміры — апошняй перад фронтам станцыі. Стаяла глыбокая ноч. Некалькі чорных эшалонаў цямнела на рэйках. Мітусіўся агеньчык ліхтара — гэта стрэлачнік азіраў колы. З цяплушак чулася гаворка на розных мовах. Недзе рыпаў сонна гармонік. У некаторых вокнах вагонаў відаць было цьмянае святло свечак. Раптам у адным з вагонаў стукнулі дзверы, і з вагона высыпаў натоўп салдатаў.

На высокім ганку вакзала, пад святлом ліхтара стаяў стары генерал і здранцвела сачыў за тым, як натоўп насоўваецца на яго. У гуле галасоў пачуўся яго вісклівы крык:

— Айчына ў небяспецы!

— А-а-а, ваша прасхадзіцтва!..

Да генерала падскочыў барадаты салдат з чырвонымі ад бессані вачамі, скубянуў яго за плячо. Генеральскі пагон адляцеў далёка ў натоўп. Тады салдат ірвануў за другі пагон. Генерал з апушчанай галавой пасунуўся назад, але пра яго ўжо забылі. На ганку стаяў малады салдат з вінтоўкай. Двое другіх, стаўшы на балясіны ганка, прыбівалі над уваходам чырвоны сцяг. Адзін з іх, высокі і рухавы, скочыў на ганак і пачаў гаварыць:

— Таварышы! Таварышы...

Мікалай і яго сябры таксама ўбіліся ў натоўп. Салдаты азіраліся на іх форменныя семінарскія шапкі, і ў вачах было задавальненне — яны не адны.

На ўсходзе высыпалі зоркі. У святле маладога дня хлопцы ішлі пехатой у Нясвіж: фурманак на станцыі не было відаць. Праз кіламетраў дзесяць убачылі, як

з-за ляска заблішчэлі вежы гарадка. Паддалі ходу і праз паўгадзіны былі ў Нясвіжы. На рыначнай плошчы ўбачылі невялікі натоўп гараджан і салдатаў, якія слухалі прамоўцу. На стале стаяў далікатна апрануты чалавек і, пагладжваючы рыжыя і доўгія, як пацуковы хвост, вусы, ласкава ўгаворваў:

— Я ад каго гавару? Я гавару ад сябе. Я пан? Я князь? Я магнат? Хто гэта скажа?! Я панскі слуга, а свайго нічога не маю. Я гэтакі самы, можна сказаць, парабак...

— Гэта дык парабак! — гукнуў нехта з натоўпу.

— Хто гэта? — спытаў Мікалай у селяніна, што стаяў побач. Той пільна прыгледзеўся да юнака ў семінарскай форме, усміхнуўся:

— А, настаўнікі вярнуліся!.. Гэта? Ат, княжы падлізнік!

Натоўп загуў незадаволена.

— Ціха, грамадзяне!

— О, ён яшчэ нам глотку затыкае! — узгарэўся раптам сусед Мікалая: здавалася, прысутнасць семінарыстаў паддала яму рашучасці.— Годзе слухаць гэту гаварыльню! Парадак, парадак! Айчына ў небяспецы! Вайна да перамогі! Часовы ўрад! Устаноўчы сейм! Раз рэвалюцыя, дык няма чаго чакаць. На дварэ вясна, трэба сеяць. Трэба зараз жа пра зямлю гаварыць, а не чакаць там нечага...

Радасныя выгукі сялян і салдатаў заглушылі ягоны голас. Прамоўцу як ветрам здзьмула са стала. На стол узняўся, стараючыся не наступіць на крысо сутаны, папок:

— Праваслаўныя!

— А дзе ж каталікі і тыя, хто ходзіць у сінагогу?! — з выклікам спытаў нейкі жартаўнік.

Папок паправіўся і ўзняў голас:

— Брацця! Нада сказаць адкрыта: Расія на краі гібелі, і перад унешнім урагом, і перад унутраным. Мы Расію пагубім, калі ў нас будзе ўсё дзелацца так, як здзесь цяпер. Нам нада быць гражданамі свабоднай Расіі, а не талпой якогась неарганізаванага зброду...

Спахапіўся, што сказаў лішняе, але слова, як верабей, вылецела, і паспрабуй яго злаві. Мікалай ажно вочы заплюшчыў, уяўляючы, што зараз будзе: мітусяцца людзі, накладаючы папку па карку, мільгаюць кулакі... Расплюшчыў вочы і ўбачыў на стале таго са-

мага высокага і рухавага вайскоўца, што выступаў надоечы ў Заміры перад салдатамі: «Калі ён паспеў сюды?!» Той гукаў у натоўп:

— Таварышы! Што мы тут чулі і бачылі? Не думайце, што яны гавораць ад сябе. Яны гавораць ад імя Часовага ўрада. А хто гаворыць? Унь я бачу пана з белымі вусамі ў першым радзе, які з нашага мазаля жыў у зямным сваім раі. Унь мы чулі княжага абаронцу, лёкая, ці хто ён там, у замку. Мы чулі айца духоўнага. Усе яны ўгаворваюць нас не чапаць зямлі, нічога не чапаць, каб усё было, як і раней. Калі раней паліцэйскі не даваў нам узяць панскую зямлю, дык цяпер яны стараюцца зрабіць так, каб мы самі не чапалі гэту зямлю. Калі скідалі цара, дык дамаўляліся з ім? Калі рабілі рэвалюцыю, дык дамаўляліся з тымі, супраць каго яна? Не! А тут хочуць, каб мы дамаўляліся, што браць, а што пакінуць. Ад імя Савета рабочых, парабчанскіх, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў аб'яўляю гэты сход незаконным. Таварышы, выходзьце на дэманстрацыю! Уся ўлада Саветам!

Людзі загаманілі і рушылі паўз ратушу на вуліцу. Далучаліся новыя дэманстранты. І вось ужо ўсе ўрассыпную беглі міма фарнага касцёла да княжага замка з жудасным крыкам: «А-ра-ра-ра-а!!!» Мікалай і яго сябры таксама беглі і таксама крычалі. Мікалай раптам убачыў перад сабой знаёмую дзяўчыну. Яе ён прыкмеціў яшчэ тады, калі паступаў у семінарыю. Гэта была Юдзіф, дачка мясцовага адваката Маркуса Рафаілавіча Мышкоўскага, маладзенькая і прыгожая, бы з іконы. Хлопцы расказвалі, што яна жыве ў суседнім з семінарыяй доміку ў стылі барока і што яе бацька вельмі сябруе з выкладчыкам семінарыі і асабістым урачом князя Радзівіла Лычкоўскім, тым самым, што адным з першых у Еўропе зрабіў аперацыю на сэрцы. Дзяўчына вучылася ў гімназіі ў Варшаве, але даўно ўжо сядзела дома. Вайна! І вось гэта далікатная, з інтэлігенцкай сям'і, што называецца «белая косць», дзяўчына, якой, здавалася, больш падыходзіла б пачытваць раманы ды чакаць у сваты багатых жаніхоў, таксама «рабіла рэвалюцыю» — бегла і крычала: «Уся ўлада Саветам!» Мікалаю адразу стала весела: дзяўчына, што казаць, спадабалася з першага разу, да таго ж яна ў гэту страшную хвіліну не збаялася быць разам з людзьмі, ад якіх заўсёды была так далёка.

Гэта быў незабыўны, адначасова радасны і страшны, стан душы. Дэманстранты перайшлі дамбу, якая злучала замак з горадам, узышлі на пад'ёмны мост, увайшлі ў глыбокія вароты замка і апынуліся ў вялікім двары. Левае крыло замка, мабыць, збіраліся рамантаваць, бо пры сцяне стаяла лесвіца, частка сцяны бялела новым тынкам. Над галоўным уваходам быў высечаны ў цэгле польскі ожал, кручканосы, з вострымі крыламі, і вісеў венецыянскі ліхтар з кованага жалеза, грубы і дасціпны. Людзі ўжо ўздымаліся па каменнай халоднай лесвіцы з меднымі пярыламі ў прыцемак велізарнай пярэдняй, завешанай старажытнымі карцінамі і застаўленай цёмнай даўняй мэбляй. Але іх спынілі вартавыя, якія сядзелі вольна ў крэслах і на канапах. На падлозе каля іх ног стаяў кулямёт. У замку знаходзіўся штаб 2-й арміі Заходняга фронту. Неўзабаве ў замкавым двары адбыўся мітынг. Прамоўца, старшыня Ваенна-Рэвалюцыйнага Савета 2-й арміі Мікалай Рагазінскі, гаварыў:

— Дзевяты вал рэвалюцыі ідзе, ён ужо блізка...

У Цімкавічах старыя людзі сябе і іншых суцяшалі мудрасцю, якая падыходзіла да любога выпадку: «Будзе тое, што павінна быць, а павінна быць тое, што суджана». Час быў сапраўды няпэўны. Ніхто нічога пэўнага не ведаў. Перадавалі адзін аднаму чуткі. Успаміналі 1905 год. Тады цімкаўцы ў адзін з зімовых вечароў увайшлі ў пакоі пана Вайніловіча і заявілі, што патрабуюць зямлю. Першай апамяталася пані:

— Вон! Хамы!

— З панскага языка гэта слова нам не навіна,— сказаў Сымон Чаркас (гэта ён увёў цімкаўцаў у пакоі і першым пачаў гаварыць).— Хадзем, хлопцы! Будзем рабіць па-свойму.

Успаміналі, як з павета прыскочыў атрад коннай паліцыі, як цімкаўскі ўраднік Рында (быў такі) арыштоўваў Чаркаса і як яго засудзілі.

Адным словам, рашылі, што спяшацца не варта. Але мала хто чакаў. Людзі самавольна вазілі лес і выбіралі сабе пляц пад забудову: чалавеку вольна дыхалася, дык і даўнейшая хата ўжо здавалася цеснай.

Карл Раманоўскі ўсё лета і восень рамантаваў млын на рэчачцы Мажа, і Мікалай яму дапамагаў.

— Рэвалюцыя яшчэ не скончана,— казаў ён бацькі-

ку, калі той пачаў бедаваць, што нічога не змянілася: адзін гаруе, а другі танцуе.

У канцы жніўня Мікалай ужо быў у семінарскім інтэрнаце. Яго радасна віталі сябры. Доўга гаварылі пра тое, што адбываецца ў гарадку.

У наступную нядзелю семінарысты ўдзельнічалі ў дэманстрацыі.

Дзень быў святы. Зранку касцельныя і царкоўныя званы ззывалі на службу. На рыначнай плошчы збіраўся кірмаш. Скрозь стаялі сялянскія вазы з задранымі ўгору аглоблямі. Мікалай і яго сябры былі відавочцамі таго, як на галоўнай вуліцы сутыкнуліся дзве працэсіі — каталіцкая і праваслаўная, як пусціліся ў падмацаваны рэлігійнай мудрасцю дыспут крыжаносцы і як умяшаўся паліцыянт і адразу стала ясна, хто павінен саступіць дарогу: каталіцкі крыжаносец адскочыў убок як апараны, а за ім падалася і ўся працэсія — харонгі, два балдахіны з ксяндзом, людзі. Мікалай бачыў, як пасміхаліся, гледзячы на гэту сцэну, сяляне, і чуў, як нехта сказаў, што там, дзе трэба, зацятыя ворагі, праваслаўны і каталіцкі крыжаносцы, цвёрда трымаюць руку адзін аднаму і ўступаюць у хаўрус.

Працэсіі неўзабаве адхадзілі сваё, і на рынку пачаўся звычайны тлум. Раптам людзі ўбачылі, як з астрога некуды павялі некалькі чалавек. Многія, пакінуўшы вазы, падаліся следам. Пазнавалі арыштантаў. Конная паліцыя адганяла людзей. Арыштаваных увялі ў ратушу. Нехта з натоўпу гукнуў:

— Адпусціце нашых людзей!

Яго падтрымалі:

— Годзе іх мучыць!

Кірмаш увачавідкі рассыпаўся. Баязлівыя рушылі дадому, смялейшыя ад'ехалі ў вуліцы, двары і стадолы, пакінулі коней і самі вярнуліся назад. Але мацней за ўсіх у натоўпе абзываліся парабкі з панскага маёнтка і рабочыя з пільні і цагельні. Аднекуль з'явіліся лістоўкі: «Адпусціце арыштаваных!», «8-гадзінны рабочы дзень!», «Павялічыць плату парабкам!», «Скасаваць доўг за спрэчную сенажаць!». На ганку ратушы з'явіўся ксёндз, узлез на воз і стаў угаворваць:

— Беларусы самі павінны падтрымліваць парадак у дзяржаве, бо ўсякі непарадак на руку бальшавікам...

Мы павінны, калі чаго хочам, заявіць спакойна, праз гміну, праз войта, праз староства...

Незадаволеныя выгукі заглушылі яго словы:

— Выпусціце арыштаваных!

— Зямлі!..

— Хлеба!..

У вокны ратушы паляцела каменне. Адтуль пачуліся вінтовачныя стрэлы ў паветра. Людзі здранцвелі. Але парабкі раптам заспявалі:

І суд у нас, і суд у нас,
Тут нават і не судзяць...

З-за ратушы вымчалася конная паліцыя і рушыла проста на натоўп. Людзі кідаліся хто куды, шукалі, што ўхапіць у рукі. Мікалай з сябрамі, сам не помнячы як, апынуўся каля сцен семінарыі, быццам тыя сцены дапамогуць уратавацца. Адразу ж пачалася аблава па ўсім гарадку і навакольных вёсках. Астрог ледзьве змяшчаў усіх арыштаваных, затрыманых, схопленых. Другі тыдзень цягнулася следства. Многія і семінарыстаў таксама трапілі ў астрог, і хлопцы меркавалі, што рабіць. Слухаючы сяброў, Мікалай задуменна заўважыў:

— Мы сабе слухаем у сваёй настаўніцкай семінарыі лекцыі тады, калі трэба змагацца за рэвалюцыю. Казаў жа Кулагін, што змагацца за рэвалюцыю — гэта значыць праходзіць самую высокую навуку ў свеце.

— Ічка Бохер і той на рынку выступае: «Устаноўчы сход! Ца'г-бацюшка! Эсэ'гы! Бунд!» — павярнуў гаворку на смешнае Мікалай Мікуліч з Пацеек.

Мікалай, пачуўшы імя Ічкі, адразу перамяніўся на вясёлы лад: Ічку Бохера ведаў кожны нясвіжац. Няшчасны, пакрыўджаны богам чалавечак, Ічка жыў тым, што пададуць з жалю, начаваў, дзе давядзецца, а дні праводзіў на рынку, у набітых людам карчмах і крамах. Яго па-свойму любілі і не давалі ў крыўду. Цэлая працэсія прыйшла да вайсковага начальніка, калі Ічку выпадкова ўпісалі ў войска і апранулі ў доўгі шынель. Доўга бедавалі, што так і не змаглі ўратаваць беднага вар'ята ад вайсковай службы. А колькі было размоў, смеху, калі прыйшла тэлеграма: «Несвиж. Гражданам. Ичка Бохер освобождена!» Так сам Ічка паведаміў землякам, што яго дэмабілізавалі. Жан-

чынай жа яго памылкова зрабіў тэлеграфіст. І вось Ічка Бохер таксама стаў выступаць за рэвалюцыю.

Нарагатаўшыся, хлопцы зноў загаварылі сур'ёзна. Мікалай пачуў ад іх, што Кулагін агітуе галасаваць за бальшавіцкі спіс, а настаўнік спеваў Ягораў з'яўляецца членам бальшавіцкай партыі, што ў семінарыі амаль штодня бывае хто-небудзь з агітатараў — са Слуцка прыязджаюць эсэры, з Мінска — кадэты, з 3-й і 4-й армій — бальшавікі.

У наступныя ночы хадзілі разам выконваць заданне Кулагіна і Ягорава — зрывалі ў горадзе спісы манархістаў, кадэтаў, эсэраў, бундаўцаў. Пісалі крэйдай на сценах: «Уся ўлада Саветам!» Удзень жа хадзілі з выглядам звычайных бесклапотных школяроў: збіраліся гуртам на вечары, якія наладжвалі сумесна з жаночай гімназіяй і якія абслугоўваў аркестр гарбатага Шпільберга — скрыпка, цымбалы, акардэон, бубен. Часам ім удавалася падкупіць семінарскага вартаўніка і выбегчы на якую гадзіну ў горад, каб палюдзець на рынку або заскочыць у кавярню Навума Гаха, што размяшчалася на рагу вуліц Задамені Качскай і Міхаліскай. К гэтаму часу Мікалай ужо навучыўся вельмі спрытна вытанцоўваць і простыя, і самыя модныя танцы. А калі настаўнік Костка і семінарыст Лупіновіч арганізавалі драмгурток, то адразу ж запісаўся. Неўзабаве ён ужо рэпеціраваў і ў семінарыі, і ў інтэрнаце ролю Пустарэвіча з купалаўскай «Паўлінкі». У яго лексіконе з'явіліся словы, якія ён вымаўляў гнусавым голасам вясковага дзядзькі нападпітку: «Глупства, глупства, пане дабрудзею! Собственно, вось-цо-да, кабыла заблудзілася! Езус пахвалёны! У мяне розум спрытны, спрытны! Было шумна, пане дабрудзею, і будзе шумна!»

У тыя дні Мікалай часта і ў размовах, і сам сабе нагадваў словы песні: «Кто был ничем, тот станет всем!» У іх ён бачыў выяўленне ўсяго, чаго жадаў сам, яго бацькі, землякі. Вось чаму так разанула вушы пачутае выпадкам: нейкі фальварковец, стоячы ў натоўпе такіх самых, як і ён, і чакаючы, калі закончыцца імша ў касцёле, даводзіў гучна, што той, хто быў нічым, той і будзе нічым, бо з нічога не атрымаецца нешта... Наогул, кожны дзень прыносіў нешта новае, што здзіўляла і радавала, нярэдка абурала, але заўсёды прымушала думаць.

Поп Самковіч адмовіўся ад свайго сана і стаў выкладаць геаграфію і замежную мову.

На семінарскай сцэне паставілі нарэшце «Паўлінку». Мікалай потым не раз чуў, як услед казалі: «Глядзі, унё! Пустарэвіч!»

14 лістапада ў радзівілаўскім замку адкрыўся II з'езд 2-й арміі Заходняга фронту, які вітаў петраградскіх рабочых і салдат, што ўзялі Зімні палац, выказаў давер Савецкай уладзе, выбраў Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт, да якога перайшла ўлада ў горадзе і ў раёне. На стале прэзідыума стаялі кветкі асенніх астраў — расстаралася, карыстаючыся старым знаёмствам, у самога Радзівіла, які самотна сядзеў у адным з дальніх пакояў свайго замка, загадчык асабістага стала 2-й арміі Юдзіф Мышкоўская.

Перад калядамі семінарысты назіралі з вокнаў, як сям'я адваката Мышкоўскага перабіралася з першага паверха дома ў стылі барока на «галубятню»: рэвалюцыі патрэбна была жыллёвая плошча.

Зямельны аддзел Ваенна-Рэвалюцыйнага камітэта ўзяў пад свой кантроль панскія і княжыя маёнткі.

У Цімкавічах адкрылася хата-чытальня: Мікалай прыязджаў на каляды дадому, бачыў.

У гэты ж час, у канцы студзеня і пачатку лютага 1918 года, у семінарыі склаўся «гурток патрыётаў беларускай культуры». Слухаючы сяброў, Мікалай не раз успамінаў словы бацькі пра тое, што яго сын пасля заканчэння семінарыі будзе вялікім чалавекам, гэта значыць, яго будуць ведаць і ў Слуцку, і ў Мінску, і ў Бабруйску. У тым, што гаварыў бацька, важна было не разважанне пра будучую сынаву славу, а яго ўяўленне пра Беларусь — яно стыхійна выявілася ў словах пра гарады, дзе сына будуць ведаць. Сам жа Мікалай поўніўся адчуваннем, якое, як яму здавалася, найлепш выявіў паэт: «Годзе ў полі, ў лясах ты, старонка мая, сіратой начавала забытаю». Ён спрабаваў выказаць гэта адчуванне ў вершах. Малады і наіўны, Мікалай, аднак, не забываў, што пісаць вершы мала, што кожнаму паэту патрэбен талент, і невядома, ці ёсць гэты талент у яго. Як часта бывае, імкненне пісаць непрыкметна ператварылася ў вялікае замілаванне да друкаванага слова, да роднай літаратуры, а ўжо з гэтага глыбокага пачуцця вырас высокі беларускі патрыятызм. Вядома, у яго тагачасных настроях было

шмат нетрывалага і невыразнага: як-ніяк, Мікалаю не было яшчэ і васемнаццаці год, і ён яшчэ не пазбавіўся некаторых рыс дзіцячай наіўнасці. Гэта выяўлялася ў яго раптоўных парывах, калі ён нечакана трациў звычайны іранічна-жартаўлівы настрой і станавіўся сентыментальна-расчуленым.

Мікалай хацеў сказаць пра чалавечы боль, у якім глыбока выяўляецца сутнасць жыцця, пра сваё спачуванне пакрыўджаным, але ён яшчэ не ведаў, што рабіць з гэтым сваім адчуваннем свету, якое таіў у сабе, і хіба толькі часам гаварыў аб ім з найбліжэйшымі сябрамі,— добра, яны яго разумелі, бо самі былі такімі ж расчуленымі і ўражанымі. Прынамсі, яны не смяяліся над ягонымі пачуццямі.

Але аднойчы Мікалай выпадкова пачуў іншую гаворку і падумаў, што не ўсе на свеце думаюць і адчуваюць аднолькава. Гаворка якраз ішла пра яго самога. Два знаёмыя семінарысты з тых, што вучыліся, каб потым [redacted] бацькавай дапамогай каваць сабе чыноўніцкую ці якую іншую кар'еру, гаварылі:

— Што ты думаеш пра Раманоўскага? — спытаў адзін.

— Думаю, што ён будзе настаўнікам да канца сваіх дзён,— адказаў другі і дадаў: — Лёс у кожнага на лбе напісан.

Абодва задаволена зарагаталі.

Сказаць, каб Мікалая гэта пакрыўдзіла, то не скажаш: для яго такі падзел на настаўнікаў і тых, хто здолеў так паварушыцца плечуком у людскім натоўпе, што выслабанілася цёплае месцейка, быў проста непрымальны. Ён пакуль што дзяліў людзей на добрых і злых, праўдзівых і манькутоў, сумленных і ашуканцаў, працаўнікоў і марнатраўцаў. А што тычыцца навукі ў семінарыі, то яна сапраўды не была высокай. Зор [redacted] неба яна не даставала. Яе хапала на тое, каб навучаць вясковых дзяцей грамаце. Вясковы настаўнік! Той, пра каго кажуць: ад зямлі адарваўся, а неба не дастаў, не мужык, але і не пан. Ды тое было раней! А цяпер той, хто быў нічым, стаў усім. Настаўнік, калі ён добра робіць сваю справу, навучае не проста грамаце, а азбуцы чалавечых адносін, ён вырошчвае чалавека — грамадзяніна сваёй краіны, чалавека, які любіць людзей не таму, што яны адной з ім нацыянальнасці, а таму, што яны такія самыя, як і ён, жыхары

зямлі. Нелюдзі ж усіх нацый аднолькавыя. Дык хіба быць такім настаўнікам — блага?!.

Як бы там ні было, але Мікалай за той час шмат спазнаў і зразумеў. Вядома, не праз ласку сваіх семінарскіх настаўнікаў. У семінарыі, лічыў ён, добра тое, што даваўся час, каб чытаць кнігі. І Мікалай даставаў кнігі, дзе толькі мог. Балазе, у Нясвіжы тады было дзве вялікія бібліятэкі, семінарская і гарадская. Гарадская ўзнікла з дублікатаў кніг Радзівілаўскага замка. Семінарская бібліятэка мела за аснову кніжны фонд Нясвіжскага дамініканскага манастыра, скасаванага на пачатку мінулага стагоддзя. У будынках гэтага манастыра і была настаўніцкая семінарыя. Абедзве бібліятэкі ўвесь час папаўняліся новымі кнігамі і маглі б стаць аб'ектам гонару і не такога гарадка, як Нясвіж. Карацей, Мікалай праз усе гады сваёй вучобы з цямна да цямна штодзень выседжваў у адной з гэтых бібліятэк. У далёкай перспектыве ён марыў пра універсітэт.

Мікалай, аднак, не быў тым заўзятым кніжнікам, які за кнігай свету божага не бачыць. Але калі размова заходзіла пра кнігі, ён рабіўся адразу сур'ёзным і сталым. Адчувалася, што гэта была натура, схільная да ўпартага пошуку аднаго-адзінага пачатку ўсяго, што было і што будзе, здольная ахвяраваць сабой дзеля вялікай ідэі. Іменна ў гэты час Мікалай вельмі шмат думаў пра Сашу Даменю. Перад вачамі яго была яе танклявая і рухавая постаць, прыгожы асмуглы тварык, і ён намагаўся штораз разгадаць, што прыцягвае яго ў ёй, ці гэта прыгажосць, ці нешта іншае, што і словам не назавеш, што так уразіла яго ў апошні дзень перад ад'ездам на вучобу. Першае ўражанне ў наступныя сустрэчы ўмацавалася, а гэта бывае так рэдка: найчасцей яно не вытрымлівае выпрабавання часу і адлегласці. Мікалая — так ён сам сабе вырашыў — зацікавіла ў дзяўчыне яе паглыбленая ўвага да ўсяго навакольнага. Яна не была абыякавая. Аднак жа і не старалася ўсё ацэньваць і вымерваць на свой розум, а толькі пільна назірала. Можа, таму Саша была даволі скупая на слова. Часцей яе можна было сустрэць задуменнай, а не вясёлай. Хто не ведаў яе, мог падумаць, што яна нешта перажыла, нейкую асабістую драму. А гэта была ўсяго толькі яе натура. У яго было такое адчуванне, якое межавала з моцнай пераконанасцю,

што пачуццё захаплення дзяўчынай расце куды больш хутка і ўпарта якраз у цішыні і маўчанні. Сустракаючыся, яны гаварылі паміж сабой пра ўсё на свеце і маўчалі толькі пра тое, што прыцягвала іх адно да аднаго. Яны былі як бы ў змове паміж сабой, і гэта збліжала асабліва моцна. Іх аднагодкі, яднаючыся ў пары, гаварылі і пра тое, як будуць жыць разам, як выстараюцца хату, як усё пойдзе далей. Яны не спяшаліся і як бы верылі, што шчасце іх не міне.

Думаючы пра Сашу, Мікалай часта ўспамінаў, як быў дома на каляды і як ездзіў з бацькам у дровы. Сашу ён бачыў толькі здалёк, і яна здалася тады асабліва прыгожай і нейкай задуменнай. Гэта сустрэча распаліла яго думкі і пачуцці: едучы ў лес, ён толькі і думаў, каб скарэй прывезці тых дроў ды пайсці да яе на спатканне. Але як толькі марозным зімовым вечарам яны засталіся сам-насам, гаворка пра блізкасць зноў здалася не самай важнай і цікавай, бо што пра гэта гаварыць, калі яны побач і шчаслівыя. І Мікалай і Саша горача гаварылі пра блізкую будучыню, калі скончыцца вайна, пра рэвалюцыю і зямлю, пра навуку і літаратуру, пра людзей, якіх абое ведалі і любілі, пра трагічнае і вясёлае ў жыцці. Ён яшчэ больш умацоўваўся ў сваім імкненні некалі падавацца ва універсітэт. Само сабой мелася на ўвазе тое, што яна будзе побач з ім, што і ёй удасца вучыцца. Ні ён, ні яна яшчэ не ведалі, што гэтыя дні потым будуць успамінацца як самыя шчаслівыя і светлыя ў іх маладосці.

## VIII

### ВЯСКОВЫ НАСТАЎНІК

Прачынаючыся, Мікалай слухаў гукі вясковай раніцы. За акном падалі кроплі вады са страхі, бомкаючы аб нешта бляшанае. На лужку за агародам сыта крычалі гусі. Варона, седзячы на голай галіне ліпкі, што расла перад хатай, устаўляла ў гэты крык сваё «кра! кра!». Раптам ён пачуў цяжкія крокі на двары, а потым грукат паленаў. Ага, гэта бацька не вытрымаў — стаў насіць насечаныя сынам звечара дровы ў падпавець! Казаў жа, што толькі ўстане, сам складзе, дык

не, рупіць чалавеку, няма работы, то шукае, абы не сядзець. От, прывык змалку клапаціцца, тупаць, рабіць, то ўжо, сеўшы адпачыць, нагаворвае на сябе ў думках: і лежань ён, і абібок, і лайдак, і хто там яшчэ!..

Але Мікалай ведаў, што не прывычка рабіць гоніць бацьку, хоць і яна мае значэнне. Бацька захапляецца гэтай дзіцячай работай, бо нешта яго мучыць, нешта гняце яго душу, нешта не дае яму нерухома сядзець на месцы. Пайшоў ■ лета, калі памерла маці Мікалая, другі год, а бацька нудзіцца, шукае пяты кут, нейкі ён непрыкаяны, учарнелы, і ўсё часцей Мікалай заўважае з болем у душы ў ім — у паставе, у паходцы, у позірку — прыкметы блізкай старасці. А ён жа яшчэ не стары гадамі! І як яго разважыць, Мікалай не ведае. Сам у такім стане, што часта задумваецца і паварочваецца думкай да тых дзён, калі маці была жывая. Ён ведае адно пэўна: ніхто на свеце не мае права лезці няпрошаны ў чужую душу, асабліва калі не пэвен, што яго словы будуць лекамі.

Мікалай стараецца быць часцей з бацькам, памагаць яму ў працы, гутарыць, як бы наганяе ўпушчанае. У гаворцы яны часта ўзгадвалі маці, кожны бачыў яе па-свойму і ў розных жыццёвых варунках і, апавядаючы, як бы гаварыў: а яна яшчэ і такая была! Чым далей, тым мацней і бацька і сын, слухаючы адзін аднаго, думалі пра тое, які залаты чалавек без пары сышоў у магілу. Асабліва востра гэта адсутнасць маці адчувалася ў вольныя дні, у нядзельку, у святы. Адразу ўспаміналася, як яна рыхтавалася да свята і як у хаце было ўтульна і светла. Сёння якраз было свята Кастрычніцкай рэвалюцыі. На плошчы павінен быць мітынг, і Мікалай там будзе выступаць. Урокаў няма, мітынг у дванаццаць гадзін дня, і Мікалай рашыў не спяшацца, паляжаць, падумаць, бо, шчыра кажучы, у будні няма калі ні ляжаць, ні думаць, акрамя школы, рэўкома, гаспадаркі. Ляжаў, закінуўшы рукі за галаву. Глядзеў у столь, на сцены. Хата была новая. Паставілі, як толькі з мястэчка адышлі белапалякі і новая ўлада дазволіла ўсім, хто не меў дзе жыць або жыў у старой трухліне, вазіць лес і ставіць хаты. Тады здавалася, што нейкі вялізны пажар выкаціў за раз паўмястэчка, і цяпер усе адразу будуюцца: уздоўж вуліцы ляжала бярвенне, чуўся звон пілаў, стук сяке-

раў, тут і там раслі беленькія зрубы, пахла смалістым водарам. У Рамаsucceedінскіх суполка была ранейшая — зруб секлі ўчатырох: бацька, Уладзік Кахановіч, Лонгін Даменя і Мікалай. Зрабілі хутка — за нейкія тры тыдні акарылі дрэва, распілавалі, размералі, выдзеўбалі пазы, зрабілі вуглы, паставілі кроквы. Потым ужо найболып удвух, а часам даводзілася і бацькавых сяброў клікаць, накрылі страху, абшылі дошкамі столь, паклалі падлогу. Печ і тую самі клалі: бацька быў у гэтай справе спец, а Мікалай адно слухаўся яго. Зрабілі таксама збольшага сталярку. Два акны, аднак, былі пакуль што, да вясны, забіты дошкамі і закладзены імхом. Зрэшты, яны выходзілі на двор і не кідаліся ў вочы. Кожнае бярвенца, кожная дошчачка ў гэтай хаце прайшла праз ягоныя, Мікалая, рукі. Ён помніць, дзе была заела піла, дзе сякера схібіла, дзе сук трапіўся моцны. На сцяне блішчалі кроплі жывіцы. З пазоў тырчалі шэрыя махры сухога імху. І сцяна, і столь былі жоўценькія і светлыя. Моцна пахла свежай сасной.

І зноў думалася пра маці. Як бы яна радавалася новай хаце! Яны з бацькам даўно і ахвотна гаварылі пра новую хату — меркавалі, дзе яе паставіць, рахаваліся, як расстарацца лесу, марылі, куды яна будзе глядзець вокнамі, дзе будуць дзверы, якая будзе печ, падлога, столь, пакоі. Маці ўсё прасіла бацьку, каб печ не рабіў гэтакую вялікую, як ранейшая, каб прыпек быў ніжэй, бо цяжка паднімаць чыгуны... Пасля смерці маці бацька з нейкай аж хваравітай прагай ухапіўся за думку пабудаваць хату. Ён дакараў сябе, што не здолеў у час парадаваць Гліцэру, тым мацней было яго замілаванне да дзяцей, у кожным з іх бачыў ён часцінку яе. Цяпер ён жыў дзеля іх, смуткаваў, калі доўга не бачыў каго-небудзь з сыноў і дачок, і з радасцю слухаў, што гаварылі людзі пра іх і іх маці. Бацька вельмі змяніўся за гэтыя паўтара года: стаў павальнейшы, яго часцей можна было бачыць з самакруткай у роце, цяпер ён па-старэчы доўга і заядла кашляў, паглыбіліся залысіны ў яго на лбе, наогул стаў скупейшы на слова, больш слухаў, як гаварыў. Увесну 1922 года ён усур'ёз надумаў будавацца. Усе навокал заўважылі, што бацька ажыў і яго пацягнула на людзі. І Мікалай заўважаў, як ён не-не дый скажа што-небудзь пра харaство цімкаўскіх ваколіц, пра тое,

што гэта хараство, і гэты спакой лечаць раны чалавечай душы. Нічога такога раней Мікалай не чуў ад бацькі. І, слухаючы бацьку, ён пачынаў глядзець навокал ягонымі вачамі.

Можна сказаць пэўна, што тады Мікалай пачаў свядома думаць пра родныя мясціны і адчуваць іх вялікае хараство. У душы самі па сабе пачыналі складвацца словы прызнання і замілавання:

Зялёнае жыта шэпчацца ў полі,
Вяне на сонцы пякучым трава.
Высока ўзнімаюцца птушкі на волі,
Спакойна і ціха шуміць барава.

Разам з сцяною зялёнага жыта
Палосы ўзворанай плугам зямлі.
Чорныя пліты сонцам абліты,
Былінкі пад імі сухія ляглі.

Ад краю да краю, далёка, далёка
Працаю вольнай узнята ралля;
Хаваюцца вёскі у жыце высокім.
Багацтва за працу гатуе зямля.

Багатыя ўсходы ўздымаюцца вышай
На месцы, дзе вольныя сілы ляглі.
Роднае поле! Старонка ты наша!
Вольная праца на вольнай зямлі.

Першымі днямі жніўня Рамановускія перайшлі жыць у новую хату. Гэта была шчаслівая хвіліна, і Мікалай думаў, што, каб жывая была маці, як бы яна радавалася. У тыя дні яны часта сядзелі разам, дружнай сям'ёй — бацька, Мікалай, Маня, Ганна, малыя Міхась і Юрка — і гаманілі і пра новую хату, і пра тое, што будзе заўтра, і пра роднае поле, што пачыналася адразу за хатай, і пра блізкі Скіп'ёўскі лес, і пра дарогу на Капыль, абсаджаную бацькам скрозь яблынямі, грушамі і бярозкамі. Бацька гаварыў шмат, як даўно ўжо не гаварыў:

— Трохі пазней, увосень, панасаджваем каля хаты яблынь і груш. Садовыя дрэвы хутка растуць, і доўга чакаць не давядзецца сваіх яблыкаў і груш. Павырастаюць малыя. А жыць чалавеку доўга. Абы толькі здароўе было. Колькі чалавеку трэба?..

А ў канцы жніўня цімкаўцы абралі на сходзе Мікалая за настаўніка ў мясцовай школе і пастанавілі плаціць яму за работу хлебам, забяспечваць дровамі на зіму. Бацька быў рад гэтаму, зноў успамінаў пра

маці. А ў Мікалая штодня, штовечара — урокі, днём у школе з малымі, вечарам у хаце-чытальні з дарослымі, паседжанні валаснога рэўкома, аддзела народнай асветы, сходы, мітынгі, розныя кампаніі, агітацыя па хатах, суседніх вёсках і хутарах, паездкі ў Слуцк на частыя канферэнцыі. Але ад думкі за работай не схаваешся: маці ўставала ў памяці, як жывая, яе голас, пастава, рухі. Успаміны пра яе заўсёды былі нечаканымі — знаёмыя людзі, рэчы, з'явы не-не дый нагадвалі пра яе, і адразу востра адчувалася яе адсутнасць.

На вочы тады набягалі слёзы, і хацелася доўга і няўцешна плакаць, скардзіцца невядома каму на свой лёс. Але хвіліна слабасці мінала, як толькі ён трапляў на людзі і пачынаў думаць пра справу: з адчаем у душы нельга рабіць нават самае простае.

Лежачы цяпер на ложку, Мікалай крытычна паглядзеў на сваё цяперашняе жыццё. От, ён жыве, працуе! Яго любяць вучні, паважаюць местачкоўцы. Бацька ганарыцца тым, што сын — настаўнік і што людзі гавораць пра яго толькі добрае. Мара бацькоў збылася — Мікалай стаў настаўнікам, навучае вясковых дзяцей дабру і розуму. Настаўнік на вёсцы — паважаны чалавек. З аднаго боку — ён той жа селянін, жыве клопатамі пра надвор'е, ураджай, поле, жывёлу, хлеб. З другога — ён летуценнік, бо мае час і магчымасць думаць пра хлеб духоўны. Маючы справу з кнігамі, з навукай, з літаратурай, настаўнік міжволі думае пра вечнае, прыгожае, добрае. Лад яго штодзённага жыцця пакідае след нават на яго знешнасці, і гэта бачыцца не толькі ў тым, што яго часцей, як каго іншага, бачаць акуратна апранутым, паголеным, пад гальштукам, спакойным і ветлівым, трохі як бы адсутным і дзіўным, але і ў тым, што ў вачах яго свеціцца давер і цікаўнасць да навакольнага. Дробязі і мітусяніна яго мала займаюць. Вясковы настаўнік адчувае сябе ўвесь час пад пільным позіркам цэлай вёскі, дзяцей і дарослых, мужчын і жанчын. Хочаш не хочаш, павінен быць вышэй зямных страсцей і будзённых клопатаў. Настаўнік на вёсцы — святы чалавек. Маючы справу штодзённа з дзецьмі, з чалавечымі ведамі, з паэзіяй, ён і сам пачынае глядзець на свет чыстымі дзіцячымі вачамі, сам становіцца крышку вучоным і паэтам. Да настаўніка ідуць за парадаю, за дапамо-

гаю — хто іншы адмовіць, толькі не настаўнік. Як ён тады паглядзіць у вочы сваім вучням, якіх вучыць быць добрымі, спагадлівымі, разумнымі, працавітымі. Што ж, параіць ён можа кожнаму, а вось дапамагчы... Усім не ўспаможашся, а адно спачуваць, калі чалавек у бядзе, самому брыдка становіцца, што толькі і стае цябе, як на спачуванне. Мікалай з малых год шмат думаў пра пакуты чалавека на зямлі. Чалавек жа нараджаецца на радасць, а не на пакуты. Прынамсі, блізкія яму людзі жылі цяжка, гора бачылі куды больш, чым радасці. Душа балела, гледзячы на іх. Пасля таго як не стала маці, ён усё часцей успамінаў, як хацела яна, каб дзеці вучыліся, і асабліва вялікія надзеі звязвала з большанькім — Мікалаем. У год яе смерці адкрыўся ў Мінску універсітэт, і ўсе думкі Мікалая з таго часу ішлі да яго.

Гэта быў час, калі адзін за адным узнікалі тэхнікумы і рабфакі, тэатры і музеі, хаты-чытальні і бібліятэкі. А што да горада Мінска, туды з Беларусі адусюль імкнулася моладзь. Гэта былі найбольш хлопцы і дзяўчаты, якія пачыналі гаварыць сабе: «Я беларус і ганаруся гэтым». Многія з іх пісалі вершы, былі селькорамі і ведалі цану роднаму слову. Слова «бацькаўшчына» азначала для іх ужо не толькі «бацькава аселішча», але і зямлю, што «ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым амаль да Чарнігава, дзе Гродна, Мінск, Магілёў, Віцебск, Вільня і шмат мястэчак і вёсак». Вядома, усведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці ў кожнага было розным па глыбіні і сіле: многія з гэтых хлопцаў і дзяўчат яшчэ толькі-толькі выходзілі з зялёных падлеткаў. Самае галоўнае, што яны пачыналі адчуваць сябе грамадзянамі сваёй зямлі і імкнуліся нічым не зганьбіць імя беларуса.

Пра тое, што ён, Мікалай, таксама неўзабаве рушыць у Мінск, думалася спакойна, як пра нешта канчаткова вырашанае. Пасля смерці маці Мікалай адчуў, як цяжка яму заставацца тут, дзе ўсё напаміналала, што маці няма. Можна сказаць, у яго нічога не заставалася такога, што трымала б яго цяпер у Цімкавічах. Бацька, сёстры, браты... Ён ім памагае як можа. Няма ўжо той ранейшай галадоўлі, сярмяга і лапці паступова саступаюць месца паркалю і чаравікам, людзі пацягнуліся да кніг і газет, цікавяцца тым, што робіцца ў дру-

гіх мясцінах. Бацька кажа, павесялеў народ. Не тое, што было! Песні спяваюць. І ў полі, і ў лесе, і ў хаце. Даўнія і новыя. Чалавек па прымусу не заспявае. Значыць, душа спявае. Пакуль малады, трэба шукаць, не супакойвацца, бо так лёгка задаволіцца тым, што маеш, не заўважыш, як быт заесць.

І Мікалай ажно тры гады патраціў, пакуль нарэшце сабраўся паступаць далей вучыцца. Вайна, акупацыя, голад! Семінарыю так і не давялося скончыць. А з няскончанай сярэдняй адукацыяй — ці прымуць? 19 сакавіка 1919 года семінарысты на чале з настаўнікамі Ягоравым і Кулагіным памагалі гарадскому рэўкому і гарнізону спыніць выступленне мясцовай шляхты, якая паспяшалася ўваскрэсіць з мёртвых Польшчу і зрабіць яе аж да Полацка і Смаленска. Летам гэтага ж года пілсудчыкі захапілі Нясвіж, закрылі гімназію і паразганялі настаўнікаў. Белапалякі стаялі ў гэтай мясцовасці ажно да ліпеня 1920 года. Увесь гэты час Мікалай жыў у родным мястэчку, зарабляючы на хлеб тым, што цяслярыў разам з бацькам. Тое, што ён бачыў, не змяшчалася ў галаве.

У пачатку лета 1920 года ў Цімкавічы прыбыў атрад белапалякаў. Афіцэр патрабаваў у сялян коней і фурманак, каб ехаць далей. Нехта заспрачаўся, нехта яшчэ нешта сказаў... Афіцэр раптам закалаціўся ад злосці, прышпорыў свайго каня і пад'ехаў да бліжэйшай хаты, каб падпаліць страху. У натоўпе пачуўся плач, людзі нема закрычалі. І вось да афіцэра з натоўпу падышоў стары, хворы яўрэй Гілька і дрыжачым голасам папрасіў:

— Панок, не губіце людзей.

Але афіцэр не звяртаў на яго ўвагі. Тады ён паўтарыў сваю просьбу. Голас яго быў слабы, а вочы слязіліся ад старасці. І вось ён асмеліўся зірнуць у твар афіцэра. Таго гэты позірк зняважыў, і ён закрычаў на старога. А стары раптам сагнуўся да стрэмя і пацалаваў афіцэру бот, і той ад'ехаў, злосны, але поўны гордай пыхі: ён пакарыў гэтых упартых людзей, прымусіў іх успомніць, што яны рабы, а ён уладар! Але не ведаў «панок», што ў тую ноч яшчэ адна група моладзі пайшла ў лес шукаць партызанаў.

20 ліпеня цімкаўцы бачылі страшнае зарыва пажару: гарэла вёска Кулакі, вярсты за тры ад мястэчка. Перад самым адыходам белапалякі забралі ў вёсках

Быстрыца, Дзярэчын, Мацкевічы табуны коней, статкі кароў, рабавалі палотны, адзежу, дробныя рэчы, білі сялян кулакамі, нагамі, прыкладамі.

У век тэхнікі, у век аўтамабіляў, браневікоў, самалётаў, танкаў, у век вялікага змагання за чалавека ўсё зведаў беларускі гарапашнік і на ўсё здольны ў момант найвышэйшага напружання пачуццяў. І цяпер, калі Беларусь пакутуе на сваіх заходніх абшарах, хіба можна быць спакойным? Гэта ж так блізка — нейкія пятнаццаць вёрст! Жывое цела народа разрэзана на дзве часткі. Мяжа прайшла, як сумна жартаваў Шлёма Бакуноўскі, па самым яго агародзе: стадола і хата стаяць на савецкай старане, а града з рэдзькаю пры хаце і прызба пад вокнамі — гэта Польшча. Больш таго, ён чакае, што хлеў, дзе стаіць карова, будзе абвешчан нямецкім, а бяроза на гасцінцы англійскай. Смех смехам, але ж мяжа аддзяліла бацькоў ад дзяцей, жонак ад мужоў, родных і блізкіх! Але прыйдзе, прыйдзе судны дзень, калі адплаціцца панам, калі ўсё будзе падрахавана і вынесен прыгавор!

Мяжа прайшла ў сакавіку 1921 года. А пакуль тое, Мікалай з радасцю збіраўся ў канцы жніўня 1920 года ў Нясвіж: Саветы зноў адчынілі семінарыю. Вучыцца доўга не давялося. Позняй восенню [illegible] дому наказалі, што захварэла маці. Адразу ўсё — вучоба, кнігі, сябры — страціла сэнс. На душы было неспакойна: ведаў, як бывае,— людзі, каб падрыхтаваць да бяды, часта не кажуць усёй праўды. Навіна пра матчыну хваробу не была неспадзяванкай: маці хварэла даўно, і Мікалай ведаў пра гэта. Яна і хадзіла, і рабіла ўсё, але была хворая, не-не дый скардзілася сваім сяброўкам, але так, каб дзеці не чулі, што часта стала балець галава, спірае дыханне, што ў вачах цямнее, калі падніме што цяжкое або доўга пасядзіць, а тады ўстане, цяжка даставаць са склепа бульбу. Мікалай і сам бачыў, што маці цяжка, і суседкі часам гаварылі яму нечакана: «Дзеткі, памагайце матцы!» Памагаў і сёстрам (браты былі малыя) казаў, каб памагалі. Але ў маці быў такі характар, што не вельмі паможаш,— скажа: «Я сама!» — і яе не ўгаворыш. А да доктара не ідзе, бо ад яе хваробы няма дактароў. Сухоты! Далася ў знакі і тая абора лапаціцкая, калі даіла кароў зімою, ажно карчанелі рукі і ног і спіны нельга было разагнуць, і вечнае недаяданне і недасыпанне. Міка-

лай ведаў, што маці хворая, шкадаваў яе, але ўсё роўна навіна ўразіла.

А маці ўжо зусім занемагла. Яна ўчарнела з твару, пастарэла, але трымалася з апошніх сіл. Мікалай увесь час стараўся быць блізка ад яе, угадваў яе жаданні і кідаўся выконваць любую яе просьбу. Ён востра заўважаў, як маці раптам пачынала гладзіць па галовах меншанькіх, як прыгортвала іх да сябе, як пільна глядзіць на большых і, шкадуючы,— на яго самога. Ён разумеў патаемны сэнс гэтых рухаў і позіркаў, і на душы ў яго ўвесь час ляжаў камень. Мікалай бачыў, як перажывае самы меншы брат — Юрка. А яму здавалася, што ведае толькі ён адзін.

Аднойчы Мікалай угледзеў, як Юрка стаяў каля варот і нябачліва ўтаропіўся ў адну кропку, і падышоў да яго:

— Чаго ты, Юрка, месца сабе не знойдзеш?

— Як гэта?

— Малы ты яшчэ.

— Дык што?

— Малы ты яшчэ, мала што бывае. Чалавек захварэе, забаліць яму. Маці паправіцца. Якая там хвароба?! Яна ж ходзіць і робіць усё. Ты ж сам бачыш. Хіба дзіва, калі чалавеку забаліць?!

Юрка раптам упаў рукамі на агароджу і закалаціўся ад слёз.

— Чаго ты, дурны? — Мікалай падышоў да брата.

— Я ведаю, што яна доўга не пажыве.

— Адкуль ты дазнаўся? Выдумляеш.

— Яна пазаўчора вечарам у каморы плакала і гаварыла, а я чуў праз сцяну, сплючы ў адрынцы.

— Каму яна гаварыла?

— Сама сабе.

— Выдумляеш ты.

У той момант Мікалай, здаецца, упершыню так моцна адчуў адказнасць за сваіх сясцёр і братоў.

Прыходзілі праведаць суседкі, і Мікалай заўсёды з насцярогай сачыў за іх тварамі і вачамі, стараючыся зразумець іх думкі. Ён прыкмячаў, як шкадуючы ўзглядвалі жанчыны на яго і яго сясцёр і братоў, як пошапкам нешта гаварылі паміж сабой, азіраючыся крадком на вокны хаты Раманоўскіх. Маці, калі да яе ў бакоўку, дзе яна ляжала на ложку, заходзілі, трымалася малайцом, не скардзілася. Нават жартавала:

— Сорак лет — бабін век, а яшчэ пяць — і пара паміраць.

Яна знайшла спосаб, каб і дзяцей сваіх суцешыць, хоць на нейкі час,— папрасіла, каб паклікалі фельчара Максіма Грынюка. Той усё добра ведаў, але прыйшоў адразу ж, як яму перагказалі просьбу. Юрка пакручваўся пад рукамі, трывожна зіркаючы то на маці, то на фельчара, і яго Грынюк пастараўся выправіць з хаты. А калі прыйшоў, то фельчара ўжо не было, маці ж спала. Прачнулася яна недзе пад самы вечар, выйшла, трымаючыся за сцяну, на двор. Юрка адразу кінуў свае нявінныя дзіцячыя забавы і падышоў:

— Што ён сказаў?

— Нічога. Казаў, што ўсё зараз пройдзе.

— Скажыце праўду.

— Дык праўда ж.

Юрка адразу павесялеў і пабег на вуліцу да сябра. А да маці падышоў бацька:

— Ну як?

— Сказаў берагчыся...

Бацька зірнуў на яе раптоўна павільгатнелымі вачамі, крануўся рукою яе рукі. Маці паглядзела на вуліцу: Юрка стаяў каля калодзежа і весела смяяўся з хлопцамі.

Усё гэта цяпер стаяла перад вачамі Мікалая, і не было сілы адарвацца ад успамінаў пра той час, калі маці была жывая. Потым успомніўся дзень, калі Мікалай апошні раз доўга гаварыў з маці. Расказваў, баючыся зірнуць на яе змарнелы твар і прагнучы глядзець і глядзець, запамінаць, як дабіраўся патайнымі сцежкамі цераз савецка-польскую граніцу, якая толькі-толькі ўстанавілася, у Нясвіж, дзе, людзі казалі, можна было дастаць патрэбныя лекі. Перад гэтым Мікалай хадзіў па лекі і ў Капыль, і ў Слуцк. Але з лекамі ў той час было вельмі цяжка. Прасілі балаголаў, каб прывезлі з Мінска. Але і там не было. Яны гатовы былі верыць любым чуткам, якія толькі дазвалялі спадзявацца, што маці паправіцца.

Ах, якімі лёгкімі былі яго ногі, калі Мікалай ішоў у Нясвіж! Нават пераход цераз мяжу не азмрочваў думак. Была нейкая незразумелая ўпэўненасць, што ён дастане лекі і што маці тыя лекі памогуць. Дарога была знаёмая да драбніц: не раз давялося за тры гады вучобы папахадзіць па ёй. Адно толькі разведаў, дзе

стаяць пагранічнікі: на Варшаўцы каля Філіпавіч, недзе каля Браткава і ў лесе за Вялікай Раёўкай. Начаваў у стадоле Шлёмы Бакуноўскага: карчмар схаваў яго далей ад людскога вока. Досвіткам Мікалай перабраўся патаемнай сцяжынкай у хвойнічку цераз мяжу і неўзабаве апынуўся ў Нясвіжы.

Яму ўдалося сёе-тое купіць з лекаў. Асцерагаючыся, прайшоўся, поўны смутку, апошні раз па знаёмых вуліцах, здалёк акінуў вокам будынак семінарыі: вучыцца там яму ўжо ніколі не давядзецца. Пазнаваў некаторых несвіжан, успамінаючы звязаныя з кожным мінулыя падзеі. Сустрэў нават аднаго семінарыста, але пастараўся быць незаўважаным. Ён не мог рызыкаваць — дома чакала маці. Вагаўся нейкі момант, заходзіць ці не на Загуменную вуліцу, дзе кватараваў, але рашыў хутчэй вяртацца. Ужо ідучы абдумваў, дзе лепш пераходзіць мяжу: каля Лазавіч ці Кудзінавіч або Ратkоўскім лесам, трымаючыся на Кукавіцкую карчму і Вялікую Раёўку? Пайшоў нечакана на Качановічы і скрозь цаліной дабрыў да Габруноў, а там глухім месцам выбраўся на знаёмы шлях, што вёў дадому.

Лекі не памаглі. Маці нават за тыя некалькі дзён, што Мікалай быў у дарозе, прыкметна аслабла. Яна ўжо бачыла тую апошнюю рысу, за якой яна пакіне ўсіх іх сам-насам, і аддавала апошнія распараджэнні:

— Ты, Маша, глядзі за меншымі. Глядзі, каб іх не крыўдзілі...

Вельмі шкадавала найменшага ў сям'і — Юрку. Яму ішоў толькі восьмы гадок.

Апошняе, што засталося ва ўтрапёнай свядомасці Мікалая,— гэта позірк маці, у якім побач з ціхай просьбай жыла прыглушаная скарга, побач ■ замілаваннем — благаславенне.

Маці памерла 11 чэрвеня 1921 года, у суботу. Быў кароткі перапынак у працы перад тройцай. У полі за мястэчкам зелянела густая рунь. У кустах каля Бушылава чуўся птушыны грай. А на двары Раманоўскіх было людна, як ніколі да гэтага. Курылі мужчыны, прыслухоўваючыся да ціхай гаворкі, якую вялі сваякі і суседзі, да раптоўнага плачу ў хаце. Мікалай, не знаходзячы сабе месца, не цямячы, дзеля чаго і панешта, то ішоў на двор, то заходзіў у хату, дзе клапаціліся чужыя жанкі, дзе на покуці вялікая нейкая, бе-

лая, незнаёмая ляжала маці. Ногі яе былі яшчэ босыя. Яна апранута была ў цёмны гарнітур, які адзявала на вялікдзень, калі ішла ў царкву або ў госці. Хацелася думаць, што гэта яна была сабралася выйсці палюдзець на вуліцы, але, змарыўшыся за ранне, натупаўшыся каля гаспадаркі, якое і ў святы дзень не пакінеш без догляду, прылегла адпачыць. Чужы, далёкі, засяроджаны на нечым сваім, недасягальным для жывых, яе твар і ў гэтай апошняй застыгласці выяўляў вялікі неспакой за сваіх дзяцей-сірот.

Мікалай памятае, як пайшоў да жардзянай агароджы, абаперся на яе і стаў глядзець некуды сабе пад ногі. У вочы кідалася нейкая драбяза: пачарнелая ад гразі шчапа, нейкая зялёная і бліскучая травіна... І тады нехта з мужчын ціха падышоў да яго і моўчкі паклаў на плячо руку. Мікалай зірнуў няўцямна, кіўнуў разгублена галавой. Яму чамусьці ў той момант успомнілася, што на тым самым месцы, дзе ён стаяў, часта сыходзіліся пагаманіць мужчыны і што гэту агароджу яны ставілі ўдвух з бацькам, а маці... маці падыходзіла паглядзець на іх работу, радуючыся таму, што бачыць іх.

З таго часу Мікалай думаў толькі пра адно, як памагчы бацьку, сям'і. Ён стаў дбаць адно пра тое, каб дзеці не галадалі, каб ім было што адзець. Нейкі час Мікалай працаваў у Цімкаўскім валасным рэўкоме, пасля служыў у арміі — выконваў абавязкі справавода ў мабілізацыйным аддзеле Слуцкага павятовага ваенкамата, адслужыўшы, сакратарыў у аддзеле народнай асветы пры Цімкаўскім валасным рэўкоме і вось ужо трэці месяц настаўнічае... Але недзе далёка ў яго свядомасці жыла думка пра тое, што ўсё бачанае, чутае, перажытае ім не павінна марна згінуць, што трэба сказаць людзям пра іх саміх, сказаць тое, што яны, магчыма, і не ведаюць пра сябе. Прага пісаць нязменна звязвалася з уяўленнем пра вучобу.

Вядома, Мікалай займаўся самаадукацыяй, шмат даведаўся, прачытаў. Але ён заўважыў, што часам, каб зразумець самае простае, траціў зашмат энергіі. Усё, што напісаў, зроблена прыхваткамі, пасля ўрокаў у школе, пасля сходаў. Пісаць не было часу. Не было калі нават проста чытаць. Дый часта кніг патрэбных нельга знайсці. Не, такія рэчы, як літаратура, нельга рабіць прыхваткамі і саматужна! Трэба вучыцца! Трэ-

ба шукаць людзей, якія валодаюць цэхавымі тайнамі, і вучыцца ў іх пісаць! Бо што з таго, калі ты шмат бачыў і шмат ведаеш, але не знаходзіш патрэбных слоў, каб выказаць свае пачуцці, настроі, думкі.

Сáма ехаць у горад, паступаць — хату пабудавалі, бацька мяркуе купіць каня, сёстры падраслі і пасобяць гадаваць меншых. Сядзець жа тут, адчуваючы, як марнуецца ў табе талент,— злачынства перад людзьмі, якіх ты любіш і пра якіх збіраешся пісаць. Да таго ж, непрыкметна прытупляюцца адчуванні, цяжэюць думкі, ахоплівае самазадаволенасць. Вельмі ж сыта і спакойна жывецца яму апошні час. І на ўрокі ўжо ён ходзіць без унутранага хвалявання. І на сходах навучыўся гладка гаварыць. Нельга ехаць, папусціўшы лейцы. У хвіліны незадаволення сабой Мікалай з ахвотай калоў дровы або браўся выкідваць гной з хлява. Праца ратавала: думалася тады толькі пра тое, што робіш у гэтую хвіліну. Думалася нават і так: навошта ўсё, да чаго ён і іншыя, такія ж апантаныя, імкнуцца, а можа, сэнс у звычайным? Навошта ісці ўдалеч, калі вядома, што за ёю — новая далеч? Усюды тая самая зямля, такія самыя людзі. А можа, тыя, што ўвесь век шукаюць нечага, проста не ўмеюць пільна прыгледзецца да таго, што адбываецца ў іх саміх і навокал іх?..

Пасля працы ў гаспадарцы Мікалай звычайна ажываў і з радасцю ўспамінаў пра школу, уяўляючы, як добра ісці раніцай у школу, вітаць аднавяскоўцаў, адказваць на вітанні дзяцей, уваходзіць у клас і тлумачыць малым тое, што зразумеў сам і без чаго нельга ў вялікім свеце, бачыць, як яснеюць вочы дзяцей і напаўняюцца прагай рабіць добрае, потым вяртацца дадому з сшыткамі і кніжкамі, спакойна назіраць за тым, што робіцца на вуліцах роднага мястэчка, а вечарам спяшацца ў хату-чытальню, памагаць рабіць насценную газету, рэпеціраваць ролю ў спектаклі, які ставяць хлопцы-камсамольцы, гаварыць на сходах людзям пра тое, што дзеецца ў свеце, і ўвесь час лавіць сябе на жаданні застацца сам-насам і пісаць.

Рашыўшы для сябе нешта важнае, Мікалай супакоіўся і адчуў палёгку. Апрануўся. Падышоў да акна і зірнуў на пусты і мокры агарод, дзе хадзілі гусі і куры, на заворанае на зіму поле, на голыя кусты каля Бушылаўскай рэчачкі, на хмурнае неба. Прыпаў тва-

рам да самага шкла і на крайняй хаце ўбачыў чырвоны сцяг. Зноў успомніў пра свята і пра мітынг. У гэты момант у хату ўвайшоў бацька, высокі, пагорблены, у даматканай світцы, у шапцы-аблавушцы. Мікалай зноў падумаў, гледзячы на яго, што ён вельмі пастарэў, стаў павальнейшы, часта задумваецца, калі клічуць, перапытвае, палюбіў адзіноту і ўнурваецца ў работу. Аднак Мікалай ужо навучыўся не паддавацца пачуццю жалю там, дзе трэба павага і жаданне памагчы, і ўсміхнуўся, калі бацька сказаў:

— А я ўжо ішоў цябе будзіць — думаў, яшчэ спіш, аж ты ўжо ўстаў. Што на вуліцы люду — а-яй!.. Ідуць на мітынг.

Ён мог гэтага і не гаварыць, але яму трэба было неяк выказаць сваё замілаванне да сына. Мікалай жа і цяпер востра чуў іншае — бацькаў смутак па маці. Ведаючы, што бацька не пойдзе на мітынг, тым не менш спытаў:

— А вы, тата, не пойдзеце?

— Мусіць, не,— адказаў бацька.— Не выпадае. Яно і добра было б, але няма як.

Бацька яшчэ трохі пастаяў у парозе і гэтак жа ціха, як увайшоў, выйшаў з хаты. Мікалай уявіў, куды ён пойдзе, каб угадаць бацькаў настрой. А бацька пастаяў на ганку, павагаўся і павярнуў на вуліцу. Мікалай з палёгкай уздыхнуў: значыць, бацьку цягне на людзі, хочацца бачыць іх радасць. Акрамя таго, гэтыя людзі неўзабаве будуць слухаць прамову яго сына на мітынгу. І Мікалай яшчэ раз падумаў пра тое, што будзе гаварыць, каб не было сорамна. Выходзячы на вуліцу, зірнуў на бацьку, які ажно пасвятлеў з твару, убачыўшы сына, сказаў:

— То я пайшоў.

Каля хаты Касікоўскіх нечакана ўспомніў, як Гэлька Касікоўская прыходзіла праведаць хворую маці і потым прыслала шклянку мёду, і думкі яго пайшлі ў тым кірунку, што трэба жыць з людзьмі тым, чым жывуць яны, бо самае страшнае ў жыцці, калі чалавек ад чалавека далёка, калі цяжка дагукацца і лёгка на адлегласці не заўважыць слёзы на твары блізкіх. Апошні час Мікалай востра чуў, як горнуцца да яго людзі, чакаючы ад яго добрага і вясёлага слова, і гэта яго радавала. Можа, таму ён, падыходзячы да пляца, дзе павінен адбыцца мітынг, не пайшоў ад-

разу ў прэзідыум, а пастаяў сярод людзей, слухаючы іх гаворку, вітаючыся з тымі, хто заўважаў яго, і непрыкметна поўнячыся жаданнем гаварыць тое, што людзі прагнуць пачуць.

## IX

## АПЕРАЦЫЯ

Нечакана закружылася галава, пацямнела ўваччу, ахапіла нязвыклая слабасць. Мікалай расшпіліў фрэнч, каб дыхнуць вальней, але хутка адчуў, што зябне. Узяўся за сякеру — і скурчыўся ад вострага болю ў страўніку. Бы сляпы, намацаў калоду, на якой сек дровы, і прысеў — неяк няўдала, бокам. Ачнуўся: перад ім гаспадар са спалоханым тварам, зіркнуў у вочы і хуценька шмыгнуў у хату, у той жа момант выскачыў і ткнуў яму ў кішэнь пакамячаную рублёўку. Мікалай, вяла ўсміхаючыся, адмахваўся, але той, азіраючыся па баках, паспешліва вывеў яго, лепш сказаць, выштурхнуў з двара на вуліцу.

Думка не магла ахапіць тое, што адкрывалася ў душы, і міжволі збівалася ўбок. Маўляў, нічога страшнага, ці мала што бывае, трохі занядужаў. А як жа, галадаў, надрываўся, колючы на пусты жывот дровы! Ці дзіва? Нічога, ён яшчэ трымаецца на нагах, і хоць у вачах кропна, але ідзе. Прыйдзе дадому, адляжыцца...

Нечаспадзявана ўзгадаў рыжага, як агонь, дзядзьку, у хаце якога ён з бацькам аднойчы падначоўваў. Спачатку той здаўся чалавекам, які ведае сабе цану, самаўпэўненым і моцным. Нечаканае здарэнне паказала, што яны памыляліся. Ах, як ён мітусіўся, калі на світанку начлежнікаў абудзіў енк хворай кабеты, якая таксама падначоўвала ў яго хаце! Яго спалохала не тое, што давядзецца ўжыць клопату каля хворай, а нешта іншае: здань смерці, якая стаяла каля галавы кабеты. Памагаючы начлежнікам запрагаць коней, выносіць хворую з хаты, каб завезці ў бальніцу, рыжы гаспадар спяшаўся аслабаніцца ад страшнага ўтрапення перад нечым такім, што непадуладна чалавеку.

Пакуль брыў аснежанымі вуліцамі, стаміўся і да кватэры падыходзіў, цяжка дыхаючы і збіваючыся з

торнай сцяжынкі ў снег. Санлівасць прайшла, як толькі лёг на ложак, акрыўся старой байкавай коўдрай. Пацягнула зноў на вуліцу, да людзей. Што ён тут вылежыць? Да таго ж хацелася есці. Хіба схадзіць куды ў сталоўку? Можна ў Дом чыгуначніка, а можна на Савецкую. Падняўся і, асцерагаючыся рыпаць маснічынамі, каб не абудзіць Мухаморавых, сваіх гаспадароў, пачаў хадзіць па пакойчыку, закалыхваючы боль у жываце, стараючыся супакоіцца. Ён не мог ляжаць, калі наступнае трывожыла. Трэба шукаць ратунак. А дзе яго шукаць, як не сярод людзей.

І вось ён, разумеючы, што робіць нешта не тое, паволі брыдзе асветленай ліхтарамі Койданаўскай вуліцай, якая адным сваім канцом упіраецца ў Койданаўскі тракт, а другім змыкаецца з Маскоўскай. Болю не было, і ўжо цяжка нават было ўявіць, як гэта — баліць. Думалася пра ўсё, толькі не пра хваробу, смерць, марнасць чалавечага існавання. Пастаяў на скавышы, апіраючыся на балясіны Заходняга моста і назіраючы за манеўрамі захутаных у пару цягнікоў. Ён любіў чыгунку. Яна была для яго ўвасабленнем руху. Нядаўна чыгунка прайшла каля Цімкавіч, і землякі яшчэ не прывыклі да жалезнага крыку цягніка, непадобнага да лірніцкага, аднатоннага скрыпу калёс, да ціхіх скрыпаў дрэва, плаксівых песень ветру, прыглушаных людскіх крыкаў на пакорлівых коней. Падумаў, што людзі памалу змяняюцца, пачынаюць любіць не цішыню, а буры, не слязлівасць, а весялосць, не расчуленасць, а моц. Зямля, чуючы жалезны крык, ведае, што ёсць чалавек на ёй, што ён пераможа адвечную цішыню і нерухомасць быту. У думках складваліся словы: «Жалезнымі тварамі машыны маўкліва-філасофскі пазіраюць на мокрую зямлю і на людзей... Чалавек — сам машына. Калі адна трубка ўсярэдзіне папсуецца, то можна яе падправіць... А можа, ён памыляецца?»

Выйшаў на Савецкую, мінуўшы Чыгуначную царкву, а потым старэнькую цэркаўку ў пачатку вуліцы, прайшоў пад цяжкімі круглымі балкончыкамі двух-і трохпавярховых камяніц і завярнуў у Земляробчы завулак, неўзабаве апынуўся каля Каломенскага сквера, упадабанага яшчэ ў першыя дні. Перад тым як зайсці да знаёмых студэнтаў, што кватаравалі непадалёк, з'еў хлеба з каўбасой і выпіў шклянку чаю ў кавярні на Віленскім вакзале. Еў, пазіраючы цікаўна на бедалаг,

што ўкладваліся нанач проста на падлозе пад фікусамі ў дальнім куце залы. Злавіў сябе на думцы, што не толькі спачувае, але і зайздросціць: яму цяпер і на мяккай пасцелі мулка. Стрымаў крок каля падводчыкаў, што спрачаліся. Спрэчка, збоку паслухаць, злая і зацятая, нечакана скончылася мірам: адзін з дзядзькоў, барадаты, у шэрай тоўстай світцы, з пугай у руцэ, весела прапанаваў другому пайсці разам у буфет ды выпіць па куфлю піва. У кутку пры выхадзе з вакзала знячэўку абудзіў чалавечка, зачапіўшы яго нагой. Той не зазлаваў, а задзірыста падміргнуў яму. Потым раптам п'яна зацягнуў: «Апошні нонешні дзянёчак». Паставы міліцыянер, які сумаваў, стоячы сярод залы, як бы нават узрадаваўся таму, што нарэшце такі асачыў парушальніка парадку. А Мікалай зноў падумаў, што хацеў бы быць на месцы гэтага парушальніка або гэтага міліцыянера, апраўдвацца або дапытваць, ведаючы самае галоўнае, што ён жывы і здаровы і будзе жыць, колькі назначана лёсам.

Заходзячы да хлопцаў, сказаў сабе не падаваць выгляду, што яму блага. Сядзеў на краі жалезнага ложка, засланага тонкім сеннікам і стракатай саматканай коўдрай, узлёгшы рукамі на біла, у вузкім пакойчыку і не разумеў, пра што спрэчка. Словы даходзілі да слыху, як праз сцяну: «прагрэс», «рэгрэс», «індустрыяльная барацьба з прыродай», «старыя законы свету», «агонія», «на палітай кроўю глебе вырасце цудоўны ўраджай будучыні». Каб гэта ўчора, дык і сам гаварыў бы: «чалавек-стваральнік», «пабудова новага», «жалезная навала стагоддзяў», «маладая людская жыццёвая радасць». Вясёлая кампанія «ўтварыцелей жыцця на грунце законаў навукі і вытворчасці» нічога не заўважала, і, карыстаючыся момантам, можна было спакойна ўстаць і пайсці, бо ўжо відаць: тое, што ўчора цікавіла і захапляла, цяпер толькі раздражняе. Словы, словы... Толькі памкнуўся падняцца, як цела працяў такі боль, што ад нечаканасці скурчыўся, твар пакрыўся дробнымі кропелькамі поту. Зірнуў спалохана на няўрымслівых шукальнікаў ісціны, але яны былі цалкам паглыблены ў спрэчку, ад якой, можна падумаць, вырашаўся лёс цэлай дзяржавы самае малое. Сядзеў нязручна на сенніку і прыціскаў рукамі жывот, востра чуючы, як боль то мацнее, то слабее, але не праходзіць. Тады споўз на падлогу і прыціснуў

жывот каленам, робячы выгляд, што разбэрсвае заблытаны шнурок ад чаравіка.

У гэты момант у пакойчык уціснуўся, асцярожненька стукнуўшы ў дзверы ■ унутранага боку, гаспадар, рухавы, гаваркі стары ў тоўстай жакетцы і ватніх штанах. Цікаўна азірнуўся, але на яго не зважалі. Прыслухаўся да гаворкі і, зразумеўшы, што да сваркі далёка, далікатна спытаў:

— Сыночкі, можа гарбаты пап'яце? То я мігам прынясу вару.

Спрэчка адразу сышла на нішто. Нехта сказаў задзірыста:

— А што, хлопцы, пап'ямо... чаю?

Абрадаваны, дзядзька Радзівон памкнуўся да дзвярэй, але няўзнак угледзеў Мікалая: той усё сядзеў на падлозе і блытаў-разблытваў шнуркі. Успляснуў далонямі: як гэта ён не прыкмеціў чалавека, якому сімпатызуе, бо гэты Раманоўшчык не такі, як іншыя, і распытае, і паспачувае, і паможа, калі давядзецца! Памкнуўся парукацца і адхапіў руку, раптам занепакоіўся, завойкаў, заківаў галавой, перапалохаўшы астатніх:

— А што ж гэта? А як жа гэта? Чалавеку блага, і ніхто нічога!

Пачуўшы, што Мікалаю сапраўды блага, што баліць нечага жывот, дзядзька Радзівон выскачыў у сваю бакоўку за настойкай, якую ўсё піла яго нябожчыца сястра («Казала, памагае ад жывата»). Тупаў, клапаціўся, як родны бацька (прынёс падушку пад бок, паправіў сяннік), асцярожна распытваючы і адразу ж выказваючы спачуванне. Студэнты, з усіх іх тэорыямі і ведамі, не знаходзілі ні патрэбных слоў, ні спачування, толькі зорылі збянтэжана на Мікалая, бы ён ужо быў па той бок жыцця. А Мікалай супакойваў, кажучы, што нічога страшнага, проста нездаровіцца. Дзядзька Радзівон, выслухаўшы, зрабіў вывад.

— Хвароба — дрэнная штука!

Тупаў нагамі, моргаў вачамі, потым неяк адчайнавесела гукнуў:

— Халера на яго! Жывеш-жывеш, чагосьці чакаеш, а гэта падступіцца яно...— спалохана зірнуў на Мікалая і павярнуў гаворку на нейкага знаёмага яму ўрача, які добра знаецца на ўсялякіх хваробах: — Малады, але мае вялікую практыку. Не кож-

нага ў яго гады дапускаюць рабіць складаныя аперацыі, а ён робіць,— і дзядзька Радзівон тут жа падаў думку пайсці да ўрача.

Ноч Мікалай пракачаўся, то засынаючы, то прачынаючыся: боль у жываце хоць і не быў моцны, але вярэдзіў і не даў заснуць. Толькі пад раніцу сон разабраў яго. Прачнуўшыся, Мікалай адчуў сябе амаль здаровым. Устаў, прайшоўся па пакоі. Спыніўся каля акна. Глядзеў на ўтаптаны снег у двары і ўспамінаў учарашняе, але думкі былі рванымі і непаслядоўнымі. У вачах увесь час стаяў шлях ад Койданаўскага тракту да Каломенскага сквера. Раптам успомніў дзядзьку Радзівона і яго словы: «Хвароба — дрэнная штука». Пакуль чалавек малады, ён не ведае цаны свайму здароўю, думаючы, што гэта назаўсёды, калі ж спахопіцца, то ўжо тады позна. Дзядзька мае рацыю: трэба ісці да ўрача, раз хворы — шукай ратунак. Глядзеў на засыпаныя шэрым снегам бярвенні каля пацямнелага ад часу плота, каторы раз здзіўляючыся, што няма гаспадара — лес сабе пакрысе гніе, робячыся непатрэбнай нават на апал парахнёй, і нікога гэта не трэба. Зноў на язык узышло неадчэпнае: «Хвароба — дрэнная штука». Ляжыць на бярвеннях снег, злятаюцца на вылітыя сярод двара памыі вароны, палохаючы вераб'ёў, скрыгочуць уз'ехаўшы на голы камень, палазы саней, грукаюць капытамі коні, пакрыкваюць прастуджанымі галасамі на іх балаголы, таўкуцца на вузкіх ходніках людзі, некуды спяшаюцца, чагосьці нервуюцца... А ён, малады і энергічны, раптам выбіўся з гэтай агульнай плыні і збоку дзівіцца: куды гэта ўсе спяшаюцца, чаго сумуюць і радуюцца, сварацца і мірацца, на што спадзяюцца і што шукаюць, чаму нічога навокал сябе не бачаць?..

Прыгнечаны неспадзяванай бядой, Мікалай пайшоў у амбулаторыю. Сам не ведаючы чаму, чакаў толькі горшага. Так і гаварыў сам сабе: «Я ж так і ведаў!» А ў хвіліну палёгкі, калі боль адступаўся, спакойна разважаў, што страшная не сама хвароба, але тыя думкі, якія яна выклікае, што хвароба крышыць не толькі здароўе, але замахваецца і на душу чалавека, што ўрач, нават вялікі дока, наўрад ці дабярэ розуму, як усё растлумачыць. А калі дабярэ, то не скажа, бо ён урач, а не душапрыказчык. Дый інакшай быць не можа! Жывы чалавек думае пра жывое, ці дзіва,

што жахаецца ўсяго, што напамінае пра нябыт. Дзіва, калі б не жахаўся! Урач зробіць, што можа, не болей: абслухае, паставіць дыягназ. Урэшце і сам ён, Мікалай, вучаны: «пячайка», «гастрыт», «курч», «язва» — якія яшчэ хваробы страўніка ёсць на свеце?..

Так яно і было: стомлены, у гадах, мужчына загадаў падысці і, спытаўшы прозвішча, пачаў корпацца ў паперах. Мікалай тым часам паслухмяна скінуў на пацягнены жоўтай цыратай тапчан апратку і, сароменчыся свайго змарнелага выгляду, падышоў да стала. За акном нечакана пацямнела, на халодную сінь неба набегла нізкая калматая хмара, замітусіліся ў паветры сняжынкі. Снег неўзабаве пайшоў густа-густа. Спіной чуў цёплы дух, што ішоў ад напаленай грубкі, а нутро трымцела ад холаду. Іван Касікоўскі сказаў бы: «Грэцца трэба з сярэдзіны». За акном, не перастаючы, ішоў снег. Капала вада са скручанага крана цынкавага бачка, што стаяў на мокрым табурэце каля ўвахода. За дзвярамі гулі галасы хворых у чарзе. Добра цяпер на двары! Брысці б гэта сабе па вуліцы, няспешна разглядаць па баках, будучы пэўным у галоўным, што ты здаровы і нішто табе не пагражае, акрамя хіба няшчаснага выпадку, бачыць бы, як на зляжалы пласт жоўтага снегу на вузкім ходніку, на выслізганы да каменя палазамі і шынамі брук, на шырокія цёплыя спіны ламавікоў, на шапкі і плечы прахожых, на голыя сукі дрэў, на дахі гарадскіх камяніц,— на ўсю зямлю падае снег... Снег ідзе недзе і ў родных Цімкавічах: колькі там да іх — вёрст сто нацянькі. З нізкага акна, прыткнуўшыся да халоднага шкла лбом, мабыць, глядзіць на агарод за хатай, як яго засыпае снегам, высокі ссутулены чалавек, бацька Мікалая... Як жа далёка ўсё гэта цяпер! Раптам успомніў, як бацька быў заплакаў, праводзячы яго ў свет... Сціснуў вусны і загадаў сам сабе трымацца.

Урач нарэшце адарваўся ад папер, сказаў падысці і ўсчаў агляд: прымушаў глыбока дыхаць, потым не дыхаць зусім, прысядаць і рэзка ўставаць, вадзіў далонню па жываце, нечакана націскаючы і пытаючы, ці баліць, і ўвесь час пільна ўзіраўся ў вочы. Памкнуўся нешта пісаць, але зноў павярнуўся і злёгку пастукаў Мікалая кулаком па спіне, спытаўшы, ці баліць. Пераканаўшыся як мае быць у сваім дыягназе, пачаў хутка і неразборліва пісаць у разграфлены журнал. На

дварэ тым часам густа валіў снег, і здавалася, што, калі ўглядацца ў гэтую белую кудасу доўга, можна забыцца на ўсё на свеце і на самога сябе са сваім болем і трывогай. Дзелавы выгляд урача супакойваў, бо, калі ўрач не хвалюецца, значыць, нічога страшнага, значыць, ёсць надзея на выздараўленне. Урач, пішучы, зірнуў на яго і сказаў, што можна апранацца. Мікалай яшчэ паспешліва запіхваў за пояс кашулю, зашпільваў гузікі паліто, а ўрач ужо хукаў на пячатку і аддаваў паперку, кажучы:

— Трэба берагчыся...

Бачачы, што Мікалай няўцямна ўглядаецца ў напісанае на паперцы, растлумачыў:

— Трэба класціся на аперацыю. Неадкладна! І так яшчэ ўсё добра абышлося. Магло быць горш. Кровацячэнне спынілася, а то сцёк бы крывёй. Гэта накіраванне ў бальніцу. Ідзіце туды, не марудзячы. Там добрыя хірургі.

За акном вызірнула сонца, і ў яго зіхоткім святле падалі лёгкія і пушыстыя сняжынкі. Мікалай раптам адчуў, як ад вострага паху лекаў закружылася галава і пачаў траціць прытомнасць. Урач падхапіўся з-за стала і пад рукі падвёў яго да нізкага тапчана:

— Паляжыце! Зараз пройдзе...

Сам пайшоў да дзвярэй, паклікаў наступнага. Увайшла пажылая жанчына, цікаўна зіркнула на Мікалая і хуценька пайшла да стала. Мікалай бачыў яе і ўрача, як у тумане, і не разумеў, пра што яны гаварылі. Поўны непарадку ў пачуццях, Мікалай асцярожна ўстаў, адчуваючы млосць у целе, кіўнуў на развітанне ўрачу і пайшоў да дзвярэй. На вуліцы, на свежаку адчуў хутка, як змяняецца настрой. Але цяжка было сказаць, на лепшае ці на горшае. Ногі самі пакіравалі па дарозе дадому. Перш чым нешта вырашаць, трэба крыху акрыяць душой. Маленькі пакойчык у трэцяй ад Заходняга моста хаце на Койданаўскай вуліцы — адзінае месца ў гэтым вялікім горадзе, дзе можна застацца сам-насам.

Ціхата стаяла навокал. На ўсцеленым чыстым і лёгкім снегам бруку не было ніводнага следу. У далечыні вуліцы праехала пара запрэжаных у сялянскія калёсы коней. Гаспадар іх, мабыць, паспадзяваўся на пагоду і цяпер недзе каяўся, што паехаў не на санях. Снег ляцеў з-пад ног бы пух, і ззаду заставаліся шырокія і

круглыя, бы мядзведзь прайшоў, сляды. Снег наліпаў на мокрыя насы чаравікаў, чапляўся за калашыны. Мікалай моцна стукнуў нагой, атрасючы снег, і адразу пашкадаваў: у жываце раптам разлілася гарачыня і ўсё цела абсыпала потам. Хапіў з падаконніка двухпавярховай камяніцы, каля якой праходзіў, жменю снегу, сціснуў у руцэ, чуючы, як сцюдзянеюць далоні і як марудна адыходзіць гарачыня.

А ці не тое самае перажываў чалавек, з якім яго аднойчы звёў выпадак?

Ён ехаў тады з Нясвіжа дадому. Недалёка і адышоў ад семінарыі, як напаткаў балагола, з якім было па дарозе. Той ехаў па нейкай сваёй патрэбе ў Капыль. Час быў позні, і балагол узрадаваўся прапанове хлопца заначаваць у Цімкавічах, у яго бацькоў. Адчайна махнуў рукой, маўляў, дзе наша не прападала, і дакляраваў, што не возьме платы за праезд. Мікалай прыкметна павесялеў — з грашамі было не густа.

У драбінах сядзеў чалавек. Вызваляючы месца неспадзяванаму пасажыру, ён падабраў пад сябе крысо доўгага шыняля і праз увесь час быў хмурны, неахвотна абзываючыся на спробы загаварыць. Твар яго, заўважыў Мікалай, час ад часу крывіўся, мабыць, ад болю. Ехалі па лясной дарозе. Драбіны кідала на карэннях і калдобінах, моцна патыхала цвіллю. Балагол то сунуўся як нежывы, а то ачнуўся — стаў паганяць коней:

— От, не люблю я гэтакай язды — паўзеш-паўзеш!

Чалавек быў адкрыў рот, каб нешта сказаць, але коні рванулі, і драбіны пайшлі ўразнос. Балагол шлёгаў раз-пораз лейцамі і пакручваў пугай: «Фью! Фью!» Мікалай, рады, што едзе дадому, усміхаўся гэтай полеччы-трасусе: «Хадзі, баба, хадзі, дзед...» Учапіўся абедзвюма... 

руч за біла і трымаўся, колькі ставала сілы. Лес часам расступаўся, падпускаючы да дарогі маладыя бярозкі і рэдкія елкі, і тады драбіны каціліся па роўнядзі, часам падыходзіў да самых ступіц, і вось чыркала па пашчапаных ствалах выносістых сосен, і тады трэсла, як у ліхаманцы. Зіркнуў весела на суседа і зніякавеў: той згорбіўся, твар учарнелы, пабялелыя пальцы не адарваць ад біла.

— Што з вамі?

Бліснуў вачамі з-пад капюшона шэрага і доўгага,

да пят, саматканага балахона ездавы і адразу ж адхіліўся назад, нацягваючы на сябе лейцы:

— Тпр-р-ру! — і ўжо спакайней, калі коні супыніліся: — Тпру, каб на вас паляруш!

Абодва спалохана глядзелі, як чалавек, сагнуўшыся ў паясніцы, выпаўзаў з драбін, як прысеў каля кола, прыціскаючы жывот каленам, як хаўкаў, ловячы губамі паветра. Нарэшце аддыхаўся, панура растлумачыў:

— Жывот баліць...

Памкнуўся ўстаць і не здолеў, але не таму, што балела,— не пускаў шынель, на крысо якога наступіў ботам. Устаў, марудна разгінаючыся, быццам чакаў, што цела зноў праніжа востры боль. Скрыва ўсміхнуўся.

— І ты дасюль сядзеў — маўчаў? — здзівіўся балагол.

— Па-твойму, я павінен крычаць на ўвесь лес?

— Сказаць жа ты мог?

— Мог, мог! Што з таго? Што ты мне — рады даў бы, ці што?

— Можа, і не даў бы рады, але ўсё-ткі... Што гэта, братка, з табой робіцца?

— Тое і робіца, што вельмі ж у мяне жывот сарваны.

— Вось яно што!

— Дзіва знайшоў! Хату перасыпаў, бервяно падняў — і гатова! З таго часу не магу цяжкую работу правіць. А пагарачышся, забудзеш за клопатам пра сваю слабіну — потым тыдзень качаешся. Або што цяжкое з'ясі. Як схопіць — свету не бачыш. Скрыгочаш-скрыгочаш зубамі, круцішся-круцішся на адным месцы... Няхай яно нікому добраму! Здаецца, каб на той час прыйшла смерць, дык прасіў бы і маліў бы: «Вось ён я! Бяры мяне хутчэй, адно дай спакой!»

— Ая-я-яй! Як жа ты гэта жывеш? Вучыць цябе, ці што, трэба: калі хворы, то лячыся. Ідзі да дактароў. Яны табе дадуць рады. Будзеш адно дзякаваць потым. Забудзешся зусім, што ў цябе некалі жывот балеў.

— Ат, гаворка! Што я сам не ведаю, ці што!

— Дык чаго ж?..

— Не так усё проста, як здаецца.

— От табе і маеш!

— Страх бярэ... хто яго ведае, як яно будзе? А раптам не вытрымаю?

— От, дзівак! Сам жа кажаш, што калі прыцісне хвароба, дык рады богу душу аддаць, а гэта... дзе дабро, не бачыш...

— А хто яго ведае, дзе дабро, а дзе зло! Адно вядома: жывы — значыць, добра. Гэта табе кожны скажа: «Што ў свеце лепш за жыццё? Чым ты яго заменіш?»

— Але ж чалавек нараджаецца не дзеля таго, каб пакутаваць.

— Сказаў! Каму гэта не ясна? Але калі пытанне стаіць: або ты жывы, хоць і хворы, або мёртвы, і тады табе ўсё роўна? Хто можа паручыцца, што я не сканаю ў іх пад нажом, калі яны будуць мой хворы жывот перастаўляць на здаровы?

— Што гэта ты гаворыш, чалавеча? Паслухаць цябе, дык у бальніцах толькі і робяць, што паміраюць!

— Хіба ж я пра гэта? Ім там усё адно, жыў я буду ці не, і што мяне гэта аднаго не абыходзіць.

— Вядома, яны табе не сваты і не браты. Але ж ты — чалавек! Урач, ён лечыць, а не калечыць.

— А што, калі пакалечыць?

— Зноў ты за сваё! Ніхто яшчэ не чуў, каб каго зарэзалі, такі жывот, як твой, правячы.

— Не, ты скажы, што, калі зарэжуць?

— Ну, нічога! Будзеш тады зарэзаны,— балагол раптам звонка-зычна зарагатаў, і рогат яго сярод начной прасторы поля, куды яны непрыкметна выехалі, уразіў Мікалая. Яму стала непамысна. Здзівіўся і хворы:

— Чаго ты? Табе смешкі!

— От ты думаеш, калі нехта рагоча, то гэта яму заўсёды смешна?!

Лёгкай рыссю беглі коні, мякка каціліся драбіны па дарозе. Тхнула начной сырасцю з поля. Хворы пажвавеў і павесялеў, ахвотна расказваў, што едзе ў вёску купляць каня. Яго цягнула на гаворку пра ўсё, што бачыў: як добра ўзыходзіць ярына, якая цёплая выдалася ноч... А Мікалай слухаў спадарожнікаў, перажываў зноў тое, што адбылося, і было адчуванне, бы зазірнуў у глыбокую студню: жыццё, людзі, свет!.. Хворы тым часам ужо разважаў пра коней, балагол жа, лічачы сябе вялікім знаўцам гэтай справы, звысоку падтакваў або не згаджаўся.

Цяпер усё бачылася іначай: і вялікая ціша навокал у тую ноч, і высокае зорнае неба, і фырканне коней, і



4 Зак. 3574

пасвістванне балагола, і тое, што сядзеў ён высока на козлах перад імі і павучаў, быццам поп з амбона.

Дасюль Мікалай міжволі пазбягаў мітусні цэнтральных вуліц і шукаў зацішак, супакой, адзіноту. Нечакана апынуўся ў Каломенскім скверы. Наперадзе ішлі жулікаваты з выгляду хлапец і дзяўчына, якая, заўважалася, ухілялася ўсяляк ад нахабнага позірку свайго праважатага, а той рассыпаўся перад ёю дробным макам.

Ля ўвахода ў сквер слаба свяціў ліхтар, які, мабыць, забыліся патушыць. На паркан скочыла сініца і тонка ціўкнула. Угледзела Мікалая, узляцела на галінку ліпкі, з якой пасыпаўся лёгкі сняжок. На захадзе над гарадскімі камяніцамі пацямнела — зноў насоўвалася нізкая цёмная хмара, несучы вячэрні змрок. Недзе завыў і адразу сціх сабака. Густа паваліў снег і неўзабаве засыпаў і глыбокія ямачкі ад дзявочых бацікаў, і шырокі размашысты след хлапчыны, што запабягаў перад ёю, і тую мясціну, дзе гэтыя сляды разбегліся ў розныя бакі. Снег у імгненне вока засыпаў і ягоныя лапцяватыя вымяціны ад размоклых чаравікаў.

А на тратуары Савецкай вуліцы — усё роўна жоўтая каша, мноства слядоў. Крычаць рамізнікі, форскаюць коні, час ад часу палохае прахожых праразлівы гудок аўтамабіля, раптам даходзяць да слыху здалёк гудкі паравозаў. Чуецца чыйсьці смех, абрыўкі размоў, грукаюць дзверы дзяржаўных і прыватных крамаў, лавак, майстэрань. У вачах стракацяць крыклівыя шыльды. Некаторыя з «яцямі» і з «цвёрдымі знакамі». Ціхае слова «Кнігарня» здалёк вабіць да сябе. На вітрыне — кніжачкі беларускіх пісьменнікаў, многія з якіх Мікалай бачыў або ведае: у карычневай вокладцы «Спадчына» Янкі Купалы, «Новая зямля» Якуба Коласа, «Пад родным небам» Змітрака Бядулі, «Завіруха» Міхася Чарота, «Песні працы і змагання» Цішкі Гартнага, першы нумар часопіса «Маладняк» з вершамі Чарота і Купалы... Мікалай ужо не адзін раз стаяў перад гэтай вітрынай. І гэтыя кніжкі ён трымаў у руках, перажываючы радаснае хваляванне.

Зноў снежная каша пад нагамі. Зноў стракаты натоўп, шумнае дыханне коней, віск палазоў на голым каменні, ноканне ездавых, рыпанне гармоніка з-за дзвярэй нейкай забягалаўкі. Снег пагусцеў, і сям-там у вокнах дамоў запаліліся агні. Людзі прыбаўлялі кро-

ку, абганялі Мікалая, здзіўлена зазіраючы яму ў твар, спяшаліся насустрач, забягалі ў дзверы камяніц, абіваючы ногі аб парог. Адчувалася, што гэтыя людзі тут, у шуме, садоме, як дома. Дыхалі парай разгарачаныя коні, раскідвалі махнатымі нагамі лёгкі пух снегу.

Мікалай, як і ўсе, востра перажываў змену ў надвор'і, і ў ім расло дзіўнае жаданне пайсці па зямлі, ахапіць яе позіркам, сказаць кожнаму: «Вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у табе тое, чаго ты і сам, можа, не адчуваў». Ён нечакана зірнуў навокал яснымі вачамі, дзівячыся са сваёй уласнай відушчасці,— аднаго позірку на чалавека было досыць, каб сказаць пра яго, хто ён і што. Але ён нікога не асуджаў, а толькі меркаваў пра кожнага. І Мікалай зноў і зноў выпрабоўваў гэта сваё неспадзяванае ўменне чытаць людскія твары, рухі, позіркі, словы: зірнуў на саліднага, у паліто з сіняга бастону з каракулевым каўняром мужчыну, які цяжка ішоў праз натоўп, і ўявіў, што ён думае: «Якое цяперака нашаму брату разгарненне!» А можа, падводзіць рахункі сам з сабой: «Нашто вам што, я ж кажу, ды ў мяне на Нямізе дом, на Ляхаўцы дом і на Серабранцы дом. А гэта значыць, што я тры дамы маю. А раз я тры дамы маю — значыць, я чалавек, а не які-небудзь пасвісцёл». На вочы трапіўся драбнатвары, з палахлівым зіркам, шустры і трапятлівы чалавечак, і Мікалай падумаў: «Абаронца» справядлівасці!» Уявіў, як выказваецца гэты трапятун: «Чалавек, я, можна сказаць, такі, што, як кажуць, соль-хлеб еш, а праўду рэж, і калі дзе што якое, адным словам, дык я тут жа, на месцы, гэтае, і больш нічога!..»

З-за вялікіх вокнаў белага мураванага дома раптам абрынуўся на яго віхор гукаў. Музыка выказвала нястрымнае імкненне чалавечай душы да нечага недасяжнага, чаго, можа, не было, не будзе ніколі. У голасе скрыпкі, падобным да чалавечага, чуліся боль і туга. Фартэп'яна гучала ўрачыста і бадзёра. Два супрацьлеглыя чалавечыя адчуванні змянялі адно аднаго, злучаліся ў нешта цэлае і абвастралі думкі: «Многа бачылася свету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа, зямлі і мала за жыццё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. А чалавек — гэта ж цэлы свет, адна істота — неабхватны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш». Музыка нечакана абарвалася. Скарга не-

вядомага чалавека на жыццё засталася за тоўстай сцяной будынка.

Ноч у бальніцы прайшла ў трывожным сне-паўзабыцці. Не адразу заснуў, доўга варочаўся. Усё муляла нешта: свяціла ў вочы лямпа над дзвярамі палаты, перашкаджаў шорсткі рог коўдры, збілася ў камяк падушка пад галавой, не давалі спакою трывожныя думкі пра заўтра, калі мае адбыцца аперацыя. Заснуў зусім неспадзявана. Але сон быў неспакойны, быццам не спаў, а рабіў нейкую цяжкую работу. Некалькі разоў прачынаўся.

Першы раз прачнуўся, бо здалося, быццам нехта вялізны схіліўся над ім, навальваецца і няма як дыхаць. У спалоху расплюшчыў вочы: у палаце ціха. У шчыліну дзвярэй прабівалася палоска святла з калідора. Шумна пазяхнула дзяжурная сястра: сядзела, пэўна, за сталом і грызла навуку. Даведаўшыся, што Мікалай студэнт, вельмі зарадавалася. Адразу ж паскардзілася, што надта складаная ў медвучылішчы, дзе яна займаецца, навука. Спахапілася, што яму ва універсітэце вучыцца, мабыць, куды цяжэй. Ён жа, збянтэжаны тым, што адбываецца (яго некуды вядуць, і ён падпарадкоўваецца, нешта кажуць, і ён згаджаецца), адно ўсміхаўся. Цяпер Мікалаю хацелася ўстаць і пайсці да яе і ў спакойнай гаворцы забыцца на ўсё.

Другі раз абудзіўся сярод ночы. Сон яшчэ мяшаўся з явай, і ціхія галасы на калідоры трывожылі, ператвараючыся ў мроях у нейкі злавесны шэпт. Расплюшчыў вочы — мроі зніклі. Агледзеў палату: цені, палоска святла ў шчыліне дзвярэй, няясныя абрысы чалавечых целаў пад коўдрамі на ложках, цьмянае неба за акном. Фантасмагорыя, дый годзе! Напішы такое — не дадуць веры. Скажуць: літаратура факта. А патрэбен «жывы чалавек»!

Слаба адсвечвала ў цемры акно. Зорак не відно. Неба нанач, мабыць, акрылася хмарамі. Ціша. Толькі цяжкае дыханне суседзяў па палаце. Нехта адчыніў дзверы на ўваходзе ў калідор, і ад раптоўнага руху паветра пашырэла шчыліна ў дзвярах палаты. Пачуліся галасы, аж можна было разабраць словы. Даходзіў да слыху сцішаны шэпт і смех (той, хто смяяўся, мабыць, прыкрываў далонню рот), часам грукаў табурэт, шоргалі ногі па падлозе. Азваўся гудок паравоза на Брэсцкім вакзале, гэткі моцны, што здавалася: побач.

Яго падтрымалі трывожныя гудкі па ўсёй чыгунцы, ажно да Віленскага вакзала. Загулі заводы. Пачалі ўсхопліванца хворыя, не цямячы спрасонку, што здарылася. Пад акном прабеглі ў горад людзі, перамаўляючыся на хаду:

— Рэпетыцыя трывогі!

Хворыя, хто вылаяўся, хто засмяяўся, пакрысе супакойваліся, кладучыся зноў спаць. Гудкі даўно сціхлі, але на вуліцах было ажыўлена. На калідоры таксама было шумна: хадзілі з палаты ў палату хворыя, самі не ведаючы чаму, радуючыся начному здарэнню. Дзяжурныя ўрачы і сёстры былі памяркоўнымі і не выгаворвалі за парушэнне рэжыму, але неўзабаве сталі пакрыкваць на хворых, што не ведалі меры і блыталіся па калідоры. Мікалай абыякава слухаў гаворкі хворых і ўяўляў, як недзе кляне тых «польскіх шпіёнаў», з-за якіх людзям няма спакою, яго гаспадыня, Агаф'я Пратасаўна Мухаморава, як, мабыць, радуецца прыгодзе дзядзька Радзівон, не гэтак, пэўна, прыгодзе, як магчымасці пабыць сярод людзей,— стаіць недзе на вуліцы, каля сваёй хаты, і зачэпліваецца з гаворкаю да кожнага прахожага, прагна вылоўліваючы падрабязнасці, захапляючыся, здзіўляючыся, войкаючы і айкаючы. Хлопцы пераказвалі, што дзядзька Радзівон неяк вельмі хваліў яго: «Я такі адразу ўбачыў, што гэты Раманоўшчык — людскі чалавек! Адразу ўбачыў, як адно паглядзеў на яго: ну што яму я! Як той казаў, дзяцей разам не хрысцілі, кантрактаў разам ніякіх не рабілі, а от бачыш ты... Ну, дзе ж гэтакі чалавек ёсць? От бо ёсць людзі на свеце! От бо чалавек, от бо чалавек!» Што ж, каму захочаш спадабацца, спадабаешся! Дзядзька Радзівон запаў у вока Мікалаю таксама не так сабе.

Неба за акном увачавідкі святлела. Надыходзіў новы дзень, поўны вестак. Ціхая плынь сну непрыкметна ўцягвала ў сябе. Трэба было выспацца, супакоіцца перад тым, як класціся на аперацыйны стол. Зірнуў, кладучыся на бок, на начное неба за акном, і душа напоўнілася адчуваннем велічы і глыбіні сусвету.

На калідоры пачуўся шум, тупат ног, галасы. Хворыя хуценька разыходзіліся да сваіх ложкаў і ўкладваліся. Мікалаю, які глядзеў на іх непаразумела, растлумачылі:

— Ранішні абход!

Расчыніліся дзверы, і ў палаце стала цесна ад людзей у белых халатах. Сусед, малады, вясёлы хлапчына, падміргнуў Мікалаю: маўляў, во як клапоцяцца пра наша здароўе! Паперадзе ішоў галоўны ўрач. Спыніўся каля ложка, на якім ляжаў ціхі, быццам яго і не было ў палаце, стары,— гэта ён учора, забыўшыся, што не адзін у палаце, раптам дрыготкім галаском, але чыста і хораша вывеў: «За Дунаем стаіць хатачка...» Налёгшы жыватом на біла ложка, галоўны спытаў:

— Што, дзеду, чутно?

Стары заморгаў вінавата вачамі і хрыплым голасам прамовіў:

— Ат, гаворка! Што ў старога можа быць?! От, то лепшае, то горшае.

— Будзем спадзявацца, што пойдзе на лепшае.

— Ды ўжо ж!

Перайшоў да наступнага ложка.

Мікалай затоена чакаў сваёй чаргі.

— Раманоўскі Мікалай Карлавіч,— спяшаючыся, чытала сястра з гісторыі хваробы,— дваццаць тры гады, студэнт, язва страўніка, ускладненая форма, вострае кровацячэнне, лячэнне — фізіялагічны раствор, глюкоза...

— ...на сёння назначана аперацыя,— дадаў галоўны ўрач. Зірнуў на белы твар хлопца, з ледзь прыкметнымі здалёк кропелькамі рабаціння, наткнуўся на ягоны насцярожлівы позірк і ўсміхнуўся. Падышоў, прасунуў руку пад коўдру, дакрануўся да ног, ці халодныя. Сеў на край ложка, спытаў: — Галава кружыцца, калі робіш рэзкі рух? Пазяхаецца? А то раптам зябка стане? У роце суха? Пакажы язык. Смага мучае? Шум у вушах стаіць?

Мікалай на ўсе вочы глядзеў на таго, ад каго цяпер залежала ўсё, і адчуваў, што сувязь паміж імі іншая, чым толькі сувязь таго, хто лечыць, і таго, хто шукае ратунку: чалавек глядзеў на сабе падобнага і намагаўся зразумець тое, што не паддавалася розуму.

— Сястра, падрыхтуйце хворага да аперацыі,— загадаў галоўны ўрач і дадаў: — Аперацыя ў дзесяць гадзін,— зірнуў на гадзіннік, выцягнуўшы яго з маленькай кішэнькі пінжака пад халатам, і цвёрда паўтарыў — назваў той рубеж, да якога ішоў з пострахам у душы Мікалай: — Так, у дзесяць гадзін!

У свядомасці Мікалая мільгнула думка: «Так хутка? Праз нейкую гадзіну? Але ж я не... гатоў!»

Галоўны раптам памякчэў да яго — спытаў:

— Студэнт?

Мікалай кіўнуў галавой.

— Паэт?

Павёў няпэўна плячамі.

— Ведаю, ведаю! У вас там усе, як адзін, паэты. «Маладняк»! — нечакана прадэкламаваў:

Тут учора бура выла нам.
Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток,—
Стары бор ■ карэннем выламан.
Сумны шум яго навекі змоўк.
А сягоння — чутны водгукі:
— Нам расці — дык мала дня!
Толькі тут узняцца мог такі
Волат лес — наш «Маладняк!»

Азірнуўся на калег, потым на Мікалая і сказаў:

— Міхась Чарот!

— Ён самы,— усміхнуўся Мікалай.

— Імя Мікалая Раманоўскага я, прызнацца, яшчэ не сустракаў у друку, але, спадзяюся, сустрэну ў хуткім часе. Дый тое сказаць — усе вы пішаце пад псеўданімамі: Гартны, Вольны, Пільны...

— Чорны,— дадаў у тон яму Мікалай.

Галоўны паглядзеў дапытліва ў вочы: жартуе ці не? Не згадзіўся:

— Э, не! Не адпавядае гістарычнаму моманту,— устаў з ложка, матнуў галавой: — Гэта ж трэба — Чорны! А гэта ты чуў: «Мы смела магутнаю сілаю разгонім жыцця свайго змрок»? Словы таго ж Чарота — вашага правадыра.

Абход ішоў у суседніх палатах. Чуўся бадзёры голас галоўнага ўрача, які радаваўся, што дзень добра пачаўся, а гэта значыць, што і скончыцца павінен добра.

Хворыя памаўчалі нейкі час, як бы абдумваючы, што адбылося. Парушыў цішу шчупленькі, вёрткі, быццам вавёрка, драбнатвары дзядок з рэдзенькімі вусікамі і бародкаю. Нягледзячы на тое, што ў яго пасля дзвюх пакутлівых аперацый засталося толькі трэць страўніка, дзед выдаваў сябе за адчайдушнага чалавека: «Ат, колькі таго жыцця!», «Ліха перамелецца — дабро будзе», «Лепей жартаваць, чымся гаварыць». Ён

і тут знайшоўся першым. Пашоргаўшы сюд-туд па палаце, паплюскаў чырванаватымі павекамі і сказаў:

— З разумным чалавекам — лёгка, а з вясёлым — весела. Другі на яго месцы і гаварыць бы з табой не стаў. А гэты ведае: з людзьмі трэба па-людску. Ты, кажа, паэта, але ж і я таксама не лыкам шыты. Так ці не, студэнт?

Замест Мікалая адказаў худы пануры мужчына (яго ложак знаходзіўся акурат насупраць Мікалаевага):

— Цяпер такіх днём з агнём не сышчаш. Зводзяцца. Усё больш стрыгункі розныя навокал таўкуцца. Што ўжо што, укол зрабіць іншы не можа! Або не пападзе куды трэба, або пападзе ў сколатае на сіта месца.

— Галоўны, ён сваё дзела ведае,— зноў падміргнуў Мікалаю яго малады, вясёлы сусед.— Ён табе гэты твой жывот вырабіць на ляльку. Будзеш глядзець і не ведаць: той гэта жывот ці другі?

Гаворка памалу ўлегвалася, кожны заняўся сваім, і Мікалай з палёгкай уздыхнуў: яму хацелася пабыць сам-насам. Думаючы пра словы таварышаў па няшчасцю, ён раптам успомніў цімкаўскага фельчара Максіма Грынюка, цікаўнага, вясёлага, трапятлівага чалавека, да якога людзі ішлі ахвотней, чым да мясцовага доктара. Так і казалі: «Доктар панаваты, а фельчар — свой чалавек». Грынюк нападпітку ці выдумаў, бо ведалі яго як неверагоднага фантазёра, ці праўду сказаў, бо адстайваў справядлівасць заўсёды і ўсюды, што праходзіў практыку ажно ў Германіі, будучы памочнікам нейкага знанага на цэлы белы свет прафесара. Мабыць, такі быў, бо ведаў нямецкую мову — выгаворваў хутка, як адно слова, нейкую доўгую незразумелую фразу. У Грынюка быў адметны спосаб лячэння: «Рогатам і вясёлай развагай,— казаў ён,— я заўсёды падлечваю сваіх хворых, бо калі ў хворага цёмны настрой, то ніякія парашкі яму не памогуць. Калі на душы ў яго ляжыць магільны камень, то ніякі магнезіум-сульфурыкум не дасць рады, нават калі яго змяшаць з рыцынай і пасаліць». Але Грынюк не толькі смяшыў. Хто-хто, а ён ведаў цану ўсяму на свеце. Жонка яго была нездараўчаная, хварэла цягам доўгія гады на сухоты. Сын яго мала не дзесяць год душыўся кашлем: немцы ў першыя дні вайны атруцілі газам. Сам жа ён ацярэбліваўся ад хвароб з дапамогай чысцейшага медыцынскага

спірытусу. Але меру ведаў. І наогул лічыў, што чалавек не павінен выходзіць за межы натуральнага: інакш самыя лепшыя лекі стануць атрутай. У Грынюка, казалі цімкаўцы, лёгкая рука. Ён добра знаўся на хваробах і часцей за ўсё хутка ставіў дыягназ, апавядаючы тым часам пра цімкаўцаў. Заўсёды з гэтымі людзьмі нешта здаралася (у тых, у каго ўсё вядома наперад і ідзе сваім натуральным шляхам: зіма-лета, зіма-лета!), і заўсёды яны выказвалі вялікі досціп і немалую рызыку (такія лагодныя і ціхія, далікатныя і спакойныя дзядзькі і цёткі!). Цімкаўцаў Грынюк вызнаваў за самых вясёлых, разумных і добрых людзей у свеце: «Што ты думаеш, тут табе збор які ці навалач з усяго свету? Тут усе самыя сталыя людзі. Цімкаўцы! Справядлівыя, добрыя, з праўдай у сэрцы і з розумам у галаве. Гэта ж цімкаўцы!..»

Але ўсё гэта — роднае, цімкаўскае — так далёка цяпер! Мікалай ускінуў на плечы бальнічную куртку, сунуў ногі ў разношаныя тапкі і ўстаў да акна. Вачам стала балюча ад нясцерпнага ззяння снегу на бальнічным двары. Пасярод двара стаяў аўтамабіль «хуткай дапамогі», доўгі і няўклюдны. Санітары некага неслі на насілках. За імі ішла ў тоўстым паліто на ваце і цёплай ваўнянай хустцы жанчына, мабыць, урач. А можа, хто з блізкіх хворай. Пярэдні санітар падчапіў наском бота і адчыніў дзверы, якія адразу ж пачалі зачыняцца, і хворая, каб неяк апярэдзіць удар, падняла з-пад старэнькай дзяружкі кволую, як не дзіцячую, жоўтую руку. Але жанчына, што ішла ззаду, запабегла наперад і прытрымала дзверы.

Пад таполямі паўз мураваную агароджу тоўпіліся нейкія малыя прыбудоўкі. Вочы адразу вылучылі дзіўную будыніну, глухія сцены якой хавалі ў сабе нешта такое, што не трэба бачыць жывому чалавеку. Гэта быў морг. Прыхіліўшыся да сцяны, стаяла жанчына. Вострыя плечы яе раз-пораз уздрыгвалі ад сцішанага рыдання. Мікалай са страхам сачыў за тым, як нейкі стары, год пад семдзесят, што чэпаў сабе да варот, і ў самой яго хадзе было нешта гуллівае, памкнуўся было да жанчыны. Пэўна ж, з добрымі намерамі. Але, мабыць, апамятаўшыся, спыніўся і пайшоў сваёй дарогай.

Душа Мікалая ў гэты час была вельмі чулай да чужога болю. Ён спачуваў кожнаму, хто такі самы, як ён. Пастаяўшы каля акна, Мікалай выйшаў на калідор.

Тупалі ў абодва канцы рухавыя сёстры. Праходзілі ціхенька, бы цені, нянечкі. Звінеў шкляны посуд. Востра пахла эфірам. Каля сцяны на лаўцы для наведвальнікаў Мікалай убачыў, пэўна, блізкага да канчатковай папраўкі чалавека, пра якога чамусьці думалася, што ён вайсковец, хоць на ім быў такі ж самы бальнічны халат, шыты невядома на каго. Прыпёршыся спіной да сцяны і закінуўшы галаву, ён весела азірнуў жанчын і нешта ўпаўголасу выспеваў, пачынаючы штораз заліхвацкім «і-йех!». З дзвярэй палаты, каля якой праходзіў Мікалай, нечакана выйшаў маленькі хлопчык у тмы жа нягеглым бальнічным халаце, з-пад якога мільгалі босыя пяткі. З палаты пачуліся дзіцячыя галасы, цененькія, жаласлівыя. Хлопчык зірнуў на Мікалая, і ў вачах яго Мікалай знайшоў жывое здзіўлены і недзіцячы смутак. Ён падміргнуў хлопчыку, а той чамусьці спалохаўся, хутчэй павярнуўся і пабрыў па сваёй справе, ляпаючы вялікаватымі на яго ножкі тапкамі. Мікалай пачуў, як зайшлося, занібела сэрца. «А дзіця тое ў цябе! Яно аж праз сэрца тваёю крывёю пройдзе, пакуль ты яго выгадуеш...» — успомніў ён бацькава.

Было дзве хвіліны адзінаццатай, калі сястра прывяла Мікалая ў аперацыйную, ярка асветленую сонцам. Яна падтрымлівала яго пад локаць, але, уваходзячы ў залу, Мікалай вызваліўся і ўвайшоў сам. Сонечнае святло, неба за акном, людзі ў пакоі, страшны стол пасярэдзіне, белы таз пад ім, столік на калёсіках з нікеляванымі інструментамі, вытаптаная падлога навокал стала,— усё поўнілася асаблівым сэнсам. Галоўны ўрач слухаў, што яму даводзіў хуткім шэптам асістэнт. Сёстры стаялі, гатовыя выканаць усё, што ад іх патрабуюць. Воддаль, каля сцяны, бліскалі вочкамі на ўрачоў і на Мікалая практыканты — маладзенькія дзяўчаткі. Галоўны ківаў галавой, слухаючы памочніка, і ўважліва, як здалося Мікалаю, азіраў усіх, быццам правяраў, ці адчуваюць людзі важнасць моманту, і калі пачуцці і думкі ўсіх, хто быў, дасягнулі найбольшай вастрыні, падаў знак пачынаць.

Сястра, што прывяла Мікалая ў аперацыйную, выціраючы белым вафельным ручніком рукі галоўнаму, неспадзявана для самой сябе ўздыхнула. Не ў час і не да месца. Трэба было бачыць, як сярдзіта зірнуў на яе галоўны. Ажно Мікалаю стала шкада яе. Ён тужліва

паглядзеў на сіняе неба за акном, на сонечнае святло на пафарбаванай і ўжо вытаптанай падлозе — быццам развітваўся. Лёг паслухмяна на стол. Ніякавата ўсміхаўся, быццам прасіў прабачэння ва ўсіх, што даў клопату. Супакоена ўбачыў, што маладзенькая сястра, з якой учора пазнаёміўся, самая мілая і блізкая сярод усіх, стала каля яго галавы. Асістэнт паклаў на ногі яму шырокі рэмень і зацягнуў, прывязаўшы да стала. Мікалай спачатку пабялеў, пасля чырвань выступіла ў яго на твары. Пачуццё нязгоды запознена выбухнула і адразу апала. Неставала паветра, і, здавалася, прычына таму рэмень, які пераціснуў ногі. Паварушыў нагамі.

— Спакойна, спакойна,— сказаў асістэнт, і Мікалай, сам не ведаючы чаму, адчуў да яго непрыязь. Убачыў спакойны твар сястры. Яна, бы ў змове была з ім, кіўнула галавой.

Пакуль ішла падрыхтоўка да аперацыі, сястра адышла ў куток пакоя. Мікалай сачыў за тым, як яна здымала з прымусу нейкую малую бліскучую пасудзіну, і чакаў, калі яна зноў падыдзе. Шапнуў:

— Пісьмо ляжыць пад падушкай... І адрас на ім на імя Карла Раманоўскага... Бацькі майго... От і ўсё, больш я не буду вас непакоіць!

У яе заблішчэлі вочы, і яна, нічога не сказаўшы, кіўнула галавой.

На твар паклалі марлевую павязку. Мікалай уздыхнуў і пачуў, як у носе, у горле стала прыемна-халаднавата. Закружылася галава. Вочы заслаў туман. Усё расплылося, шалёна ўзвіхрылася: ён апынуўся раптам высока-высока над зямлёй, ажно скура на спіне сшэрхла ад жаху. Прамільгнула думка, што, мусіць, гэтак і памірае чалавек. Раптам пачуў — як не з неба:

— Раманоўскі, лічыце! Раз, два, тры...

Далічыў да дваццаці, адчуваючы, як з кожнай лічбай усё цяжэй лічыць. Перад тым, як усё знікла, пачуў: у нізе жывата стала горача, быццам кіпнем аблілі. Здалёку ішоў голас:

— Лічыце, а не, дык будзем рэзаць без наркозу...

Усміхнуўся: «Ведаю я вас! Ужо рэжаце, а кажаце...»

У выразе яго твару было нешта такое, што нагадвала стомленага за доўгі летні дзень гаспадарлівага селяніна.

Ачнуўся Мікалай праз дзве гадзіны. Думак не было, а толькі адчуванне, што ён знаходзіцца невядома дзе, ці дома задрамаў надвячоркам, ці, прайшоўшы колькі баразён за плугам, на мяжы прылёг. Вочы, звыклыя да цемры, калола зыркае святло. Ён жа, спутаны сном, не меў сілы ані адвярнуцца, ані папрасіцца. Сон, аднак, быў кароткі. Гарэла полымем рана на жываце, і «холад» — загорнуты ў ручнік лёд — не сунімаў болю. Мікалай то падаў у бяспамяцтва, то вяртаўся на свет божы, штораз блытаючыся, дзе ён і што з ім. Здавалася: на двары вясна, сіняе, высокае неба, яркае сонца, шумлівы капеж, вясёлыя твары... А ён, кволы і схуднелы пасля хваробы, выбраўся першы раз з цёмнай і нізкай хаты і сядзіць на прызбе, як стары дзед. Дымяцца на сонцы саламяныя стрэхі, блытаецца навокал хлява з камякамі прыкарэлага гною на баках карова, асядае са стогнам снег на агародзе, праступаюць, бы рэйкі на чыгунцы, сляды ад палазоў, чарнеецца глыбака ў снезе лісток з яблыні. Каля хаты капошыцца заклапочана высокі, пагорблены ў плячах чалавек у рыжым палапленым кажусе — ладзіць калёсы, потым пільна азірае саху і барану, выносіць з хлява збрую, ад якой дае ў нос сырыцай і конскім потам. У хляве гучна ўздыхае конь і грукае капытамі. Бацька чуе гэта і радасна глядзіць на сына. Пакрыквае незласліва на каня:

— А каб на цябе ваўкі, як ты хвіліны не ўстоіш на месцы!

Высунулася кастлявая конская морда, з-пад зблытанай чорнай грывы з саломінкамі і павуціннем у ёй бліснула глыбокае, як студня, вока, у якім адлюстравалася і сіняе неба, і высокае сонца, і шэры снег, і дымныя ручаі на двары, што цурчаць, збягаючыся да вялікай, ад плота да плота, лужыны на вуліцы, і гаспадар, ад якога ідзе нейкі канапляна-тытунёвы пах, і Мікалай, ад якога непрыемна патыхае лекамі. Шэры пашараваў бокам аб старыя дошкі прачыненых дзвярэй, пацягнуў у сябе са свістам паветра, пачуў густы водар вясновага ажыўлення навокал, выбраўся з хлява і, растапырыўшы ногі, пачаў абнюхваць мокрую зямлю, зацярушаную саломай і сенам. Раптам раздзьмуў ноздры, махнуў хвастом і пабег паволі дваром на вуліцу. Спыніўся каля веснічак, косячы вокам на гаспадара, чаму той не крычыць.

— Фюй-ф'юць!

Конь выбег да лужыны і, выцягнуўшы шыю, доўга піў, потым прабег да суседавай хаты, але ці з непрывычкі, ці ад старасці хутка стаміўся і пайшоў паволі.

Вось табе і маеш! Гэта ж не вясна на двары, а адліга! Так востра ўсё перажывалася — пахі, святло, цеплыня... Захацелася, як у спёку, піць. Піць, піць, пі-іць! О, як ён доўга будзе піць ваду, калі дарвецца, са студні, адчуваючы губамі слізкі край старога драўлянага вядра, з крыніцы, упаўшы перад ёю на калені, адчуваючы, як макрэюць яны ад вады, што праступае з глебы, з вядра, што стаіць у хаце на лаве, узяўшы яго аберуч і падняўшы перад сабой, з халоднага паліванага збанка, дастаўшы яго з ценю лазовага куста і выдзьмухаўшы сянінкі, са звычайнай шклянкі, што стаіць каля бачка ва універсітэцкім калідоры... Мікалай памыляў сасмяглымі вуснамі, не могучы іх расклеіць. А між тым «піць-піць» стаяла ў вушах. Зірнуў за акно і ўбачыў таго, хто паманьваўся з ім. З галінкі на галінку таполі перад акном скакаў мітуслівы верабейка. Але ў думках зноў усё змяшалася...

Мікалай уваходзіў у двор трэцяй ад Заходняга моста на Койданаўскай вуліцы хаты. Ішоў міма зваленага пад плотам дрэва, якое слаба пахла жывіцай і гарэлай карой, міма грушы-дзічкі, міма застаўленага кухоннай драбязой акна, што выходзіць з пакоя гаспадара. Дарэчы, такога самага кватаранта, як і ён, Мікалай, бо хата належыць старой Гарбузісе, якая жыве недзе ў горадзе, а гэту хату здае сям'і машыніста Мухаморава, той, у сваю чаргу, выдзеліў адзін з двух пакойчыкаў Мікалаю. Платай быў пуд мукі ў месяц. Муку прысылаў са знаёмымі балаголамі бацька, і яе адразу, каб не было спакусы, аддавалі Гарбузісе, нявесела жартуючы:

— От, каб гэты пуд мукі ды неяк не аддаць! От бы мы тады папаёдалі заціркі!

Раптам Мікалай спыняецца: пад ногі яму зваліўся шэры верабейка, акурат такі самы, як за акном на галінцы таполі. Нецярпліва падскокваў, палахліва адлятаў на колькі крокаў і зноў — скок-скок — набліжаўся.

— Прыляцеў, мой гараджанін,— вітаў яго, як заўсёды, Мікалай і выварочваў кішэні, вытрасаючы хлебныя крошкі, карміў і прыгаворваў: — Адно глядзі не ўскоч у вока Гарбузісе! Гэта, братачка, нэпманіха, не

пашкадуе ні цябе, ні тваіх вераб'янятак, спора як бач. А не, дык прымусіць плаціць даніну, не паглядзіць, што з цябе няма чаго ўзяць. Ого, гэта баба яшчэ дарэвалюцыйнага вырабу! Сваёй выгады не ўпусціць. Гірша Дрэйзін супраць яе — драбната. А ўжо такога, як ён, прайдзісвета наўрад ці сышчаш! Ого, братачка!

Мікалай пачуў жаласны піск: гэта яго шэры сябра паляцеў далей шукаць спажыву. Але ў свядомасці ўстаў іншы малюнак. Восень. Птушкі ляцелі ў вырай. Адна птушка далася жоўтымі грудзьмі ў іржавы дрот, які павіс над полем на старых падгнілых слупах, і звалілася долу. Птушкі праляцелі, пакінуўшы яе адну. І вось брат Юрка (ён якраз баранаваў поле) падабраў яе і прынёс дадому. Тры дні канала птушка. Крык яе рваў душу. Маці, гледзячы на яе пакуты, плакала, і слёзы цяклі па твары. Хацелася стаць перад маці на калені. Тады не пасмеў, а цяпер позна...

Ачнуўся ад халоднага дотыку нечай рукі. Пачуў голас сястры:

— Раманоўскі!

Расплюшчыў вочы і ўсміхнуўся: побач, на табурэце, сядзела маладая сястра. Пах нагрэтага на сонцы палыну, які ішоў ад яе, выклікаў у памяці малюнак восеньскай мяжы, на якой ён адпачываў пасля таго, як зрабіў некалькі свежых баразён плугам. А яна нахілілася блізка і па-змоўніцку шапнула:

— Ну што, будзем пасылаць пісьмо?

У яго на твары было непаразуменне, і дзяўчына ўдакладніла:

— Ды тое, пра якое вы гаварылі перад аперацыяй.

Зірнуў уважліва і ўбачыў у ёй ужо не проста маладую дзяўчыну, наіўную студэнтачку, якой можна лёгка захапіцца, а як бы сваю старэйшую сястру, чулую, сур'ёзную жанчыну, якой мала год, але яна шмат ведае пра жыццё. І адразу ўсё стала на сваё месца: у спробе быць блізкай ён ужо бачыў вялікую жаночую чуласць і спагаду. Сказаў:

— Не, не будзем пасылаць.

Паміж імі ўсталявалася добрая згода. Ён востра адчуваў увесь час, што яна побач. Сястра неўзабаве пайшла, а ён думаў пра яе, потым пра дзяўчат, якія яму некалі падабаліся і пакінулі след смутку ў душы. Смутак гэты быў адмысловы і выяўляў у сабе нешта большае, чым толькі прагу кахання і шчасця.

Высока ў небе, ясным і сінім, былі раскіданы кучмы аблокаў. Здавалася, нерухомых. Зірнуўшы праз момант, убачыў іх ужо на іншым месцы. Упарадкоўваліся, уваходзілі ў свае берагі пачуцці, і расло жаданне, адваротнае таму, што было надоечы, жаданне моцных зыкаў, бурных размоў, вялікай, разлічанай на ўсё жыццё, справы. Прыслухаўся да размовы хворых, што вярнуліся з вуліцы ўзбуджаныя і радасныя. Вясёлы дзядок гаварыў худому панураму мужчыну:

— Чуеш, братка, ускарчаваў я з жонкаю край лесу каля свайго поля. Які там лес — гнілыя пні ды кусты. Але папацець давялося. Думаю пасеяць на тым месцы ячмень. Кажуць, павінен добра расці на новым месцы.

— Дык што з таго?

— Як — што?! Дай адно акрыяю! Прыеду дадому, узару гэту аблогу, засею і — будзем жыць. Будзем жыць, а як жа інакш!

Мікалая, які ўважліва слухаў гаворку, ахапіла радаснае адчуванне блізкасці да гэтага чалавека, якое, можа, і ёсць самае важнае, каб поўніцца шчасцем. Гледзячы на ўзрушаны, вясёлы твар дзядка, які ўжо заўважыў, што хлопец ачнуўся, Мікалай думаў пра людзей, якія ведаюць, што такое жыццё, бо іх радуе ўсё навакольнае: зямля, лес, гусі на поплаве, трэскі каля дрывотні, замурзаныя дзеці ў хаце за сталом, каса, што тырчыць з-пад саламянай страхі, сама страха, парослая пластом зялёнага імху, вясёлы смех жанчын, што сышліся на вуліцы... Зусім неспадзявана ўспомніў, як пісаў дома, схаваўшыся ад староннягa вока ў цёмнай каморцы ў сенцах, пры кволым святле свечкі, на перавернутай уверх дном сяледаўцы, як потым пасылаў у белы свет бы ў капеечку, як вясной гэтага года «Савецкая Беларусь» адно за адным надрукавала апавяданні «На граніцы» і «На варце». Вядома, радаваўся, але не так як чакалася. Не таму, што прырабілі канец апавядання «На варце»,— нейкае цьмянае незадаволенне не давала спакою: словы не выяўлялі тое, што было сапраўды на душы. Не, пісаць трэба інакш. Або зусім не пісаць. Прага вучыцца ўзнікла сама сабой. Так думаў ён яшчэ паўгода назад. Так, яго зброя — пяро. Пакуль жыве, будзе дзяўбці пяром камень. Абы пяро трывала. Але напісанае дасюль яго на самай справе не задавальняе. Напісана прыхваткамі, саматужна. Хіба толькі пару сказаў можна лічыць мастац-

кімі, і вырваліся яны зусім нечакана з-пад пяра. Спачатку памкнуўся выкрасліць, бо не адпавядалі, як яму падалося, тону строгасці, цяпер бачыць, наўмыснай. Пашкадаваў, а потым, пачытаўшы ў газеце, пахваліў сябе за тое, што не асмеліўся крэсліць. Ён яшчэ не ведаў самога сябе: словы стваралі настрой прыўзнятасці, урачыстасці. «Поле — шырокае, дзіўна-харошае — зацiхла і дрэмле, уздыхаючы калі-небудзь шэптам зялёнага жыта. Неба — высокае, сіняе — вісіць над полем і пазірае ўніз бліскучымі вачыма-зоркамі...»

А ўвогуле яму было сорамна тады прызнавацца сястры Машы, што Кузьма Чорны — аўтар апавяданняў «На граніцы» і «На варце» — гэта ён сам. Між тым апавяданні ёй спадабаліся, адно толькі здзівіла, чаму брат падпісвае творы так дзіўна: Кузьма Чорны. Ён доўга тлумачыў, але сястры даволі было таго тлумачэння, што, перабіраючы ў памяці вядомыя літаратурныя псеўданімы (Горкі, Бедны, Вясёлы, Вольны, Маёвы, Чырвоны...), Мікалай абраў прозвішча дзеда Міхала Парыбкі-Чорнага. Слова «Чорны» нагадвае яму пра самыя звычайныя і неабходныя ў жыцці рэчы: чорную раллю, чорны хлеб, чорную работу, чорныя парэпаныя рукі працаўніка, чорнае чарніла, якое ўпадабаў, чарнавікі, якія папярэднічаюць чыставікам. Імя «Кузьма» таксама ўпала ў вока не так сабе: слых беларуса ўспрымае яго як нешта простае і натуральнае. Адно Мікалай ведае і ведаў пэўна: праца, толькі праца, вялікая, цяжкая, чорная дазволіць здзейсніць задуманае, ускарчаваць, перабраць па пясчынцы, узараць аблог, які не акінуць вокам. Як кажуць у Цімкавічах: чаго вочы не згледзяць, тое рукі зробяць.

Спытаў у вясёлага дзядка і таго панурага мужчыны, ці няма ў каго паперы. Аловак у яго ёсць. Дзядок адразу ж вызваўся па сваёй ахвоце схадзіць да сястры: не можа таго быць, каб у яе не знайшлося для такога хлопца ліста паперы! Неўзабаве прынёс не шматок — цэлы сшытак і ўрачыста падаў Мікалаю. Пайшоў да свайго ложка, далікатна не спытаўшы, навошта яму патрэбен той сшытак. На цвёрдай абалонцы сшытка Мікалай прачытаў: «Справа». Разгарнуў сшытак і на зеленаватай шурпатай старонцы, пакрэсленай на графы «прозвішча, імя, імя па бацьку», «прыбыў», «выбыў», «на што хварэў», вывеў буйна, чытабельна: «Кузьма Чорны. Будзем жыць. Апавяданне».

## X

### 26 МАЯ 1926 г.

Сонца павярнула на лета. Усталявалася ціхае і цёплае надвор'е. За парканамі на Прыбярэжнай вуліцы, кудою штораніцы ішоў, не спяшаючыся ды разглядваючыся, Мікалай Карлавіч, ажно буяла ўсялякая расліннасць. Мікалай Карлавіч звычайна прыходзіў у рэдакцыю «Беларускай вёскі», якая размяшчалася на Савецкай, у першай палавіне дня, рыхтаваў чарговы нумар газеты, разбіраў пошту, прымаў шматлікіх наведвальнікаў, быў вясёлы і гаваркі. Недзе пад абед ён прыкметна спакайнеў, станавіўся задумёным, болей слухаў, чым гаварыў, а неўзабаве ішоў дамоў, дзе на стале ляжаў рукапіс пачатага рамана «Сястра», незавершаныя апавяданні, п'есы, нарысы, артыкулы. Але сёння ён быў задумёны ўжо з самае раніцы: пасля абеду мелася адбыцца пасяджэнне ЦБ «Маладняка», на якім будзе разглядацца падпісаная ім і яго сябрамі заява аб выхадзе з арганізацыі.

Мабыць, таму Мікалай Карлавіч быў такі нязвыкла нешматслоўны, калі ў цесны пакойчык, дзе стаялі два сталы і два крэслы пры іх, уціснуўся ўвесь нейкі натапыраны і мітуслівы юнак у вялікаватай на яго гімнасцёрцы, падперазанай шырокім рэменем. Пакуль, бедалага, знайшоў, распытваючыся ў людзей, рэдакцыю ды ўзышоў на трэці паверх, то ўспацеў: васьміклінковая кепка на яго галаве была ссунута на патыліцу, а рыжыя пасмы прыліплі да ўспацелага лба. Вірлавока-нахабна ён уставіўся ў твар Мікалая Карлавіча, як бы прымерваўся да яго. Як у большасці рыжых, у юнака незвычайна белая скура. Ткнуў Мікалаю Карлавічу, які паволі падымаўся з крэсла, руку. Назваў сябе:

— Ян Грубіян. Паэт. Селькор.

— Кузьма Чорны.

Юнак зірнуў на яго больш уважліва, але нічога не ўбачыў: на хваравіта белым твары Чорнага ляжаў поўны спакой. Звычайна Чорны адразу пачынаў з роспытаў, спачатку самых агульных, адкуль, хто, што, потым самых падрабязных, хто бацькі, дзе вучыўся, каго любіць чытаць, ці ўмее касіць або араць, так што праз хвіліну-другую незнаёмы чалавек пачынаў адчуваць

сябе з ім проста і натуральна. А гэта ён адно спытаў, з чым той Ян Грубіян завітаў у рэдакцыю. Узяў працягнутыя наведвальнікам дробна спісаныя лісткі, выдраныя са школьнага сшытка, і сеў у крэсла чытаць.

Паводле таго, як ён паступова ўчытваўся ў напісанае, змяняўся яго настрой, і можна было бачыць, як адтапырвалася яго ніжняя губа ды цяжэў раздвоены падбародак. Чорны ўжо ведаў: перад ім — адзін з тых, хто, напісаўшы некалькі вершаў, лічыць сябе паэтам, стваральнікам новай літаратуры. Вершы ж тыя складваюцца найбольш да юбілеяў ды ўсялякіх газетных кампаній. Іх столькі, што паштальён, выгрузіўшы лісты і бандэролі на стол, падае ў падсунутае яму крэсла і выцірае хусцінкай успацелы лоб, нязменна пытаючыся:

— І як гэта вы ўсё ўціснеце ў сваю газетку?!

Мікалай Карлавіч штораз усміхаўся і адказваў:

— Не толькі гэта, але і звыш гэтага!

Урэшце ён радаваўся той плыні вершаў, што павялічвалася [redacted] кожным месяцам: людзі імкнуліся да мастацкага слова. Іншая справа, што сярод гэтых людзей усё часцей і часцей траплялiся звычайныя графаманы і рамеснікі, якія навучыліся плесці рыфмы, як іншы спец кошыкі, а самае небяспечнае — пачалі патрабаваць да сябе такой жа ўвагі, як і да класікаў. Сумленне ў іх і не начавала. Таму так яны любяць гучныя словы: людзі ў большасці сваёй вельмі даверлівыя і не адразу ўмеюць разгледзець за словамі капеечную карыслівасць. Вось і гэты піша:

Гэй у брук
Давай грук,—
Сацыялізму ты спявай,
Гэй, грукай,
У бубен стукай —
Будаўніцтва пашырай.

Мікалай Карлавіч чытаў ужо раней допісы юнака, падпісаныя інакш: «Ян Справядлівы». Цяпер ён бачыў, што той проста зарыфмаваў апісанае ў допісах: злосных самагоншчыкаў, якія падрывалі дзяржаўную манаполію, евангелістаў, якія зманьвалі моладзь у рэлігійныя цянёты, несавецкіх элементаў, што праніклі ў сельсавет... Тыя допісы штораз заканчваліся грозным патрабаваннем, каб рэдакцыя абавязкова надрукавала іх, бо апісаныя факты — жыццёвыя, што могуць па-

цвердзіць аднавяскоўцы аўтара, а калі трэба, то і сабраць подпісы.

Што ж, сякі-такі змест у вершах, напісаных на аснове допісаў, быў, хоць і вельмі далёкі ад паэзіі! Але ў большасці вершаў той змест і пры вялікім жаданні цяжка было выявіць. Яны нават знешне стракацелі клічнікамі і пытальнікамі, працяжнікамі і шматкроп'ямі. Гучныя воклічы і рытарычныя пытанні, сумбурныя пачуцці і ўяўная глыбакадумнасць, беспрычынная весялосць і неапраўданая гарэзлівасць выяўляліся ў такіх «прыгожых» словах: «бураломісты спеў», «агнятканае слова», «кудлатая радасць», «ліхаманка падзей», «санцавей-берасклет», «сонца, узяўшыся ў бокі, іржэ», «май абамлелы ў полі гоніць з зямлі сінярунь», «вечар, ашчэрыўшы дзясны, туманам-смугой пазяхае», «пакаёўка-зара»... А вось і верш, у якім Ян Грубіян адкрыта і шчыра выказваў сваё паэтычнае крэда: «Я — прыяцель гульбішч», П'яны зусім я...», «О кухаль піва з сонцам зместу!..»

Але знешне Мікалай Карлавіч аніякім чынам не выявіў сваіх адносін да вершаў. Ён быў спакойны. Зірнуў уважліва на юнака, які сядзеў наструнена, і спытаў з непадробнай цікаўнасцю ў голасе:

— Вучыцеся?

Юнак ажно атарапеў ад такога нечакана простага пытання, але хутка справіўся ад момантнай разгубленасці і, адкапыліўшы фанабэрліва губу, адказаў:

— Не! Навошта?

Чорны нічога на гэта не сказаў:

— Працуеце?

— Я — паэт-прафесіянал!

— Мабыць, шмат чытаеце? Якую кнігу апошнім часам прачыталі?

Юнак пагардліва чмыхнуў носам:

— Я чытаю толькі самога сябе!

— А як жа тады, братачка, быць з пастановай з'езда «Маладняка», што кожны маладняковец павінен грунтоўна азнаёміцца з працамі Маркса, Энгельса, Леніна, павышаць агульную культуру і літаратурную адукацыю, вывучаць вусную народную творчасць і авалодаць да наступнага з'езда не менш чым адной замежнай мовай?

— Дык што — мне чытаць «Кветкі з чужых палёў», якія сабраў Юрка Гаўрук?!.

— Ну, а як жа вы, братачка, глядзіце на Янку Купалу і Якуба Коласа? Яны ж — нашы, беларускія паэты!

— «Жалейка»!.. «Песні жальбы»!..— юнак спачувальна паківаў галавой.— Гэта ў час вялікага змагання з матывамі слёзнасці і роспачы ў беларускай паэзіі, якія дзеля гістарычных умоў выявіліся сярод нашых пісьменнікаў старэйшага пакалення ў часы царскай рэакцыі пасля задушэння першай рускай рэвалюцыі!.. Яны сваёй жальбой ужо сапсавалі выдатнага паэта Алеся Гурло. Дзе ранейшая бадзёрасць і веснавейнасць яго музы? Дзе яго «Званы працы»? Дзе яго пралетарскі падарунак першым прывідам вечнамаладое пралетарскае вясны? Нашы старыя паэты ўсё яшчэ гушкаюцца ў калысцы і не выраслі з літаратурных пялёнак. Балота іхняе творчасці даўно зацягнута цінаю. Толькі «Маладняк» дае новае і вечнае!

— Што ж, дух абнаўлення ў вашых творах сапраўды чуецца! Але навошта, братачка, гэтулькі бурапены: «напевы агнятонныя», «шумнавірая кроў», «санцавей залаты», «сінякудрае поле», «буравей», «песнязвоннасць»?

— «Маладняк» прынёс з сабой не толькі новы змест, але і новыя формы. Адна справа сказаць: «залатое сонца», другая — «санцавей залаты». Тут ужо не толькі сцвярджэнне, але і працэс: сонца жыве, свеціць. «Маладнякоўскае» сонца! Тут ужо сама паэзія!

— Чаму, паэзія тут сапраўды ёсць! У чалавека бываюць хвіліны, калі звычайныя словы яго не задавальняюць і ён шукае незвычайныя. Але гэта хутка прахо- дзіць. Так што, панечку мой, можна і пабурапеніць, калі вельмі хочацца,— лёгка згадзіўся Кузьма Чорны. Ён бачыў, што спрачацца марна, і непрыкметна перавёў размову ў іншы план — пачаў распытваць пра таго старшыню сельсавета, пра якога пісаў у адным з ранейшых допісаў юнак, пра тое, што збіраецца рабіць юнак у Мінску...

Пасля таго як Ян Грубіян пайшоў, Мікалай Карлавіч устаў з-за стала і захадзіў ад дзвярэй да акна, наколькі дазвалялі малыя памеры пакойчыка.

Вось яна, эвалюцыя «Маладняка»! Ужо ў адным выбары псеўданімаў яна — як на далоні. Чырвоны, Звонак, Дудар і — Грубіян! То хлопцы ішлі ў горад, каб вучыцца, каб мець магчымасць быць у самым асяродку

будаўніцтва новай культуры, а гэта ідуць, каб не вучыцца, не працаваць, каб гаварыць толькі гучныя словы пра новае і перадавое, пра ўласныя заслугі перад беларускай культурай і беларускім народам. А якая небывалая непатрабавальнасць да сябе і сваіх таварышаў! Якая правінцыяльная фанабэрыя непрызнаных геніяў! Нястрымныя панегірыкі, фіміям, пампезнасць! Паспешлівае старанне ўсё і ўсіх ацаніць, навесіць ярлык, прачысціць сваіх і адлучыць чужых! А крытэрый — адзін: «першы рабочы пясняр Беларусі»! «Паэт унёс багаты і асвяжаючы ўклад у скарбніцу найноўшай беларускай літаратуры»! «Зоркі, якія пачалі яскрава мігцець з мінулага года»! Калі ж размова заходзіць пра чужых, то пафас выкрыцця дасягае небывалых памераў: «Прымітыўна-слязлівая сентыментальнасць!» «Хаўтурныя спевы»! «Старыя формы — спадчына аўтарытэтаў-нашаніўцаў — зношаны лапаць, які можа забрудзіць чыстую нагу»!..

Рабоча-сялянская маса імкнецца да вяршынь мастацтва. З яе шэрагаў выходзяць новыя і новыя таленты. Перад імі вялікая мэта — сказаць тое, пра што народ маўчаў цэлыя стагоддзі. Як жа можна быць марнатраўцамі свайго таленту, у якім скандэнсавалася творчая энергія народа за працяглы час вялікага маўчання! Аднак многія маладыя паэты задаволены тым, што атрымалі ад прыроды, і маюць намер пражыць лёгка, без напружання, нідзе не працуючы, не вучачыся. Іншы не паспее выдрукаваць верш-два, а ўжо галасна абвяшчае, што ён пераходзіць у прафесіяналы. Жыць жа з нечага трэба, таму многа і спяшаючыся пішуць. А літаратура не церпіць мітусяніну! Яна жорсткая да тых, хто збіраецца ёй служыць. Вось і атрымліваецца, што спісаных з рахунку занадта шмат. Некаторыя з іх усё часцей чэрпаюць натхненне ў кухлі піва...

Яшчэ ніколі ў рэдакцыю не дасылалася гэтулькі рукапісаў! Стыхія! Друкуецца амаль усё. За выключэннем хіба толькі таго, што не лезе ні ў якія вароты. На ўлік бярэцца кожны, хто хоць раз паспрабаваў напісаць нешта «мастацкае». Колькасць бярэ верх над якасцю. А плынь бездапаможных, неахайна зробленых, проста непісьменных вершаў не змяншаецца. Словы, словы! Як добра сказаў Адам Бабарэка: «Кара, якою прыкрываецца душэўная пустата». «Мёртвая паэзія»! У якой няма душы і сэрца. Голая агітка! Але ж газет-

ная агітка, патрэбная ў свой час,— адно, а сапраўды мастацкі твор — другое. Агітка жыве адзін дзень, а мастацкі твор — стагоддзі і тысячагоддзі. Высокае мастацтва — вось пра што трэба думаць! Яно павінна выявіць у слове багаты вопыт душы, набыты ў змаганні за сваё вызваленне. А дзеля гэтага павінна быць культура. Толькі авалодваючы вялікай сусветнай культурай, беларускія пісьменнікі змогуць вывесці сваю нацыянальную літаратуру на сусветны ўзровень. Наша літаратура павінна ўзняцца, як добра сказаў Адам, з даліны на ўзвышша.

Але пісаць, калі ў арганізацыі, у якой ты знаходзішся, на літаратуру глядзяць па-канцылярску, з кожным разам усё цяжэй.

Апошні час слоўная бутафорыя, паэтычныя выбрыкі, экзальтацыя пачуццяў, легкадумнасць і пазёрства цэняцца вышэй, чым спакойная і ўдумлівая праца над творам. З твораў знік жывы чалавек як самае галоўнае, што ёсць і дзейнічае на свеце. А гэта азначае, што з літаратуры выветрываецца яе сутнасць. Маладнякоўскае кіраўніцтва гоніцца за колькасцю членаў і знізіла патрабавальнасць: у «Маладняк» прымаюць аўтараў аднаго-двух вершаў, сяк-так складзеных, і яны ўжо маюць права казыраць высокім званнем «пісьменнік», «паэт». У той жа час кіраўніцтва заплюшчвае вочы на тое, як пашырыліся сярод моладзі багемныя настроі, эпігонства, самазадаволенасць, боязь крытыкі, пагардлівыя адносіны да старэйшых.

Між тым многія хлопцы выраслі з дзіцячых штонікаў асветніцтва і задумаліся над тым, каб ствараць нешта вартае свайго народа, яго гісторыі, вялікай рэвалюцыі. Так нарадзілася ідэя мастацкага ўзвышэння беларускай літаратуры.

Мабыць, трэба час ад часу станавіцца наводдаль, каб зірнуць на справу свайго жыцця збоку, цвяроза ацэньваючы яе сапраўдную каштоўнасць, свае ўласныя магчымасці, можа, нават пасмяяцца над тым, над чым толькі што плакаў. Яшчэ ў час з'езда, у канцы лістапада мінулага года, Уладзімір Дубоўка падаў Мікалаю Карлавічу думку з'ездзіць у Маскву, пагасцяваць у яго месяц-другі. Кватэра хоць і невялікая і мнагалюдная, але і яму знойдзецца месца. Мікалай Карлавіч жыў у Дубоўкі ўвесь снежань і не закаяўся: ён пабываў ў Траццякоўцы, у музеі прыгожых мастацтваў, у музеі

заходнееўрапейскага жывапісу, паглядзеў самыя лепшыя пастаноўкі ў Мастацкім, Малым і Вялікім тэатрах, у Тэатры сатыры, быў на канцэртах у кансерваторыі... Якая багатая і мнагастайная руская культура, мастацтва, літаратура! Думкі міжволі беглі да свайго, роднага, беларускага. Беларуская літаратура, калі за пункт адліку ўзяць яе класічны перыяд, гэта значыць перыяд росквіту творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, адстала ад рускай на цэлыя восемдзесят гадоў. Яна вельмі маладая літаратура, поўная незрасходаванай творчай энергіі і імпэту, і павінна набіраць хуткасць у сваім развіцці, каб выйсці на перадавую лінію сусветнай літаратуры. Гэтымі думкамі Чорны тады ж падзяліўся з Дубоўкам і ўбачыў у ім не толькі сябра па пяру, але і аднадумцу. Ад'язджаючы з Масквы, ён сказаў:

— Усё роўна як гэта хто палажыў на тачыла маю душу ды вытачыў яе,— так неяк востра ўсё пачало адчувацца...

Перыяд ап'янення радасцю існавання мінуў. Прыйшло цвярозае разуменне таго, што жыццё, гісторыя, сам лёс выдзеліў беларусам вельмі мала часу, каб здагнаць літаратуры іншых, суседніх у першую чаргу, народаў, каб заняць сваё законнае месца ў шэрагах чалавецтва.

Сябрам Мікалай Карлавіч гаварыў:

— Мы з энтузіязмам сустрэлі сацыяльную рэвалюцыю. Але мы да гэтага часу як след не ўспрынялі ідэй рэвалюцыі культурнай. Нас, беларусаў, яны асабліва тычацца. Мы павінны змагацца за літаратурны сталічны Мінск, супраць Мінска — губернскай правінцыі з кансерватыўнымі поглядамі на літаратуру і традыцыямі губернскага маштабу... Мы павінны шукаць вышэйшыя беларускія формы культуры... Чым больш нацыянальна-самабытнай будзе наша культура, тым больш будзе яна агульначалавечай... Не ўсе ў Мінску хочуць нас зразумець, але нас падтрымліваюць у гэтым ідэі нашай культурнай рэвалюцыі...

У спрэчках паступова вымалявалася кола аднадумцаў: Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва, Язэп Пушча, Васіль Шашалевіч. Спрачаліся доўга і горача, сыходзячыся ў адным: у такой масавай арганізацыі, як «Маладняк», няма ўмоў для сур'ёзнай творчай працы. Так і надумаліся стварыць адмысловае

літаратурна-мастацкае згуртаванне. Назва ўзнікла
неяк сама сабой: «Узвышша». Слова гэта часта паў-
таралася ў іх размовах, творах, публіцыстычных вы-
ступленнях. Параўнаўшы назву ўласнага згуртавання
з іншымі: «Маладняк», «Пралеткульт», «Полымя»,
«Кузніца», «Перавал», «Леф», «Плуг», «Гарт»,— зга-
дзіліся, што слова «Узвышша» трапна выяўляе іх
імкненне да вяршынь мастацкай творчасці.

Душой згуртавання быў Адам Бабарэка. Чорны
апошнім часам сышоўся з ім асабліва блізка. Прынам-
сі, абодвух часта бачылі разам. Па сутнасці, Адам і на-
пісаў тэксты заявы, статута і дэкларацыі. Адрэдагава-
ныя ініцыятыўнай групай, у склад якой увайшлі Адам
Бабарэка, Кандрат Крапіва, Язэп Пушча, Уладзімір
Дубоўка, а таксама Кузьма Чорны, дакументы былі
зацверджаны ў ЦК КП(б)Б і ў Наркамасветы. Сёння,
26 мая 1926 года, пасля паўдня мае адбыцца пасяджэн-
не ЦБ «Маладняка» [illegible] удзелам кіраўнікоў партыі і ўра-
да Беларусі, а таксама ініцыятыўнай групы «Узвыш-
ша», дзе і будзе разгледжана пытанне аб іх выхадзе і
стварэнні ўласнага згуртавання. Асноўным дакладчы-
кам адзінадушна выставілі Адама Бабарэку. Але і ўсе
астатнія збіраюцца даць крытычны бой дылетанцкім
поглядам на літаратуру, абаронцам літаратурнай не-
пісьменнасці і трафарэтнай рэвалюцыйнасці.

Мікалай Карлавіч упэўнен у тым, што ён і яго та-
варышы возьмуць верх. Тым не менш у душы — бура
пачуццяў і думак. Ёсць у яго адчуванне, якое цяжка
выказаць словамі: сённяшнія ўчынкі будуць мець
у хуткім часе самыя нечаканыя вынікі. Яшчэ невядо-
ма, якім бокам усё павернецца для «ўзвышэнцаў», у
якіх грахах іх неўзабаве абвінавацяць, як паўплыва-
юць іх паводзіны на асабісты лёс кожнага...

У пакой зазірнуў сакратар рэдакцыі Алесь Матусе-
віч і сказаў:

— Коля, там да цябе нейкі хлопец прыйшоў. Кажа,
што з Цімкавіч.

— З Цімкавіч? Што ты кажаш! Хадзем жа адно
хутчэй да яго.

Увайшоў у вялікі сакратарскі кабінет і ўбачыў не-
высокага, шчуплага, [illegible] падтуленымі плечукамі хлопца
з няправільнымі рысамі твару: той сядзеў неяк бачком
на крэсле пры сакратарскім стале і быў ціхі, збянтэжа-
ны. Адразу пазнаў Мікалая Чарнушэвіча: сам ён быў

родам з Капыля, але ў 1918—1919 гадах вучыўся ў Цімкавіцкім гарадскім вучылішчы і жыў на кватэры ў Кастэцкіх, блізкіх суседзяў Раманоўскіх. Акрамя гэтага, ён ведаў яго брата, паэта Нічыпара Чарнушэвіча. Ведаў ён і тое, што Мікалай таксама піша вершы, падпісваючы іх, каб не зблыталі з братам: Мікола Хведаровіч (па бацьку ён быў — Фёдаравіч).

— Добрага дня, браце. Дык чаго ты гэта і якім чынам трапіў у гэтакую далеч, у наш горад? Можа, вучыцца ці па якой іншай патрэбе? — радасна спытаў Мікалай Карлавіч: як што звалілася з яго плеч, калі ўбачыў чалавека з родных мясцін, забыліся ўсе прыкрасці літаратурнага жыцця, калатнеча і неспакой.

А зямляк, усё яшчэ бянтэжачыся, адказваў — як бы апраўдваўся за тое, што парушыў спакой вялікага чалавека. Уяўляў, як будуць дакараць сябры, з якімі разам вучыцца: Алесь Пальчэўскі, Сымон Баранавых, Іллары Дуброўскі. Як гэта ён пасмеў непакоіць ажно самога Чорнага! Марнаваць яго час! Хоць самі забягалі ў «Беларускую вёску», да Чорнага куды як часта: балазе, рэдакцыя і інтэрнат знаходзяцца побліз.

— Вучуся на рабфаку. А жыву тут недалёчка, на Камсамольскай, у інтэрнаце. Прачытаў вось апавяданне «Буланы» і ўспомніў мінулае. Захацелася пабачыцца, бо ведаеш сам, пра што там напісана...

І Чарнушэвіч, блытаючыся ў словах, збіваючыся, стаў расказваць пра здарэнне ў хвойнічку за Цімкавічамі, якое легла ў аснову апавядання.

Мікалай Карлавіч слухаў, успамінаў і думаў, як можна па-рознаму бачыць адно і тое ж. Раптам уявіў, як можна звесці ў адным творы розных людзей і прымусіць іх выказвацца, напрыклад, пра тое, як яны адносяцца да жыцця, калі побач смерць. Або як неаднолькава перажываюць маладыя хлопец і дзяўчына першае пачуццё кахання...

А зямляк мае рацыю: «Буланы» нарадзіўся ў яго ўяўленні іменна тады, у канцы 1918 года, калі яны ўдвух пайшлі на возера, дзе стаяў стары млын, і на ўзгорачку, зарослым маладым хвойнічкам, натрапілі якраз на дзікую сцэну: жывадзёры распраўляліся з канём. Тады гэта здаралася ледзь не штодня: у Германіі пачалася рэвалюцыя, фронт распоўзся на шматкі, салдаты рынуліся дадому, а па палетках блыталіся кінутыя імі табуны галодных коней. Вось іх і лавілі

і, не шкадуючы, сотнямі клалі жывадзёры дзеля аднае толькі патрэбнай на продаж шкуры.

Можа, таму што перад тым яны былі ў добрым настроі, гаварылі пра літаратуру, нечаканае нялюдскае відовішча ўразіла вельмі. Мікалай Карлавіч неяк адразу аціх і потым, ідучы дарогай назад, увесь час цяжка ўздыхаў. Яны зайшлі да Міхала Мохарта, вясёлага і гаваркога дзядзькі, расказалі, што бачылі, і Мікалай Карлавіч зноў стаў задуменным і невясёлым, усё хадзіў па хаце... Думкі былі змрочныя: пра нелюдзей і нялюдскасць. Але яго больш за ўсё цікавілі прычыны гэтай з'явы чалавечага жыцця. Чым кіруюцца гэтыя людзі-нелюдзі, калі так робяць, ці разумеюць, што яны робяць?..

У памяці стаялі малюнкі голых восеньскіх палёў, чуўся сумны спеў ветру і жаласнае ржанне галоднай аслабелай жывёлы. Мабыць, так яно і ёсць: у жыцці тых людзей-нелюдзей няма нічога ні вышэйшага, ні ніжэйшага, ім усё адно, што радасць, што смутак, што жыццё, што смерць. Яны не ведаюць самі, што вычвараюць іх рукі. У іх адсутнічае адчуванне, што жыццё — неабдымнае і што перад ім — нішто абшары свету, што сэнс жыцця — у радасці і што, адчуваючы смуту, так, жывая істота не забывае пра радасць: толькі ў радасці і ў вечным імкненні да яе — апраўданне жыцця.

Вось гэта адчуванне Чорнаму і хацелася выявіць, каб увесь свет бачыў, што такое жыццё і што такое смерць як адмаўленне жыцця, як яго поўная супрацьлегласць, якія страшныя людзі, што не цэняць чужое жыццё, жывуць бяздумна, адным момантам, не хочучы нічога ведаць ■ таго, што было да іх і што будзе пасля.

Мікола Хведаровіч нясмела зазіраючы ў вочы субяседніку, выказаў свае адносіны да апавядання:

— Вельмі ж хвацка ўсё апісана. Здаецца, тое здарэнне як бы жыве і цяпер перад маімі вачамі.

Мікалай Карлавіч, бачачы яго збянтэжанасць і сарамлівасць, раптам весела запрасіў, і так, што адмовіцца нельга было, як гэта ён умеў:

— Дык хадзем да мяне, а то мы тут здорава перашкаджаем працаваць гэтаму чалавеку, а там, па праўдзе кажучы, можна будзе і парагатаць.

Увайшлі ў маленькі пакойчык, дзе працаваў Чор-

ны, селі ў крэслы, і Мікалай Карлавіч кінуўся ў роспыты пра знаёмых:

— Скажы, ці даўно быў у Цімкавічах? Як жывуць Стэфка і Ліза Яцкевічавы, ці жывы яшчэ стары? Можа, ужо і прымакоў набралі? Дзе цяпер Абцэшка і Аксёна? Я чуў, што Кулеш, помніш, каторы з Пузава, паступіў у Дзяржаўны універсітэт. Кажуць, там паказвае сябе так жа, як і ў Цімкавічах. Дае фору. Вельмі ж фацэтны чалавек з яго выходзіць...

І доўга яны гэтак гаварылі, успамінаючы знаёмых, розныя здарэнні, радуючыся магчымасці гаварыць пра ўсё блізкае і роднае. Мікалай Карлавіч раптам схамянуўся:

— То хіба пойдзем ды паабедам.

Заўважыў, што зямляк абрадаваўся гэтай прапанове: абед для рабфакаўца нешта азначае!

Каля сходаў Чорны спыніўся і, весела зірнуўшы на цёзку, павесіў загнуты кіёк на балясіны:

— Ну што! Давай, хто хутчэй!

Пусціў кіёк, і той, грукочучы акутым канцом па прыступках, паляцеў уніз. Чорны наўздзіў хутка і спрытна пабег услед. Вось ён знік за паваротам. Мікола Хведаровіч кінуўся следам. Убачыў адно, як Чорны дагнаў кіёк на апошнім пралёце. Аддыхаўшыся, Чорны сказаў:

— Гэта не ўдаецца нават маладзейшым. Цельпухі, бегаць не могуць! Добрая гімнастыка пры нашай рабоце...

Але толькі выйшлі на вуліцу, як Чорнага было не пазнаць. Ён ішоў спакойна, паважна, лёгенька папіраючыся кійком, з многімі сустрэчнымі вітаўся кіўком галавы. Можна было заўважыць, што ён не проста сабе ідзе, не проста прагульваецца, а назірае, і яго вочы фіксіруюць людскія рухі, міміку, твары, паставы, а вушы чуюць абрыўкі незразумелых толькі для абыякавага чалавека фраз. Праз некалькі хвілін яны ўжо сядзелі за столікам у сталоўцы на Савецкай вуліцы. Хведаровіч, як і павінна было, налягаў на ежу, стараючыся хутчэй глытаць, каб не вымушаць Чорнага чакаць адказы на яго пытанні. А Мікалай Карлавіч і тут, у сталоўцы, не спыняў назіранне за людзьмі. Вось ён зірнуў у цёмны кут, дзе за столікам, застаўленым пустымі бутэлькамі і куфлямі, сядзеў гадоў пад трыццаць мужчына з паэтычнай шавялюрай і го-

ласна павучаў нядаўняга наведвальніка — Яна Грубіяна:

— Так што ты, калі гэта сур'ёзна задумаў сцішкі сачыняць, дык звярні на гэта ўвагу. Я табе раю як прыяцель, які хоча табе дабра.

— Я гэта, братачка, бачу,— чуўся хрыпаты басок пачынаючага паэта.

Мужчына відавочна выстаўляў сябе не больш і не менш як класікам, ахвотна дзяліўся сваім «творчым» вопытам. Мяркуючы па знешнасці (шэры, як у вожыка, твар і бляклым позіркам, які блукаў па сталу, па твары субяседніка, па зале), па тым, як ён быў адзеты (досыць прыстойны карычневы касцюм з хусцінкай у верхняй кішэньцы, яркі жоўты бант), ён ужо даўно падахвоціўся запіваць свае творчыя поспехі і няўдачы з кожным, хто разумеў што-кольвек у натхненні:

— Скажу табе шчыра, адкрыюся, та-скаць, дый ты сам неўзабаве ўвойдзеш у літаратурныя колы (юнак ажно млеў, чуючы гэта) і ўбачыш: перспектыву сёння мае паэзія маладых, паэзія агню і задзёру, яна хутка зарунее на беларускіх загонах, а ўсе гэтыя песні жальбы, спадчына нашаніўцаў, будуць здадзены ў архіў. І што б ні казалі ўсякія цемрашалы, накшталт розных рэдактараў, Купала, кажучы між намі, паэт, найбольш блізкі да нас, тварцоў новага гарту, безнадзейна адстаў са сваімі «паязджанамі»...

Ян Грубіян убіўся ў гаворку:

— А як жа яго верш «Арлянятам»?

— Збег абставін! У мастацкай творчасці такое здараецца. Шчаслівая выпадковасць! Выбух натхнення!

— Цудоўны верш!

— А я што кажу? «Гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна!» Здорава! Але да Чарота яму далёка. Чарот — гэта альфа і амега нашай паэзіі, гэта сірыус і цэнтаўр на небасхіле сусветнай літаратуры!..

Размова зайшла пра Чарота, яго паэму «Чырванакрылы вяшчун», рынуў вадаспад захаплення: «Ого!», «Уга!» А Мікалай Карлавіч, забыўшыся на момант на суседзяў, думаў, што ў купалаўскіх «Арлянятах» ёсць не толькі маладая бадзёрасць, але і больш сур'ёзныя думкі. Вунь якое адчуванне цяперашняга моманту ў жыцці беларусаў, якое так адпавядае яго і яго сяброўрам адчуванню: «Ужо выбіла часіна на вялікую прыгоду выйсці з мутнай каляіны беларускаму народу».

Па сутнасці, Купала выказаў яго ўласныя думкі. З першых дзён устанаўлення Савецкай улады жыло ў ім усведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці: «Я беларус, і я ганаруся гэтым!» Настаў час і беларусам сказаць сваё слова перад усім чалавецтвам, як жылося, як жывецца, у чым радасць існавання, чаго трэба асцерагацца і да чаго імкнуцца. Жыццё адных толькі цімкаўцаў варта рамана, нават серыі раманаў.

Развагі Мікалая Карлавіча перапыніла дзіўная цішыня за суседнім сталом. Зірнуў і ледзь не зарагатаў: «класік», чырвоны, потны, з п'янай каламуццю ў позірку, тужліва паглядаў на Яна Грубіяна, выразна пазіраў у бок прылаўка, дзе цьмяна паблісквалі бутэлькі з прынаднымі наклейкамі, аглядваўся на іх стол, шукаючы прычыну, каб падступіцца. А Ян Грубіян і не шманаў, плёў сабе нешта, як ён, малады і бадзёры, прыйшоў з вёскі ў сталіцу ў лапцях і палатнянай світцы, са стосам вершыкаў у торбачцы за плячамі (на ім былі неблагія, мабыць, бацькавы, салдацкія чаравікі, галіфэ, запраўленае ў абмоткі, гімнасцёрка, а пад сталом стаяў самаробны драўляны куфэрак) і як яму адразу пашэнціла пазнаёміцца з вядомым на ўсю рэспубліку паэтам, песняром веснавейнай радасці і ўздыму. «Класік» усё-ткі не ўтрываў і нешта шапнуў Яну, мабыць, што такую ўдачу не грэх і адзначыць (бо што яшчэ ён мог сказаць!). Ян пачырванеў, дастаў, хапаючыся, з кішэні грошы і пайшоў да буфета. Але «класік», мала спадзеючыся на яго здаровы розум, узняўся і павалюхаў, віляючы бабскім задам, услед. Абодва неўзабаве вярнуліся да стала з бутэлькай чырвонага віна і закускай. Гаворка зноў набыла страчаную жвавасць і імпэт. І «класік» яшчэ раз здзівіў Мікалая Карлавіча: пачаў голасна, зрываючыся на віск, чытаць уласныя вершы, напісаныя «ў народнафальклорным духу», і было ў іх шмат усялякіх «гэй», «ой», «палёў-разлог», «шляхоў-дарог», «бур» і «віхур», «дрымучых лясоў» і «наліўных каласоў», была там і «любоў-краса», і «дзявочая каса»...

Мікалай Карлавіч раптам успомніў аднаго «сябра беларускай славеснасці» (нічога больш пэўнага пра яго ён не ведаў), які заўсёды чапляўся да яго з нікчэмнай гаворкай — паказваў на аблітую супам сурвэтку на стале і гучна пытаў:

— Што гэта — форма ці змест? — і, не чакаючы

адказу, бо не патрэбен быў яму гэты адказ, ставіў новае пытанне: — А што такое піва як рэальнасць?

Але найбольш яму падабалася, дзе трэба і дзе не трэба, паўтараць фразу:

— Цяпер душа адмяняецца!

Чорны, з яго страсцю ісці па звеннях ланцуга ад малога да вялікага, успрымаў гэтыя словы як выпадковасць, якая асабліва дакладна выяўляе агульны закон, і супастаўляў са словамі, якія чуў ад іншых людзей, ад дзядзькі Радзівона, які, сустрэўшы яшчэ аднаго «жалезнага душой» чалавека, не зразумець было, здзіўляўся ці палохаўся: «Ён жа чалавечай душы не прызнае!» Цяжкія прадчуванні зноў ахапілі яго.

Выходзячы са сталоўкі, Мікалай Карлавіч заўважыў, як спалохана зіркнуў на яго «прыхільнік самагоннай творчасці» Ян Грубіян і як скіс умомант «вялікі класік зямлі беларускай».

На рагу Савецкай і Камсамольскай ён развітаўся з земляком; той спяшаў у інтэрнат, каб паклікаць сяброў на маладнякоўскі сход. Ідучы пад гару, на Рэвалюцыйную, дзе ў адным будынку з Інбелкультам знаходзіўся і «Маладняк», чуў адзаду, з боку галоўнай сталічнай магістралі, гул бубна, пад які маршыравалі піянеры. Каля вялікіх акон клуба, што знаходзіўся на першым паверсе двухпавярховай камяніцы, міжволі спыніўся. За вялікім сталом нешта разглядалі маладыя хлопцы. Каля супрацьлеглай сцяны сядзелі ці не грузчыкі са станцыі ў брызентавых накідках — зайшлі палюдзець перад тым, як ісці на працу. Пры маленькіх дзвярах, што вялі некуды ў глыб пакояў, нехта, доўгавалосы, у чорным фрэнчы, наярваў на раялі вясёлы матыў. Сярод пакоя стаяў, трымаючыся ў бокі, п'яны дзядзька ў кароткім пінжачку і ўсё рваўся ў скокі. Другі, маладзейшы, стараўся неяк угаманіць яго.

Рухі мужчын былі гэткімі выразнымі, што Мікалай Карлавіч міжволі ўявіў, пра што яны гавораць:

«Няможна тут гэтым займацца, тут табе не піўная!»

«Братка, ты адно паглядзі, што за танец, для цябе ж гэта я і скакаць сабраўся».

«Слухай, пакінь!»

«То калі гэтак, дык скажы музыку, каб не граў, а то я ўстаяць не магу. Няхай, калі гэтак, грае разлуку

жыцця, тады я скакаць не буду, а то ён барабаніць каб трохі, дык лявоніху, а гэты скакаць забараняе, хоча, каб жывы чалавек на месцы ўстояў».

Ішоў далей, вузкай і ціхай вулачкай, з густа пастаўленымі, як прыклеенымі, адна да адной камяніцамі, пераважна адна- або двухпавярховмыі. На рагу Інтэрнацыянальнай нейкі момант палюбаваўся высокім і прыгожым будынкам гасцініцы «Еўропа», што стаяў наводдаль, кінуў позірк на званіцу сабора, на касцёл, што ўзвышаліся над дахамі грамадзянскіх забудоў, заўважыў вялікі рух на Сабррнай плошчы. Неўзабаве Чорны апынуўся каля доўгага двухпавярховага будынка. Здалёк заўважыў каля ўвахода з кароткімі і тоўсценькімі калонамі сяброў. Адам Бабарэка ў святочным гарнітуры, у белай рубашцы пад дасціпна падабраным гальштукам і з кійком у руцэ слухаў, схіліўшы галаву і ласкава ўсміхаючыся, высокага і зграбнага, з праніклівым позіркам разумных вачэй юнака. Гэта быў Уладзімір Дубоўка. Яны заўважылі яго, калі той быў ужо зусім блізка, радасна прывіталіся і гуртам увайшлі ў будынак.

Міхась Чарот, які сядзеў, склаўшы рукі на грудзях, у цэнтры доўгага, засланага зялёным сукном стала, як зазвычай прыгожы, дасціпна апрануты, паказаў Чорнаму і яго сябрам на вольныя месцы. Мікалай Карлавіч, прабіраючыся на месца, паспеў адзначыць, што Чарот быў сёння нейкі ўстрывожаны, а яго позірк — калюча-ўчэпісты: дзіва што, надзвычайнае здарэнне — з арганізацыі выходзіць група таленавітых паэтаў, празаікаў і крытыкаў, спее раскол!

Побач з Чаротам сядзеў і даводзіў яму нешта хуткім пошапкам Міхась Зарэцкі. Вось ён азірнуў «узвышэнцаў», і ў вачах яго быў холад, лінія губ стала строгай і рэзкай. Мікалай Карлавіч адчуў: рамантычная ўзнёсласць яго натуры сёння саступіла месца цвярозаму рэалізму і ненадуманай строгасці. Відаць было, што сёння ён ужо не памкнецца, як бывала, да яго ў гурт, каб парагатаць, а рагатаў ён шчыра і голасна, ажно часам прысядзе ад смеху. Але Мікалай Карлавіч ведаў і тое, што Зарэцкі — разумны чалавек, і ўрэшце ўсё сённяшняе ўспрыме як належыць, без задніх думак пра групаўшчыну і калатнечу, бо ўсе яны робяць адну патрэбную народу справу і ўзаемаразуменне па-

вінна некалі ўзяць верх над насцярогай і адкрытай варожасцю.

Далей, каля Зарэцкага, сядзелі Андрэй Александровіч, як заўсёды, гладзенька прычасаны, з роўненькім праборам, з позіркам, у глыбіні якога таілася нейкая свая думка, і Алесь Дудар, які сядзеў моўчкі ў сваім скураным пінжаку з вялікімі кішэнямі. Усіх траіх — Міхася Чарота, Андрэя Александровіча і Алеся Дудара — апошні час бачылі ўсюды разам. Заўсёды вясёлы, Дудар на гэты раз здзіўляў сваёй сур'ёзнасцю. У другім радзе, абапершыся на спінку стула, на якім сядзеў Дудар, можна было бачыць Анатоля Вольнага, сябра Дудара. Увесь нейкі празрыста-ружовы і вогненна-кучаравы, ён меў такі выгляд, што кінецца за сябрам, не раздумваючы куды.

Праз адно крэсла ад Вольнага сядзеў нерухома задуменны Кандрат Крапіва. Бровы ў яго здзіўлена ўскінутыя, і ён як бы хоча пранікнуць думкай у нешта такое, што да часу затоена. Быў ён, як заўсёды, у сваім заношаным саматканым фрэнчы, з нашытымі абвіслымі кішэнямі па баках і на грудзях. Мікалая Карлавіча зноў уразіла гэта неадпаведнасць выгляду знакамітага байкара вясёламу яго нораву ў творах, якія ён пісаў ледзь не штодня, адразу прыносячы да Чорнага, у «Беларускую вёску».

Побач з Крапівой сядзеў усмешлівы, з добразычлівасцю ў позірку, круглатвары Язэп Пушча. Ён адразу загаварыў сваім пявучым мяккім голасам да Бабарэкі, які сеў побач. Мікалай Карлавіч прабраўся на вольнае паміж Крапівой і Вольным крэсла, а Дубоўка сеў каля Бабарэкі. Зірнуў уважліва на кіраўнікоў партыі і ўрада, якія сядзелі справа ад Чарота: дзелавіты, унутрана сабраны Мікалай Галадзед, у ваеннай гімнасцёрцы, з гладка зачэсанымі валасамі, Язэп Адамовіч, Антон Баліцкі, у вялікіх акулярах на шырокім твары...

З-за стала нарэшце падняўся Чарот і аб'явіў парадак дня. Пасля таго як маўкліва згадзіліся з гэтым парадкам: 1) Арганізацыйная ўвязка і каштарыс; 2) Заява чатырох; 3) Іншае,— прапанаваў абраць старшынёй сходу Алеся Дудара. Той перайшоў у цэнтр стала, паўзіраўся, прыплюшчыўшы вочы, у паперы, падсунутыя Чаротам, і зачытаў меркаванне кіраўніцтва «Маладняка» наконт першага пытання. Спрэчак

не было. Потым ён зачытаў «заяву чатырох», падпісаную Я. Пушчам, А. Бабарэкам, К. Чорным і Крапівой, аб выхадзе са складу аб'яднання «Маладняк» і копію пісьма, пасланага Бюро ЦК КП(б)Б. Усе адразу ажылі і загаварылі адначасова. Некаторыя абураліся, большасць успрыняла навіну непаразумела. Чуліся асобныя выгукі, але за шумам немагчыма было разабраць слоў.

Мікалай Карлавіч зірнуў на сяброў: Крапіва сядзеў строгі і загадкавы, адно правае брыво паднялося яшчэ вышэй, Дубоўка глядзеў без страху і яснымі вачамі, Пушча пабялеў злёгку з твару і неяк дзіўна ўсміхнуўся сам сабе, Бабарэка схіліў галаву набок і меланхалічным позіркам абводзіў твары маладнякоўцаў. У яго руках — тоўсты сукаваты кіёк. У Чорнага — таксама кіёк: ёсць чым бараніцца, калі вельмі ж будуць нападаць.

У бой ірвануўся першым Язэп Пушча. Ён гаварыў пра тое, што паміж сабой яны ўжо шмат гаварылі і спрачаліся: пра назначэнне мастака і пра літаратурную арганізацыю, што «Маладняк» стаў асветніцкай арганізацыяй і што ў яго межах нельга ўзняць мастацкі ўзровень літаратуры.

— Маладыя песняры,— гаварыў ён,— яшчэ не могуць быць заўсёды глыбока беспасрэднымі ў выяўленні сваіх пачуццяў у мастацкіх вобразах. Часта і вельмі часта сваю юнацкую песню разводзяць зусім прэснай публіцыстыкай, што перашкаджае яе жыццёвасці. Няма паэзіі без выяўлення паэтам сваіх асабістых адчуванняў, перажыванняў, адносін да рэчаіснасці. Галоўнае, каб лірычны голас паэта адпавядаў настроям сучаснасці. Не ёсць жа паэт той сапраўдны мастак, які ў сваёй творчай інтуіцыі не з'яўляецца філосафам...

Мікалай Карлавіч не абмінуў увагай тое, як слухаюць Пушчу: пераглядваюцца, перашэптваюцца... Але на твары яго нічога не адлюстравалася.

Пасля Язэпа Пушчы слова ўзяў Міхась Чарот і раптам пачаў усур'ёз даводзіць, што новая група ствараецца таму, што сяму-таму хочацца быць кіраўніком. Так і сказаў:

— Дубоўка захацеў атрымаць партфель...

Але ў такое тлумачэнне мала хто паверыў, бо нечакана пачулася пытанне:

— А каго будуць прымаць у новае аб'яднанне?

Адразу ўсе, у тым ліку і Чарот, адчулі, што справа куды больш сур'ёзная, чым здавалася многім у самым пачатку: у пытанні была не проста цікаўнасць, але і выяўленне незадаволенасці тым, што адбываецца ў «Маладняку». Адказваць на пытанне ўзяўся Уладзімір Дубоўка. Высокі, прыгожы, са светлым тварам і ясным позіркам, ён спакойна, нібы і не было ніякіх закідаў у яго бок, стаў тлумачыць:

— Мы будзем уцягваць тых толькі, хто сапраўды дасць каштоўнае беларускай літаратуры...

Тут жа прапанаваў даць слова для тэарэтычнай аргументацыі «заявы чатырох» Адаму Бабарэку.

Бабарэка адставіў убок кіёк: пачулася ажыўленне — усе адчулі ў гэтым руху як бы намёк, што прамоўца не збіраецца біць дзяцей, а будзе сур'ёзна гаварыць пра ўсё, што хвалюе. Устаў, паправіў гальштук, выбраўся наперад і, схіліўшы галаву, меланхалічна-дабрадушна ўсміхаючыся, ціхім голасам загаварыў. Адразу пацішэла: Бабарэку паважалі за дабрату і розум, дый чулі, што зараз усё тайнае стане бачным.

Мікалай Карлавіч добра ведаў даклад сябра: папярэдне яны абгаварылі тэзісы. Але ж адно — тэзісы, а другое — іх абгрунтаванне: ён непакоіўся, ведаў, як шмат залежыць ад аднаго слова, перажываў, можа, мацней за самога дакладчыка. І адчуваў сябе шчаслівым: як крута браў Адам! Як радасна было ісці за ім услед!

Бабарэка спачатку коратка і дакладна ахарактарызаваў крызіс «Маладняка» і вызначыў перспектывы развіцця беларускай літаратуры: голае крытыканства яго ніколі не захапляла, ён заўсёды выстаўляў перад пісьменнікам перспектыву і бласлаўляў творчы пошук.

— Якое становішча ў «Маладняку»? Сучаснае становішча — упадак творчасці. Аб гэтым сведчаць выпушчаныя зборнікі, як, напрыклад, «У прасторы» Барашкі. Упадак цікавасці да грамадзянскасці. Захапленне багемаю. Не выконваюцца пастановы філіямі, захапленне фразамі, вузкасць кругагляду, поўны заняпад і застой, агульнасць настрояў у творчасці. «Маладняк» пачаў даваць літаратурныя прысмакі, але не мастацкія каштоўнасці, якія патрэбны пралетарыяту. Патрэбна мастацтва, якое б пашырала кругагляд пра-

летарыяту, селяніна, якое б адчыніла іх вачам псіхалогію другіх людзей,— творчасць К. Чорнага гаворыць аб апошнім. Зарэцкі ў сваёй творчасці паказвае слабых і моцных людзей — адны гінуць, другія перамагаюць. Пушча дае рамантыку і рэальнасць жыцця. Трус — сваёй музычнасцю гаворыць аб вялікім у свеце...

Сярод маладнякоўцаў пашыраны погляд, быццам ва ўмовах пабудовы сацыялізма літаратура творыцца калектыўна, усімі працоўнымі масамі... Калі згадзіцца, што і матэрыял і ідэі сапраўды належаць не аднаму творцу, а ўсім, сярод каго ён жыве і для каго піша, то літаратурная творчасць на самай справе калектыўная. Але як толькі пісьменнік садзіцца за стол, ён застаецца сам-насам з чыстым лістом паперы, тады ён поўны ўладар усяго, што належыць не яму аднаму, а ўсім. Ён укладвае душу жывую, калі можна тут ужыць гэта старамоднае слова, у тое, што піша. І тое, што ён напіша, цікава толькі таму, што гэта ён, а не нехта іншы, напісаў, няхай сабе нават Леў Талстой. І вось тады сапраўды пачынаецца калектыўная творчасць: кожны чытач уяўляе напісанае па-свойму, у адпаведнасці з асабістым жыццёвым вопытам... Літаратуру твораць адзінкі, якія выйшлі з народных мас...

Калі Міхась Чарот выказваў сваю перасцярогу, што раскол прывядзе да аслаблення «Маладняка», то ён меў рацыю. Аднак творчаму аб'яднанню трэба дбаць не пра фармальнае адзінства, а перш за ўсё пра развіццё літаратуры... У нас ёсць некаторая частка мастацкай літаратуры і ёсць народная творчасць, як сыры матэрыял, нікім яшчэ дагэтуль не выкарыстаны. У нас літаратура пераважна лірычная, а эпічная ў зародку. Апавяданні нашы — гэта бытавыя малюнкі, але не мастацкія творы. Няма драмы, рамана, няма культуры творчасці. Хто гэта павінен стварыць? Пралетарскі культурны пісьменнік. Ці патрэбна пралетарыяту мастацтва? Безумоўна, патрэбна... Матэрыял для творчасці павінен быць пралетарска-сялянскі. Пралетарскае мастацтва павінна стаць вышэй буржуазнага, каб ён мог паказаць сябе як пралетарыят...

У «Маладняку», уласна, творчасць у заняпадзе. Паніжаецца цікавасць да грамадскіх праблем, заўважаецца захапленне багемай і чыста трафарэтнай «рэвалюцыйнасцю», пісьменніцкая і крытычная думка за-

надта ахвотна карыстаецца стэрэатыпамі... Між тым народу патрэбна мастацтва, якое пашырала б яго светапогляд, раскрывала псіхалагічную складанасць чалавечай асобы... Сучаснае становішча вядзе да поўнага заняпаду, вядзе да адбівання чытача ад літаратуры, да ўпадку і распусты мастацкіх густаў, вядзе да кампраметацыі беларускай літаратуры... Мы лічым, што кіраўніцтва «Маладняка» закрывае вочы на крызіс творчасці ў арганізацыі, памылкова думае, быццам літаратуру можна тварыць камандаю, забывае аб культуры творчасці, спрошчана глядзіць на мастацтва як толькі на утылітарны сродак у класавай барацьбе... Напрошваецца вывад: трэба засесці за акадэмічную працу — стварыць невялічкую групу, патрэбна культура мастацтва...

Пад стрыманыя воплескі Бабарэка вярнуўся на сваё месца. Чорны міргнуў яму: усё як мае быць, з задачай справіўся!

Слова адразу ж узяў Міхась Зарэцкі. Чалавек рамантычнай біяграфіі, ён нязменна выклікаў агульнае захапленне. Аднак размова ішла сур'ёзная, і любавацца ім не было калі. Тым больш што ён нечакана для ўсіх пачаў гаварыць рэзка і несправядліва. Па сутнасці, усё звялося да простага абвінавачвання:

— Усё, пра што тут нам так падрабязна выкладаў Бабарэка, ёсць ідэалізм чысцейшай вады.

Пасля Зарэцкага выступаў Мікалай Галадзед. Ён нічога не гаварыў пра ідэалізм, але адзначыў, што ніякіх асаблівых ідэалагічных разыходжанняў паміж маладнякоўцамі і ўзвышэнцамі не бачыць, што ўсе яны стаяць на пралетарскай платформе і разам змагаюцца з класавым ворагам у літаратуры. Гаварыў ён проста і адкрыта, уразіўшы ўменнем глядзець у глыбіню праблемы, імгненна ўсё схопліваць і ацэньваць. Адчувалася, што ўсё ім прадумана папярэдне, што ён гатоў да наступнага, якім бы яно ні было нечаканым:

— У руках у пралетарыяту ўжо цяпер ёсць беспамылковыя крытэрыі грамадска-палітычнага зместу любога літаратурнага твора. Але ў яго яшчэ пакуль што няма такіх жа пэўных адказаў на ўсе пытанні адносна мастацкай формы. Тут поўная прастора для індывідуальнага творчага пошуку. Лозунг партыі ў галіне літаратуры: далоў капітулянцтва і далоў камфанабэрыю! Мы стаім за адзінства творчых шэрагаў. Мы

супроць цэхавай вузкасці за свабоднае спаборніцтва розных груп і плыняў. Усякая інакшая пастаноўка пытання згубная для мастацкай літаратуры, усякае іншае рашэнне яго з'яўляецца казённа-бюракратычным псеўдарашэннем.

У той ступені, як Галадзед гаварыў, супакойваліся страсці і многіх браў одум: у такой складанай сітуацыі секчы з пляча нельга, трэба падумаць над пачутым і зрабіць належныя вынікі.

Старшыня сходу Алесь Дудар узняў руку, просячы ўвагі. Бровы яго былі высока ўзняты, а на твары блукала ўсмешка. Ён пачакаў момант і зачытаў яшчэ адну заяву аб выхадзе з «Маладняка» Паўлюка Труса, Пятра Глебкі, Сяргея Дарожнага і Максіма Лужаніна. Сустрэлі гэту навіну невясёлым маўчаннем, толькі Міхась Зарэцкі, страціўшы раптоўна стрыманасць, раблена рагатнуў:

— Што ж, да ведама!

Тлумачэнняў не патрабавалі, хоць і разумелі, што ў новых выхадцаў — іншыя матывы, чым ва ўзвышэнцаў. Мікалай Карлавіч бачыў устрывожаныя твары і позіркі сяброў і ўсіх, каго яны сёння пакідалі. Раскол! Наперадзе — невядомасць! Ідучы няпэўнымі крокамі да дзвярэй, убачыў у натоўпе Глебку, Дарожнага і Лужаніна — яны выходзілі на вуліцу разам. Пільна прыглядзеўся: адчуваў, што іх захапілі паводзіны ўзвышэнцаў, бо наўрад ці так ужо цесна гэтым хлопцам, якія толькі-толькі пачалі друкавацца, у тым самым «Маладняку».

На вуліцы спыніліся, чакаючы астатніх. Неўзабаве да Чорнага, Бабарэкі, Крапівы, Дубоўкі, Пушчы падышлі Васіль Шашалевіч, Юрка Гаўрук — аднадумцы, сябры. Ішлі дружным гуртам да Савецкай, шумна абмяркоўваючы нядаўняе, выказваючы свае думкі і назіранні, свае здагадкі. На рагу Камсамольскай і Савецкай сталі разыходзіцца — кожны ў свой бок. Кузьма Чорны і Адам Бабарэка пайшлі разам у бок Траецкай гары, побліз якой, на Прыбярэжнай вуліцы, Мікалай Карлавіч здымаў два пакойчыкі ў старым драўляным доме. Абодва любілі хадзіць па вуліцах, назіраць праявы сталічнага жыцця і абмяркоўваць свае літаратурныя праблемы. У час гэтых праходак нараджаліся і абгаворваліся творчыя задумы.

Ішлі нейкі час моўчкі, поўнячыся адчуваннем таго,

што толькі што адбылася важная падзея ў іх жыцці. Каля сталоўкі ў натоўпе выпівох Чорны раптам заўважыў Яна Грубіяна і «класіка». Чырвоненькія, яны п'янаківаліся сярод вуліцы і ў нечым пераконвалі адзін аднаго:

— Я ўсё ведаю... Я ўмею чытаць на тварах людскіх. Я от гляджу на цябе і бачу цябе навылёт... Мы, паэты, заўсёды...

— Так-так, мы, паэты...

— Трэба піць, пісаць і пісаць... Трэба выконваць сваё прызначэнне на зямлі...

— Я п'ю, я п'ю... Але я, п'ючы, шліфую...

— Што ты шліфуеш?

— Радкі свае шліфую... П'ю і шліфую... Кожны радок!

— Кожны радок?

— Кожны радок... п'ю...

Кузьма Чорны раптам, як бы адкінуўшы прэч усё ўбачанае, загаварыў да сябра пра задуму рамана «Сястра», пра тое, каб у адным вялікім творы паказаць усю мнагастайнасць сучаснага жыцця, з усімі мімалётнымі падрабязнасцямі чалавечага існавання, з сумам і радасцю, узлётамі і падзеннямі і адначасова — ідэйнае адзінства ўсяго, што адбываецца, бо адбываецца яно не з кім-небудзь, а з самім чалавекам, з яго неспакойнай душой. Ідэю ўзвышэнства трэба даводзіць на справе! Час ад размоў пераходзіць да рэальнай справы стварэння мастацкіх шэдэўраў!

## XI

### ЦІМКАЎЦЫ

Мікалай і Рэня Рамаlistоўскія прыехалі ў Цімкавічы прыцемкам. Дзень быў адліжны, але пад вечар марозік прыхапіў лядком падталы за дзень снег. Мікалай Карлавіч шкадаваў, што ў цемры нельга было паказаць жонцы мястэчка. Ён столькі расказваў ёй пра Цімкавічы і цімкаўцаў, што ўяўлялася нешта незвычайнае. Ён хваліў зямлю, на якой так добра ўсё расце, хваліў дарогі і лясы, рэчкі і краявіды, зіхценне лета і зорнае неба ноччу. Ён называў дзесяткі імён і назваў і

адчуваў у гэтым асалоду. А між тым гэта быў звычайны свет з зямлёю і небам, травою і лесам, начамі і днямі, з сонцам, ветрам і дажджом. Мікалай Карлавіч вельмі хацеў, каб жонка таксама палюбіла яго родныя мясціны і стала сваёю сярод яго землякоў. Яна ж ведала адно, што свет жывы і прывабны заўсёды там, дзе ёсць ён.

Яны даўно збіраліся наведаць старога бацьку Мікалая Карлавіча, Цімкавічы, але выбрацца было няпроста. Мікалай Карлавіч некалькі разоў перачытваў, седзячы дома за сталом, пісьмо ад бацькі. Пакручастыя і нясмелыя літары гэтага пісьма хвалявалі і напаміналі пра родную хату: «...а яшчэ, сынок, паведамляю табе, што трэба было б канька змяніць, а то ўлетку дык яшчэ сяк-так, а зімою бяда будзе з ім. І здароўе маё папсавалася зусім. Няхай бы даведаўся дадому, можа, там будзе калі выдарыцца часіна якая. Дык даведайся. У хаце пад вокны трэба будзе на вясну па вянку падкласці і страху перакрыць... Улетку нешта парсючок не ўзяў есці, дык дакалоць прыйшлося. Кілбасы, колькі было, захавалі на зіму, дык, калі будзе як, я табе з пару якую прышлю. Вельмі ж высахлі добра, пад страхою вісячы. Можа, ты даўно свойскіх кілбас не каштаваў...»

Парахаваўшыся з жонкай, Мікалай Карлавіч тады ж пераслаў бацьку грошы, колькі змог. Потым сталі меркаваць пра тое, каб наведаць Цімкавічы: маладая нявестка хацела пабачыць ягоных сваякоў, а свёкар марыў пазнаёміцца са сваёй нявесткай і шкадаваў, што маці не дачакалася гэтага шчасця.

У той міг, калі Мікалай Карлавіч трымаў у руках парыжэлы на сонцы, запэцканы мухамі ліст, душа яго была мяккая і далікатная, як воск на сонцы. Вецер за акном пераганяў ад гурбы да гурбы лёгкі сняжок, здзьмуваў яго з галін яблынь і вішань. Па вытаптанай у снезе сцяжынцы зрэдку праходзілі людзі. На ціхай прырэчнай вуліцы, дзе маладая пара здымала кватэру з двух пакойчыкаў, апускаўся вечар. Мікалай Карлавіч сумаваў па бацьку. Ён нават не пачуў, як вярнулася з горада жонка. Яна стаяла ў сутонні пакоя, і ў вачах яе свяцілася ласкавая ўсмешка.

Поездам даехалі да Слуцка, спыняючыся каля кожнага слупа. У вагоне было небагата людзей. Высокі вайсковец, схіліўшыся да акна, чытаў газету, якая

дрыжала дробна ў яго руках. Ён рабіў выгляд, што зусім не цікавіцца, пра што ўвесь час ціха перагаворваюцца маладыя спадарожнікі. За акном ружовіўся захад сонца і бялела шырокае поле.

Першую палавіну дарогі, як Мікалай Карлавіч ні стараўся разважыць сябе гаворкай пра ўсе тыя мілыя дробязі, якія так займаюць маладыя сямейныя пары, яго апаноўвалі думкі пра ўсялякія літаратурныя справы, пра бясконцыя спрэчкі пісьменнікаў і крытыкаў, пра тое, што важней — тэатр ці кіно, ці патрэбны беларускай літаратуры раман і драма, якія задачы літаратараў у галіне мовы. Што ж, спрэчкі тыя і дыскусіі мелі карысць, бо прымушалі думаць! Вядома, справа не ў дыскусіях, а ў тым, што з людзьмі адбываецца нешта незвычайнае, свет на пераломе, жыццё ўсім фронтам паварочваецца насустрач заўтрашняму дню.

У Асіповічах у вагон увайшоў невысокі чалавек у рудой жакетцы з самаробнага сукна, прытрымліваючы за шляю торбу на плячы. Ён сеў акурат насупраць Раманоўскіх. Канец доўгага носа яго быў сплюснуты набок. Паводзіў ён сябе вольна, і адчувалася, што ехаць у поездзе, быць у дарозе яму не навіна, што ён з тых, хто сёння — тут, а заўтра — там. Торбу дзядзька паставіў у нагах. Мікалай Карлавіч крадком назіраў за ім: цікава, што гэта за чалавек, адкуль і куды едзе, павошта? Мабыць, з сялян, але з зямлёй даўно не мае справы. Наогул, чалавек не мае пастаяннага месца на зямлі і шукае ў свеце немаведама што. От, едзе, сам не ведаючы куды, сыдзе з поезда там, дзе душа зажадае, тады, калі надакучыць муляцца на драўлянай лаўцы вагона! Без работы ён не баіцца застацца: усё ўмее, да ўсяго здатны. Але ж... перакаці-поле!

Дастаўшы з кішэні памяты пачак махоркі, дзядзька скруціў цыгарку. Нос яго пачырванеў, а левае вока яшчэ мацней заплюшчылася.

— Чаму вы, дзядзька, так вока прыплюшчваеце? — спытаў Мікалай Карлавіч.

— Ат, на гэты брыдкі свет даволі глядзець і адным вокам! — адказаў абыякава, без ценю ўсмешкі. Памаўчаў, потым растлумачыў: — Кантужаны быў на вайне.

— То дзядзька ваяваў?

— А хто ж, сынку, не ваяваў? Хіба толькі хворы або малы.

Зноў змоўк. І раптам разгаварыўся — дакурыў цыгарку, кінуў яе ў кут, пад лаўку, і стаў расказваць, абыякавы да таго, слухаюць яго ці не. Мікалай Карлавіч толькі зрэдку ўстаўляў адно-другое слова, выказваючы сваю зацікаўленасць. А дзядзька гаварыў пра тое, што чалавек да ўсяго прывыкае, што, от ён, жыў на Гродзеншчыне, а гэта трапіў на Случчыну, і нічога, здаецца, тут і нарадзіўся. Як гаворыцца, вольнаму ўсюды воля! Ідзі куды хочаш, рабі што хочаш. Ніхто цябе не спыніць, ніхто не змусіць быць не самім сабой. Можа, ты нікуды і не пойдзеш, але затое ты адчуваеш сябе вольнай птушкай. Бо самае галоўнае ў жыцці, каб чалавек чуў сябе вольна. Тады ў яго душа на месцы. Адна галава не бядна, а бядна, дык адна. Хто-ніхто скажа: «Ветрагон!» А от калі яго кантузіла, дык ён у першую хвіліну падумаў: «Добра, што ў мяне нікога няма!» Самому — што? Пабаліць, ды перастане. Страшна, калі хто блізкі пакутуе, а ты нічым яму не можаш памагчы. Сядзіш у тых акопах, на пазіцыі, аглушаны, а думкаю знаходзішся за тысячы вёрст, дзе старыя бацькі з голаду канаюць, выгнаныя з хаты чужынцамі брыдуць, бы жабракі, па бітай дарозе. Цяпер думаецца, што тады і перамяніўся натурай. Хочацца некуды ісці, нешта рабіць. Здаецца, тут добра, а там, дзе яго няма, яшчэ лепш. Усё нешта рупіць. Размаху якога-небудзь хочацца...

— То дзядзька сам па сабе жыве? Адзін?

— Але затое вольны казак.

— А чалавек, які, бы дрэва, пусціў карэнне і расце на адным месцы, хіба заняволены? Ён жа адчувае сябе гаспадаром...

— І клопатамі задаўлены.

— Без клопатаў нельга. Без абавязкаў перад іншымі людзьмі нельга.

— Кожнаму — сваё. Я вольны, калі адзін.

У Слуцку Раманоўскія доўга хадзілі па горадзе, зазіраючы ў крамы, завярнулі на рынак. Да Цімкавіч дабіраліся аўтобусам: яго нядаўна пусцілі туды. Мікалай Карлавіч паказваў жонцы мясціны, якія ведаў, расказваў розныя звязаныя з імі гісторыі. Пад'язджаючы да мястэчка, яны ўбачылі за ваколіцай дзядзьку Міхала, які чагосьці стаяў адзін і глядзеў, не міргаючы, удалячынь. Угледзеў аўтобус і правёў яго цікаўным позіркам. Можа, ён каго-небудзь чакаў, а можа, проста су-

маваў, абрыдзела сядзець зіму ў душнай хаце? Ці мала што магло прывесці чалавека за ваколіцу роднага мястэчка! Прынамсі, Мікалай Карлавіч не здзіўляўся: ён быў цімкаўцам і, здаецца, ведаў землякоў, іх схільнасць да дзівацтваў і нечаканасцей. Цімкаўцы часта рабілі ўсё наадварот, бо цанілі ў чалавеку больш за ўсё здольнасць у любых абставінах заставацца самім сабой.

Што ж, нораў цімкаўцаў адчуваўся ва ўсім! Вось і Капыльская вуліца, колькі яе помніць Мікалай Карлавіч, застаецца нязменнай. Каб прайсці па гэтай вуліцы, ды яшчэ папацёмку, зімой, трэба было яе хоць трохі ведаць. Інакш лёгка было паслізнуцца на раз'езджаных цімкаўскай дзятвой сцяжынках або пазбіваць ногі аб груды зямлі, замерзлай з восені. Ніхто з землякоў нават пальцам не павёў, каб хаця пяску сыпануць ці груды тыя параўняць, калі яшчэ можна было:

— Ат, вялікае тут што!

Маладых ужо ўгледзелі ў акно і выбеглі сустракаць сёстры і браты. Шумна ўвайшлі ўсе разам у хату. А там відната! Пад лямпачкай стол, а на стале шмат газет і часопісаў: «Беларуская вёска», «Узвышша», «Маладняк». «Узвышаўскія» нумары акурат з яго раманам «Сястра». З чыстай палавіны выйшаў бацька. Ён быў апрануты ў чыстую кашулю і прыкметна бянтэжыўся. Першая хвіліна агульнага разглядвання і знаёмства хутка сышла, і бацька з радасцю ў голасе аргаварыў пра адлігу, пра грамадскую алейню, якую арганізоўваюць у мястэчку, пра мясцовую пажарную дружыну і духавы аркестр пагранічнікаў, пра нябожчыцу маці, пра суседзяў і знаёмых.

Стол накрылі святочным абрусам, і на ім хутка паявілася і смажаніна і свежаніна. Бацька ўрачыста вынес з каморы адразу павільгатнелую ў цеплыні бутэльку гарэлкі і паставіў сярод талерак і місак. Выпілі першую чарку. Мікалай Карлавіч пажартаваў, што братам нічога не далі, і Юрка, бойкі і жвавы хлапчук, весела растлумачыў:

— Мы — піянеры, рыхтуемся ў камсамол. Нам нельга ні піць, ні курыць!

Мікалай Карлавіч бачыў, што Рэня адразу прыйшлася ўсім па душы, і быў рад гэтаму.

Мужчыны яшчэ доўга сядзелі за сталом, а жанчы-

ны перайшлі ў чыстую палавіну, каб узгаварыцца як мае быць пра ўсё і пра ўсіх. Міхал і Юрка малявалі насценную газету, слінячы языком каляровыя алоўкі.

Мікалай Карлавіч пазіраў на белагаловага астрыжанага малодшага брата, і той, перахапіўшы позірк, весела апавядаў, чаму гэта ён сярод зімы ў вялікіх чаравіках: у ботах паляцелі падэшвы ад несупыннага руху па цімкаўскіх вуліцах. Раз-пораз ён кідаў вокам на бацьку. Бацька прыкметна пастарэў, але яшчэ быў у самай сіле. Раптам успомніў, як некалі ён тлумачыў, што трэба шкадаваць чалавека, бо не кожны нарадзіўся на шчасце, і што на свеце заўсёды больш бяды, чым радасці. Падумаў, што бацька, гаворачы так, меў на ўвазе ўласную жыццёвую практыку, і, пакуль да таго нейкага чалавека, пра якога гаварыў бацька, любіў і шкадаваў яго самога, такога стомленага, спрацаванага, засмучанага. У сваім бацьку ён цяпер выразна бачыў увасабленне таго, на каго хацеў быць падобным сам.

Карл Раманоўскі ахвотна апавядаў пра розныя дарагія сэрцу драбніцы сялянскага жыцця. Мікалаю Карлавічу запала ў душу, як ён раптам загаварыў пра травінку ў гузыры снапа, у якой можна, пры адпаведным уяўленні, убачыць усю бясконцасць і ўсё хараство свету. Мікалай Карлавіч зразумеў, што бацька ўжо трохі адышоў ад цяжкіх успамінаў пра нябожчыцу маці і мог цяпер радавацца ўсяму на свеце, як малое дзіця, лічачы сябе шчаслівым ад таго, што бачыць новы лісток на дрэўцы, якое пасадзіў перад хатай, што складвае саломінку да саломінкі ў сваім гумне, што корміць каня ў хляве, што сустракае штодзень людзей, якіх ведае ўсё жыццё. Бацька ўжо быў пэўны ў сваіх дзецях, якія станавіліся на ногі і былі добрымі памочнікамі, і не кідаўся, як раней, і туды і сюды, не трапятаўся, не мітусіўся, а стала і цягавіта з дня ў дзень імшыў сцены, ставіў загарадзі, трос салому, часаў дрэва, калоў на плашкі. У ім жыла душа паэта, гэта значыць, чалавека, які ўспрымае ўсё вастрэй, чым іншыя.

Мікалай Карлавіч хацеў выказаць бацьку ўсё, што думаў пра яго, але хто ж гэта з мужчын гаворыць адкрыта пра свае пачуцці. Бацька чула адгукаўся на ўсё, што гаварыў сын. Вось Мікалай Карлавіч прыгадаў дарожную сустрэчу з чалавекам, для якога вольная воля даражэй за прывязанасць да роднага кутка, для якога ўвесь зямны шар родны і блізкі, і бацька адразу

зразумеў, што ён хоча гэтым сказаць: што сам ён не ўяўляе жыцця без роднага мястэчка, без людзей, сярод якіх гадаваўся... І бацька сказаў:

— Судзіць гэтага чалавека цяжка. Яго вайна выгнала з бацькаўшчыны. Цяпер яму ўсё там, на радзіме, мабыць, напамінае пра тое, чаго ўжо няма і ніколі не будзе. Як жа яму там жыць?! От і кідаецца чалавек па свеце! Ёсць такія непрыкаяныя душы. Унь у нас жыве такі Жывец, можа, ведаеш... Хаця ён нядаўна прыбіўся да нас. Увесь свой век па свеце чалавек бадзяўся і іншай долі не ведаў. Адным словам, кутнік! Зямлі сваёй ніколі не меў, усё на некага працаваў. А тут, у нас, наразалі гэта зямлю тым, хто яе не меў, дык ён кажа: «Навошта мне яна! Я і так пражыву». Яно так, завёў гаспадарку, то ўжо запрогся на век: клопат, небыт! А я паглядзеў на яго і падумаў: ат, гаворка! Некалі сам пашкадуеш, што жыў адным днём. Як гэта жыць, каб свайго прытулку не мець! Па чужых кутках туляцца! Нечай ласкі чакаць!..

Мікалай Карлавіч слухаў бацьку і разумеў: гэта споведзь чалавека, які, гаворачы пра іншага, гаворыць пра сябе, які ніколі не меў свайго кутка і цяпер лічыць вялікім грэхам жыць як да часу, які вымярае вартасць чалавека тым, як ён адносіцца да роднага кутка, што хваліў сваю старану, дзе блізка былі лясы, густа стаялі вёскі і праходзіла вялікая дарога.

Неўзабаве гаворка набыла зноў імпэт: прыйшоў бацькаў таварыш Уладзік Даменя. Ён пажадаў маладым шчасця ў дзецях і ў лецях, выпіў за іх здароўе чарку, а потым як мае быць прымасціўся да святочнага стала. Ён, як і бацька, быў вялікі ахвотнік да слова. Курылі, гаварылі, перабівалі адзін аднаго, хвалілі мінулае лета і ганілі цяперашнюю зіму, сталым парадкам расказвалі, якія глыбокія калодзежы пад Навагрудкам і як блізка вада пад Слуцкам. Бацька быў душой гэтай вялікай гаворкі, кожнаму памагаў выбіцца на добрую тэму, кожнага падтрымліваючы словам, многа гаварыў сам і даваў гаварыць іншым. З гаворкі пра калодзежы раптам пераскочылі на гаворку пра тое, што ў Капылі не вельмі добра вырабляюць татары скуры, часта перапальваюць поўсць і яна потым лезе пукамі, а фарба пасля першага дажджу перапаўзае на абламоўку кажуха. Нечакана загаварылі пра тое, што даўней у хаце была поўная покуць абразоў, а гэта ва-

стаўся толькі адзін, але і той вельмі замінае дзяўчатам, Ганне і Мані. Гаворка завяршылася сентэнцыяй Дамені:

— От так, як цячэ вада ў Бушылаве, так усё ў жыцці плыве! І каб нябожчыка Рамана або Міхала Шапавала падняць з магілы, дык не пазналі б Цімкавіч.

Змянілася сапраўды шмат. Гэта нічога, што Капыльская вуліца тая самая, але людзі па ёй ходзяць іншыя, з іншымі настроямі і адчуваннямі. А Даменя, адчыніўшы дзверы і ўгледзеўшы цемру на двары, хоць на воўка ўссунься, прыгадаў на адыход, як калісьці такой парой мужчыны збіраліся ў тракціры ў Фрумы, гулялі ў карты, пілі і пад вясёлым градусам біліся: Павал, Міхал, Раман, Сцяпан і канца-краю няма імёнам людзей, якіх ужо няма на свеце.

Нейкі час маўчалі. Потым бацька спытаў, ці надоўга яны прыехалі. Мікалай Карлавіч адказаў, што толькі на два-тры дні, што заўтра збіраецца пад'ехаць у суседнюю (кіламетраў п пяць) вёску Кулакі — мае заданне ад рэдакцыі «Беларускай вёскі». Бацька адразу пачаў гаварыць пра дзень, калі белапалякі палілі гэту вёску, пра 20 ліпеня 1920 года:

— Цяпер Кулакі не пазнаць — адбудаваліся.

Кулакі, Селішчы, Еўлічы, Кіевічы, Лешня, Быстрыца, Дзярэчын, Мацкевічы, Цімкавічы — гэтыя вёскі напаткала адна доля. Гісторыя Беларусі склалася так, што на яе зямлі адбываліся крывавыя спатканні заваёўнікаў, скрыжоўваліся інтарэсы палітыкаў, гандляроў, «апекуноў культуры». Беларусь, якая ў свой час адыграла выдатную ролю ў развіцці культур суседніх народаў, сама пакутавала пад прыгнётам — сацыяльным і нацыянальным. Мінулае пакінула глыбокі след на беларускіх гонях. Яшчэ глыбейшы след пакінула яно ў людской памяці. Мінулае штораз успамінаецца, калі думаеш пра беларускія вёскі, якія там, на Захадзе, за нейкіх пятнаццаць кіламетраў ад Цімкавіч, задыхаюцца пад навалай пілсудчыны. Вось яны, парадоксы гісторыі! Польшча, якая за часы царскага панавання сама зведала ўвесь цяжар двайнога прыгнечання, цяпер, пад уладай Пілсудскага, стала прыгняталънікам іншых народаў... Прыйдзе судны дзень! Сацыяльныя рэвалюцыі — гэта і ёсць час, калі адбываецца вялікі суд, калі рабочыя і сяляне розных краін і народаў су-

дзяць сваіх катаў. І трэба быць напагатове, каб у судны дзень прад'явіць гісторыі рахунак за панесеныя ахвяры, за перажытыя народам пакуты. Трэба даскапала вывучаць ахвяры...

Назаўтра Мікалай Карлавіч, пакінуўшы жонку дома, балазе, яна хутка сышлася з сёстрамі, ехаў у санях па вузкай дарозе ў Кулакі, каб з вуснаў сведак страшнага мінулага пачуць праўду. З ціхіх палёў паволі сплываў сіні змрок. У вёсцы рыпелі вароты, каля абледзянелага калодзежа плюхала вада, вуліца поўнілася людскімі галасамі. Ажно вусцішна стала ад думкі: няўжо ўсё забыта? Няўжо даравалі гвалтаўнікам? Карнікам? Грабежнікам?.. У пакоі старшыні сельсавета Мікалая Чаркаса ўжо былі наведвальнікі. Гаварылі пра дровы і пра лес. Нехта смеючыся апавядаў, як летась ляснічы прадаў на пні адны дрэвы двум пакупнікам. Мікалай Карлавіч адчуў: людзі гаварылі пра тое, што балела. Старшыня і сакратар сельсавета ў Кулаках — маладыя і культурныя людзі, слаўныя працаўнікі.

У першай хаце, куды зайшоў Мікалай Карлавіч, гаворка таксама пайшла пра лес: Мікалай Карлавіч цяпер ведаў, як зачапіць кулакоўца за жывое і разгаварыць яго. Гаспадар скардзіўся на пакражу дроў. Потым падаў думку:

— Хіба ўвесці трэба лясную павіннасць: каб кожная вёска штогод засявала пэўны ўчастак лесу.

У наступнай хаце былі маладыя хлопцы і расказалі пра хуліганства, п'янства, бескультур'е. Паказалі Мікалаю Карлавічу кнігі — найбольш брашуры па кааперацыі, але і тых было мала.

Наогул, у кожнай хаце была свая гаворка. Мікалай Карлавіч любіў гэтых людзей і ведаў, чаго яны чакаюць ад яго. А чакаюць яны найперш увагі і павагі. Ён ніколі не пачынаў з таго, дзеля чаго прыйшоў: так чужому чалавеку яны адразу і адкрыюцца! Не, ён браў на сябе ролю то звычайнага падарожнага, які зайшоў напіцца вады ці спытаць дарогу, то чалавека, якому страх як захацелася акурат у гэтую хвіліну закурыць, а карабок з запалкамі недзе выкінуўся па дарозе, то купца, які прыцэньваецца да тавару, пытае парады, усё заўважае і ўсяму аддае належнае. Прынамсі, вяскоўцы хутка яго прызнавалі за свайго і ахвотна ўступалі ў гаворку і пра арганізацыю тарфя-

нога прадпрыемства, і пра землеўпарадкаванне, і пра пабудову школы, і пра адкрыццё лячэбнага пункта, і пра белапольскую акупацыю, і пра розныя здарэнні. Многія расказвалі пра забойства ў Дзярэчыне сакратара камсамольскай арганізацыі. Хвалілі яго. Следства нічога не выявіла. Перад тым як знайшлі яго нежывым, быў сход ячэйкі. Яшчэ была пагалоска, што ён сам застрэліўся. Ці так гэта? Следства павінна раскапаць гэту справу.

Вяртаўся Мікалай Карлавіч у Цімкавічы пад вечар. У старшыні сельсавета сышліся мужчыны, і ён развітаўся з імі як з добрымі знаёмымі. На вуліцы заціхалі дзіцячыя галасы, у хатах запальваліся агні. Рыпеў пад палазамі мёрзлы снег. Мікалай Карлавіч сядзеў на развалах, выцягнуўшы ногі на адзін бок. Дух захоплівала — так імчалася жарабіца. Цімкавічы сустрэлі вясёлымі электрычнымі агнямі.

Каля бацькавага аселішча санкі спыніліся, і Мікалай Карлавіч узышоў на заснежаны двор. У глыбіні двара за нізенькім плотам бялеў стог саломы. Да яго падышоў бацька і нагроб пярэбірак,ператрос на таку з сенам і панёс у хлеў каню. На двух высокіх клёнах каля гумна цямнелі чорнымі асмалкамі сонныя вароны. З коміна суседняга дома ўздымаўся дым і адразу ападаў уніз, сцелючыся па страсе. «На адлігу»,— падумаў Мікалай Карлавіч.

У хаце, на ложку, сядзелі сёстры і Рэня, ціха размаўляючы. Ганна хілілася на сярэдзіну пакоя, да святла, якое падала з падвешанай нізка да бэлькі лямпачкі, і латала бацькаву кашулю. Расказвалі якраз пра Юзікаву Соню, якая добра выйшла замуж за студэнта-практыканта, што з каморнікам зямлю мераў, і цяпер жыве недзе ў Мінску. Мікалай Карлавіч аднойчы сустрэў абаіх на людной вуліцы. Соня прыкметна пастаўсцела і выглядала сталай і задуменнай. Убачыла яго і раптам пабялела, неяк асунулася, зрабілася маленькай. Мікалай Карлавіч ведаў яе з малых год, а пазней стаў адрозніваць яе ад іншых дзяўчат, радаваўся, сустракаючы яе, і смуткаваў, расстаючыся. Запомніў, як аднойчы ехаў на кані з поля, напаткаў яе, перакінуўся адным-двума слоўцамі, прапанаваў пад'ехаць разам з ім і абрадаваўся, што яна адмовілася: у яго былі брудныя босыя ногі, запэцканыя палатняныя порткі і палатаная сарочка. Такой і была яна заў-

сёды ў яго памяці — далёкай і блізкай, вясёлай і сумнай, прывабнай. Адзін час яны вельмі зблізіліся. Дзяўчына прыбягала роснымі агародамі і паплавамі да яго штовечар, ён абдымаў яе, песціў, насіў на руках, чуючы, як дрыжыць яна ад гэтай блізкасці і як моўчкі туліцца і глядзіць у цемру шырока расплюшчанымі вачамі. Свяцілі зоры, шумелі залатыя асіны, недзе далёка нехта прыгожа спяваў, а яму хацелася плакаць. І яшчэ хацелася расказаць усім пра тое, што было на душы. Тады ён са страшэнным смуткам адчуваў, што каханая яго не зразумее. Потым прыйшла звыкласць, знікла палкасць жаданняў, паступова вырасла адлегласць паміж імі, і ўжо нічога нельга было зрабіць, каб вярнуць ранейшае. Застаўся лёгкі смутак па нечым такім, чаго, магчыма, няма ў жыцці, але да чаго горнецца чалавечая душа.

А сёстры, ужо смеючыся, перdesigned вясковую плётку пра яго былую каханую, як толькі стала вядома, што Соня і студэнт-практыкант, які ўжо стаў каморнікам, пабраліся. Маўляў, цяперашнія шлюбы няМоцныя. А ў горадзе наогул выходзяць замуж, каб тут жа пачаць разводзіцца. Штодня ў газетах пішацца: грамадзянін такі бярэ разлуку з грамадзянкай такою. Што ж, хараство хутка прыглядаецца! А таго розуму, які спатрэбіўся б, каб жыць разам, і няма. Гэта не тое, што ў галаве чалавека ёсць бог і закон, калі муж і жонка, хоць і апрыкраюць адно аднаму, трымаюцца разам, выхоўваюць дзяцей, бо ведаюць: сваёй долі не абмінеш, у жыцці ўсяляк здараецца! А потым прыйдзе звычка, і ўсё стане на сваё месца. Каморнік жа думае і жыве інакшай, таму Соня ніколі не знойдзе з ім свайго шчасця...

Мікалай Карлавіч сеў на ложак. Сёстры адразу пасунуліся, даючы яму месца каля жонкі. І ўжо бачыў толькі святло лямпачкі, густую цемру за акном, цеплыню ў яе поглядзе. Адчуванне блізкасці межавала ў яго душы са смуткам. Хутка бег час. Гаварылі шмат пра што, але ні разу пра самае важнае для кожнага. Тым не менш, яны былі шчаслівымі.

Гуртам узняліся і пайшлі ў хату-чытальню. Ад хады і лёгкага марозу захоплівала дух. Сям-там чулася цупанне цапоў у таках. Пахла пылам з растрэсеных снапоў. Каля адчыненых варот гумнаў бялела салома. Часам на двор выходзілі людзі з запыленымі тварамі,

чорнымі вусамі і барадамі, і ў цемры пачынаў зырчэць агеньчык цыгаркі. Грукалі ў станках капытамі коні, шырока ўздыхалі каровы, жаласна мэкалі авечкі. Заходзіліся брэхам сабакі. За нізкімі платцамі танулі ў снезе чорныя ствалы яблынь і груш. Здалёк чулася глухое гудзенне малатарні. Даючы «дзяндобры», прасунуўся ў цемры на санях-развалах Хоня-балагол, і Ганна адразу ўспомніла, як забягала суседка раніцай і расказвала пра Хоневага хлопца, які быў ускочыў у цэбар з лугам і замалым не апарыўся, бо каб луг быў гарачы, то папакачаўся б потым у бальніцы. Пасмяяліся, успамінаючы розныя падобныя здарэнні і чуткі. «У цімкаўцаў так,— думаў Мікалай Карлавіч,— яшчэ нічога не адбылося, а ўжо робяцца меркаванні, што было б, калі б...»

Сёстры расказвалі, што пра яго ■ Рэняй таксама хадзілі розныя пагалоскі, як толькі ў Цімкавічах стала вядома, што яны пабраліся. Зноў жа найбольш за ўсіх ведала суседка, што ў іх нелады, што ён збіраецца надоўга за граніцу давучвацца і што наўрад ці вернецца назад, бо нашто яму больш вучыцца, што ў цяперашніх маладых так яно і вядзецца, бо жывуць усё як да часу, што не на дабро пайшло, бо вельмі шмат было зайздроснікаў, а як жа — вучаны, разумны, далікатны...

У старым папоўскім доме, большую палавіну якога займала хата-чытальня, свяціліся два акны. Раз-пораз адчыняліся шырока дзверы, і з хаты чуліся гучныя маладыя галасы. Потым нехта заспяваў, моцна, ведаючы, што поп рана кладзецца спаць і любіць цішыню. На падлозе было насыпана пілавінне. Сталы пазаліваны чарнілам. На адным з іх ляжала некалькі нумароў газет. У кутку стаяла зачыненая шафа. Маня сказала, што аднойчы дзяўчаты рыхтаваліся да жаночага сходу і ператрэслі ўсю «цімкаўскую акругу», каб дастаць патрэбны нумар часопіса «Работніца і сялянка». У большым пакоі хлопцы, сярод іх былі і браты Мікалая Карлавіча, схіліліся над насценнай газетай і давалі парады мастаку. У меншым пакоі было шмат хлопцаў і дзяўчат.

Мікалай Карлавіч зірнуў на братоў са шкадобай у паглядзе: апранутыя бедна, худыя, нясукладныя нейкія, а ён — у гарадскім гарнітуры, пад гальштукам, чысты, дагледжаны. Падумаў, што мала ён дапамагае бацьку. Успомніў, як Юрка з сябрам-аднагодкам гава-

рыў пра маці, ці помніць той сваю, як шкадаваў, што не засталося фотаздымка, але калі сябра сказаў, што здымецца з бацькам, каб засталася памяць аб ім, не згадзіўся, бо маме будзе крыўдна, што яе твар забыў, а бацькаў будзе заўсёды памятаць. Падумаў, якая чулая душа ў брата і як цяжка яму давядзецца з такой чуласцю ў жыцці.

Падлеткі раптам загаварылі гучна і бязладна — спрачаліся, дадуць ці не дадуць грошы на музычны інструмент, наймуць ці не наймуць «якога-небудзь капельдудкіна», каб навучыў іх іграць. Нехта з падлеткаў зацягнуў дзяркатым галаском:

Над зялёнаю лукою
Ходзяць мухі з талакою...

У гэты момант з бакавога сельсавецкага пакойчыка выйшаў старшыня сельсавета і сказаў:

— От у наш час песні спявалі!

— Якія?

— «Ах, мой божа, сівы конь стаіць»! Ажаніўся хлопец, а на другі дзень яго забралі ў войска. Склаў ён недзе галаву, а яго конь прыбег дадому, бачыць — вароты зачынены, маладая жонка таго хлопца яго не пускае ў двор. А конь разумее ўсё, але сказаць не можа, хоча заплакаць, але слёз няма. Так і стаіць, а маладая ламае рукі, на ганку стоячы.

— Ну, а далей што?

— Што яшчэ далей... Пяецца: «Ах, мой божа, сівы конь стаіць».

Старшыня спрытна выдзьмуў з люлькі недакурак і падышоў да Мікалая Карлавіча павітацца: чатыры гады назад яны працавалі разам у сельсавеце, Мікалай Карлавіч тады быў сакратаром, і слаўна працавалі.

Падлеткі зважліва выслухалі старога і зноў зацягнулі:

Над зялёнаю лукою...

Старшыня адно махнуў рукой, развітаўся з Мікалаем Карлавічам і пайшоў з хаты. Але Чорны правёў яго да брамкі. Потым моўчкі стаяў, гледзячы ўслед, слухаў, як дзядзька выспеўвае:

Той прымчаўся конь дадому.
Ах, мой божа, сівы конь стаіць!

У душы зноў запаліўся востры смутак. Вычакаў, пакуль сыдзе гэта вастрыня, вярнуўся ў хату-чытальню. У большым пакоі тым часам вынеслі сталы, а на лаўцы пры сцяне сядзелі два музыкі і падкручвалі струны на скрыпках, просячы хлопцаў не падспеўваць і даць настроіць скрыпкі. Юрка стаяў сярод падлеткаў і бліскаў вачамі на яго. Вось ён наблізіўся да хлапца (Мікалай Карлавіч не пазнаваў яго — павырасталі, змяніліся), які стаяў з маленькай смуглявай дзяўчынай і на ўсе вочы глядзеў на яе, баючыся сустрэцца позіркам з ёю. Урэзалі польку. Некалькі пар пачалі скакаць. Мікалай Карлавіч спрытна падхапіў жонку і таксама выйшаў на круг. Узбуджаны і радасны, падышоў потым разам з Рэняй да сясцёр. Каля іх было шмат моладзі. Усміхаліся дзяўчаты, жартавалі, свавolілі хлопцы. У гурт убіўся раптам цімкаўскі дзяк, патрос усім як ёсць рукі, хлопцам падносячы жоўты партабак:

— Закурвайце... Не табак — адэкалён... Два гады мацунку набіраўся...

Сёстры потым, калі ішлі дадому, растлумачылі Мікалаю Карлавічу, чаму так дзіўна паводзіў сябе дзяк, «пралетар сярод духавенства», як ён назваў сябе: чалавеку надакучыла бясправаўе, чалавек захацеў мець «голас», прыносіць рэальную карысць і ўспомніў свой даўнейшы талент, калі ён кіраваў капэлаю, вяселлі граў, выступаў на сцэне. От, яго талент і спатрэбіўся — хлопцы збіраюцца арганізаваць аркестр!

Дзяк доўга яшчэ растарэкваў, пстрыкаючы пальцамі па жоўтым вечку партабака. Потым, дастаўшы з кішэні гадзіннік, адбіў агульны паклон усім і пайшоў на вуліцу, вясёлы і лёгкі.

Зноў зайгралі скрыпкі і ўдарыў бубен. Мікалай Карлавіч увесь вечар танцаваў, то з жонкай, то з сёстрамі, перажываючы слодыч захаплення жыццём, замешаны на журбе.

Ідучы дадому, сустрэлі вёрткага і маленькага Петруся Міхалінчыка і доўгага панурага Яўхіма Стрыгуна. Тыя заўзята спрачаліся, нічога і нікога не заўважаючы навокал. Пра што яны спрачаліся, цяжка было разабраць, але ўявіць можна было, і Мікалай Карлавіч не ўтрымаўся, каб не прадэманстраваць тое, што яму ўявілася:

— У Агрэставічах дык у чатырох гаспадароў свін-

ні, як горы, за платамі ляжаць. Што гэта будзе? Божа мой божа! — скуголіў ён голасам Яўхіма Стрыгуна.— Бяда будзе! Голад будзе! Згіненне на народ прыйдзе! Зямля цяпер спустошана, коні цяпер слабыя, народ цяпер здрабнеў, свет спарахнеў... Гвалт будзеш крычаць, будзеш енчыць, стагнаць...

— Будзеш крычаць, пішчаць, крактаць,— у тон яму працягваў Мікалай Карлавіч голасам Петруся Міхалінчыка.

— Ратунку не будзе...

— Будзеш ракам поўзаць...

— Бедаваць...

— Скуголіць, выць...

— Тужыць, гараваць...

— Чухацца, смэркацца...

Усе зарагаталі, не вытрымаўшы маўчанкі. Пачулі, як голасна вылаяўся Стрыгун і як хіхікнуў Міхалінчык.

Мікалай Карлавіч падумаў, што гэта, мабыць, прырода стварыла таго Стрыгуна такім, каб якая-небудзь чулая натура па-брацку трохі пасмяялася над ім, а пасля над ім жа горка заплакала.

У пачатку Капыльскай вуліцы ўсе спыніліся: сёстры развітваліся з хлопцамі і дзяўчатамі, дамаўляліся аб сустрэчы. А праз некалькі крокаў напаткалі двух цімкаўцаў (у цемры не пазнаць было, хто гэта). Адзін з іх (выразна было чуваць) скардзіўся на жыццё другому, выказваў і ніяк не мог выказаць сваю крыўду, бо не знаходзіў слоў, каб выявіць усё, што яны перажылі за сваё жыццё. Мікалай Карлавіч ведаў гэтыя размовы, чуў колькі разоў гэтыя споведзі, калі з субяседніка трэба выцягваць словы, бо сам ён іх не знаходзіць. А размовы тыя былі простыя:

— Жыў бедна?

— Жыў.

— Гараваў?

— Гараваў.

— Дабра шмат бачыў?

— Якога там дабра!

— Перад начальнікам усякім шапку скідаў?

— Скідаў.

— Спіну гнуў?

— Гнуў.

— Нішчымны хлеб еў?

— Еў.
— Дык от ты, дзядзька, і крыўду сваю выказаў?
— Можна сказаць, што і выказаў.

І Мікалай Карлавіч думаў пра тое, што ўсё ўбачанае ім і пачутае тут, у Цімкавічах, у іншых беларускіх вёсках, у жыцці наогул, павінна знайсці месца ў яго творах. Нехта павінен выказаць за гэтых родных і блізкіх людзей тое, што яны самі моўчкі і цярпліва нясуць у сваёй душы, не чакаючы ўзнагароды за пražытае і нават звычайнай удзячнасці. Трэба паказаць, які агонь пратэсту супраць жыццёвай несправядлівасці гарыць пад гэтай знешняй пакорай і «ціхасцю»...

Пераначаваўшы яшчэ адну ноч, Мікалай Карлавіч з жонкаю выязджалі з Цімкавіч. Пакуль не было аўтобуса, то стаялі ў грамадзе цікаўных і дападкіх да ўсяго цімкаўцаў, слухалі людскую гаману. Мікалай Карлавіч раптам заўважыў у блізкім двары старшыню сельсавета, які, трымаючы рукі ў кішэнях аблезлай бравэркі, нешта гаварыў старой жанчыне. Па тым, як ён трымаўся, можна было здагадацца, што размова ішла не пра дровы, не пра нейкую там дапамогу, якую павінен даць сельсавет, а пра жыццё, пра гады, пра здароўе. Субяседнікі былі ў аднолькавых гадах, і ім было пра што пагаманіць. Мабыць, прыгадалі той час, калі былі маладыя і хадзілі разам на пагулянкі. Але ўсё гэта даўно было і помніцца як у сне. Старая жанчына, мабыць, гаворыць старшыні, што цяжка нешта рабіць, няма ранейшага спрыту і сілы, што ўсё часцей сняцца памёршыя родныя і блізкія і клічуць да сябе, а старшыня суцяшае яе тым, што ў тон ёй скардзіцца на свае гады, на тое, што быў паехаў у лес па дровы і прамачыў ногі, абуў лапці, а не боты, шкада стала ботаў, і цяпер ногі млеюць, слабасць нейкая нападае, косці ломіць, што ўдзень, як расходзішся, дык нічога, можна трываць, а раніцаю дык цяжка з ложка ўстаць, і што гэта, трасца на яго, ні хвароба, ні здароўе. І Мікалай Карлавіч падумаў, што вось і з дзядзькам не паспеў пагаварыць як мае быць, як гаварыў неаднойчы тады, калі разам працавалі. Час ідзе, і трэба спяшацца аддаць гэтым родным і блізкім людзям запазычанае ў іх, вярнуць, хоць у малой долі, узятае, адплаціць дабром за дабро.

Аўтобус выйшаў з Цімкавіч каля паўдня і ехаў па вуліцах мястэчка марудна, так што можна было ба-

чыць, як на Клецкай вуліцы стаялі цётка і дзядзька і нечага смяяліся. Потым абагналі воз, на якім ляжаў падсмалены вяпрук. За апошнім агародам убачылі двух індыкоў, а на «Прускіх» паплавах у той жа, што і ў дзень прыезду, паставе адзінока стаяў дзядзька Міхал, здавалася, што і не адыходзіў з месца. Усё знаёмае і роднае заставалася ззаду, і дзіўна было, што ён, Мікалай Карлавіч, усё гэта пакідае, можа, нават ніколі больш не ўбачыць, а калі ўбачыць, дык рэдка — раз у год ці ў два гады. Шкада было чорных дрэў каля дарогі, гэтых паплавоў і агародаў, старога бацькі, клапатлівых сясцёр і малых братоў, і шкадаванне, замілаванне гэта да людзей вылілася ў думкі пра тое, якая вялікая яна, зямля, як шмат усяго на ёй: «І смяецца, і маўчыць, і плача, і пакутуе, і цешыцца зямля. Зямля, зямля».

## XII

### «БАЛЬЗАК»

Рэпетыцыя скончылася. У зале запалілася святло. Вялізную люстру, што навісала над галовамі, не запальвалі. Людзей было, бы на спектаклі. Яны паступова прывыкалі да святла, азіраліся цікаўна, дзе яны і што з імі. Многія здагадваліся, што прысутнічалі пры нараджэнні чагосьці цікавага ў тэатральным мастацтве. Свядома не звярталі ўвагі на непазбежныя накладкі, калі акцёры не чулі часам адзін аднаго, а ўсе разам не разумелі, чаго хоча рэжысёр: нічога не зробіш, «адавая» рэпетыцыя, чарговы прагон п'есы на сцэне. Шукалі вачамі рэжысёра, аўтара п'есы, пазнавалі ў невялічкай круглатварай жанчыне яго жонку з дзіцем на руках. Сябры, знаёмыя спяшаліся да Кузьмы Чорнага, віншавалі, паціскалі руку, лёгкім нахілам галавы кланяліся жонцы, якая ціха стаяла побач і шчасліва ўсміхалася, штораз пазіраючы на малую Ірынку. Мікалай Карлавіч аджартоўваўся і, калі хто настойліва даводзіў сваё, гаварыў, што найбольшай пахвалы заслугоўваюць акцёры БДТ-1, а не аўтар.

Зала памалу пусцела. Чорны пацалаваў у шчаку

жонку, усміхнуўся малой і пайшоў да акцёраў, што ўжо сыходзіліся адусюль у залу. Рэжысёр Леў Літвінаў прасіў усіх садзіцца бліжэй і, не дачакаўшы цішыні, стаў горача тлумачыць, чаго ён хоча і дамагаецца ад выканаўцаў. Яго выслухалі з цікавасцю, але моўчкі: рэжысёр ёсць рэжысёр! Ажылі, калі пачулі, што прэм'ера п'есы «Бацькаўшчына» запланавана на 7 лістапада, на свята 15-годдзя Вялікага Кастрычніка. Адчувалася, што ўсе прысутныя поўніліся ў гэтую хвіліну ўсведамленнем адказнасці. Можа, таму з такой увагай слухалі Чорнага. Як бы спадзяваліся пачуць нейкі вядомы толькі яму, аўтару, сакрэт твора. А Мікалай Карлавіч, калі Літвінаў прапанаваў яму зрабіць свае заўвагі ўдзельнікам спектакля, спачатку жартаўліва аднекваўся, а потым згадзіўся. Сеў сярод акцёраў, «каб не быць (як сам сказаў) прамоўцам», і далікатна зрабіў некалькі заўваг аб няправільным вымаўленні некаторых слоў, удакладніў некалькі дэталей адзення, а потым усміхнуўся і, азіраючы ўсіх, сказаў:

— Не ведаю, як вам, а мне ўсё падабаецца ў спектаклі: і афармленне, і акцёрскае выкананне, і рэжысёрскае вырашэнне... А што да асобных непаладкаў, то тут больш мае, як чые іншае, віны. Як аўтар я адчуваю хібы свае п'есы. Яна перароблена з рамана, і ёсць вялікі налёт апавядальнасці: даўгія маналогі, інфармацыйны пераказ ад трэцяй асобы, мнагавата, на мяжы з натуралізмам, падрабязнасцей... Усё гэта паслабляе драматургію твора. У далейшым я хачу сашрубаваць інтрыгу так, каб з твора нельга было выкінуць самае найменшае сітуацыі, фразы і слова і каб нельга было нічога дадаць. Трэба яшчэ падумаць над вобразамі Марылькі і Адася Гушкаў: яны пакуль што слабое адлюстраванне свайго бацькі, Леапольда Гушкі. Яны пазбаўлены жывой пераканальнасці. Мяне вельмі не задавальняе трэці акт: падзеі ў ім не прайшлі праз індывідуальнае праламленне галоўных персанажаў. Я цяпер працую над гэтым актам. Наогул стараюся давесці твор да ўзорнай закончанасці.

Мікалай Карлавіч падняўся і хацеў развітвацца, але акцёры акружылі яго цесным колам: адны прасілі дапісаць некалькі слоў у ролі, другія — выкрасліць ці замяніць той або іншы выраз. Ён слухаў уважліва, запісваў у кніжачку, абяцаў падумаць, памеркаваць і, узгадніўшы з рэжысёрам, выканаць просьбы і пажа-

данні. Многія ж проста хацелі паслухаць, што ён думае пра сваіх герояў, якімі іх бачыць.

— Калі я пісаў «Бацькаўшчыну»,— сеўшы ў крэсла, пачаў расказваць Чорны,— мяне менш за ўсё цікавіла сама ідэя. Я бачыў перад сабой жыццё людзей, якіх я добра ведаю і люблю. У адной хаце з намі, толькі цераз сенцы, у фальварку Лапацічы на Случчыне, дзе парабкаваў мой бацька, чалавек ціхі і працавіты, але беззямельны, жыў парабак Леапольд Ешка, родам сілезец (слёнзак). Ён даглядаў (са сваім памочнікам) некалькі тысяч панскіх мерыносавых авечак, а таксама і яшчэ сім-тым займаўся, напрыклад, не зважаючы на тое, што мне калі-небудзь будзе трыццаць два гады, браў мяне на рукі і тлумачыў мне, што няма на свеце лепшай краіны, як Сілезія. Я ўсё гэта запомніў на ўсё жыццё і меў на ўвазе, калі пісаў «Бацькаўшчыну». Леапольд Ешка не падобен да Леапольда Гушкі тым, што ён не быў патомак сілезскіх ткачоў і ніякай зямлі не купляў, але тут ужо пачынаецца развага аб творчасці. Гэты чалавек даўно прасіўся ў раман, і я нарэшце знайшоў спосаб расказаць пра яго і такіх, як ён. Я хацеў паказаць, як просты чалавек, сам не ведаючы, як гэта называецца, сутыкнуўся з ідэяй уласнасці і ідэяй бацькаўшчыны. Якім я бачу майго героя? Я бачу яго ў вечным клопаце, рухавым, заклапочаным. Але не трапятлівым. Яшчэ вось што! Ён адметны ад тутэйшых людзей, штосьці ёсць адмысловае ў яго вымаўленні. Акрамя гэтага, ён насіў не гэтакую, як усе, шапку: нешта накшталт магеркі з брылем. Сам ён родам з Сілезіі, і яго клічуць — слёнзак. Але ва ўсім астатнім Леапольд Гушка як мае быць беларус. Гэта чалавек, які жыве таму, што спадзяецца на лепшае. Варта надзеі апанаваць ім, як ён маладзее на вачах, становіцца такім, якім быў, калі сватаўся да свае жонкі. Ён усё вынесе на сваіх плячах! Ён усё зробіць! І ўсё, што трэба, каб жыць, набудзецца! Ён нават знешне змяняецца — становіцца гаваркім, рухавым, твар яго дыхае яснотамі: «Чалавек родзіцца на тое, каб жыць. А жыць... А жыць — гэта не ў каравых анучах гніць». Які чалавек вясёлы, калі ўсё на свеце яму добра ідзе! Гушка гатоў з сябе апошнія боты зняць, абы толькі ягоныя дзеці не ўведалі таго, што ўведаў ён, рвучы жылы на чужым полі, купляючы зямлю іншым, пакутуючы не гэтак целам, колькі душой. Ён — моцны ча-

лавек. У яго — вялікая душа. Ён жыве страсцямі. Тым мацней одум, які бярэ яго, калі надзея знікае. Гэты момант вельмі добра перадае Уладзімір Уладамірскі. Ён ажно бялее як палатно: «Не трэба мне гэтае зямлі!.. Гэтакае зямлі!..» Адчуваеш, як штосьці гняце чалавека, згінае да зямлі, не дае дыхнуць на поўныя грудзі, як тлее, марнее, сціскаецца, чэзне яго сэрца. Леапольд Гушка, у выкананні Уладамірскага, вельмі зямны і адначасова манументальны. Выкананне майстэрскае. Колькі страсці, гневу ён укладвае ў словы, якія ў іншага выканаўцы гучалі б гумарыстычна: «Хлоп! Які я хлоп, каб табе па жываце хлопала!» Не, я не заклікаю ўсіх быць падобнымі да Уладамірскага. Кожны павінен быць самім сабой. Напрыклад, Зораў выконвае ролю Евеля Цывіна ў інакшым плане. Гэты герой такім і задуманы: жартуе там, дзе справа сур'ёзная, і сур'ёзны там, дзе трэба смяяцца. Ён — аптыміст і верыць у перамогу рэвалюцыі.

Чорны скончыў гаварыць, і размова пайшла рознымі кірункамі: у адной групцы абмяркоўвалі сур'ёзныя праблемы, у другой жартавалі, у трэцяй падбівалі адзін аднаго пайсці ў бліжэйшую кавярню... Чорны жартаваў, паказваў сцэнкі з вясковага жыцця, імітуючы людзей і жывёлу. Ён трымаў сябе проста і лёгка пераключаў размову з адной тэмы на другую. Умеў ён і ў час незаўважна пайсці без лішніх паклонаў і рэверансаў, калі размова страчвала свой імпэт. Быццам была ў тым пільная патрэба, Чорны раптам узяў пад руку Літвінава і адвёў яго ўбок, каб сказаць некалькі слоў. Неўзабаве развітаўся і выйшаў на вуліцу.

Была ясная восень. У Тэатральным скверы кружылася ў паветры жоўтае лісце, апускалася на ўсё яшчэ зялёную траву, на ваду навокал бронзавага хлопчыка, які абдымаў лебедзя і рваўся думкай у вышыню, не зважаючы на аглушальнае кваканне бронзавых, пафарбаваных у зялёнае, рапух. Мікалай Карлавіч саступіў дарогу вясёламу гурту дзяўчат, якія зусім не заўважылі яго, такім, мабыць, старым ён здаваўся ім, з кульбай, пад гальштукам, у капелюшы. Азірнуўся: усе, як адна, былі ў белых балетках з блакітнай аблямоўкай. Крык моды! Яны як пачулі, таксама азірнуліся і гучна някрыўдна засмяяліся: гэта ж трэба — выдавалі сябе за абыякавых, а самі!.. Ён яшчэ бачыў,

як дзяўчаты спускаліся каля капліцы пад гару, кіруючыся, хутчэй за ўсё, у парк Прафінтэрна.

Уражанне ад гэтай сустрэчы хутка сплыло, як толькі выйшаў на Савецкую. Каля камісіёнкі, каля «Торгсіна» было шмат людзей. Маўклівыя, з агнём смутку ў вачах, найбольш жанчыны, цэлымі сем'ямі, з дзецьмі, яны раскладвалі проста на тратуары свой набытак, які ўражваў убогасцю: коўдры, ручнікі, падушкі, вышыванкі, скруткі палатна, кофты, карункі — выбірай што хочаш, толькі дай узамен кавалак хлеба, або крупы, або зерня. Украіну спасцігла засуха. Беларусам таксама давялося ўжыць бяды.

Мікалай Карлавіч, які звычайна так любіў пагаманіць з людзьмі, патаргавацца, нібы ўсур'ёз, непрыкметна перавесці размову ў патрэбны кірунак, тут адчуў, што словы не маюць сілы і лёгка абразіць пачуцці гэтых няшчасных. Пільна ўзіраючыся ў твары, услухоўваючыся ў людскую гаману (гаварылі на ўкраінскай мове), ён, не спяшаючыся, цяжка апіраючыся на кульбу, ішоў па вуліцы. Успомніў іншы час, восень 1915 года, калі нешта падобнае адбывалася з беларусамі.

Тады праз Цімкавічы адступалі на ўсход растрыбушаныя часці рускай арміі. Адна за адной паўзлі раз'езджаныя ўцякацкія фурманкі. Людзей гнала навала. Падалі ад стомы сялянскія коні, тут і там можна было бачыць перавернутыя дагары коламі паламаныя фурманкі, раскіданыя дробныя рыштункі ўбогага сялянскага набытку. Уцякацкія сем'і, выбіўшыся з агульнай людской плыні на абочыну, з жахам у вачах глядзелі на тых, хто ехаў і ішоў па дарозе: яны ўжо страцілі надзею на ратунак і былі гатовы прыняць сваю чорную долю ў чыстым полі сярод чужых людзей. Кожны дзень паабапал дарогі вырасталі новыя магілы з крыжамі і без крыжоў. Небаракі кляліся парыць зямлю пад енкі і слёзы сваіх родных, а праз нейкі час, ад'ехаўшы крыху далей, тыя самыя, што плакалі нядаўна, хаваючы свайго блізкага, самі развітваліся з жыццём на гэтай жа дарозе, адно што па іх ужо не было каму плакаць.

Гэта лёс цэлага народа. Апанавалі цяжкія думкі. З малых год яго мучылі пакуты чалавека на зямлі. Хіба дзеля гэтага нараджаецца чалавек? Столькі часу называлі таго, хто працуе, быдлам, мужыком, хамам, і сам ён сябе называў «простым», «тутэйшым», забы-

ваючы, што ў яго ёсць слаўнае імя — беларус. У роднай зямлі тлеюць косці шматлікіх пакаленняў, жыццё якіх ішло і завяршалася ў пакутах. Над беларускай зямлёй не сціхаў грукат войскаў, якія ішлі з захаду на ўсход і з усходу на захад. Даўно зніклі ў хвалях беларускай стыхіі рэшткі татарскіх орд. Зараслі травой і густым бадыллём старадаўнія замчышчы мясцовых магнатаў. Навек схаваліся пад дзірванам шведскія курганы. Тут, на беларускай зямлі, злез з белага каня і перасеў у звычайныя сялянскія сані Напалеон. Скончылася шматвяковае гаспадаранне тых, ад каго тхнула панскім духам. Нашчадкі іх, выгнаныя рэвалюцыяй з Беларусі, знайшлі сабе прытулак у панскай Польшчы. Што было б з намі, калі б не Кастрычнік 1917 года?! Цэлы народ выміраў ад голаду, тысячы людзей кідалі родную зямлю і ехалі на пошукі шчасця за акіян, мільёны выпраўляліся ў чорнае беспрасвецце бежанства. Што было б, калі б беларусы ў той цяжкі час засталіся без дапамогі рускіх братоў?!

Мікалай Карлавіч ішоў, лёгенька папіраючыся кульбай, і на яго твары блукала шчаслівая ўсмешка. Чалавек ніколі не ведае, дзе згубіць, а дзе знойдзе. Хіба думаў ён, выходзячы з тэатра, што нечакана набрыдзе на такія развагі і што на яго, як святы дух, сыдзе раптоўная відушчасць, калі далёка бачыцца на ўсе чатыры стараны свету і калі ясным становіцца тое, дзеля чаго ён жыве? Вось яна, галоўная мэта жыцця: пабудаваць будынак у вялікім горадзе беларускай літаратуры, намаляваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны і да нашых дзён!

Крытыкі ўраклі — называлі яго: «наш беларускі Дастаеўскі», «наш Бальзак». Сам ён не прымаў гэтага ўсур'ёз, хоць і марыў аб тым часе, калі ў беларускай літаратуры з'явіцца свой Бальзак. І кульбу набыў не з пераймання — спачатку проста аддаваў даніну модзе, як многія ў той час. А потым непрыкметна прывык: кульба памагала ў хадзе, калі нараджаліся творчыя задумы і вырашаліся многія праблемы жыцця і творчасці. А знешняе падабенства? Што ж, пры жаданні, можна Бальзака і такім уяўляць: са спакоем на твары і агнём у душы! Бальзак — вялікі пісьменнік! Гэта ён апошнім часам, чытаючы яго творы і захапляючыся магутнасцю яго фантазіі, добра зразумеў. Якая веліч-

ная задума! Стварыць гісторыю нораваў французскага грамадства, маляваць чалавека ва ўсіх становішчах, якія толькі можа стварыць жыццё, апісваць яго з усіх пунктаў погляду, бачыць яго ва ўсіх магчымых фазах, паслядоўнага і непаслядоўнага, ні цалкам дабрачыннага, ні цалкам заганнага, які, дзеля ўласных інтарэсаў, ідзе супраць законаў і, дзеля асабістых пачуццяў, супраць нораваў, які па волі выпадку дзейнічае лагічна або навязвае падзеям уласную логіку і робіцца вялікім! Даследчыкі падлічылі, што Бальзак намаляваў, вытлумачыў, стварыў каля дзвюх тысяч чалавечых тыпаў. На яго кульбе, кажуць, было напісана: «Я ламаю ўсе перашкоды». А беларускі народ — гэта таксама тысячы, мільёны розных індывідуальнасцей і тыпаў. Вось бы напісаць з бальзакаўскаю сілай яго гісторыю!

Адна за адной узнікалі ў свядомасці думкі. Так-так, час вымагае манументальных вобразаў, магутных, бы высечаных з суцэльнага кавалка, тыпаў, маштабных мастацкіх палотнаў. Наш народ варты таго, каб пра яго расказаць цэламу свету. Лёс беларускага краю склаўся так, што ён знаходзіўся ўвесь час на скрыжаванні вялікіх дарог. А народ жыў і змагаўся, застаючыся самім сабой. Ён будаваў на папялішчы новую хату, складваў нанова разбуранае гняздо і супраціўляўся захопнікам усіх колераў і масцей, не скараўся, бунтаваў, паўставаў. Ён захаваў сваю культуру і мову. На беларускай мове павінна быць створана мастацкая энцыклапедыя ўсяго таго, што адбывалася на нашай зямлі. Але ў адным, нават вялікім, творы пра гэта не раскажаш. Патрэбен цыкл раманаў, каб умясціць усе галоўныя вехі нашай гісторыі.

Бальзак выкрыў філасофію буржуазіі, якая бярэ пачатак у прыдуманым лацінянамі выразе: чалавек чалавеку воўк. А мы жывём у час, калі гэта старая як свет мудрасць саступае месца новаму погляду на чалавека. Якая разлегласць у прасторы і часе! Якія чалавечыя вобразы — ад рэштак феадалаў, ад дробнай гарадской і вясковай буржуазіі і капіталістаў да сучаснага рабочага і селяніна! Якое разгарненне мастацкай фантазіі!

Раман «Бацькаўшчына» адкрывае задуманы цыкл твораў. Ідэя бацькаўшчыны стагоддзі жыла ў народзе, які змагаўся не толькі за сацыяльнае, але і нацыяналь-

нае вызваленне. Тлумачачы па-мастацку гэту ідэю, можна паказаць цэлы комплекс вобразаў і з'яў: простага чалавека, душа якога разарвана на часткі гістарычнымі парогамі, які ішоў да свае будучыні праз войны і рэвалюцыі, які змагаўся за сваю бацькаўшчыну; беларускага кулака, які ўвасабляе ў сабе ідэю кулацтва, агульную ўсім нацыям; рэлігію, у тых формах, у якіх развівалася хрысціянства на Беларусі. Кожны наступны твор павінен апавядаць пра новы этап вызвалення чалавека і адначасова вырашаць іншую ідэйную катэгорыю: уласнасці, закона, сваяцтва, будучыні, гуманізму... Ужо задумана некалькі твораў. Час, вядома, пакажа, якая [redacted] задум варта ўвасаблення і працы.

У свядомасці жыве думка пра раман пад умоўнай назвай «Трыццаць год», у якім ён хоча расказаць пра моладзь, што ў імперыялістычную вайну была ва ўзросце падлеткаў, рэвалюцыю спаткала ў гады першага юнацтва, а цяпер складае галоўную сілу партыі. У рамане будзе выведзена некалькі тыповых прадстаўнікоў моладзі: тых, хто знішчаў назаўсёды жах, які панаваў на працягу ўсёй папярэдняй чалавечай гісторыі, тых, хто прайшоў цяжкі шлях дробнабуржуазных хістанняў, тых, хто ненавідзеў мінулае, але доўгі час заставаўся ўбаку, сам таго не жадаючы, садзейнічаў замацаванню гэтага мінулага, тых, хто выпадкова апынуўся на баку рэвалюцыі, а потым стараўся загладзіць сваю віну перад «гаспадарамі жыцця», тых, хто быў ручным сабакам купцоў і прадпрыемцаў, і тых, хто называў сябе «гаспадаром жыцця».

Ёсць і яшчэ задума — раман пад назвай «Зрэбнае палатно». Хочацца паказаць лёс трох братоў, шляхі якіх разыходзяцца ў час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Распрацаваны план рамана «Люцыя Нявада»: першая частка — гібель у выніку сутыкнення ўласніцкіх інстынктаў сялянскай сям'і, другая — лёс двух хлопчыкаў-сірот [redacted] гэтае сям'і, якія з дзяцінства трапілі ў розныя жыццёвыя ўмовы і якія, з гэтае прычыны, па-рознаму глядзяць на свет, трэцяя — праблема спадчыннасці.

Наколькі ўдасца задуманае, пакажа час. Можа, замест двух раманаў узнікне адзін, а можа, народзіцца зусім іншая задума, якая выцесніць дарэшты раней-

шыя. Час унясе свае непазбежныя папраўкі. Самы вялікі стваральнік — час!

Ідучы, успомніў, што меўся быць у майстэрні маладога скульптара Заіра Азгура. А тыя думкі, што так нечакана апанавалі яго, яшчэ трэба выпрабаваць на трываласць. Зноў жа для гэтага неабходны час. Радаснае ўзрушэнне сышло, саступаючы месца спакойнаму сузіранню і прыманню ўсяго, што бачылі перад сабой вочы. Якраз праходзіў паўз букіністычную краму, якая знаходзілася на першым паверсе трохпавярховага цаглянага дома са слядамі былой пышнасці. Мікалая Карлавіча там ведалі: маладая жанчына з цёплай усмешкай на вінаватым твары, загадчыца, заўсёды ветліва, хоць і стрымана, сустракала яго, праводзіла яго да паліц, адчыняла вузкія дзверы ў каморку, дзе на сталах ляжалі горы неразабраных яшчэ кніг з выцертым золатам цісnення на вокладцы. Але ён не быў такім ужо заўзятым бібліяфілам, каб любіць кнігу толькі за тое, што яна рэдкая. Ён заўсёды шукаў і знаходзіў тое, што яго цікавіла. Так былі куплены разрозненыя тамы Анарэ дэ Бальзака. Раскрыты том з «Бацькам Гарыо» і цяпер ляжаў на ягоным пісьмовым стале. Кіўнуў галавой загадчыцы крамы, якая якраз зірнула ў акно і пазнала яго. На момант прыпыніўся на рагу Савецкай і Берсана, дзе пачынаў вызначаць свае будучыя рысы Ленінскі пляц, які павінен змяніць аблічча горада і надаць яму сталічныя рысы. Цікаўна агледзеў два трохпавярховыя дамы, падобныя сваімі дэкаратыўнымі фасадамі на цацачныя, збудаваны ў неараманскім стылі Чырвоны касцёл, акружаны рыштаваннямі гмах Дома ўрада, які займаў амаль што квартал. Вельмі шмат было яшчэ правінцыяльнага ў гэтым «Старым горадзе». Чаго варта адна гасцініца «Бельгія», якая стаяла побач з касцёлам! Звычайны драўляны двухпавярховы дамок з падгнілым высокім ганкам перад ім і фіялетавымі разводамі на шкле ў вокнах, і знаходзіцца ён сярод цэлага зборышча пахілых хацін, больш падобных да сабачых будак, з трухлявымі прыбудоўкамі — часовым чалавечым прытулкам у гэтым вялікім свеце. Вось ён, колішні губернскі горад расійскай імперыі! Тут нараджаліся, жылі і сыходзілі ў магілу цэлыя пакаленні...

Мікалай Карлавіч сеў на трамвай і неўзабаве апынуўся на вуліцы Клары Цэткін, каля дома артыста

Уладзіміра Дзядзюшкі, дзе кватараваў Заір Азгур. У хаце яго радасна вітаў малады невысокі чалавек, з чорнымі як смоль, густымі валасамі, вялікім ілбом і позіркам, у якім свяціліся прыязнасць і душэўная цеплыня. А Чорны з самым сур'ёзным выглядам пачаў з парога — цытатай з уласнай п'есы:

— Добры дзень у хату вам. Як жывяце? Ну, свінні ў вас, дзякуй богу, на кілбасы кормяцца, каровы ў вас, дзякуй богу, на масла дояцца, пчолы ў вас, дзякуй богу, на мёд рояцца, авечкі ў вас, дзякуй богу, на мяса плодзяцца... Бог дасць здароўя — будзе і ўсё!

Гэта ён умеў — лёгка сыходзіцца з людзьмі, у якім бы настроі ні заставаў іх! А Заір Азгур і сам гарэў прагай усё і ўсіх ведаць, гутарыць з людзьмі, спрачацца, гарачыцца — адным словам, вучыцца ў людзей, бо кожны чалавек ведае нешта такое, чаго ніхто ў свеце не ведае.

Потым ужо, у майстэрні, Мікалай Карлавіч уголас разважаў, як бы парады пытаў, але адначасова і пераконваў субяседніка ў тым, што надоечы сам зразумеў,— у неабходнасці стварыць мастацкую энцыклапедыю беларускай гісторыі. Сядзеў на хісткім зэдліку, на які яму ў самым пачатку сеанса паказаў скульптар, забываючы, што пазіруе, і гаварыў, бачачы перад сабой чалавека, занятага сваёй справай, але і надзвычай уважлівага да таго, што яму паведамляў старэйшы таварыш, болей таго, аднадумца, які таксама захапляецца велічнай архітэктурай бальзакаўскай «Чалавечай камедыі» і таксама лічыць, што надышоў час і ў скульптуры стварыць такую галерэю вобразаў — даць гісторыю Беларусі ў скульптурных вобразах, пачынаючы са Скарыны, Сімяона Полацкага, Кірылы Тураўскага, Васіля Цяпінскага, Стахора, Буднага, Багрыма, Кастуся Каліноўскага, Мацея Бурачка і канчаючы сучаснікамі — вялікімі рэвалюцыянерамі, вядомымі пісьменнікамі, слуцкімі, дукорскімі, козыраўскімі паўстанцамі... Мікалай Карлавіч зірнуў на нечакана вялізныя рукі скульптара, якія мялі гліну, як растоплены на сонцы воск, на ўпэўненую яго паставу, на круты паварот галавы маладога мудраца, на высокі і прыгожы лоб, за якім ішла напружаная праца думкі, і супакоена падумаў, што не памыліўся, абраўшы ў субяседнікі гатага чалавека. Неўзабаве ён ужо чытаў урыўкі з «Бацькаўшчыны», вывяраючы на слых, як рабіў гэта

неаднойчы, кожнае слова і выраз. Затым жартаваў, ахвотна апавядаў пра сваіх герояў, на ходу знаходзячы такія падрабязнасці і азначэнні, што хацелася запісваць за ім або ўсклікнуць: «Што ты робіш! Гэта ж — гатовы твор! А ты так шчодра, не ашчаджаючы свае творчае фантазіі, рассыпаеш гэтыя залатыя россыпы!» Аднак Чорны на гэта адказваў усім і заўсёды амаль адно і тое ж:

— Я, панечку мой, маю сваю акадэмію, дзе мае героі і выхоўваюцца. Праўда, сама акадэмія ў Цімкавічах, але філіялы працуюць і тут. Панечку мой, пісаць можна ўсё жыццё і неабавязкова ездзіць у творчыя камандзіроўкі. Неабавязкова ў блакнот запісваць бачанае, каб потым яго прыфастрыгаваць дзесьці ў тэксце аповесці ці рамана. Для пісьменніка важны не ногі, а галава, разумееш ці не? Патрэбна галава, якая працуе няспынна, і добрае чулае сэрца, а не такая галава, якая тарчыць на плячах для чыну ці для праформы...

Вечарам таго ж самага дня мінчане бачылі, як, павесіўшы на руку кульбу, каб яна не грукала і не палохала людзей, ішоў дадому малады мужчына ў росквіце сваіх год, з уважлівым позіркам разумных вачэй і незвычайным спакоем на круглым белым твары. Тыя, хто ведаў яго, паказвалі непрыкметна вачамі на яго і з гордасцю ў голасе гаварылі сваім сябрам: «Ведаеце, хто гэта пайшоў? Няўжо не ведаеце? Гэта — Кузьма Чорны! Наш Бальзак!»

А Чорны ў гэты момант, мяркуючы, што ніхто не заўважае яго, ішоў паволі за чалавекам у чорным паношаным паліто, са стомленай паходкай, прыгорбленым, унураным, і гадаў, хто ён, які ў яго характар, лёс, што думае, куды спяшае, гадаў, не ведаючы яшчэ, дзе і ў якім творы спатрэбяцца гэтыя ягоназіранні і думкі.

## XIII

### ДЗЯДЗЬКА КУЗЬМА

Перад вачамі Мікалая Карлавіча ляжалі лісты чыстай паперы, злева ад яго на пісьмовым стале знаходзіліся спісаныя чытабельным почыркам лісты, справа —

папкі з планамі, нарыхтоўкамі, матэрыяламі новых твораў. Задумы, як заўсёды, цясніліся ва ўяўленні, саступалі месца адна адной. Чорны проста губляўся: на чым спыніцца? Запісваў на паперу прыдуманыя пачаткі, асноўныя думкі, падрабязна распрацаваныя планы і складваў у папкі на чаргу. Няхай адляжацца!

Мікалай Карлавіч працягнуў руку да папак. Як бы ўзважыў кожную. Каля дзесятка задум. Кожная можа ажыць пад яго пяром. Але на якой спыніцца? Вельмі шмат, калі не ўсё, залежыць ад пачатку. Калі добры пачатак, то можна быць пэўным, што твор атрымаецца. Але ў кожным выпадку твор павінен быць справаздачай аб набытым за час, які прайшоў ад папярэдняга твора. Больш таго, ён павінен натуральна стаць у шэраг задуманых і часткова напісаных твораў. Значыць, ён павінен выявіць, распрацаваць нейкую новую ідэйную катэгорыю: бацькаўшчыны, закона, уласнасці, сваяцтва, будучыні, гуманізму. Можа, нават не адну, а некалькі, бо ў жыцці ўсё звязана з усім. І ўсё ж акцэнт трэба рабіць на самай важнай.

Планы планамі, а жыццё вельмі лёгка можа іх не толькі ўдакладніць, але і перакрэсліць. Вось ён быў у свой час задумаў раман «Зямля» ў трох тамах і ўжо напісаў частку другога тома, а жыццё прыйшло ў такі рух, што давялося тэрмінова перагледзець свае намеры. Мікалай Карлавіч яшчэ толькі выказаў сумненне, а Адам Бабарэка ўжо зразумеў яго і сказаў, што «Зямля», на яго погляд,— першы сапраўды беларускі, нацыянальны, паводле думак, вобразаў, стылю, настрою, раман, але працяг — гэта звычайна развіццё знойдзенага раней, а творчасць — заўсёды новае, таму ён за новы ва ўсіх адносінах твор. Мікалай Карлавіч тады задумаў стварыць тып беларускага ўласніка. Відавочна, што постаць Лявона Бушмара не ўпісвалася ў лірычную атмасферу рамана «Зямля». Так узнікла аповесць «Лявон Бушмар».

Зроблена, напісана нямала: аповесць «Вясна», а на яе аснове п'еса «Лета», раманы «Вецер і пыл», «Ідзі, ідзі», «Бацькаўшчына», некалькі варыянтаў п'есы «Бацькаўшчына», «Брыгадзіравы апавяданні», артыкулы. Можа, каму гэта і здаецца, што многа, толькі не Чорнаму. Ён адчувае ў сабе вялікія магчымасці. Проста разумее, якія вялікія задачы стаяць перад беларускай літаратурай. Некаму трэба ісці па цаліку першым.

Дарэчы, раман «Ідзі, ідзі» таксама быў задуманы з працягам. Першую, ужо апублікаваную, частку Мікалай Карлавіч меркаваў назваць «Раскрыжаванне», другую, задуманую,— «Захаду і Ўсходу». Але пакуль думаў над працягам, перад вачамі ўзнікла далячынь новага рамана — «Бацькаўшчына». Потым прыйшло захапленне тэатрам, і, здаецца, надоўга. А задума намаляваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларусаў і ўвогуле скіравала яго фантазію на іншае.

Цяпер, калі групоўкі ліквідаваны, адно і пісаць. Вядома, перабудова яшчэ не скончылася, праблем шмат. Але праблема праблеме не раўня. Самае сумнае, што многія дасюль не разумеюць элементарных ісцін. Многія не адрозніваюць канцылярскую інструкцыю ад мастацкага твора, збіваючы з толку літаратурную моладзь. А літаратура ж — таксама мастацтва. Свае задачы перад народам яна выканае толькі тады, калі будзе стаяць на вялікай ідэйнай вышыні і мець не меншую фармальную дасканаласць. Вельмі замінаюць працы традыцыі губернскага маштабу і замшэлы правінцыялізм. Раней часам узнікала думка, што напісанае не атрымае дастатковага рэзанансу, што далей межаў Беларусі не пойдзе. У час працы не было адчування, што пішаш у Мінску, а прачытаюць усюды, не было таго адчування, якое шчасліва спадарожнічае працы рускіх пісьменнікаў. Адарванасць, ізаляванасць ад рускіх, украінскіх, армянскіх чытачоў, тэрытарыяльная замкнёнасць — вось што перашкаджае.

Не, літаратура не забава чалавека, якога называюць пісьменнікам. Яна — жыццёвая неабходнасць. Толькі з такім адчуваннем і льга брацца за пяро. А ў нас яшчэ шмат абломаўшчыны, безадказнасці. Лічыцца, што пісьменніцкая праца — гэта значыць «сеў і напісаў». Што б мы сказалі, каб рабочы хадзіў на фабрыку тады толькі, калі ў яго выдарыцца вольная часіна? А да пісьменніка мы падыходзім з самымі жорсткімі патрабаваннямі, не зважаючы на тое, што ён больш працаўнік якой-небудзь установы, чым пісьменнік. Нельга патрабаваць ад чалавека літаратурнае прадукцыі, калі літаратураю ён займаецца ўночы, тады, калі добрыя людзі адпачываюць. Усе патрабаванні да пісьменніка часта нагадваюць таго гаспадара, які пабудаваў вельмі добрае гумно, а збожжа на полі забыўся пасеяць. Гумно ўвосень, вядома, пустое, бо што

можна сабраць з таго, што вырасла каля дарог з выпадкова занесеных ветрам зярнят. Гэта называецца не творчасць, а аматарства.

Творчы працэс адбываецца і тады, калі спецыяльна вывучаеш, як кажуць, матэрыял, і тады, калі проста жывеш, не думаючы, спатрэбіцца тое, што бачыш, ці не ў творчасці, і тады, калі чытаеш класікаў, свядома вывучаючы тэхніку іх пісьма, і тады, калі ў якасці кансультанта маладых празаікаў чытаеш іх творы. Дарэчы, чытаючы маладых, неспадзявана звязваеш недахопы іх твораў з тымі творамі сучасных пісьменнікаў, на якіх маладыя аўтары арыентуюцца. Маладыя прыкметна недаацэньваюць ролю творчай фантазіі і не ўмеюць рабіць з фактаў філасофскія абагульненні. Трэба канцэнтраваць падзеі з шырокага кола жыцця ў адзін пункт, які і ёсць літаратурны твор. Трэба ставіць сваіх герояў у такія ўмовы, дзе б яны сябе выявілі дарэшты. Трэба фантазіраваць. Недакладныя погляды на літаратуру трымаюць у палоне не толькі маладых пісьменнікаў, але і некаторых старэйшых, і асабліва моцна крытыкаў.

Вось і даводзіцца даказваць маладому аўтару, што лаяць капіталіста — гэта яшчэ не значыць стварыць вобраз паразіта на целе чалавецтва, што мастацкая літаратура вырашае палітычныя задачы сваімі ўласнымі мастацкімі сродкамі. Ганебныя рэшткі спрашчэнства, прымітыўнасць мыслення — вось дзе тоіцца небяспека для літаратуры. Вялікую чарнавую работу даводзіцца выконваць беларускім пісьменнікам...

Аднак што яшчэ знаходзіцца ў папках? Урыўкі з другой часткі рамана «Трыццаць год», накіды да п'есы «Наталля Паўлоўская», задума п'есы «Замілаванне і нянавісць», рамана «Зрэбнае палатно», план рамана «Люцыя Нявада», фрагменты з другой і трэцяй часткі трылогіі «Бацькаўшчына» — «Павел Няміра» і «Леапольд Гушка», пачатак рамана «Заваёва свету», нататкі да аповесці пра лёс беларускай жанчыны і аповесці пра дзяцей... Апошнія два творы ён абавязкова напіша, але пасля таго ўжо, як будуць напісаны раманы «Трыццаць год» і «Трэцяе пакаленне».

Дык вось, «Трэцяе пакаленне»! Даўно прываблівае задума напісаць пра лёс двух братоў, якія трапілі ў розныя ўмовы, выгадаваліся і ператварыліся ў супрацьлегласць адзін аднаму. У цэнтры ўвагі была ідэйная

катэгорыя спадчыннасці. Раман меркавалася назваць «Люцыя Нявада». Але думаючы над лёсам герояў, адчуў, як ідэя спадчыннасці абрасла іншымі ідэямі: сваяцтва, закона, уласніцтва, маралі, будучыні. Ідэі жывуць, пакуль жывуць людзі — іх носьбіты и прапаведнікі. Колькі тысяч год жыве на свеце ідэя, якую ў свой час лаціняне выказалі ў афарызме: чалавек чалавеку воўк! Трэба паказаць рух чалавека ў часе, яго сувязь з нядаўнімі трагічна вялікаснымі падзеямі. Гэты чалавек нясе з сабой «філасофію жыцця» таго класа, да якога належыць. За гэту «філасофію» ён гатоў загінуць, а гінучы, перадаць, «прышчапіць» дзецям, другому пакаленню, трэцяму... Сучаснік не заўсёды нават адчувае, якая хмара праклятага мінулага згусцілася над яго заўтрашнім днём. Цудоўна сказаў пра гэта К. Маркс: «Традыцыі мёртвых пакаленняў вісяць кашмарам над свядомасцю жывых. Але якія традыцыі мёртвыя? Некаторыя лічаць, што ў наш час устарэлі паняцці «трагедыя», «літасць», «міласэрдзе», «спачуванне», «альтруізм», што іх наогул трэба выкрасліць са слоўнікаў, каб не спакушалі наступнікаў. Маўляў, самымі важнымі рычагамі рэвалюцыйнага змагання могуць быць толькі «любоў» і «нянавісць», а сярэдзіны няма. Чалавек адчувае смерць свае маці трагічна. Што ў гэтым дрэннага, адсталага, нерэвалюцыйнага? Інакш нельга! Не, выкарчоўваць з псіхалогіі людзей трэба не трагічнае, а ўласніцкае і нявольніцкае».

Адзін пісьменнік так выказаўся: «У мяне ёсць цікавая форма апавядання, але няма пра што пісаць». Можа, каму другому і трэба ездзіць у творчыя камандзіроўкі, каб напоўніцца патрэбным матэрыялам, толькі не яму, не Кузьму Чорнаму. Пра кожнага цімкаўца можна напісаць асобны мастацкі твор, і гэта будуць розныя творы, бо герояў можна ставіць у розныя жыццёвыя ўмовы і сітуацыі. Мікалай Карлавіч даўно ўжо зрабіў прынцыпам: матэрыял для твора трэба браць той, які не толькі ведаеш, але і адчуваеш у вобразах,— матэрыял беларускі. Напрыклад, Сурвіла ў «Бацькаўшчыне» не проста кулак, а беларускі кулак, увасабленне ўсяго горшага ў чалавеку — сквапнасці, жорсткасці, бесчалавечнасці. Бушмар, Бухча, Сурвіла, Сегенецкі, Нахлябіч, Мазавецкі — ёсць сэнс уявіць гэты чалавечы тып у іншых умовах, калі яны прапаведуюць свой погляд на жыццё. У кантэксце новага твора нават ужо

вядомае пра гэтыя чалавечыя тыпы з ранейшых твораў — рысы характару, манера выказвацца, думкі, рэчы, сярод якіх яны сябе добра адчуваюць,— зайграе іншымі колерамі і адценнямі, бо іншая задача вымагае свайго вырашэння.

Якое ж прозвішча даць гэтаму герою? Ну, хоць бы нават Скуратовіча! Таго самага Сымона Скуратовіча, што заўсёды хадзіў па Цімкавічах з вушамі, пазатыканымі ватаю, але чуў лепш за любога здаровага. Ну, то ж і памяць па сабе пакінуў! «Гадкі быў чалавек,— казалі цімкаўцы,— каб яму калом зямля, нікому дабра не зрабіў. Усё ў сваю кішэню цягнуў. Паскудны чалавек! Хоць пра памёршага і не можна так гаварыць».

Другое пакаленне, якое ішло праз рэвалюцыю і грамадзянскую вайну,— гэта тыя два браты. Але чаму абавязкова браты і хлопчыкі? Хіба нельга хлопчыка і дзяўчынку? А потым зрабіць іх мужам і жонкай — бацькамі дзіцяці, якое жыве ў наш час і з'яўляецца ўжо трэцім пакаленнем. От, у рамане «Ідзі, ідзі» ёсць дзяўчынка Зося Сегень і хлапчук-парабак Паўлік Цэцэравецкі! Абое ў тым узросце, калі з чалавека можна вылепіць і ангела і д'ябла. Простая і адкрытая Зося і наіўна-хітры, прастадушна-сталы Паўлік! Характар — гэта, кажуць, лёс. Дык вось іхнія характары і стануць іхнім лёсам! Дзеці Скуратовіча-Сухавея, Вацяа, Ярош, Аня, таксама павінны заняць сваё месца ў сюжэце. Дарэчы, досыць і аднаго Ваці, таго, што трымаў у страху ўсю ваколіцу, біўся на вечарынках, прыставаў да дзяўчат і ўрэшце падвярнуў галаву — напіўся і забіў дзяўчыну з Пацеек. Забойца аднаго чалавека лёгка можа стаць забойцам многіх, шпіёнам, бандзюком, злачынцам!..

Забойства, абрабленне, дыверсія, следства, суд, пакаранне — гэта сюжэтны «вузел» рамана. Але ж, акрамя гэтага, твор павінен мець жывую душу! За ўсім павінна адчувацца нешта большае. Можа, гэта павінен быць асаблівы сярод усіх людзей чалавек, а можа, нейкая надзвычайная думка? Над гэтым варта падумаць!..

Мікалай Карлавіч зірнуў на гадзіннік і ўбачыў, што пара ісці ў кабінет маладога аўтара ў Доме пісьменніка. Трэба рыхтавацца да Першай агульнагарадской нарады пачынаючых пісьменнікаў. Можна выбраць некалькі найбольш яркіх тыпаў маладых літаратараў і паказаць асноўныя шляхі, па якіх ідзе

творчая моладзь, выгоды і перашкоды гэтых шляхоў. Сваёй літаратурнай кваліфікацыяй вылучаюцца У. Краўчанка, Я. Ермаловіч. А на стале ў кабінеце, чакаючы адказу, ляжаць творы самых маладых: М. Лобана, М. Аўрамчыка, А. Пальчэўскага, М. Пасля-довіча, М. Лупсякова.

Да Дома пісьменніка было недалёка, некалькі кварталаў. Прыхапіў кульбу і пайшоў, як зазвычай, пільна ўзіраючыся ў стракаты натоўп. Многія мінчане ведалі яго і азіраліся, некаторыя віталіся, і ён у адказ добра ўсміхаўся, ківаў галавой:

— Добры дзень!

— Добрае здароўе!

Каля ганка Дома пісьменніка памахвала хвастом кабыла Манька, запрэжаная ў фасоністую брычку на гумавым ходу. Мікалай Карлавіч чуў, што дырэктар Дома пісьменніка, абароцісты і вясёлы Мірон Левін, наважыўся збыць гэту кабылу з рук, і цяпер, гледзячы на яе, уявіў сабе торг і як бы ён сам расхвальваў Маньку: «Кабыла добрая. Цягавітая, пладавітая, вынослівая. Кожную вясну на двары Дома пісьменніка жарабятка падбрыквае. Адна бяда — фуражу, сена, мякіны многа спажывае. Але многа есць — многа сілы. І ў плузе, і ў аглоблях — будзь здароў! У самай сіле кабыла». Найбольш ездзіла на гэтай брычцы начальства. Сцеражыцеся, пешаходы! Сыдзіце набок! Саступіце дарогу! Адно слова — праўленцы!..

Стары швейцар Мухля, угледзеўшы Чорнага, прыадчыніў дзверы, гжэчна пакланіўся. Яны былі ў добрых адносінах: Мікалай Карлавіч ведаў, што стары лічыў сябе чамусьці татарскім князьком і часам гаварыў з ім на гэту тэму то жартам, то ўсур'ёз. Чорны аддаў «князю» кульбу, а сам прайшоў у фае, асцярожна абыходзячы захопленых гульнёй у більярд праўленцаў. Тыя стрымана віталіся, як бы помнілі яго адмоўныя адносіны да тых, што з дня ў дзень завіхаліся вакол більярднага стала. Так і гаварыў на пісьменніцкіх сходах: «Я вынес бы з Дома пісьменніка більярд, бо ён, па-мойму, стаў не адпачынкам ад работы, але якраз літаратура стала адпачынкам ад яго». Яшчэ здалёк угледзеў Янку Купалу і Якуба Коласа — увогуле рэдкіх гасцей у гэтым Доме. Яны сядзелі на мяккіх канапах за круглым столікам і, адсунуўшы ўбок газеты, гулялі ў шахматы. Кожны, удалы ці менш удалы, ход

суправаджаўся жартамі, у якіх, калі ўслухацца, было поўна сур'ёзнага зместу.

Чорны спыніўся здалёк, каб не перашкаджаць гульні заўзятых шахматыстаў. Глядзеў, слухаў і ўсміхаўся. Тут жа сядзелі і назіралі за гульнёй Кандрат Крапіва і Пятро Глебка — не меншыя аматары шахмат. Вось Крапіва ўзняў высока левае брыво — яго здзівіў нечаканы ход Купалы. Але ён прамаўчаў: раіць, калі ў таго, хто гуляе, нейкія свае невядомыя планы,— апошняя справа. Затое Глебка не збянтэжыўся:

— І я б гэтак пайшоў!

На канапе пры сцяне сядзеў, раскінуўшы вольна рукі на спінцы канапы, і радасна ўсміхаўся Міхась Чарот. Мікалай Карлавіч, зірнуўшы на яго, міжволі ўспомніў радкі з ягонага верша:

Не маніць нас
Парнаскае ўзвышша.
Краіны буйны рост —
Найлепшае натхненне...
Калі паэт
Сваёй эпохай дыша,—
Паэзію яго
Усхваляць пакаленні.

Але навошта, падумаў Чорны, супрацьстаўляць «грук фабрык і заводаў» «шуму лясоў і песням салаўіным», а «зоры электрычнай сілы» — «зорам у вышыні і бляску вачэй дзявочых»? Сам жа кажа:

Паэзія —
Не перашкаджае працаваць,
Як і паэзіі —
Не перашкаджае праца.

Каля акна стаялі і гучна рагаталі Пятрусь Броўка, Янка Скрыган (абодва ў клятчастых штанах з шырокімі калашынамі, у белых кашулях з нацыянальным арнаментам, павязаных вузенькімі шнурочкамі-гальштукамі), ціхі і сумны Эдуард Самуйлёнак, змрочны нейкі, з падазронасцю ў поглядзе, Міхась Клімковіч, падобныя, як блізняты, ■ тоўстымі акулярамі, Міхась Модэль і Алесь Кучар.

Тым часам Купала аб'явіў мат Коласу, і яны, жартуючы, віншавалі адзін аднаго: Колас Купалу з перамогай, Купала Коласа — з паглыбленнем маштабаў шахматнай стратэгіі. Потым надышла чарга віншаваць

тым, хто быў побач, і тут Янка Купала ўбачыў Кузьму Чорнага:

— Здароў, Кузёмка! Як жыў-здароў? Што чуваць на белым свеце?

— Дзень добры, дзядзька Купала! Добры дзень, дзядзька Якуб! Маё шанаванне геніям шахматнай думкі!

Усе, хто стаяў з Броўкам (ён быў у цэнтры ўвагі), паступова трацілі цікавасць да таго, што гаварылася ў іх групцы, і пачыналі прыслухоўвацца да таго, што адбывалася каля Купалы і Коласа. Броўка першым пайшоў да іх, а за ім і іншыя пацягнуліся. Усе яшчэ жартавалі нязлосна адзін над адным колькі хвілін, а неўзабаве пачалі разыходзіцца. За Купалам і Коласам пацягнуліся і некаторыя з тых, што гулялі ў більярд.

Чорны, Чарот і Глебка, пераглянуўшыся, пайшлі ў кабінет маладога аўтара: яны былі ўсе трое кансультантамі. Узняліся па драўлянай лесвіцы на другі паверх, у рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва». «Дзеля разрыўкі»,— як пажартаваў Чорны. У рэдакцыйным пакоі, акрамя супрацоўнікаў, быў таксама высокі, спакойны, з нязменнай папяросай у руках Міхась Лынькоў. Павіталіся стрымана, але цёпла. Лынькоў вычытваў гранкі свайго артыкула, і наогул з ім не вельмі разгаворышся: гаворыць мала, больш слухае іншых, выглядае, нягледзячы на ўзрост, вельмі сталым і салідным. «Вось каму быць кіраўніком нашага Саюза!» — раптам падумаў Мікалай Карлавіч, але ўголас нічога не сказаў.

У кабінеце маладога аўтара яго і яго сяброў ужо чакалі пачынаючыя паэты і празаікі. «Ударнікі!» — як гучна, урачыста, быццам гэта было званне, адрэкамендаваўся адзін [illegible] іх, чырванашчокі, з залысінамі на лбе і з нахабствам у позірку, дзяцюк. Агледзеўшы пільна ўсіх, ён выбраў чамусьці Глебку і накіраваўся да яго, на хаду разгортваючы пук спісаных лісткоў. Мікалай Карлавіч адно пасміхаўся, гледзячы, як «ударнік» с ходу атакаваў Глебку. Мабыць, так ён атакуе кантралёра на ўваходзе ў кінатэатр або крамніка за прылаўкам.

Да самога Чорнага падышоў ціхі, збянтэжаны і страшэнна худы юнак, амаль падлетак:

— Вы да мяне?

— Да вас, дзядзька Кузьма. Добры дзень!

— Дзень добры! Выбачайце, як ваша прозвішча?

— Лупсякоў. Мікола Лупсякоў...— і юнак нясмела працягнуў яму вучнёўскі сшытак.

Мікалай Карлавіч адно зірнуў на першую старонку, прачытаў загаловак апавядання і першы сказ і ўважліва зірнуў на юнака, але, каб не бянтэжыць яго, не стаў чытаць далей, а паклаў сшытак на стол і пачаў падрабязна распытваць яго, адкуль, хто ды што. Калі юнак пайшоў, абяцаючы, як і было дамоўлена, неўзабаве зайсці, паслухаць меркаванне Чорнага пра яго творы, Мікалай Карлавіч спачатку пачытаў газету, якую прынёс паштар. У зводцы з артыкулаў і паведамленняў з заходнебеларускіх газет прачытаў: «На самоце і ў сумоце на семдзесят другім годзе жыцця, далёка ад роднага маёнтка, радзімы яго бацькоў і дзядоў, аддаў богу душу пан Эдвард Вайніловіч... На пахаванні пана Вайніловіча прысутнічаў пан Хурс...»

Раптам прыгадаў таго рухавага і гаваркога краўца, якога ён бачыў год дваццаць назад у час вандровак па Слуцкай акрузе, і ўявіў, як бы гэты чалавек зрэагаваў на прачытанае — заахкаў-завойкаў, усплеснуў рукамі: «Братачкі, пра Хурса пішуць, я ж яго бачыў! І як?! За мяжой жыве, мільёны пражывае, купіў фабрыку, пускаў у ход — лопае, не ідзе, нешта не клеіцца, забастоўкі, тое-сёе. Вайны хоча, зноў сюды падавацца хоча, тут у яго маёнтак быў — па жонцы пасаг узяў. Хурс! Я ж яго бачыў! І маёнтак яго ведаю! Як, кажаце, там пішацца? Пакутны дух? Які? Гэта што з мерцвяка? З пана Вайніловіча? Гххх — цьфу! То я ж і Вайніловіча і Кандыбовіча ведаю, з нашага боку паны! Кандыбовіч, як і Хурс, з купцоў. Хурс! Я яго бачыў. Ого!»

Уявіў і адразу зразумеў, што без гэтага чалавека, якому асалода гаварыць, церціся сярод людзей і які так балюча адгукаецца на ўсё, што супярэчыць ягоным уяўленням пра чалавека, не змаўчыць і не затоіцца, вымяркоўваючы, каб сабе было на выгаду, а здзівіцца ўражаны: «Як гэта такому чалавеку быць!», без краўца раман будзе без душы. І адразу, бы з вышыні, убачыўся ўвесь твор як цэлае, месца кожнага героя ў ім, яго пачатак і канец, асноўныя, кульмінацыйныя моманты сюжэта. Можна было бачыць, як паступова ён

рабіўся ўсё больш засяроджаным, і ўрэшце сабраўся і, развітаўшыся з сябрамі, накіраваўся дадому, дзе яго чакалі на стале чыстыя лісты паперы.

## XIV

### ВІЛЕНСКІ РЫНАК

Мікалай Карлавіч адвярнуўся ад акна, паглядзеў на стол, на якім стаялі жоўтыя касачы. Родныя ведалі, калі на стале — кветкі, то ў яго — добры настрой. Крануў пальцамі стос паперы добрага гатунку. Гладкая, каляная, на такой добра пішацца. Але не сёння. Хаця настрой — лепшага не можа быць. Днямі яго абралі ў члены праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Рэдакцыі напрамілы бог просяць, каб даў што-небудзь новае. Даваць жа няма чаго. Пачатае паўгода таму назад сёння здаецца чужым, далёкім, быццам не ён, а нехта іншы пісаў. А пісаць нешта новае цяпер, калі душа разварушана,— марная справа. Душа павінна супакоіцца, пачуцці павінны ўлягавацца, думкі выраўняцца. У такім узрушаным стане, як цяпер у яго, можна пісаць хіба толькі дзённік. Як у даўнія часы юнацтва. Але не, дзённік вымагае поўнай шчырасці, нават жорсткасці ў адносінах да самога сябе і да жыцця!

Падышоў да самаробных стэлажоў, цесна застаўленых кнігамі. Кнігі на паліцах — ад столі да падлогі. Найбольш недарагія мясцовыя выданні. Але ўсе патрэбныя. Адны — больш, другія — менш. Кажуць, добрая тая кніга, якая ўзбівае чалавека на сталыя думкі. От, «Амерыканская трагедыя» Драйзера, «Запіскі з Мёртвага дома» Дастаеўскага! Напісана так, што страшна ў рукі браць, не тое што перачытваць. Асабліва цяпер, калі на душы — радасць.

Такога з ім яшчэ не было, каб не ведаў, пра што пісаць. Колькі помніць, то задумы заўсёды набягалі адна на адну, як хвалі. А цяпер — штыль. Часова, вядома. Пісаць трэба тады, калі душа напоўнена, і пра тое, што непакоіць. Зацішша, сумнае зацішша! Чый голас чуваць, дык гэта крытыкаў: «стыль эпохі», «зброя публіцыстыкі», «фармалістычны момант». Самі ж пісьмен-

нікі пішуць пераважна да розных газетных кампаній.

Цяжка жыць і працаваць, калі навокал цябе знаходзяцца людзі са шклянымі вачамі. О, яны самі не п'юць, не кураць, баб не любяць! Не п'юць, але спойваюць, не кураць, але даюць прыкурыць, баб не любяць, але зводзяць з бабамі. Больш за ўсё на свеце яны баяцца таленту — ён жа па сваёй сутнасці вольны і дзёрзкі, ён жа не прызнае ніякіх аўтарытэтаў, акрамя праўды! Баяцца, зайздросцяць і помсцяць. О, як яны ўмеюць помсціцца! Найпершымі сябрамі прыкінуцца, у госці да цябе дадому напросяцца, будуць хадзіць за табою след у след, пакуль нейкім выпадковым чынам не пачуеш, што не было горшых ворагаў, як яны. Так, мацней за ўсё зайздросцяць таленту, здароўю і каханню!

От, ён і напісаў пра гэта «Макаркавых Вольку»! Цяпер дзіўна, як гэта ён мог тады спадзявацца, што каапературар Сафрон Дзядзюля не пазнае сябе, а калі пазнае, то зробіць выгляд, што не заўважыў...

Не, узрушэнне і спакой — розныя рэчы. Каб добра пісалася, патрэбен спакой і душэўная раўнавага. Раней вельмі дапамагала праходка па вуліцах, калі ствараецца ўражанне, што некуды ідзеш, калі паступова напаўняешся адчуваннем таго, што людзі, нягледзячы ні на што, жывуць, радуюцца, сумуюць і што над усім, і над тваёй бядой таксама, існуе нешта непараўнальна большае — жыццё, людзі, свет. Сама хада настройвае на спакойныя думкі, і тады ахоплівае прага пісаць.

Цікава, што ў Цімкавічах, куды ён да апошняга часу ездзіў ці не штолета, не пішацца. Можа, таму, што вельмі блізка знаходзішся да герояў сваіх твораў, а для таго, каб пісаць, трэба быць наводдаль, калі ўсё бачыцца выразней. От жа, на душы тады таксама спакойна! Але гэта не той спакой, калі распальваецца ўяўленне, схоплівае ў момант сутнасць рэчаў, злучае факты, падзеі, думкі ў адно вялікае цэлае. Нязменна адно: як толькі ён вяртаўся ў Мінск, ва ўяўленні адразу паўставалі «вобразы мілыя роднага краю», ахоплівала нястрыманае жаданне тварыць. Нават вусцішна станавілася ад раптоўных думак, што жыцця не хопіць, каб здзейсніць задуманае, каб даць жыццё шматлікім вобразам, якія тоўпяцца ў душы. Вось чаму пісьменніку трэба жыць доўга, пакуль не выкажацца да астатку!

Дзе ён яшчэ спакайнее душой і набіраецца ахвоты

садзіцца за пісьмовы стол, дык гэта на рынку, сярод тлуму! Мікалай Карлавіч падышоў зноў да акна, зірнуў на вуліцу, дзе ішлі і ехалі на Віленскі рынак людзі, і надумаўся схадзіць таксама палюдзець. А што ж, недалёчка, можна лічыць, пад бокам! Якраз кірмаш. Наедзе люду з усяе Беларусі. Пашчасціць на добрага чалавека натрапіць, то хоць уволю нагаворышся, душу адвядзеш.

Стаяла цёплае чэрвеньскае надвор'е. Сонца набірала сілу. На чыстым небе паказаліся там-сям маленькія аблачынкі. У такі дзень добра касіць. Раса трымаецца амаль да паўдня, а з паўдня сена сохне, як у напаленай печы. На дождж, падобна, не паказвае. Кузьма Чорны адчыніў дзверы на балкон, выйшаў. Дыхнуў глыбака паветра, агледзеўся. Удалечыні ўзвышаўся Дом урада і востры верх Чырвонага касцёла. З левага боку віднеўся Віленскі вакзал. З правага зелянела роўнае поле стадыёна «Дынама». А ўнізе, захапіўшы ўсю вуліцу, ішлі і ехалі на конях і на аўтамабілях людзі. Чуліся вясёлыя галасы, абрыўкі будзённых размоў, грукат колаў, фырканне коней, аўтамабільныя гудкі. Можна, пры жаданні, дзень стаяць і глядзець на гэты стракаты натоўп, слухаць людское рознагалоссе, і не будзе сумна.

Паглядзеў на балкон Кандрата Крапівы: яны часта так рабілі — выходзілі на балкон і перамаўляліся адзін з адным. Але сябра не было відаць. Можа, куды-небудзь пайшоў па справе, а можа, сядзіць за пісьмовым сталом і піша. Яму пішацца. Прынамсі, тое, што ён зачытваў, вышэй за ўсякую пахвалу. Адна назва п'есы чаго варта — здаецца, каб прыдумаў такую назву, то ўжо далей само сабой напісалася б: «Хто смяецца апошнім». Кандрат мае рацыю: смяецца той, хто смяецца апошнім.

Хацеў паліць вадой з кубка, якая стаяла тут, на балконе, пасаджаныя Ірынкай кветкі, але ўспомніў, што лепш за ўсё паліваць пад вечар. Дый Ірынка, яго ўцеха, сама добра помніць пра свае абавязкі. Ёй гэта на радасць. А яму на радасць думаць пра дачушку, пра кветкі, пра надвор'е. Зайшоў у пакой, падвязаў гальштук, апрануў шэры пінжак. Зірнуў на самога сябе: пінжак і штаны на ім ляжалі, быццам з чужога пляча. Усміхнуўся — можа несці да краўца перашываць. От таму будзе вялікае дзіва: чаму раптам гэтак пахудзеў,

куды быў знік, што ды як? Ён будзе здзіўляцца і войкаць: «А братачка мой! А-я-ей!» Узяў у рукі кульбу і выйшаў на калідор.

Акурат у гэты момант з кухні выйшла насустрач жонка. Здзіўлена паглядзела на яго. Прытуліў яе ласкава да сябе і спакойным голасам сказаў, быццам апраўдваўся, што от заманулася прайсціся, пабыць сярод людзей. Як-ніяк, кірмаш!

На лесвічнай пляцоўцы ўбачыў суседа Рунцо. Той заўзята чысціў ваксай чаравікі. Таксама некуды збіраўся. З падкрэсленай павагай павітаўся:

— Добры дзень, Андрэй Пятровіч!

— Дзень добры, Мікалай Карлавіч! — Рунцо таксама рад быў бачыць яго.

Мікалай Карлавіч паволі спускаўся па лесвіцы. Начапіў на пярылы кульбу, але не адпускаў яе. Не той спрыт, як у маладыя гады, каб угнацца. Успомніў, як напалохаў аднойчы аднаго наведвальніка рэдакцыі «Беларускай вёскі»: чалавек сабе ўздымаецца па лесвіцы, а насустрач са страшэнным грукатам ляціць кульба, потым малады чырванашчокі юнак скача цераз пяць ступенек, пытаючы на хаду: «Не бачылі, мая кульба тут не ехала?» Чалавек таксама пытае: «А вы хто?» — «Я — Кузьма Чорны».— «Вы — Чорны?!» Вельмі быў расчараваны: чакаў убачыць саліднага, самавітага мужчыну. Цяпер бы, мабыць, лёгка паверыў, што ён — Чорны.

Дом № 73 стаяў углыбіні, паміж вуліцай Свярдлова і Беларускай, і выходзіць трэба было завулкам. На вуліцы не паменшала люду. Ішлі на рынак і з рынку. Неслі ў руках сумкі і кашы, і лёгка было, не пабываўшы на рынку, даведацца, што сёння прадаецца. Многія так і рабілі — спынялі тых, хто ўжо атаварыўся, і распытвалі, дзе, што і за якія грошы.

Загледзеўся на дзядзьку, вельмі ж фацэтна апранутага: той ішоў сабе спакойна ў мітуслівым натоўпе, быццам ведаў, што яму ягонае застанецца. А калі павярнуўся ісці ў вароты рынку, то наткнуўся на халодны бляск тоўстых шкельцаў у цяжкіх акулярах. На яго пільна глядзеў маленькі чалавечак, яшчэ малады, але ўжо сыценькі і акуратненькі. От ён, уласнай персонай — каап333ератар Сафрон Дзядзюля! Яму б тырчаць у акенцы якой-небудзь крамы з каланіяльнымі таварамі, а ён абыходзіць, важны і надзьмуты, гандлёвыя

рады, заядла таргуючыся і не ўступаючы ні ў чым базарным цёткам. А можа, таксама збірае матэрыял для літаратурнага твора? Як ні круці, а і ён пісьменнік! Памалу, братцы, не душыце! Гэта ж трэба, прыкінуўся сябрам, у госці напрасіўся, у самыя Цімкавічы, Чорны яго як чалавека ўсюды вадзіў, з людзьмі знаёміў, н старым бацькам.

Бедны бацька! Ён гэтак стараўся, каб дзеці сталі людзьмі, на нітку выцягваўся, каб вывучыць. Гэтым летам абавязкова трэба наведаць роднае мястэчка, каб пабыць каля бацькавай магілы.

Павольна, не спяшаючыся, ішоў між радоў, слухаў людскую гаману. Сяго-таго ён ведаў і помніў, і яго многія ведалі і віталіся. А вось і той дзядок, што нагадвае нейкага сектанта! Колькі Мікалай Карлавіч помніць, ён больш гаворыць, расхвальвае свой тавар, чым прадае яго. Ого, што ў яго за тавар: мёд трохгадовай моцы і мёд, толькі што выкатаны з сотаў, мёд ліпавы і мёд грэчкавы, н лясных кветак і з лугавых, у кадоўбчыках і ў сотах, пярга і воск! А пад рукамі ў яго заўсёды ляжыць надрукаваная яшчэ пры цару на жоўтай паперы кніга: «Пчела, ее жизнь и главные правила толкового пчеловодства». Тым, хто не верыць на слова, што мёд лечыць любую хваробу і павышае жыццёвы тонус, дзядок зачытвае н кнігі патрэбную мясціну і заканчвае чытанне самым пераканаўчым доказам: «Вы ведаеце, хто гэта напісаў? Не, вы не ведаеце, хто гэта напісаў! Акадэмік, вучоны-хімік Бутлераў, які сам пражыў ледзь не сто год, бо кожны дзень з'ядаў лыжку мёду».

Успомніў «Сарочынскі кірмаш» М. В. Гогаля: «Що, божи ти мий, господи! чого нема на тій ярмарци! Колеса, скло, дьоготь, тютюн, ремінь, цибуля, крамари всяки... так, що хочь би в кишені було рублів з тридцять, то й тоді не закупив усёеі ярмаркі». Сапраўды, шум, лаянка, мычанне, бляянне, гоман, віск — усё зліваецца ў адзін нязладжаны гул. Мяшкі, скрынкі, кашы, гараджане, гаршкі, гародніна, садавіна, бабы, гарачыя піражкі, квас, шапкі — усё яркае, стракатае, бязладнае мітусіцца перад вачамі, паспрабуй што-небудзь запомні.

У мясным радзе гаманілі, пакуль не было пакупнікоў, дзве сялянкі. Па апратцы можна было ўгадаць, адкуль яны, з якой мясцовасці. А каб пабачыць, як яны ядуць, ці сала хлебам закусваюць, ці хлеб салам, то і

зусім пэўна можна сказаць, ці землякі: нідзе няма гэтулькі яснавяльможных ягамосцяў з віслымі вушамі, як на Случчыне. У старыя часы нават прафесія такая была — свіны купец. Але па гаворцы яшчэ лепш можна ўгадаць:

— І твой добры апівошына, гэта ж так біцца, ні стыда ні совясці німа яму. Пара ўжо астадоліцца і ўзяцца за розум, колькі ж можна скакаць туды-сюды. Ён жа твайго, галубка, атопка не варт, а яшчэ пнецца светам круціць. А ты за ім, за такім додалям, булдуешся ўсю сваю жызнь.

— Ня дай бог, які гэта пранцаваты чалавек, ніякага з ім зладу няма! Прысмактаўся, смактун гэты, вочы ўжэ на свет божы не глядзяць. Я з ім доўга цыкацца не сабіраюся.

Мікалай Карлавіч падышоў да жанчын — ведаў пэўна, што зямлячкі. Так гавораць толькі ў яго роднай мясцовасці. Прынамсі, недзе поблізу. Слова за словам — разгаварыліся. Старэйшая расказала, раз-пораз пільна ўзіраючыся ў вочы Мікалая Карлавіча, ці не жартуе чалавек, што так проста загаварыў з імі, бы сапраўды свой:

— А што ж, як-ніяк хазяйства! Парасята, цялята. За ўсім догляд трэба. Сказаць праўду, то цяпер трымаць свіней нам не з рукі. Купілі от у Марфы дваіх падсвінакаў, столькі грашыскаў убухалі...

— Затое — каўбаска, студзянінка, патрашанка...

— Яно гэтак! Грэх казаць! Ёсць хлеб і да хлеба. А вы ж самі адкуль? Я гляджу, вымова блізкая.

— З Цімкавіч.

— А мы з Гольчыч. Пятнаццаць вёрст ад Слуцка. Мо чулі?

— Чуць чуў. Мой бацька недзе ў тых мясцінах цясляры́ў. То кажаце: і свінні ў вас вядуцца, і пчолкі добра гадуюцца?

— Дзякаваць богу, не пераводзіцца жывое! У нас у тую вайну ўсё пагарэла, сатлела, адны галавешкі асталіся. А гэта цэлы абшар стаяў: і хлявы, і падпавеці, і другія прыбудоўкі — прыйшлося занава адбудоўвацца. А грошай ні капейкі, хоць крычы, такая бязграшыца. Але нічога, сяк-так узбіліся на хазяйства. І сала ўдалося ў гэтым годзя: акарак рукамі не абхопіш, таўшчэзны, тлушчам заплыў. Жывём, а як жа! Жывём, то жывём! Адно святых мігдалаў не хапае...

Развіталіся, жадаючы адзін аднаму здароўя і прыбытку ў гаспадарцы. Здаецца, пустая гаворка, а на душы невядома калі і як пасвятлела. Навокал — Сафроны Дзядзюлі, але людзі жывуць. І жыць будуць! А як жа іначай? Пісаць трэба пра гэта. Раман «Простыя людзі». Простыя людзі маглі б навучыць жыццю ў працы, у сумленні або паведаміць аб хціўасці і няўдачах, аб злосці і зайдрасці, аб шчасці мець вялікую душу, сяброўства, злагаду з людзьмі і ясны розум. Яны маглі б паказаць, як поўніцца шчасцем чалавек са справядлівым сэрцам і замілаваннем да роднай зямлі і роднага неба і як сохне і марнатравіцца натура без сэрца і сумлення!..

Выходзіў з варот рынку і не бачыў, што назіркам за ім брыў Сафрон Дзядзюля, цягнучы бітком набітую кашолку, і доўга глядзеў услед, пасміхаючыся: называецца, хадзіў чалавек на рынак, а што добрае купіў? З пустымі рукамі як прыйшоў, так і пайшоў. А Кузьма Чорны ішоў і думаў, што трэба было б зрабіць Дзядзюлю не каапературам, а тым дзябёлым мужчынам, што стаіць каля варот Віленскага рынку з павязкай на руцэ і хапае людзей за рукавы, патрабуючы паказаць, што ў сумцы, і радуючыся магчымасці прынізіць чалавека.

Здалёк убачыў на балконе Ірынку: яна даглядала кветкі. Мікалай Карлавіч спыніўся ў засені таполі і назіраў за ёю доўга-доўга, ажно пакуль яна заставалася на балконе.

## XV

### ВЯЛІКАЕ СЭРЦА

Мясціна тут была цудоўная. Дом з трох бакоў акружаў лес — хвоя і яліна. От, якраз бы пад Скіп'ёва! Сцежка ішла на невысокі ўзгорак, абыходзіла палеглыя ствалы спарахнелых старадрэвін, што абрасталі мохам і грыбамі. Таўшчэзныя яліны высока ўзнімаліся ўгору. Скрозь тырчалі пні. Мікалай Карлавіч хадзіў па лесе, дыхаў смольным паветрам, слухаў цішыню, міжволі пераносячыся думкамі да роднага кутка.

Тыя дні дождж ліў і ўдзень і ўночы. Зрэдку нена-

доўга прачышчалася, але хмары валакліся нізка, і дождж зноў сеяўся, як праз сіта. Тут, пад густымі ялінамі, было змрочна і ціха. З галін капалі на сцежку і на яшчэ зялёнае лісце шыпшыны кроплі. Неўзабаве пасвятлела, і выглянула сонца. З лясных нетраў цягнула цвіллю і грыбной духмянасцю, у кустах жаўцелі кветкі асенняга лаганцу, у прагалінах між дрэў можна было ўгледзець запознены клін гусей. Востра чуўся холад, і, значыць, зіма мелася быць цяжкая. Ціхі пошум вяршалін, церусенне дажджу, густы настой смалы — усё гэта ўраўнаважвала душу, і думалася: «Божа мой, як тут добра!»

Мікалай Карлавіч толькі што расстаўся з чатырнаццацігадовым партызанскім разведчыкам, які расказваў такое, ад чаго сапраўды валасы на галаве ўстаюць, і ў хадзе закалыхваў востры боль у сэрцы. Знаёмячыся, падлетак назваў сябе Паўлікам С. з К. раёна: у ім моцна жыла звычка да пастаяннай канспірацыі. Ну, не апошняе месца займала і дзіцячае імкненне да гульні ў таямнічасць! Наогул, дзіцячае і сталае на яго твары і ў яго паводзінах вельмі кідалася ў вочы, абуджаючы страшныя думкі і пераносячы ў свет, дзе грымела вайна. Як зацягнулася яна! Кожны дзень яе стаіць у памяці. Здаецца, і запісваць не трэба, так усё помніцца.

Вось і Паўліку здаецца, што вайна ідзе столькі, колькі ён памятае сябе. Ранейшае, з мірнага жыцця, успамінаецца як сон. Тады была жывая яго маці, а сам ён быў зусім малы. Якая ласка чулася ў яе голасе! Нічога такога ён ужо ніколі і нідзе не пачуе. Апошні раз Паўлік чуў голас маці, калі яе вялі на віселіцу. Яна азірнулася і сказала: «Шукай бацьку». Потым ён бачыў яе здалёк: маці шукала вачамі яго, але Паўлік адчуў, што нельга паказвацца, каб не атруціць яе апошнія імгненні, і прысеў на зямлю, а калі ўстаў і зірнуў, то ўсё было скончана. Маці вісела на тых лёсках, на якіх раней фізкультурнікі рабілі свае практыкаванні, і вецер раскідваў распушчаныя яе валасы. А на яго лбе, над левым вокам, легла ў той міг дугою маршчына. Яна надавала падлетку выгляд чалавека, які чамусьці перастаў расці.

Паўлік расказваў, і Мікалай Карлавіч бачыў, як час, у меры свайго руху, лячыў яго душу. Уся надзея ў гэтай страшнай вайне толькі на час. А яшчэ — на пачуццё нянавісці да прышэльцаў. Каб не яно, здаецца,

чалавек проста не вытрымаў напружання. Мікалай Карлавіч бачыў, якім шчасцем свяціліся вочы падлетка, калі ён апавядаў пра тое, як кідаў гранаты ў немцаў. А як шкадаваў ён, што не можа страляць: вінтоўка ўсё яшчэ зацяжкая і балюча аддае ў плячо!

Што можа зрабіць вораг з народам, дзе ваююць вось такія хлапчукі?!

У лесе, дзе напружанне спадала, Паўлік зноў паглыбляўся ў свае невясёлыя думкі. І ўсё ж тут, у лесе, яго ўзбунтаваная адчаем душа паволі ўціхамірвалася: тут, здаецца, жыла ў першародным сваім абліччы сама вечнасць, а ўсемагутнае жыццё на кожным кроку красавала хараством, якое расчульвала душу сваёй недаўгавечнасцю. Мікалай Карлавіч з уласнага вопыту ведаў, а цяпер гэта яго веданне пацвярджалася яшчэ раз: вялікі доктар усялякай хворасці — час! У той меры, як ён ідзе па свеце, прытупляецца самы востры боль, ападае і змяншаецца смутак па страчаным назаўсёды, чалавек знаходзіць сваё месца, і яму становіцца лягчэй, кожны пражыты дзень згладжвае сляды мінулага, і чалавек, скінуўшы з сябе цяжар утрапення, нараджаецца для новага жыцця.

Думкі не давалі засяродзіцца на красе падмаскоўнага лесу, і Мікалай Карлавіч адчуў патрэбу ў тым, каб зараз жа ўстаць і ў хадзе разважыць сябе. Цяжка абапёршыся на нязменнага цяпер свайго спадарожніка — кульбу, ён устаў і рушыў па ледзь прыкметнай у траве і шыголлі сцяжыне, выбіраючы тую, якая вяла як найдалей ад люднага дома адпачынку. Але сузіранне асенняга жыцця рэдкіх лясных жыхароў ненадоўга адцягнула яго ад думак, якія вось ужо другі год, з таго моманту, як пачалася вайна, не давалі спакою. У памяці ажывалі ў каторы раз малюнкі і вобразы нядаўняга мінулага.

22 чэрвеня 1941 года. Нядзеля. Якое яснае і ветранае надвор'е стаяла ў той дзень! Уночы свяцілі зоры, неба было чыстае. Ноч была халаднаватая. А на світанку падняўся слабы вецер, і спакойна згасалі зоры. Якое страшнае ўтрапенне ахапіла чалавечыя душы!

24 чэрвеня. Пачынаючы з раніцы, немцы бамбілі Мінск, а на схіле дня падпалілі. А 2-й гадзіне дня Раманоўскія, Мікалай Карлавіч, яго жонка Рэня і дзесяцігадовая дачка Ірынка, выйшлі з кватэры. Разам з імі выйшлі і суседзі, Ганна Сямёнаўна Рунцо з сынам То-

лікам. На іх вачах у дом трапіла бомба, прабіла наскрозь і ўзарвалася пры падмуроўцы. Спачатку ўпала частка дома, і над руінамі ўзвышалася сцяна аж да трэцяга паверха. Бомба ўпала і на будынак 20-й школы, якая стаяла пры самым 73-м доме. Сцяна, што яшчэ дагэтуль ліпела, абрынулася. З воблака пылу і чорнага дыму выбліснуў агонь і хутка пабег па сценах і дахах. У паветры кружыліся і падалі на зямлю сажа і шматкі паперы. Гарэў горад, гінулі людзі, ляцелі ў паветра рукапісы чорнаўскіх раманаў: «Судны дзень», «Простыя людзі», «Вялікае выгнанне».

Было відаць, як трашчаць у агні кнігасховішчы «Ленінкі», як ператвараюцца сцены дамоў уздоўж вуліц у сцены агню, як ратуюцца людзі. З болем у сэрцы Чорны пакідаў горад. Чэрвеньскі шлях, Магілёўская шаша — яны і цяпер стаялі перад яго вачамі: жахлівае відовішча людскога гора. Усю наступную ноч неба над бежанцамі было ў агні. Мінск гарэў і ўдзень. Пажар толькі зблекнуў у сонечным святле. Водсветы пажару відняліся і ноччу 26 чэрвеня. А ўдзень зноў было ясна і горача.

Вялікі натоўп людзей марудна плыў па дарозе. Найбольш гэта былі жанчыны. Рэшта — старыя, падлеткі, дзеці. Зусім малых дзяцей жанчыны неслі на руках, везлі на самаробных калясках. На тварах людзей была маўклівая зацятасць. Але мацней за ўсё запомніліся твары дзесяці-дванаццацігадовых падлеткаў — дзяўчынак: здавалася, у іх увасобілася ўсё, што жыло тыя дні ў многіх душах. Самі яшчэ дзеці, яны неслі на руках сваіх малодшых братоў і сясцёр, а часта і проста чужых дзяцей, якія засталіся без маці. Бадай што кожны перажываў смерць родных і блізкіх. Адзін не ведаў, дзе ў страшную хвіліну дзеліся бацькі, другі — дзе дзеліся дзеці. Дзеці не ведалі, дзе іх маці. Але ўсе ішлі, не хочучы заставацца пад ворагам.

Дзесяткі разоў на дзень прылятаў самалёты, і дрыжала зямля ад выбухаў. Неба падала ўніз. Людзі ляжалі ў пыле пад градам куль і асколкаў, развітваючыся ў думках з жыццём. Над вялікім прыдарожным дрэвам кружыў спуджаны каршачок, над пралеглым жытам віліся дробныя птушачкі, вецер зганяў з дарогі пыл і дым, і не было ўнімку грымучаму пеклу. Скрозь ляжалі забітыя, чуліся стогны параненых і знявечаных.

Душа разрывалася паміж жалем да тых, каму не можаш нічым памагчы, і неабходнасцю ісці далей, пакідаючы за сабой трупы. Жывыя, спалохана азіраючыся на яснае неба, памалу выбіраліся на шашу і станавіліся ў ланцуг, якому не было канца.

Ён столькі разоў бегаў ад самалётаў, столькі разоў уздымаўся з дарожнага пылу, шукаючы вачамі родных, што ледзьве спраўляўся з пачуццём абыякавасці да ўсяго. Але нянавісць, якая расла з кожным днём, імкліва выцясняла з душы благадушша і сузіральнасць і абуджала волю да жыцця і змагання. Кузьма Чорны пайшоў туды, дзе ён мог рабіць тое адзіна магчымае і патрэбнае, што ён мог.

У пачатку ліпеня ён з сям'ёй дабраўся да Крычава. Тут яны развіталіся з суседзямі: тыя павярнулі на Хіцімскую дарогу, да роднай вёскі.

10 ліпеня ён адправіў жонку і дачку на ўсход, а сам пайшоў у ваенкамат і ўступіў у рады Чырвонай Арміі.

Праз некалькі дзён ЦК КП(б) Беларусі адазваў Чорнага ў Клімавічы ў групу друку. Разам з групай ён зноў апынуўся ў Крычаве, потым у Магілёве, дзе стаў супрацоўнікам газеты «Раздавім фашысцкую гадзіну». Потым быў Гомель, Добруш, Чэбаксары, Казань, а з другой палавіны студзеня 1942 года — Масква.

І ўсюды Чорнага і яго сяброў суправаджалі цімкаўцы, пра якіх Мікалай Карлавіч расказваў новыя і новыя гісторыі: як яны сустрэлі ворага, пра іх знаходлівасць і дасціпнасць. Але ён быў рэалістам і цвяроза ўсведамляў небяспеку, якая навісла над жыццём і шчасцем людзей, якіх ён любіў і цаніў. Уяўленне малявала карціны жудаснага разбурэння і спусташэння. Як прагна распытваў ён кожнага, хто трапляў з-за лініі фронту, пра жыццё пад акупацыяй! І ўсякі раз яго роспыты завяршаліся адным запаветным пытаннем: а ці не чуў той чалавек што-кольвечы пра мястэчка Цімкавічы, што на Случчыне? Сёе-тое ён і сам ведаў, а рэшту мог уявіць. Ён ведаў, што немцы спалілі разам з жыхарамі суседнюю вёску Вялікія Прусы і што ў ваколіцах Цімкавіч дзейнічае партызанскі атрад. У газетах было, што цімкавіцкія партызаны нядаўна знішчылі ў мястэчку нямецкі гарнізон. Для яго асалодай было называць знаёмыя вёскі, рэчкі, урочышчы: Вялікія Прусы, Цімкавічы, Вызна, Морач, Страхінь, Орлік, Агаркаўскія балоты, Бўлічы, Семежава, Лешня, Ка-

пыль, Старыца, Цапра, Балвань, Пяцеўшчына, Пырашава, Доўгае, Кіевічы, Гулевічы, Шастакі, Мажа... Чорны выразна ўяўляў, як падрабязна і ахвотна тлумачаць яго героі адзін аднаму, дзе іх родная вёска, якія дарогі вядуць да яе, быццам самі яны вяртаюцца дадому.

У свядомасці ажывалі аблічччы і постаці людзей, якіх ён добра ведаў, жывых і мёртвых, чуліся іх галасы: Галена і Уладзя Кахановічы, Аляксандр Хрысціціч, Святловіч, Грысюк, Рудзік, Раман Габрыельчык, Андрэй Залядзелы, Віктар Даменя, Тодзя Раманоўшчык, Юзік Целяфун, Міхал Будрык і Міхал Пранцішчык, стары халасцяк Пятро Махорка, Міхал Раманоўскі, Тофіль Казлоўшчык, Каятан Свярбіцкі, Пракоп Вяндзіла, Паўлюк Вальчэня, Змітро Арловіч, Фэлька Жыбурт, два Галляшы Булаты, Мікалай Даменя, Віктар Міхалковіч, Зэнак Ярмалінскі, Базыль Андруковіч, Косцік Кедыш, рухавы Зміцер Маляўка, далікатны Міхал Аляксейчык, забіяцкі Антось Сарафінчык, муляр Кастусь Мікалайскі, мельнік Іван Даменя, сальнік Антось Міхалевіч, стальмах Рыгор Ціхановіч, каляснік Міхал Лушчыцкі, цеслі Антось Карпейчук, Андрэй Ціхановіч, Павел Рудзік, жанчыны Лізавета Фенюк, Марфа Янушчык, Міхаліна Макарэвіч, Матруна Гарашчэня... Што з імі? Ці жывыя яны? У яго памяці яны заўсёды жывыя, і трэба зрабіць так, каб увесь свет ведаў, якія гэта справядлівыя, добрыя і разумныя людзі, цімкаўцы.

У прагаліне паміж ялінамі віднелася шырокая паляна, з домам на ёй. Неўзабаве Кузьма Чорны быў у сваім пакойчыку, сядзеў за пісьмовым сталом і запісваў у сшытак думкі, якія збіраўся выкарыстаць у сваіх новых творах, і якія, адчуваў, ужо не суджана ўвасобіць у вобразах. Вайна паказала, што ён аніяк не памыляўся ў сваіх задумах, калі збіраўся напісаць серыю раманаў пра беларусаў. І вось цяпер, як ніколі раней, устала перад ім неабходнасць паставіць усё на карту, і здзейсніць задуманае. Мікалай Карлавіч яшчэ раз, бы прыкідку зрабіў, агледзеў сшыткі з запісамі, планамі, пачаткамі раманаў і аповесцей «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях», «Вялікі дзень», «Скіп'ёўскі лес», «Смага», «Сумліцкая хроніка», «Лявончыкава

Ліда і якубаўскі карчмар Сымон Біруля», «Сыны Хвёдара Нявады», «Алеся», «Захар Пагуда», «Рэшткі вялікай сялібы»...

## XVI

### СУСТРЭЧА

У маладыя гады гэта называлася — «шпацыр». Цяпер — «мацыён». Або — для большай важнасці — «праменад». Раніншні і вячэрні. Каб сагнаць стому, дыхнуць паветрам, супакоіцца. Для пісання патрэбна спакойнае адчуванне, што наперадзе шмат гадоў жыцця. А калі такога адчування няма? І ўжо ніколі не будзе? Пушкін гэта разумеў, як ніхто. Як можна, казаў, чалавеку з талентам і розумам траціць сябе на дробязі? Трэба думаць пра вялікае. Жыццё — кароткае. А ў хворага яно яшчэ карацей. Трэба, трэба спяшацца. Бо хто напіша за яго ягоныя раманы? Хіба толькі адзін бог.

Ці ж ён не спяшаўся? Дваццаць год — раман за раманам, кніга за кнігай. Яго цімкаўцы варты добрага пяра. Пра кожнага можна напісаць кнігу. І было б цікава. І не было б паўтарэння. Бо кожнага можна ставіць у іншыя абставіны, сутыкаць з іншымі людзьмі. Кожны быў бы носьбітам сваёй ідэйнай катэгорыі: бацькаўшчыны, уласніцтва, закона, сваяцтва, будучыні, гуманізму...

Але пішацца мала і цяжка. Горне на сон, і вельмі баліць сэрца. Даймаюць клопат і думкі пра кватэру. Рэня і Ірынка спяць на падлозе. Няма дзе прытуліцца з пісаннем. За дзень у пакоі пераварочваецца чалавек з паўсотні. Каму ёсць што рабіць і хто б'е бібікі. Той, хто стварае літаратуру, і той, хто толькі жыве з яе. Да ўсяго з калідора тхне капустай. О, гэта капуста, якую выстараўся Літфонд, каб падтрымаць паўгалодную пісьменніцкую брацію! У цёмным закутку, на мокрай падлозе стаіць пукатая бочачка з-пад селядцоў, і ўсе, хто часова або надоўга прытуліўся ў Доме пісьменніка, сяды-тады наведваюцца да яе — здымаюць асклізлы камень, ставяць рубам або кладуць на край круглае чорнае вечка і набіраюць усёй пяцярнёй звялую перасоленую капусту з рэдкімі зорачкамі морквы. На-

вічкам — смех, старажылам — гора. Кажуць, вайна вінавата. Але тое, што яна не зруйнавала, руйнуюць розныя прыжывальшчыкі і хлебаеды. Тут многа ад хамства. Сілы трацяцца і марнуюцца на немаведама што.

Шпацыраваць ад сцяны да сцяны абрыдла. Хіба зайсці да суседзяў: Міхася або Максіма. Але Лынь паехаў на фронт, які ўжо адкаціўся ў Польшчу, а Лужанін пайшоў у Дом друку. І Віткі нешта не відно. А Рэні хапае свайго клопату. Ірынка — у школе. Можа, пайсці ў горад? Далёка хадзіць ён апошнія дні асцерагаецца. З часу прыезду ў Мінск толькі і схадзіў у госці да былых сваіх гаспадароў Мухаморавых на Койданаўскі тракт. Вярнуўся на момант у шчаслівыя часы юнацтва, калі жывы быў бацька, браты Міхал і Юрась, калі навокал было столькі сяброў і аднадумцаў. Дарэчы, шпацыраваць няма вельмі дзе: руіны! Гэта ж трэба — у маладыя гады ён мог за суткі адмахаць сотню вёрст ад Цімкавіч да Мінска ці наадварот, ад Мінска да Цімкавіч, і не падбіцца ў дарозе! А тут — клопат дайсці да універсітэта. Дактары раяць берагчыся, неператамляцца. Не пісаць многа. Нічога не браць да галавы. Не хвалявацца. Як жа гэта пісаць без хвалявання?! Хіба толькі анкеты запаўняць. Або подпіс у грашовай ведамасці ставіць.

Хмурна, але дажджу не было. Мокрыя галіны клёнаў і таполяў. Халодны тынк мураванак. Яго, Кузьмы Чорнага, лепшая пара года. Амаль усё, што адбываецца ў яго раманах, ёсць восенню, калі душа перахварэе на спакусы вясны і лета і ўраўнаважыцца. Калі пачуцці не бунтуюць кроў, а думка спакойна і натхнёна працуе. Калі многа і добра пішацца. Восень і цяпер радуе яго, але не гэтак, як раней. Мікалай Карлавіч лепш, чым любы доктар, ведаў, што гэта яго апошняя ў жыцці восень і што толькі цуд уратуе яго. Але цуда няма. Здаецца, гэта яго апошняя мяжа. І ўсё ж жывы думае пра жывое. Вось ён ідзе па тратуары, бачыць усё яшчэ зялёную траву наўзбоч. Хіба гэта не радасць! Але ісці цяжка. Быццам па лесвіцы. І кіёк мала памагае. Вельмі пацяжэлі за апошнія дні ногі.

Ленінскі пляц, бадай, адзінае на ўвесь Мінск месца, дзе ацалелі будынкі. Вялізны горад ляжыць пад нагамі. У каго добры зрок, кажуць, што з гары, дзе Дом урада, можна бачыць аплеценыя калючым дротам калоны Акадэміі навук. У руінах — Савецкая, Ленін-

ская, Кірава, Маркса, Свярдлова, Нова-Маскоўская вуліцы. Там-сям стаяць, як дэкарацыя да спектакля жахаў, цудам ацалелыя сцены, узвышаецца ўдалечыні званіца царквы.

Нядаўна Мікалай Карлавіч перадаў у «Звязду» артыкул «Будучыня сталіцы». Але наўрад ці ўбачыць ён гэту будучыню. Час — найлепшы доктар для збалелай і ўтрапёнай чалавечай душы — замаруджвае свой рух і паварочвае яго позірк у мінулае.

А вось і здань самога мінулага — Чырвоны касцёл Сімяона і Ганны. Гэта ж ягоны пан Вайніловіч паставіў касцёл у гонар нечакана памёршых сына і дачкі. Перад галоўным алтаром намалёвана карціна: божая маці, а каля яе два анёлы. Прыгожае, народжанае чыёйсці дзіўнай фантазіяй збудаванне, якое надае пекнасць пляцу. Мінск без яго немагчыма ўявіць. Але які касцёл трэба паставіць у імя беларускіх дзяцей, якія гінулі пад бомбамі, бадзяліся па страшных дарогах, паміралі з голаду, мерзлі ў чыстым полі, пазаставаліся сіротамі?! Які помнік трэба паставіць у імя народа, які працай сваіх рук аздабляў зямлю, які сваёй душой здольны расплавіць камень жорсткасці і вынес на сваіх плячах цяжар нянавісці да вылюдкаў, што нарадзіліся ў нетрах фашысцкай Германіі?!

Дом урада ўжо амаль такі, якім быў да вайны. Зіхціць новымі шыбамі і, як раней, уражвае сваёй манументальнасцю. У ім увасоблена ідэя беларускай дзяржаўнасці. Навокал яшчэ валяюцца скруткі калючага дроту, цаглянага друзу, зарослага высокай, як каноплі, крапівой і тлустымі лопухамі. З-за хмар высвеціла сонца, і абмытая восеньскімі дажджамі трава ўразіла вока зелянінай і чысцінёй. На пляцоўцы перад фасадам стаялі легкавікі. Мікалай Карлавіч успомніў шчаслівы час, калі ён з жонкай і дачкой стаяў на адной з трыбун перад Домам урада і глядзеў на парад. З Землябробскага завулка выбягалі тады-сяды прахожыя, пераходзілі Савецкую вуліцу і кіраваліся да левага і правага ўваходаў у Дом урада.

Калі спусціцца па Савецкай да чыгункі, прайсці міма драўлянай, падобнай на свіран, цэркаўкі, дзе служыць знаёмы Чорнага, бацька ягонага героя Вэні Шпулькевіча, прысадзістага здаравілы з гладкім чырвоным рылам, каля трухлявых домікаў местачковага тыпу ўзысці па Нова-Маскоўскай да студні-вадакачкі, пе-

райсці Брэсцкі мост і павярнуць на Койданаўскі тракт, то можна выбрацца на дарогу ў Цімкавічы. Ці давядзецца яму пабачыць яшчэ раз роднае мястэчка? У пачатку вайны пажар выкаціў палавіну мястэчка. Згарэла бацькава хата. Многіх цімкаўцаў ужо няма сярод жывых. Сумная будзе гэта сустрэча.

Мікалай Карлавіч паволі, цяжка абапіраючыся на кіёк, ішоў паўз агароджу, што вяла ад педінстытута пад так званы Дом металістаў. Тут, упёршыся плячамі ў агароджу, некалі стаяў, вызіраючы Сашку Стафанковіча, ягоны бацька, Ян Стафанковіч. Той самы, што мог бясконца, да месца і не да месца паўтараць: «раймонт», «райманціраваць», «павэдлуг». На ганку педінстытута ён садзіўся курыць. Цяпер тут малалюдна. Прынамсі, шпацыраваць ніхто не замінае. Насустрач бягуць студэнты універсітэта. Некаторыя вітаюцца. Знаёмыя і незнаёмыя. Азіраюцца.

Хацеў бы ён бачыць сябе цяперашняга іхнімі вачамі! Невясёлы, мабыць, быў бы партрэт. Каржакаваты, з нездаровай паўнатой мужчына, з белым, пацяжэлым тварам, з патухлымі вачамі, ад усёй постаці якога павявае тугой і стомай. Гэта ён, Кузьма Чорны!

А бачыў час, калі ён гэтак спяшаўся ў заўтрашні дзень і гэтак жа сама захапляўся: «Глядзі: Купала! Дзядзька Колас! Гартны! Бядуля! Чарот!» І яго пазнавалі: «Дык гэта і ёсць Кузьма Чорны! Які ж ён — чорны, калі ён — белы?! І чаму — Чорны, а не Пільны, Вясёлы, Агністы?»

Успомніў, як першы раз убачыў і пазнаёміўся са сваім «хрышчоным літаратурным бацькам» Змітраком Бядулем. Зайшоў у рэдакцыю «Беларускай вёскі». Шукаў, у каго запытацца, дзе ды што. Бо перад тым даслаў быў у рэдакцыю кароценькія апавяданні. Бачыць, у адным пакойчыку сядзіць рыжанькі, лупаты, з вогненнай чупрынаю і ветлівым тварам чалавек і пытаецца:

— Вам хто трэба?

А ён і сам не ведае, хто яму трэба. Разгубіўся. Стаіць. Маўчыць. А рыжанькі зноў:

— Можа, вы нешта прынеслі ў газету? Давайце, пачытаем.

Шчыры быў, просты. Ласкавы голас падбадзёрыў, і Чорны сказаў, што даслаў свае апавяданні. Назваў сябе.

— Дык вы Кузьма Чорны?! — падняўся ён з крэсла, працягнуў руку і назваўся: — А я — Змітрок Бядуля. Сядайце,— паказаў на другое крэсла каля стала.

Чорны прысеў. А Бядуля высунуў шуфляду стала, дастаў нейкую ёмістую папку:

— Апавяданні вашы ў мяне. Прачытаў. Вы, братачка, маеце пяро! Добрае пяро, братачка, маеце!

Так, Бядуля тады не толькі абнадзеіў, але і падтрымаў, запрасіўшы на працу ў рэдакцыю. Ён быў ягоным самым важным літаратурным настаўнікам і многа зрабіў для яго сваімі парадамі.

Паглыблены ва ўспаміны, Мікалай Карлавіч не заўважыў, як уважліва і радасна глядзіць на яго высокі, хударлявы, у вялікаватым пінжачку, пад якім віднелася афіцэрская гімнасцёрка, і абвіслым, здалёк як пустым, правым рукавом, студэнт, які ішоў насустрач. Напэўна, прайшоў бы міма, каб той не павітаўся. Не за руку. Рука параненая. Казаў, хацелі адрэзаць. Патрапіўся чулы чалавек, доктар. Рука і цяпер часта баліць, здаецца цяжкай, цягне плячо ўніз і моцна ные. Асабліва пасля таго, як шмат папіша, памагаючы левай рукой. А піша гэты студэнт не толькі лекцыі, але і апавяданні. Мікалай Карлавіч чытаў іх, яшчэ жывучы ў Маскве, акурат пасля кровазліцця ў мозг. Праз нейкі дзень-другі. Сам не мог чытаць, дык прасіў Ірынку. Там жа і з самім аўтарам пазнаёміўся праз Міхася Рыгоравіча Ларчанку, выкладчыка і універсітэта, крытыка. Іван Мележ! Мае талент. Сталы не па ўзросту. Шмат перажыў, перабачыў, перадумаў. Можа, таму ў вачах — разуменне і смутак. Чулы. Дастаеўскі казаў пра такіх: «Раненое сердце».

Успомніў, як Мележ заходзіў да яго ў нумар гасцініцы «Якар» у Маскве і як расказваў пра Палессе, сваіх бацькоў, вайну. Падумаў: гэты будзе пісаць! Праўда, казаў, няма калі: вучыцца чатыры гады па пяцігадовай праграме, многае выветрылася з памяці. Што ж, часу заўсёды мала! Вельмі мала часу. Пушкін гэта асабліва востра адчуваў. Кажуць, перад смерцю прашаптаў: «І гэта ўсё?!» А Гогалю дык адкрыта гаварыў, што трэба спяшацца, бо ў яго кволы выгляд, ён хваравекаваты, жыццё яго можа абарвацца рана, раней, чым ён мяркуе. «Как не приняться за большое сочинение! Это просто грех!» І аддаў сюжэт «Мёртвых душ», з якога сам меркаваў зрабіць нешта накшталт

паэмы. А Дастаеўскі? Чэхаў? А наш Багдановіч? Паўлюк Трус? Самуйлёнак?.. Трэба пісаць, абавязкова пісаць. І іменна таму, што мала часу. Ніхто іншы не напіша за цябе тваё.

— Ну, што новага напісалі?

Мележ адказаў, што новага пакуль што нічога няма. Перарабляе ўжо напісанае. Вядомае Чорнаму. Калі напішацца нешта, то прынясе.

Хацеў развітацца. Думаў, што Чорнаму вельмі цяжка стаяць з ім і гаварыць. Але Чорны апярэдзіў:

— Давайце паходзім!

Распытваў спачатку пра студэнцкае жыццё. Потым зноў перавёў размову на літаратуру.

Мележ ахвотна расказваў, што не задаволен сваімі творамі. У апавяданні «Сустрэча ў шпіталі» — меладраматызм. У пісьме сына да бацькі яго асабліва шмат. А наогул то, у жыцці ўсё было прасцей. І куды страшней. Пацягнула «сочинять». А было на самай справе ўсё так. Доктар хварэў на сэрца. Яго нельга было хваляваць. Доктара непакоіла, што ад сына з фронту не было вестак ужо пяць месяцаў. Яго супакойвалі, хоць ведалі, што сын загінуў чатыры месяцы назад. Цяпер Мележ перарабляе апавяданне. Хоча назваць яго проста: «Сустрэча».

Апавяданне «Васіль Дзянісавіч» таксама перапісвае. Хоча, каб не было натуралізму ў сцэне, дзе паранiла жанчыну. Хоча, каб адчуваліся чалавечыя адносіны аўтара да сваіх герояў, каб чытач перажываў, а не рэгістраваў падзеі. Зноў жа — назва павінна быць іншай: «Апошняя аперацыя». Ёсць розніца. Тое самае славутае «ледзь-ледзь», ад якога ў мастацтве залежыць амаль усё. Мележ захапіўся і ўжо не заўважаў, што яго субяседнік як бы адсутнічае, што Чорны далёка сваімі думкамі.

А Кузьма Чорны сапраўды думаў пра сваё. Думаючы пра Мележа. Ён узгадаў апошняе, што чытаў: апавяданне «У завіруху». Вельмі добрае апавяданне. Пра нязломнасць чалавека. У аўтары, у Іване Мележы, ён таксама ўгадваў гэту рысу, хоць знешне той быў лагодны, задуменны. Без цярплівай працы няма таленту. Мележ гэта ўжо, здаецца, зразумеў. Але ці зразумеў ён, што трэба спяшацца, што нельга траціць сябе на глупства, што трэба думаць пра вялікае і брацца за вялікае? Мінулы раз Чорны шмат гаварыў яму пра Тал-

стога, Дастаеўскага, пра тое, што ўсім сучасным пісьменнікам трэба пісаць сваіх братоў Карамазавых з такою сілаю, як у класікаў. Ён хацеў, каб Мележ зірнуў на літаратуру шырэй, каб не спяшаўся з ацэнкамі, каб глыбока думаў. Здаецца, зерне падае не на камень. Але сеяць трэба і тады, калі на камень. Не можа быць, каб не зачапілася карэньчыкамі!

У Мележа ёсць самае важнае ў пісьменніку — боль за чалавека. Вось ён расказвае пра задуму невялікага апавядання. Скардзіцца, што не ведае, з якога канца брацца. Апавяданне пра тое, як жанчына непакоіцца за свайго мужа, які другі месяц не піша з фронту. Свякроў раіць ёй паплакаць, каб адлегла ад сэрца. Але яна не можа плакаць: «Усе слёзы высахлі». Вечарам брыгадзір прыносіць пакамечанае пісьмо і просіць прабачэння, што не аддаў раней. Забыўся за бегатнёй і клопатам. Пісьмо ад мужа. Ад радасці жанчына... плача! Ёсць ужо і назва: «Салдаткіна ноч».

— Задума, па-мойму, цікавая,— сказаў ён.— Гэта вельмі правільна псіхалагічна, як жанчына трымае сябе ў горы і ў радасці. Па-жаночаму... Чаго ж вы сумняваецеся?

— Ды вельмі ж проста ўсё гэта. Ці цікава будзе?

— Калі ёсць праўда, то будзе і цікавасць. Сапраўдная, а не тая, якую робяць літаратурныя цыркачы з іх таннымі цыркавымі штучкамі.

Спыніліся каля Дома пісьменніка на вуліцы Берсана. Чорны стаў развітвацца:

— Я тут у гэтай мураванай хаце. На другім паверсе. Заходзьце пад вечар, гадзін пасля пяці... Прынясіце, што напісалі. Паслухаю...

— Ды наш брат, Мікалай Карлавіч, і без таго шмат у вас часу адбірае...

— Не кажыце так... Мне ж таксама неахвота сядзець аднаму, як на хутары. Вечары цяпер вялікія, сумнавата, а от прыйдуць людзі — і нагаворышся, і пасмяешся... Пішыце, працуйце над сабой. Я адчуваю ў вас талент і жадаю вялікіх поспехаў.

— Няма калі пісаць. Лекцыі...

Чорны памаўчаў і раптам з сумам у голасе сказаў:

— Працую мала. Дактары забаранілі многа пісаць... на рэжыме строгім жыць даводзіцца...

Пераклаў кіёк з рукі ў руку, паглядзеў на Мележа. Той зразумеў гэта як намёк на развітанне. Развітаўся

і пайшоў у бок універсітэта, несучы ў душы яго глыбокі развітальны позірк і яго словы: «Пішыце, працуйце над сабой. Я адчуваю ў вас талент і жадаю вялікіх поспехаў». Іван Мележ яшчэ не ведаў, што гэта была яго апошняя сустрэча з Чорным, што праз месяц, 22 лістапада 1944 года, Чорнага не стане і што праз два дні, 24 лістапада, у «Звяздзе» будзе апублікаваны некралог і ў тым жа нумары — апавяданне Івана Мележа «У завіруху», прысвечанае яго вялікаму настаўніку Кузьму Чорнаму.

А Чорны стаяў каля ўвахода ў Дом пісьменніка і доўга глядзеў Мележу ўслед. З-за нізкіх шэрых хмар зноў выблiснула сонца і асвяціла сцяну чырвонага касцёла, адлюстравалася ў вітражах. Зноў знікла. На парозе ляжаў жоўты лісток. На чорнай разрытай зямлі каля агароджы бялелася парванае карэнне палявых раслін, і, хоць была восень, на іх ужо значыліся новыя парасткі. Жывое жыццё не спынялася ні на момант.

ЗМЕСТ

Михаил Александрович Тычина

ВОЗВРАЩЕНИЕ

Повесть

*Для старшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дуброўская. Карэктар А. К. Юшына.

ІБ № 226

Здадзена ў набор 19.04.83. Падп. да друку 24.11.83. АТ 21221. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 10,19. Ул.-выд. арк. 10,02. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3574. Цана 50 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Тычына М.
Т 93 Вяртанне: Аповесць. [Для ст. шк. узросту/Мастак Т. В. Кубліцкая].— Мн.: Юнацтва, 1984.— 190 с., іл.
У пер.: 50 к.
Аповесць прысвечана жыццю і творчасці выдатнага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага. «Вяртанне» заснавана на матэрыяле шматлікіх кніг Чорнага, яго артыкулаў і нататак, змешчаных у газетах і часопісах 20, 30 і 40-х гадоў, а таксама ўспамінаў сваякоў і сяброў пісьменніка.
ББК 84Бел7
Т $\frac{4803010200-039}{М307(05)-84}$ 62—84
Бел2